ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

ШТОМЕСЯЧНАЯ ПОЛІТЫЧНАЯ, ПЭДОЛЕГА-ПЭДАГОГІЧНАЯ
І ПОЛІТЫКА-АСЬВЕТНАЯ ЧАСОПІСЬ

# КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

ОРГАН НАРОДНАГА КОМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ
І САЮЗУ ПРАЦАЎНІКОЎ АСЬВЕТЫ






№ 7-8 ЛІПЕНЬ-ЖНІВЕНЬ 1930

ВЫДАНЬНЕ НАРОДНАГА КОМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ БССР
МЕНСК 1930

# ЗА ПАДРЫХТОЎКУ ПРОЛЕТАРСКІХ КАДРАЎ

**А. Платун**

## За комуністычнае выхаваньне, за падрыхтоўку кадраў!

Партыя паставіла як адну з асноўных проблем соцыялістычнага будаўніцтва—падрыхтоўку кадраў. Гэтая проблема перад намі ставіць ня толькі падрыхтоўку колькасьці спэцыялістых, але і якасьць. У зьвязку з гэтым мы павінны ў нас, у БССР, апрача існуючых навучальных установ, організаваць і адчыніць шэраг новых ВНУ, тэхнікумаў, значна павялічыўшы прыём у старыя навучальныя ўстановы.

Вынікам гэтага—замест агульнага контынгенту навучаючыхся зараз у вузах, тэхнікумах, профшколах, ФЗВ і іншых профтэхнічных навучальных установах каля 20 тыс. чалавек—на будучы год запроектаваны і забясьпечаны каштарысам прыём каля 44 тыс. чал. Што гэта азначае? Гэта азначае, што мы прымаем у навучальныя ўстановы ў адным толькі годзе ў 2 разы больш, чымся навучалася ўсяго пры 3-4-гадовым курсе навучаньня, ці—прыём гэтага году студэнтаў і курсантаў павялічваецца ў параўнаньні з леташнім прыёмам у 6-7 разоў. Гэта першае.

Другое. І XV и XVI зьезды ЎсеКП(б) рубам паставілі пытаньне аб агульным культурным уздыме працоўных. Як першачарговая вялізарнейшая задача ў гэтым напрамку—*увядзеньне ўсеагульнага абавязковага навучаньня* для дзяцей 8-10-гад. узросту, пераросткаў ад 11-15 год у гарадох і фабрычна-заводзкіх паселішчах на базе 7-годкі, і ліквідацыя няпісьменнасьці. У БССР раней усіх іншых савецкіх рэспублік *уведзена ўсеагульнае абавязковае навучаньне ў леташнім годзе*. Дзякуючы вялізарнейшаму імкненьню працоўных мас да навучаньня сваіх дзяцей і ўвазе гэтай справе з боку шырокае савецкае грамадзкасьці, асабліва асноўнае масы настаўніцтва, мы ў гэтым годзе з дырэктываю ЦК КП(б)Б і ўраду БССР па ўсеагульнаму навучаньню ў асноўным справіліся (ахоп 8-годак—91%, ахоп усіх дзяцей ва ўзросьце 8-11 год—86%).

На будучы год мы павінны павялічыць прыём у параўнаньні з леташнім годам па ўсеагульнаму навучаньню на 55-60 тыс. дзяцей і па ліквідацыі няпісьменнасьці на 200 тыс. чал. (ахоп 1929-30 г.—270 тыс. чал., 1930-31 г.—470 тыс. чал.), з такім разьлікам, каб у 1930-31 годзе ў асноўным скончыць справу ліквідацыі няпісьменнасьці.

Выходзячы з вышэйпаказаных дырэктыў партыі і ўраду і тых контынгентаў навучаючыхся ў розных профтэхнічных навучальных установах, школах і лікпунктах, якія намечаны, перад усімі дзяржаўнымі і грамадзкімі організацыямі і ўсёю савецкаю грамадзкасьцю стаяць наступныя складаныя пытаньні:

1. Забесьпячэньне контынгенту навучаючыхся *вучэбнаю плошчаю і інтэрнатамі*. Гэтае пытаньне найбольш важнае і цяжкое. І, прымаючы пад увагу, што абсолютна немагчыма пабудаваць за адзін сэзон капітальных будынкаў, таму СНК, па прапанове НКА, прыняў шэраг пастаноў, якія павінны, пры іх сумленным выкананьні, у асноўным забясьпечыць жыльлёвыя патрэбы. Гэтыя пастановы наступныя:

а) Будаўніцтва баракаў пад інтэрнаты, якое, на вялікі жаль, ня гледзячы на рашучую пастанову СНК, стаіць пад пагрозаю несваячасовага выкананьня па віне будаўнічых організацый, што ўзялі вельмі павольныя тэмпы будаўніцтва, і па віне НКПрацы, які не забясьпечвае патрэбнаю рабочаю сілаю будаўніцтва, а таксама і па віне гаспадарчых організацый, якія ня выконваюць пастановы СНК аб сваячасовым забесьпячэньні будаўнічымі матар'яламі.

б) Перадача ня менш 50% усіх аслабанёных памяшканьняў у сувязі з ліквідацыяй акруг. Апрача гэтага, прапанавана АВК і гарсаветам клапаціцца аб забесьпячэньні вучэбнаю плошчаю і інтэрнатамі студэнтаў.

Пакуль што гэтыя пастановы таксама ня вельмі *сумленна* выконваюцца месцамі, асобнымі саветамі і выканкомамі.

в) Рацыянальнае скарыстаньне тае плошчы, якая ёсьць. На вялікі жаль, і тут паміж паасобнымі работнікамі, асабліва БДУ, ВСНГ, ідуць прараканьні, перапіска і г. д., што, зразумелая рэч, не палягчае справы. РСІ ўжо гэтым пытаньем зацікавілася, і, як быццам, справа ўрэгулявана.

2. *Пытаньне аб навуковых і наогул пэдагогічных кадрах.* Гэтае пытаньне таксама адно з важнейшых. Якое тут становішча, і якія ўжыты захады?

а) Навуковымі працаўнікамі ў нас будуць у асноўным забясьпечаны так званыя гуманітарныя ВНУ і тэхнікумы (пэдагогічныя, экономічныя і мэдычныя) шляхам вылучэньня нізавога настаўніцтва на навуковую працу. Лягчэй таксама будзе ўкомплектаваць сельска-гаспадарчыя ВНУ і тэхнікумы. Што датычыцца індустрыяльных ВНУ і тэхнікумаў, дык тут, па-мойму, найбольш небясьпечны вучастак, па-першае, таму, што ў нас, у БССР, амаль няма навуковых працаўнікоў па тэхнічных дысцыплінах і, па-другое, у сувязі з тым, што ў гэтым годзе ідзе шырокае разгортваньне па ўсяму Савецкаму Саюзу індустрыяльных навучальных установаў, таму адчуваецца значны недахоп навуковых працаўнікоў па ўсяму Савецкаму Саюзу.

Тут трэба клапаціцца набыць спэцыялістых з іншых саюзных рэспублік, высоўваць практыкаў-інжынэраў з прамысловасьці, рацыянальна скарыстаць навуковых працаўнікоў, што ёсьць, і высоўваць на навуковую працу маладых спэцыялістых.

Апрача паказанага вышэй, значны ўплыў на комплектаваньне навуковымі працаўнікамі ўсіх наогул навучальных установаў маюць кватэры. Мы ня можам забясьпечыць прыяжджаючых навуковых працаўнікоў кватэрамі. Савет народных комісараў прыняў пастанову, каб 10% усіх кватэр, што будуюцца, апрача жылкоопэрацыі, броніравалася за навуковымі працаўнікамі. І тут гарсаветы павінны больш пайсьці насустрач навучальным установам, чымся было да гэтага часу, асабліва Менскі гарсавет.

б) Пэдагогічныя кадры па ўсеагульнаму навучаньню і ліквідацыі няпісьменнасьці. З гэтымі кадрамі таксама надзвычайна шмат цяжкасьцяй. Ужо адно тое, што ў нас ня больш 30% настаўнікаў з спэцыяльнаю пэдасьветаю, гаворыць за тое, наколькі сур'ёзна стаіць справа з пэдкадрамі.

У гэтым годзе мы амаль што маглі-б забясьпечыць школы настаўнікамі, але, у сувязі з самаачысткаю шэрагаў настаўнікаў, стварыўся недахоп у 600-650 чал. настаўнікаў для першапачатковае школы. СНК вылучыў неабходныя сродкі на кароткатэрміновыя курсы па падрыхтоўцы настаўнікаў. Гэтыя курсы організаваны, і школы настаўнікамі будуць забясьпечаны.

3. *Наконт падручнікаў і лемантароў:*

а) Падручнікаў для ВНУ і тэхнікумаў у нас вельмі мала, асабліва на беларускай мове, што мае свой адбітак і на беларусізацыі навучальных установаў. Перад намі задача стварыць аўтарскія кадры для складаньня гэтых падручнікаў, а цяпер трэба перакладаць падручнікі з іншых моваў, скласьці падручнікі за адзін год, тым больш за астатак часу да навучальнага году, абсолютна немагчыма. На гэта патрэбен больш працяжны час, і за гэта нашым навуковым працаўнікам трэба безадкладна ўзяцца, бо

пры пераходзе на актыўныя мэтоды выкладаньня трэба мець многа больш падручнікаў.

Што датычыцца падручнікаў і лемантароў для масавых школ і лікбезу, дык і тут няма чым пахваліцца, бо мусіць чытач яшчэ памятае рэцэнзіі на якасьць нашых старых падручнікаў. Прышлося ўсе падручнікі перагледзець, шмат з іх зусім забараніць, а ўсе астатнія значна перарабіць. Зараз усе асноўныя падручнікі друкуюцца, але мы сустрэліся зноў з значнаю перашкодаю, а менавіта: друкарні Белдзяржвыдавецтва так дрэнна тэхнічна абсталяваны, што калі НКА вызначыў у гэтым годзе тыражы 150-300 тыс. экзэмпляраў, замест леташніх 25-30 тыс., дык друкарні справіцца не маглі і прышлося СНК выносіць спэцыяльную пастанову, каб забраніраваць для друкаваньня падручнікаў большасьць акруговых друкарняў. Гэтыя мерапрыемствы даюць нам упэўненасьць, што падручнікі і лемантары, хоць з некаторым спазьненьнем, будуць выдадзены.

4. *Укомплектаваньне ВНУ і тэхнікумаў студэнтамі.* У сувязі з такім павялічэньнем контынгенту прыёму, аб якім я казаў вышэй, мы апынуліся перад недахопам падрыхтаванага контынгенту рабочых і працоўных сялян. Дзеля гэтага ў працягу гэтага году быў організаваны шэраг кароткатэрміновых курсаў для падрыхтоўкі ў ВНУ і тэхнікумы і за кошт бюджэту і за кошт грамадзкіх організацый, а усё-ж такі недахоп і зараз ёсьць. Але ў сувязі з тым, што ў гэтым годзе прыём будзе праводзіцца 2 і 3 разы (увосень і зімою), значнае пагрозы ў справе набору пакуль што няма. Тут толькі трэба адзначыць, што галоўны наплыў заяў мы маем зараз у індустрыяльныя ВНУ і тэхнікумы, і ёсьць пагроза недабору ў гуманітарныя ВНУ.

5) *Харчаваньне студэнтаў.* Гэтае пытаньне набывае ў гэтым годзе асабліва важнае значэньне таму, што тая сетка сталовак, якая зараз ёсьць, хоць-бы ў такіх цэнтрах, як Менск, Гомель і Віцебск, ня можа здаволіць харчаваньнем студэнтаў. НКА паставіў перад СНК пытаньне аб тым, каб спажывецкая коопэрацыя ўзяла на сябе організацыю грамадзкага харчаваньня студэнтаў. СНК прапанаваў Белкоопсаюзу заняцца гэтаю справаю, але, на вялікі жаль, наша коопэрацыя вельмі марудна варушыцца, і ў нас няма ўпэўненасьці, што без належнага націску на коопэрацыю як з боку РСІ, гэтак і прафсаюзаў гэтая справа сваячасова будзе наладжана.

Вось тыя асноўныя пытаньні, якія стаяць у гэтым годзе перад адпаведнымі савецкімі органамі і грамадзкімі організацыямі ў справе падрыхтоўкі кадраў і наогул падрыхтоўкі да новага навучальнага году.

Пасьля таго, як ужо быў закончаны гэты артыкул, атрыманы весткі з шэрагу акруг (Віцебск, Полацак, Магілеў) аб тым, што, ня гледзячы на дырэктывы ЦК КПБ і пастановы СНК, ні партыйныя, ні профэсіянальныя організацыі, ні саветы сур'ёзна справаю падрыхтоўкі да навучальнага году ня цікавяцца. Становішча складаецца проста пагражаючым, асабліва з памяшканьнямі, харчаваньнем і нават комплектаваньнем, асабліва пэдагогічных навучальных устаноў. Слухачы з выпушчаных курсаў па падрыхтоўцы ў ВНУ і тэхнікумы не паступаюць згодна разьмеркаваньням комісій, а накіроўваюцца рознымі організацыямі ў іншыя рэспублікі. Асабліва дрэнна справа з разьмеркаваньнем мобілізаваных ЦК КПБ і ЦК КСМ 300 чал. партыйцаў і 1000 чал. членаў КСМ.

Мы лічым, што трэба зрабіць карэнны пералом у адносінах да практычнай работы мясцовым кіруючым работнікам па падрыхтоўцы да навучальнага году, бо іначай гэта надзвычайна сур'ёзная справа будзе правалена.

Трэба мобілізаваць увагу на гэта пытаньне ўсяе савецкае грамадзкасьці, высьвятляць яго ў друку, ставіць на абгаварэньне рабочых брыгад, на сходах, увесьці шырокі рабочы контроль. Толькі такім чынам мы зможам справіцца з вялізарнейшаю задачаю культурнага ўздыму працоўных мас і падрыхтоўкі кадраў.

Мазур

# Становішча Горацкай Сельска-Гаспадарчай акадэміі

Тав. Сталін у сваім дакладзе на 16-м партыйным зьезьдзе, гаворачы аб кадрах, сказаў: «Усім вядома слабая тэхнічная падкаванасьць нашых гаспадарчых кадраў, нашых спэцыялістых, тэхнікаў і работнікаў на гаспадарчым фронце... Між тым перад намі стаяць вялізарныя задачы рэконструкцыі ўсяе нашай народнай гаспадаркі, якія патрабуюць вялікай колькасьці новых кадраў, здольных аўладаць новай тэхнікай. У сувязі з гэтым, проблема кадраў стала ў нас проблемай сапраўды неадкладнай. Бо толькі пры далейшай мобілізацыі сіл усяе партыі і рабочае клясы навакол задач падрыхтоўкі кадраў з людзей рабочае клясы, толькі пры рашучым зруху ў гэтым можа быць забясьпечана далейшае правядзеньне бальшавіцкіх тэмпаў соцыялістычнай індустрыялізацыі краіны».

Так ставіць партыя пытаньне аб падрыхтоўцы кадраў. І партыя пільна сочыць за тым, як вядзецца падрыхтоўка кадраў.

ЦК КП(б)Б у лютым месяцы г. г. правадзіў агляд становішча Беларускай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі.

Бюро ЦК КП(б)Б адзначыла, што акадэмія ў той час яшчэ ня стала на шлях рашучай перабудовы свае работы ў адпаведнасьці з дырэктывамі партыі. Да таго часу акадэмія праводзіла політычна няправільную лінію. Яна не паставіла за аснову свае работы падрыхтоўку *кадраў пролетарскіх спэцыялістых для соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі.*

Ня гледзячы на зусім ясную дырэктыву лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) пра неабходнасьць самага рашучага, самага бязьлітаснага змаганьня з варожымі нам спэцыялістымі, мінулае кіраўніцтва Акадэміі нічога не зрабіла ў гэтым напрамку.

Бюро ЦК КП(б)Б адзначыла, што ў Акадэміі мелі месца недапушчальна-цярпімыя адносіны да варожых нам спэцыялістых. Замест жорсткай барацьбы з усялякімі нацыяналістычна-шовіністычнымі групоўкамі сярод часткі навуковых працаўнікоў, мінулае кіраўніцтва Акадэміі ня здолела правесьці належнай барацьбы з вялікадзяржаўнымі элемэнтамі, а ў адносінах да нацыянал-дэмократычных элемэнтаў выявіла прымірэнцтва, якое часамі перарастала ў непасрэднае падтрыманьне іх.

Пытаньне рэорганізацыі работы Акадэміі, з мэтай выкананьня дырэктыў партыі, было пастаўлена позна, пры тым пастаўлена было нерашуча, бяз сьмелага, рэволюцыйнага падыходу, якога патрабавалі абставіны, бяз шырокай мобілізацыі навакол гэтага пытаньня асноўных мас студэнцтва і навуковых працаўнікоў.

Соцспаборніцтва і ўдарніцтва—лепшы мэтод для паляпшэньня пастаноўкі ўсяе работы Акадэміі, галоўным чынам, у галіне ўздыму якасьці і інтэнсыўнасьці ў вучобе—было разгорнута вельмі слаба. Соцспаборніцтва з іншымі ВНУ мела ўрачыста-формальны характар.

ЦК адзначыў, што студэнцкія шэрагі былі засьмечаны соцыяльна чужымі, кулацка-нэпманаўскімі элемэнтамі, якія спрабавалі працягнуць у Акадэмію антысавецкія, контррэволюцыйныя настроі. Праведзеную чыстку студэнцтва ад чужых і варожых элемэнтаў бюро ЦК КП(б)Б прызнала нездавальняючай па сваіх мэтодах і недастаткова па выніках.

У структуры Акадэміі былі карэнныя дэфэкты з пункту погляду задач соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

У вучэбных плянах і програмах пасобных дысцыплін былі адзначаны вялікія недахопы.

*Пастаноўку ўсяе навучальнай работы Акадэміі ЦК прызнаў нездавальняючай.*

Дрэнна абстаяла справа і з пэдагогічнымі кадрамі Акадэміі. Марксысцкіх сіл сярод профэсуры і доцэнтуры было мала. Значную частку складалі старыя навуковыя працаўнікі, якія па сваёй навуковай кваліфікацыі і па сваіх палітычных поглядах не падыходзяць да ролі настаўнікаў і выхавальнікаў будучых організатараў соцыялістычнай сельскай гаспадаркі.

Бюро ЦК таксама адзначыла, што *падрыхтоўка маладых навуковых кадраў пастаўлена у Акадэміі нездавальняюча.*

Навукова-дасьледчая работа была пастаўлена прынцыпова няправільна. Ігнараваліся соцыяльна-экономічныя проблемы, наогул, і актуальнейшыя пытаньні соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, у прыватнасьці. Спэцыяльна-тэхнічныя проблемы разглядаліся, выходзячы з інтарэсаў кулацка-заможнай індывідуальнай гаспадаркі. Праз друк Акадэміі былі прапушчаны асобныя ідэолёгічна і палітычна шкодныя артыкулы.

З прычыны наяўнасьці такіх значных недахопаў у рабоце Акадэміі, *бюро ЦК КП(б)Б адзначыла, што Акадэмія з пастаўленымі перад ёю задачамі ня справілася.*

У такім становішчы знаходзілася Беларуская Сельска-Гаспадарчая Акадэмія ў лютым месяцы 1930 г., у час агляду яе ЦК КП(б)Б.

У выніку агляду Акадэміі і наяўнасьці там значных прарываў, перад кіраўніцтвам Акадэміі і наогул усёй Акадэміяй быў пастаўлен цэлы шэраг задач. Пералічым толькі некаторыя з іх, больш важныя:

Кіраўніцтву Б. С.-Г. Акадэміі было дадзена заданьне скончыць карэнную рэорганізацыю ўсяе свае работы і вучобы, у адпаведнасьці з пастановамі лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б)Б і студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б да красавіка месяца.

Як найхутчэй перабудаваць навучальныя пляны з разьлікам працяжнасьці вучобы ня звыш 3-х год.

Перагледзець навучальныя програмы па соцыяльна-экономічных дысцыплінах, па лініі максымальнай увязкі іх з актуальнымі палітычнымі пытаньнямі.

Узяць рашучы курс на пераход да актыўных мэтодаў выкладаньня ўсіх дысцыплін і на ўсіх курсах.

Органічна ўвязаць тэорытычную вучобу студэнтаў з вытворчай практыкай так, каб суадносіны між імі былі роўныя 4:5. Скласьці конкрэтныя пляны і програмы адбываньня вытворчай практыкі ў абагульненым сэктары сельскай гаспадаркі.

Зьвярнуць увагу на забесьпячэньне рацыянальнага скарыстаньня практыкантаў і на ажыцьцяўленьне сыстэматычнага пэдагогічнага кіраўніцтва вытворчай практыкай.

Было прапанована Акадэміі забясьпечыць сваячасовы, у вызначаны тэрмін, канец вучэбнага году, увесьці цьвёрдую вучэбную дысцыпліну і ліквідаваць другагоднішчтва.

У галіне паляпшэньня якаснага складу студэнцтва былі дадзены належныя паказаньні. Як адно з мерапрыемстваў для папаўненьня пролетарскімі элемэнтамі шэрагаў студэнцтва, была дадзена дырэктыва—прымацаваць да Акадэміі Горацкі Рабфак, перабудаваўшы адпаведным чынам яго навучальныя пляны і програмы; правесьці выпуск 4-га курсу Рабфаку ў красавіку 1930 году, замацаваўшы гэты выпуск за Акадэміяй.

У адносінах навукова-пэдагогічных кадраў была дадзена дырэктыва—стварыць карэнны пералом, цьвёрда і пасьлядоўна праводзіць палітыку партыі ў адносінах да старых спэцыялістых, ствараючы максымальна - спрыяючыя ўмовы для сумленных і шчырых старых спэцыялістых, праводзячы рашучую барацьбу з варожымі элемэнтамі.

Ужыць рашучыя захады для карэннага паляпшэньня справы вывучэньня падрыхтоўкі і скарыстаньня кадраў маладых пролетарскіх навуковых працаўнікоў.

У галіне паляпшэньня бытавых умоў навуковых працаўнікоў і студэнтаў была дадзена дырэктыва Наркамгандлю ўжыць захады, каб забясьпечыць Акадэмію патрэбнымі продуктамі, прыраўняўшы яе ў гэтых адносінах да фабрычна-заводзкага раёну.

Наркомахове здароўя была дадзена дырэктыва радыкальна палепшыць ма-

дыцынскае абслугоўваньне Акадэміі, забясьпечыўшы яе высока-кваліфікаваным мэдпэрсоналам і мэдыкамэнтамі і г. д.

Вось тыя дырэктывы, якія былі дадзены Акадэміі з боку ЦК КП(б)Б.

У маі месяцы гэтага-ж году Наркомасьветы правёў агляд работы і становішча Акадэміі ў напрамку выкананьня ёю дырэктыў партыі.

Паглядзім, наколькі Акадэмія справілася з пастаўленымі перад ёю партыяй задачамі.

## Студэнцтва

Паглядзім спачатку, каго рыхтуе Акадэмія ў якасьці кіраўнікоў соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

Навучаюцца ў Акадэміі, па тых вестках, якія мы маем, 1140 студэнтаў.

**Па соцыяльнаму становішчу:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Рабочых | 337 | Служ. і дзяц. спэц. | 212 |
| Батракоў | 20 | Саматужнікаў | 92 |
| Сялян-беднякоў | 344 | Іншых | 14 |
| Серадмякоў | 161 | | |

**Па партыйнасьці:**

| | | |
|---|---|---|
| Членаў і канд. КП(б)Б | 159, што складае | 13,9% |
| „ „ ЛКСМБ | 292, „ „ | 25,6 „ |
| Беспартыйных | 789, „ „ | 60,5 „ |

**Па нацыянальнасьці:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Беларусаў | 786 | Расійцаў | 78 |
| Яўрэяў | 241 | Палякаў | 10 |
| | | Інш. нац. | 25 |

Перш чым рабіць аналіз гэтых лічбаў, возьмем склад студэнтаў, прынятых у Акадэмію ў красавіку і маі месяцы г/г., гэта значыць пасьля дырэктыў ЦК КП(б)Б.

Прынята ўвясну на ўсе факультэты 238 студэнтаў.

**Па соц. становішчу** прынятыя падзяляюцца наступным чынам:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Рабочых | 20 | Сялян-беднякоў | 22 |
| Батракоў і сель.-гасп. рабочых | 17 | „ якія плацяць с.-г. падатак 10 р. | 10 |
| Дзяцей рабочых | 98 | „ „ 20 р. | 5 |
| Сялян-колгасьнікаў і іх дзяцей | 57 | Саматужнікаў | 9 |
| Выхав. дзіцяч. дамоў | 5 | Служачых | 40 |

**Па партыйнасьці:**

| | | |
|---|---|---|
| Членаў і канд. КП(б)Б | 25, што складае | 10,5% |
| „ „ ЛКСМБ | 84, „ „ | 35,2 „ |
| Беспартыйных | 174, „ „ | 54,3 „ |

**Па нацыянальнасьці:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Беларусаў | 192 | Расійцаў | 14 |
| Яўрэяў | 72 | Іншых нац. | 1 |
| Палякаў | 4 | | |

Паступіўшыя ў вясновы набор маюць розную падрыхтоўку:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Скончыла рабфакі | 19 | Сямігодкі | 39 |
| Тэхнікумы | 5 | ШСМ | 7 |
| Школы II другой ступені і агульнаадукац. курсы | 136 | Профшколы | 3 |
| Вячэрнія школы падвышанага тыпу | 71 | Навуч. установы дарэволюц. часу | 3 |

Якасны склад студэнтаў вясновага набору, як паказваюць лічбы, нездавальняючы, асабліва па партыйнасьці і па соцстановішчу.

Пададзеныя вышэй лічбы адносна колькаснага і якаснага складу студэнтаў усяе Акадэміі гавораць самі за сябе. На 1140 студэнтаў—337 рабочых, а партыйцаў (членаў і канд. партыі)—159. На жаль, невядома, колькі асобна членаў і кандыдатаў партыі ў асобку. Гэтаксама невядома соцстановішча партыйцаў. Цікава таксама, чаму такая малая праслойка комсамольцаў, калі студэнтаў комсамольскага ўзросту вельмі шмат.

У Акадэміі яшчэ ёсьць і «іншыя» у ліку 14-ці асоб, што складае 1,23 проц. Лічба сама па сабе як-бы і нязначная, але калі ўзяць антысавецкую актыўнасьць апошніх ды дадаць да гэтых «іншых» некаторую частку варожага нам студэнцтва з ліку служачых і сялян, дык атрымаем значную засьмечанасьць студэнцкіх шэрагаў соцыяльна чужым і варожым элемэнтам, які, як убачым пасьля, дае сябе адчуваць.

Калі ўзяць продукцыю Акадэміі выпуску гэтага году, то будзем мець наступны малюнак:

Скончыла Акадэмію ўсяго 196 студэнтаў.

**Па соц становішчу:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Рабочых | 24 | Сялян-сераднякоў | 15 |
| Батракоў | 2 | „Звыш сераднякоў“ | 2 |
| Колгасьнікаў | 2 | Служачых, настаўнікаў і спэц. | 42 |
| Сялян-беднякоў | 58 | Саматужнікаў | 7 |
| | | Іншых | 8 |

Але калі да іншых дадаць «звыш сераднякоў» (а гэта зрабіць можна сьмела: памылкі ня будзе), то ў «іншых» будзе 10 чал., ці 5,61 проц.

**Па партыйнасьці было выпускнікоў:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Партыйцаў | 18 | Комсамольцаў | 28 |

**Па нацыянальнасьці:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Беларусаў | 136 | Палякаў | 3 |
| Яўрэяў | 32 | Іншых нац. | 4 |
| Расійцаў | 21 | | |

Калі ўзяць выпускнікоў паасобных факультэтаў, напрыклад, Агрофак, то там з ліку 54 выпускнікоў партыйцаў няма ніводнага, комсамольцаў—7; няма ў складзе выпускнікоў Агрофаку і батракоў і колгасьнікаў, затое «іншых»—4.

Пададзеныя лічбы паказваюць, што ў продукцыі Акадэміі выпуску гэтага году ёсьць брак.

На мэліорацыйным факультэце вы пуск зроблены формальна, бо курсу поўнасьцю не прайшлі, а гэта яшчэ пагаршае продукцыю і павялічвае брак.

Скончыўшыя Акадэмію накіроўваліся на работу ў акругі і цэнтральныя ўстановы НКЗ.

Зусім іншая справа са складам студэнтаў Рабфаку. Там якасны склад значна лепшы.

Усіх рабфакаўцаў—240, з іх:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Рабочых | 106 | Саматужнікаў | 3 |
| Батракоў | 43 | Выхаванцаў дзіцяч. дамоў | 10 |
| Сялян | 61 | Служачых | 11 |
| У гэтым ліку: | | | |
| а) колгасьнікаў | 10 | | |
| б) беднякоў | 5 | | |

**Па партыйнасьці:**

| | | |
|---|---|---|
| Членаў партыі | 727, ці | 30% |
| Кандыдатаў партыі | 18, „ | 3,33 „ |
| Членаў і кандыдатаў КСМ | 105, „ | 43,33 „ |
| Беспартыйных | 45, „ | 23,34 „ |

Маючы на ўвазе ўзмацненьне Акадэміі пролетарскімі кадрамі, ЦК КП(б)Б даў дырэктыву прымацаваць Горацкі Рабфак да С/Г. Акадэміі.

Але, на жаль, гэта дырэктыва амаль сарвана. Спачатку ўсе 29 асоб, што датэрмінова скончылі Рабфак, былі замацаваны за Акадэміяй. Але цяпер мы маем такое становішча: займаюцца ў Акадэміі 8 чал., 4 самачынна пакінулі Акадэмію, 5 адпушчаны ў адпачынак, а рэшта атрымала дазвол на паступленьне ў іншыя ВНУ.

Кіраўніцтву Акадэміі і Рабфаку патрэбна цьвёрда ажыцьцяўляць дырэктыву ЦК аб замацаваньні выпускаў Рабфаку за Акадэміяй.

Акадэмічная пасьпяховасьць студэнтаў Акадэміі не асабліва добрая. І тут пахваліцца няма чым.

У 1929 годзе, агулам, не пасьпявала 494 студэнты—амаль 50 проц.

З іх: пакінута на другі год 91 ч., 403 непасьпяваючых акадэмічна былі пераведзены з «хвастамі» на наступныя курсы.

Пераводзілі на наступныя курсы і тых студэнтаў, якія зусім ня ведалі поўнасьцю пройдзенага курсу раней. Аб гэтым гавораць наступныя лічбы:

| | | |
|---|---|---|
| Пераведзена студэнтаў з курсу на курс, ня здаўшых | 1 зал. | 135 |
| „ „ „ „ „ „ „ „ | 2 „ | 126 |
| „ „ „ „ „ „ „ „ | 3 „ | 70 |
| „ „ „ „ „ „ „ „ | 4 „ | 41 |
| „ „ „ „ „ „ „ „ | 5 „ | 28 |
| „ „ „ „ „ „ „ „ | 6 „ | 8 |

Каб у Акадэміі пры пераводзе зрабілі так, як іншых ВНУ—пакінулі на другі год ня здаўшых трох залікаў, то лік другагоднікаў павялічыўся-б да 233 чал.

Па нашай думцы, студэнту ня месца на 3-ым курсе, калі ў яго ня зданы 3-4 залікі за другі курс.

Пасьпяховасьць студэнтаў у 1930 годзе палепшылася. Паляпшэньню пасьпяховасьці дапамог перавод заняткаў на актыўны мэтод выкладаньня. Амаль усе студэнты наведваюць цыклі. Агульны процант наведваньня заняткаў па ўсёй Акадэміі—90.

Разам з прапрацоўкай новых дысцыплін, ідзе здача «хвастоў» за мінулыя курсы. Бязумоўна, гэтыя «хвасты» перашкаджаюць «галаве» заняць адпаведную вышыню. З мэтай здачы старых залікаў, па факультэтах організаваны групы.

Галоўнымі прычынамі непасьпяховасьці зьяўляюцца:

Па-першае, шматпрадметнасьць, якая выклікалася самой структурай Акадэміі, з яе стаўкай на унівэрсала-спэцыялістага;

па-другое, лекцыйны мэтод выкладаньня і

па-трэцяе, недастатковая барацьба за пасьпяховасьць як з боку партыйна-комсамольскай організацыі, так і проф-саюзнай. Гэта відаць з таго, што 16 партыйцаў і 10 комсамольцаў былі пакінуты на другі год. Перашкаджае пасьпяховасьці таксама і адсутнасьць увязкі між грамадзкай работай і вучобай.

Сыстэма заняткаў у Акадэміі цяпер—цыклявая. Але ў правядзеньні гэтай сыстэмы ёсьць цэлы шэраг недахопаў. Наяўнасьць гэтых недахопаў трэба тлумачыць тым, што з боку навучальнай часткі ня было дадзена дакладнай і выразнай установкі як выкладчыкам, так і студэнтам аб парадку заняткаў пры актыўным мэтодзе; ня было прыстасаваных да програм падручнікаў, мала падручнікаў наогул асабліва па беларускай мове (2-3 падручнікі на групу з 20-25 асоб).

Некаторыя катэдры, як: сельска-гаспадарчых машын і рухавікоў, агульнага земляробства, лугаводзтва і інш. слаба забясьпечаны навучальнымі прыладамі для заняткаў са студэнтамі.

Ня менш важнай прычынай, што перашкаджае падняцьцю пасьпяховасьці студэнтаў С/Г Акадэміі, зьяўляецца і недахоп навуковых працаўнікоў, з прычыны чаго навуковыя працаўнікі перагружаны. Ёсьць выпадкі мэханічнага падпісваньня студэнтам залікаў, што пагаршае якасьць падрыхтоўкі спэцыялістых.

Кіраўнічыя органы Акадэміі павінны яшчэ больш зьвярнуць увагу на падняцьце працоўнай дысцыпліны і акадэмічнай пасьпяховасьці сярод студэнцтва. Неабходна павесьці самую рашучую барацьбу з другагодніцтвам. НКА павінен забясьпечыць Акадэмію выкладчыкамі.

У рабоце студэнцтва ёсьць шэраг ідэолёгічных скрыўленьняў. Прыклады: студэнт, пасланы ў вёску праводзіць раскулачваньне, дзівіцца, «як гэта забіраць у чалавека дабро, якое ён «сваім» потам нажыў...» Другі студэнт у лісьце скардзіцца, што ніяк ня можа зразумець мэтазгоднасьці абагуленьня продукцыйнае жывёлы. Сярод студэнтаў можна пачуць спрэчкі аб тым, ці мэтазгодна пасылаць у колгасы рабочых, якія «нічога не разумеюць» у сельскай гаспадарцы.

У Акадэміі былі праявы антысэмітызму (справа на Лясфаку, справа студэнткі Купрэевай, якая, жывучы ў адным пакоі з яўрэйкай, зьдзекавалася з яе, справа студэнта Несьцяровіча, які за антысэмітызм быў выключаны з партыі).

Меліся таксама праявы беларускага шовінізму.

А адзін студэнт дадумаўся да такога «афорызму»: беларусізацыя—нацдэмократызм.

Такія «афорызмы»—ёсьць вялікадзяржаўны шовінізм у скрытай форме.

Барацьба з гэтай варожай ідэолёгіяй вядзецца, але ўсё-ж недастаткова. Над антысэмітамі былі праведзены грамадзкія суды, антысэміт Несьцяровіч выключан з партыі.

Ставіўся даклад на агульнастудэнцкім сходзе аб нац. політыцы партыі і барацьбе з нацдэмократызмам. Такі-ж даклад быў зроблены на сходзе комсамольскай ячэйкі Акадэміі.

Вось і ўся барацьба з нацдэмократызмам, правым ухілам і шкоднымі ідэ-

олёгічнымі настроямі. Пэўная колькасьць студэнтаў політычна-няпісьменная.

Кіраўніцтву Акадэміі патрэбна зьвярнуць больш сур'ёзную ўвагу на ідэолёгічнае выхаваньне студэнцтва, працягваючы і надалей самую рашучую барацьбу з праявамі нацдэмократызму, антысэмітызму і шовінізму ўсіх колераў.

Інтэрнацыянальна-клясавае выхаваньне студэнцтва разгорнута слаба. У друку Акадэміі пытаньні інтэрнацыянальна-клясавага выхаваньня выяўлены недастаткова. У газэце «За пролетарскія кадры» па гэтым пытаньні быў зьмешчаны толькі адзін артыкул. Дакладаў па гэтым пытаньні амаль ня было. Станоўчы бок: політычнымі гурткамі ахоплена амаль усё студэнцтва.

Хворым зьявішчам у Акадэміі зьяўляецца і настрой часткі студэнцтва, каб пакінуць Акадэмію і перавесьціся ў іншыя ВНУ РСФСР.

За апошні год па згодзе Акадэміі перавялося ў іншыя ВНУ 5 асоб, а самапраўна ўцяклі 15 асоб.

Прычына такіх настрояў і імкненьняў—нездаволенасьць Акадэміяй як провінцыяльнай ВНУ, недахоп навуковых працаўнікоў і інш.

Матар'яльнае становішча студэнтаў нельга лічыць зусім добрым, ня гледзячы на тое, што стыпэндыяй забясьпечана 68 проц.

Стыпэндыя дыфэрэнцыявана так:

| | | |
|---|---|---|
| Рабфакаўцы атрымліваюць па | 35 | руб. |
| Студэнты Акадэміі I і II курсаў | 41 | „ |
| „ „ III „ | 46 | „ |
| „ „ IV „ | 50 | „ |

30 студэнтаў, рабочых па соцстановішчу, атрымліваюць пэрсональную стыпэндыю ад 50—70 руб.

Па контрактацыі 23 студэнты атрымліваюць ад 80—135 руб.

15 студэнтаў атрымліваюць стыпэндыю вылучэнцаў.

На гаспадарчай стыпэндыі 34 студэнты (стып. ад 25—40 руб.). Падвышаную стыпэндыю (150-175 р.) атрымліваюць 2 студэнты.

Такім чынам, тую ці іншую дзяржаўную дапамогу атрымліваюць 1124 студэнты (разам з рабфакам), што складае 75 проц.

Процант стыпэндыятаў у мінулым годзе быў значна меншы, і сама стыпэндыя была меншая—27 руб.

Харчуецца пераважная большасьць студэнтаў у студ. сталоўцы. Кошт абеду—25 кап., а ў 1928/29 г.—28 к. Аднак, якасьць абедаў пагоршылася з прычыны мясных цяжкасьцяй.

За апошні час (з 10/IV) харчаваньне палепшылася, дзякуючы таму, што сталоўка забясьпечваецца па нормах рабочага раёну.

Кошт поўнага харчаваньня ў студэнцкай сталоўцы—22 р. 50 к.

Трэба адзначыць вялікую ролю прыватнага Горацкага рынку ў справе забесьпячэньня студэнтаў харчовымі продуктамі. А калі прыняць пад увагу павялічэньне цэн на прыватным рынку на 35-75%, то стане зразу зусім відавочным, што ўзрост рэальнай забясьпечанасьці студэнцтва адстае ад номінальнай.

Інтэрнатамі студэнцтва забясьпечана на 85%. Але абсталяваны інтэрнаты вельмі дрэнна, асабліва на тэрыторыі гораду, якія ўсю зіму не асьвятляліся. Адсутнасьць асьвятленьня ў агульных памяшканьнях не давала магчымасьці студэнтам распрацоўваць матар'ял дома.

Мэдычная дапамога студэнцтву пастаўлена дрэнна і цяпер.

Каб палепшыць матар'яльнае становішча студэнцтва, неабходна даць дотацыю на харчаваньне студэнтаў Акадэміі і рабфаку, палепшыць мэдычнае абслугоўваньне, увёўшы ў штат некалькі спэцыялістых - дактароў, пабудаваць прачкарню і лазьню, абсталяваць належным чынам інтэрнаты.

## II. Навуковыя працаўнікі

Сярод навуковых працаўнікоў Акадэміі працягваецца процэс дыфэрэнцыяцыі.

*З аднаго боку*, ёсьць невялікая група навуковых працаўнікоў, якія варожа адносяцца да мерапрыемстваў партыі і ўлады ў такіх пытаньнях, як падрыхтоўка кадраў, пролетарызацыя ВНУ, рэорганізацыя вышэйшай асьветы ды інш.

*З другога боку,* сярод значнай часткі малодшых навуковых працаўнікоў і некаторай часткі старых ёсьць шчырае жаданьне аддана працаваць на карысьць соцыялістычнага грамадзтва. Гэта група ўцягваецца ў навукова-грамадзкую работу і актыўна дапамагае рэорганізацыі Акадэміі. У навуковых працаўнікоў, прадстаўнікоў гэтай групы, ёсьць жаданьне паступіць у шэрагі партыі (13 асоб падалі ўжо заявы).

Між гэтымі крайнімі групамі яшчэ да гэтага часу ёсьць група так званых хістаючыхся.

Колькасны і якасны склад навуковых працаўнікоў у лічбах наступны:

| Катэгорыя пасад | Па соц. становішчу: Рабоч. | Сялян | Служ. | Іншых | Па партыйнасьці: Чл. і канд. партыі | Комсамол. | Беспарт. | Агульн. кольк. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Профэсараў | 2 | 9 | 14 | 10 | 3 | — | 32 | 35 |
| Доцэнтаў | 2 | 7 | 6 | 1 | 3 | — | 13 | 16 |
| Асыстэнтаў | 8 | 35 | 12 | 7 | 13 | — | 49 | 62 |
| Асьпірантаў | 12 | 35 | 4 | 2 | 26 | 9 | 18 | 53 |
| Лябарантаў | 9 | 7 | 7 | — | 2 | 5 | 16 | 23 |
| Выкладчыкаў | — | 1 | 6 | 1 | — | — | 8 | 8 |
| Вайсков. кіраўнік. | — | — | 2 | 1 | 1 | — | 2 | 3 |
| Разам | 33 | 94 | 51 | 22 | 49 | 14 | 137 | 200 |

Сярод «іншых» ёсьць 4 кулакі (асыстэнты), 11 дваран, а астатнія—з паслугачоў рэлігійных культаў.

Прыведзеныя лічбы паказваюць, што соцыяльны склад навуковых працаўнікоў чакае лепшага.

*Па нацыянальнасьці* навуковыя працаўнікі Акадэміі падзяляюцца на: беларусаў—99, расійцаў—79, яўрэяў—12 і інш. нацыянальнасьцяй—10.

Поўных вестак аб падрыхтаванасьці навуковых працаўнікоў да работы няма. Усё-ж трэба сказаць, што і ў гэтым пытаньні ня ўсё добра. Па няпоўных вестках, *не падрыхтаваны* зусім для выкладаньня курсаў: профэсар—1, доцэнт—1, асыстэнтаў—4. Здавальняюча падрыхтаваны профэсараў—18, доцэнтаў—3, асыстэнтаў—25. Добрую падрыхтоўку маюць: профэсараў—9, доцэнтаў—2, асыстэнтаў—11.

Палітычная граматнасьць навуковых працаўнікоў будзе відна з наступнай таблічкі:

| Катэгорыя пасады | Групы: І-а | ІІ а | ІІ | ІІ-б | ІІІ | Агульны лік |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Профэсараў | 5 | 5 | 1 | 7 | 8 | 26 |
| Доцэнтаў | 3 | 1 | 1 | — | 2 | 7 |
| Асыстэнтаў | 19 | 12 | 4 | 4 | 5 | 44 |
| Іншых | 1 | 1 | — | 1 | 2 | 5 |
| Усяго | 28 | 19 | 6 | 12 | 17 | 82 |

Сюды не ўваходзяць навуковыя працаўнікі, партыйцы, якіх можна далучыць да 1-й групы. Тады група складзе 50%.

Як ужо намі зазначалася вышэй, рэакцыйная група старых навуковых працаўнікоў адносіцца варожа да політыкі партыі і ўлады ў пытаньні падрыхтоўкі кадраў, пролетарызацыі ВНУ і рэорганізацыі вышэйшай асьветы. Да гэтага яшчэ трэба дадаць, што гэта рэакцыйная частка навуковых працаўнікоў нездаволена высоўваньнем на кіруючую работу ў Акадэмію малодшых навуковых працаўнікоў, у большасьці комуністаў.

У часе процэсу ўкраінскіх контррэволюцыянэраў (СВУ) частка профэсуры не асудзіла з ўсёй рашучасьцю гэтых контррэволюцыянэраў, а высоўвала ў адносінах да іх (лепшых «спэцыялістых») нейкую тэорыю «профіляктычных мерапрыемстваў».

Некаторыя навуковыя працаўнікі ў сваіх навуковых артыкулах высоўвалі і абараналі праваопортуністычныя кулацкія тэорыі разьвіцьця с.-гаспадаркі. Усякім чынам выхваляюцца хутары, «заможныя» гаспадары, як «культурныя», «ініцыятыўныя» і г. д. Прадстаўнікі такіх тэорый прапануюць накіраваць нашу падатковую політыку так, каб «не рабілася перашкод» разьвіцьцю гаспадаркі заможнікаў ды інш.

А калі ўзяць вытрыманасьць чытаемых навуковых дысцыплін з пункту погляду карыстаньня мэтодам дыялектычнага матэрыялізму, дык і ў гэтым пытаньні

мы ўбачым навуковых працаўнікоў акадэміі падзеленых на тры часткі.

Рэакцыйная частка навуковых працаўнікоў абмяжоўваецца маўклівым ігнараваньнем дыялектычнага матэрыялізму. Мала таго, з гэтай групы вылучаюцца актыўныя прапаведнікі-трубадуры традыцый ваяўнічага ідэялізму і эклектызму, які натуральна пераходзіць у рэлігійнае мракабесьсе, а факты для падмацаваньня меркаваньня аб эволюцыі ваяўнічых ідэялістых і эклектыкаў у рэлігійных мракабесаў ёсьць у Акадэміі.

«Хістаючаяся» частка навуковых працаўнікоў, якая імкнецца пакончыць з буржуазнымі забабонамі і «ісьці з жыцьцём» поплеч, упіраецца ў тупік позытывізму, мэханічнага матэрыялізму. Аб гэтым нам гавораць некаторыя артыкулы з «Завочнага сялянскага ўнівэрсытэту».

Будзе вельмі памылкова, калі не сказаць, што цэнтральнай ідэолёгічнай фігурай сярод навуковых працаўнікоў зьяўляецца навуковы працаўнік (у большасьці выпадкаў малодшы), які ўсьвядоміў неабходнасьць і карыснасьць ужываньня марксысцка-ленінскага мэтоду дыялектычнага матэрыялізму ў практычнай навуковай рабоце, і які жадае поўнасьцю аўладаць гэтым мэтодам, ці шляхам наведваньня гурткоў дыялектычнага матэрыялізму пры сэкцыі навуковых працаўнікоў і асьпіранцкай групе, ці шляхам прапрацоўкі марксысцкай літаратуры.

Ёсьць і такія навуковыя працаўнікі, якія яшчэ да гэтага часу адкрыта «бароняць чыстату» і «аполітычнасьць спэцыяльных галін ведаў».

Некаторыя навуковыя працаўнікі, асабліва з рэакцыйнай групы, імкнуцца пакінуць Акадэмію. Праяўляецца таксама незадавальненьне самакрытыкай, якая разгортваецца ў апошні час, як у газэце «За пролетарскія кадры», так і на сходах самакрытыкі. Барацьба з праявамі варожых настрояў з боку рэакцыйнай часткі навуковых працаўнікоў хоць і вялася, але далёка недастатковая. Асабліва недастаткова вялася барацьба з боку студэнцтва.

Для новага 1930/31 навучальнага году ёсьць вялікая небясьпека ў сэнсе забесьпячэньня акадэміі навуковымі працаўнікамі. Калі параўнаць наяўны лік навуковых працаўнікоў з тым штатам, які зацьверджаны (і патрэбны) на гэты навучальны год, дык атрымаем такое становішча: профэсараў не хапае 17, доцэнтаў—52, асыстэнтаў—87. Такі недахоп навуковых працаўнікоў зьяўляецца зрывам навучальнага году больш як напалову.

Яшчэ ў мінулым навучальным годзе павінны былі чытаць наездамі 6 профэсараў, 6 доцэнтаў; для кіраваньня практычнымі заняткамі не хапала 10 асыстэнтаў.

Асабліва вялікі недахоп навуковых працаўнікоў быў на мэліорацыйным факультэце. На гэтым факультэце прышлося запрасіць для прачытаньня курсу наезьнікамі: 10 профэсараў, 10 доцэнтаў і 5 асыстэнтаў. Вынікі такога наезьніцтва—вельмі адмоўныя.

З прычыны таго, што на 4-м курсе мэлфаку лекцыі чыталіся наездамі, у 1929/30 навучальным годзе курс быў няскончаны. Хоць формальна гэты курс (4-ы мэлфак) і выпусьцілі, але студэнты павінны будуць сабрацца яшчэ на месяцы 2, каб яго скончыць.

Наезьніцтва дэзорганізуе плянавую работу дэканатаў і студэнцтва. Бо «наезьнікі» прыяжджаюць не тады, калі трэба па пляну чытаць той ці іншы курс, а тады, калі ім ёсьць час. Прыехаўшы. кожны з іх бярэ за гадзіну па 10 рублёў і імкнецца набраць як мага больш гадзін у дзень. Бывае, што прыедуць некалькі (2-3) «наезьнікаў», дык студэнтам прыходзіцца выслухоўваць лекцыі па 12-16 гадзін у дзень. Кожнаму зразумела, што гэта дарэмная трата сродкаў і часу студэнцтва, бо студэнт ня мае ніякай фізычнай магчымасьці выслухаць уважліва столькі гадзін.

Як навуковыя працаўнікі наведваюць лекцыі, дакладна сказаць нельга, бо вестак такіх ня маюць нават і дэканаты. Аднак пропуск лекцый навуковымі працаўнікамі бывае. Вельмі часта навуковыя

працаўнікі позьняцца на заняткі. Нават ёсьць такія выпадкі, калі яны не зьяўляюцца на заняткі ў рэлігійныя сьвяты, спасылаючыся на хваробу і іншыя прычыны.

*Работа навуковых таварыстваў* недастаткова перабудавана ў адпаведнасьці з дырэктывай ЦК. Таварыствам ВМД (ваяўнічых матэрыялістых-дыялектыкаў) пры Акадэміі праароблена наступная работа: прачытаны 3 даклады ў навуковым таварыстве, праведзены 3 гутаркі пры сэкцыі навуковых працаўнікоў, прагледжаны навучальныя праграмы, і дадзены мэтодолёгічныя паказаньні.

Па навучальнай галіне ўключаны ў праграму дыялектычнага матэрыялізму 2 тэмы аб мэханістых і 2 тэмы аб мэтодолёгіі правага ўхілу; былі зроблены мэтодолёгічныя паказаньні па 3 дакладах у навуковым таварыстве, што дало добрыя вынікі.

Прадстаўнікамі таварыства ВМД С.-Гас. Акадэміі прачытаны 2 даклады на пасяджаньні катэдры марксызму-ленінізму пры БАН. Таксама зданы ў друк 2 навуковыя працы.

*Бытавыя ўмовы навуковых працаўнікоў* патрабуюць вялікага палепшаньня. Шмат для каго з іх не хапае кватэр, а тыя кватэры, якія ёсьць, знаходзяцца ў вельмі дрэнным стане.

Ня гледзячы на дырэктыву ЦК КП(б)Б аб забеспячэньні амбуляторыі Акадэміі дастаткова кваліфікаваным мэдыцынскім пэрсоналам, і на сёньняшні дзень там ёсьць толькі адзін фэльчар, да якога навуковыя працаўнікі ня ідуць.

З прычыны адсутнасьці памяшканьня дзіцячы сад не організаваны. Школьнае абслугоўваньне дзяцей навуковых працаўнікоў пастаўлена дрэнна. Школа вельмі перагружана. Як вынік гэтага—агульнае захвораньне дзяцей ў школе 75%, а заразнымі хваробамі 50%. Падручнікаў для вучняў няма і г. д.

Наогул дырэктыва ЦК аб палепшаньні бытавых умоў навуковых працаўнікоў і студэнцтва Акадэміі з боку НКАЗ і Наркомгандлю ня выканана

## III. Падрыхтоўка новых кадраў

### Асьпірантура і вылучэнства

Паглядзім цяпер, як Акадэмія вырашае пытаньне падрыхтоўкі для сябе новых кадраў. У параўнаньні з мінулымі гадамі гэта справа значна палепшылася, як у колькасных, так і ў якасных адносінах.

Калі ў 1929 г. асьпірантаў было 24, дык цяпер ёсьць 53, вылучэнцаў—43. Пададзеныя ніжэй таблічкі пакажуць яскрава склад асьпірантаў за апошнія два гады:

**1. Склад асьпірантаў Горацкай С.-Г. Акадэміі за 1928-29 навучальны год**

| Агульная колькасьць | Па соц. станов шчу | | | | Па партыйнасьці | | | П нацыяльнасьці | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Р.-б. і батр. | Сялян | Служач. | Іншых | Парт. | Комсом. | Беспарт. | Белар. | Яўрэяў | Расійцаў | Інш. нац. |
| 24 | 5 | 16 | 2 | 1 | 14 | 2 | 8 | 15 | 1 | 8 | — |

**2. Склад асьпірантаў Горацкай С.-Гасп. Акадэміі ў 1929-30 навуч. годзе**

| Агульная колькасьце | Па соц. становішчу | | | | Па партыйнасьці | | | Па нацыянальнасьці | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Раб. і батр | Сялян. | Служач. | Іншых | Парт. | Комс. | Беспарт. | Беларус. | Яўрэяў | Расійцаў | Інш. нац. |
| 53 | 12 | 35 | 4 | 2 | 26 | 9 | 18 | 40 | 4 | 8 | 1 |

Незразумелым зьяўляецца, чаму і пасьля дырэктыў партыі (лістападаўскі пленум ЦК усеКП(б), ЦК КП(б)Б) у асьпіранты быў вылучаны адзін «іншы» па соц. становішчу і вялікі % сялян. Нацсклад асьпірантаў не адпавядае дырэктывам партыі аб карэнізацыі навуковых працаўнікоў Акадэміі. Процант яўрэяў у складзе асьпірантаў малы.

Ня гледзячы на павялічэньне ліку асьпірантаў, усё-ж гэты лік для запатрабаваньняў Акадэміі недастатковы.

Да пытаньня аб складаньні праграм для асьпірантаў кіраўнікі некаторых ка-

тэдр адносяцца нядбайна і формальна. Нават для асьпірантаў набору ранейшых гадоў складзена і зацьверджана 9 програм; складзена, але не зацьверджана—11 і зусім ня складзена—5. Для залічаных у асьпіранты ў апошні час 18 асоб программы не складзены.

Справа з програмамі яшчэ пагаршаецца тым, што большасьць складзеных програм не адпавядаюць запатрабаваньням сучаснасьці.

Падрыхтоўка асьпірантаў праводзіцца са значным адхіленьнем ад програмы. Кіраўніцтвам акадэміі да гэтага часу ня прыняты ніякія захады, каб палепшыць гэту справу.

Справа падрыхтоўкі вылучэнцаў знаходзіцца яшчэ ў горшым стане. Па заявах прадстаўнікоў дэканату програмы для іх нібыта фактычна складзены але-ж сталых вестак аб гэтым ні адна кіруючая рганізацыя Акадэміі ня мае.

Кіраўніцтва падрыхтоўкай асьпірантаў пастаўлена дрэнна як з боку навучальнай часткі Акадэміі, так з боку паасобных катэдр. Гэта кіраўніцтва абмяжоўваецца толькі складаньнем програм (якія таксама не складзены), а як выконваюцца гэтыя програмы, ніхто ня сочыць. Жывое кіраўніцтва адсутнічае.

З 1-га студзеня 1930 г. па май г. г. навуковую командыроўку атрымаў толькі адзін асьпірант. На дасьледчую работу асьпірантаў асыгнавана 3000 рублёў, але выдаткавана толькі 800. Дасьледчая работа асьпірантаў не на належнай вышыні.

Хто кіруе, вядзе вучот складу і наогул адказвае за падрыхтоўку вылучэнцаў у Горацкай С.-Гас. Акадэміі—невядома. Падрыхтоўка вылучэнцаў ідзе самацёкам.

Пастанова ЦК КП(б)Б аб урэгуляваньні нагрузкі асьпірантаў ня выканана. Частка іх, асабліва партыйцы, вельмі перагружана грамадзкай работай, а частка зусім ня мае работы. Вучоту нагрузкі няма.

Кватэрныя ўмовы асьпірантаў не палепшыліся. На тэрыторыі Акадэміі маюць кватэры 24,5%. Сямейным асьпірантам (3-5 душ) прыходзіцца жыць у адным пакойчыку, а не сямейным—па 2-х у пакоі. Астатнія жывуць у прыватных кватэрах па ўсім горадзе ў дрэнных умовах.

Трэба адзначыць, што ў апошні час назіраецца некаторае палепшаньне ў справе падрыхтоўкі асьпірантаў. Ёсьць палепшаньне ў галіне вывучэньня замежных моў і грамадазнаўчых дысцыплін. Так, у апошні час складзены і працуюць групы па нямецкай мове і дыялектычнаму матэрыялізму, але ня ўсе асьпіранты імі ахоплены.

## IV. Рэорганізацыя Акадэміі

Згодна дырэктыў партыі і ўлады аб падрыхтоўцы кадраў, Бел. С.-Гас. Акадэмія стала на шлях рашучай перабудовы сваёй работы. Замест ранейшай падрыхтоўкі спэцыялістаў-унівэрсалаў для індывідуальнай сельскай гаспадаркі, Акадэмія пачала рыхтаваць спэцыялістых-організатараў для буйнай соцыялістычнай гаспадаркі.

*Ужо рэорганізавана шэраг факультэтаў.* Агрономічны факультэт рэорганізаваны ў факультэт зоолёгічны з аддзяленьнямі буйнай рагатай жывёлы і малочнай справы і сьвінагадоўлі; расьлінаводны факультэт з аддзяленьнямі садоўніцтва і гародніцтва, прадзільных культур, паляводзтва, лугаводзтва і культуртэхнікі. Колектыўны факультэт рэорганізаваны ў факультэт экономікі, організацыі і плянаваньня, з аддзяленьнямі: організацыі буйнай гаспадаркі і плянаваньня.

*Організаваны новыя факультэты:* лясны, з аддзяленьнямі: лесаэксплёатацыі, лесагаспадарчым і лесаэкономічным.

Мэліорацыйны, з аддзяленьнямі: гідротэхнічным і тарфяным.

*Не організаваны:* факультэт мэханізацыі сельскай гаспадаркі; пры факультэце расьлінаводзтва не організаваны аддзяленьні: агрохэміі і насеннаводзтва з сэлекцыяй; пры зоофаку не організаваны аддзяленьні: дробнай жывёлы і птушкаводзтва.

Ня скончана рэорганізацыя земфаку. *Наогул поўнасьцю Акадэмія яшчэ не рэорганізавана.*

Мэтавая ўстаноўка факультэтаў мянялася некалькі разоў. У папярэднім абгаварэньні пытаньняў структуры Акадэміі і студэнцтва і навуковыя працаўнікі ўдзелу ня прымалі, што зьяўляецца адным з вялікіх недахопаў у правядзеньні рэарганізацыі. Структура Акадэміі абгаварвалася непасрэдна на нарадзе пры НКА з удзелам прадстаўнікоў ад НКЗ, Акадэміі і іншых зацікаўленых у гэтым устаноў.

Каб кончыць рэорганізацыю С.-Гас. Акадэміі, трэба НКА і НКЗ у тэрміновым парадку вырашыць пытаньне аб далейшай рэорганізацыі Акадэміі ў паасобныя інстытуты, з вызначэньнем сталага месца разгортваньня апошніх, бо некаторыя цяперашнія факультэты Акадэміі, як мэліярацыйны і лясны ў Горках маюць недастатковую вытворчую базу, пры чым гэтыя факультэты менш зьвязаны з асноўным ядром Акадэміі. Лепш было-б і для самой Акадэміі, калі-б гэтыя факультэты, рэорганізаваныя ў паасобныя інстытуты, былі пераведзены ў іншую мясцовасьць БССР. Наадварот, для разгортваньня зоофаку (зооінстытуту) ў Горках ёсьць вельмі спрыяючыя ўмовы, а перавод яго ў іншую мясцовасьць БССР дрэнна адаб'ецца на разьвіцьці Акадэміі, таму яго трэба абавязкова пакінуць у Горках.

З-за адсутнасьці належнай базы (майстэрняў, трактараў, наогул с.-гас машын) у Горках, нельга адчыніць пры Акадэміі факультэту мэханізацыі с.-гас., патрэба ў якім вельмі вялікая. НКЗ павінен гэтую базу ў Горках стварыць і адчыніць пры Акадэміі факультэт мэханізацыі сельскай гаспадаркі.

Вось што мы маем у адносінах рэорганізацыі структуры Акадэміі.

*Навучальныя пляны* Акадэміі перабудаваны, ці больш правільна, перабудоўваюцца. Па новых навучальных плянах студэнты таго ці іншага факультэту, або аддзяленьня, будуць атрымліваць больш выразную спэцыялізацыю. Дзякуючы ўзятаму курсу на больш выразную спэцывілізацыю *шматпрадметнасьць зьменшылася* (з 48-50 прадметаў да 28-30).

Спэцыялізацыя ў новых навучальных плянах ясна акрэсьлена ў складзе прадметаў; гэта відаць з наступнай таблічкі

| НАЗВА ФАКУЛЬТЭТУ ЦІ АДДЗЯЛЕНЬНЯ | Проц. спэцыяльных дысцыплін | Проц. соцыяльна-экономічных дысцыпл. | Проц. агульна-адукац. дысцыпл | Проц. агул. тэхн. дысцыпл. |
|---|---|---|---|---|
| Аддзял. зернавікоў і прадзільнікаў . . . . . . | 47 | 12 | 41 | — |
| Аддзял. садоўніцтва і клубняплодаў . . . . | 41 | 12 | 47 | — |
| Аграхэм. аддзялен. расьлінфаку . . . . . . . | 60 | 12 | 28 | — |
| Зоофак . . . . . . . . | 52 | 14 | 34 | — |
| Лясфак . . . . . . . . | 43 | 32 | — | 25 |
| Мэліорацыйны факультэт . . . . . . . . | 26 | 29 | — | 45 |
| Факультэт організацыі і экономікі буйнай соц. гаспадаркі . . . | 68,5 | 10 | 10 | 15 |
| У мінулым годзе было . . . | 54 | 8 | 10 | 28 |

З гэтай таблічкі відаць, што соцыяльна-экономічным дысцыплінам адведзена больш часу, дзякуючы чаму іх вага ў Акадэміі павялічылася, хоць нязначна.

Тэрмін навучаньня ў Акадэміі скарочан да 3 год, за выключэньнем мэдфаку, дзе навучаньне будзе 4-гадовае.

Заняткі ў Акадэміі пераведзены на цыклявую сыстэму і актыўны мэтод прапрацоўкі матар'ялаў на ўсіх факультэтах, за выключэньнем рабфаку і тых катэдр, што абслугоўваюцца навуковымі працаўнікамі, якія знаходзяцца на сталай рабоце ў Горках. (Катэдра гідротэхнічных пабудоў, асушкі ды інш.).

Некаторы катэдры ўсё-ж яшчэ да гэтага часу карыстаюцца лекцыйным мэтодам (сьвінагадоўлі, агульная, зоотэхніі).

У цыклявой сыстэме адсутнічае пасьлядоўнасьць у правядзеньні тэорытычных і практычных заняткаў.

Вялікім недахопам у акадэмічным жыцьці С.-Гас. Акадэміі зьяўляецца адсутнасьць добра пастаўленай вучэбнай гаспадаркі, як об'екту вывучэньня.

Плянавае кіраўніцтва акадэмічным жыцьцём з боку навучальнай часткі адсутнічае, вынікам чаго зьяўляецца конкурэнцыя між дэканатамі (у пытаньні захопу катэдр) і прарыў у навучальнай

рабоце. Так было на колектыўфаку з прыватным землябробствам, на земфаку з машыназнаўствам ды інш.

Да гэтага часу адсутнічаюць сталыя формы і мэтоды вучоту акадэмпасьпяховасьці. Ёсьць шмат выпадкаў, калі залікі студэнтам падпісваюцца мэханічна, і не зьвяртаецца ўвага на ступень засвоенасьці пройдзенага курсу. Гэта ёсьць да некаторай ступені шкодніцтва, бо зьніжае якасьць падрыхтоўкі спэцыялістых. З гэтым шкодніцтвам трэба павесьці самую рашучую барацьбу.

Увядзеньне цыклявой сыстэмы і актыўных мэтодаў заняткаў у Акадэміі вельмі адмоўна адбілося на занятках рабфаку.

Рабфак ня мае сталай навучальнай плошчы. Заняткі праводзяцца лекцыйным шляхам. Групы перагружаны.

Навуковыя працаўнікі, перагружаныя заняткамі ў Акадэміі, сыстэматычна зрываюць заняткі на рабфаку.

*Вытворчая практыка* праводзіцца бяз усякага кіраўніцтва студэнтамі-практыкантамі як з боку саміх прадпрыемстваў, так і з боку Акадэміі. Праверкай практычнай работы студэнта ў Акадэміі ня цікавяцца. А некаторыя гаспадарчыя організацыі на мясцох скажаюць сутнасьць вытворчай практыкі. Часта студэнты-практыканты скарыстоўваюцца там нерацыянальна і не па прызначэньню. Некаторыя практыканты замяшчаюць пасады адказных спэцыялістых, а некаторыя прадпрыемствы зацікаўлены практыкантамі ня больш, як рабочай сілай. Кіраўнікі прадпрыемстваў не даюць практыкантам ніякага тлумачэньня аб процэсах працы ў той ці іншай галіне данай вытворчасьці. Матар'яльна студэнты-практыканты забясьпечваюцца дрэнна. Наогул на мясцох, у тых гаспадарчых організацыях, дзе студэнты Горацкай С.-Гас. Акадэміі адбываюць вытворчую практыку, не прадугледжаны бюджэтныя асыгнаваньні для гэтай мэты.

Для паляпшэньня вытворчай практыкі студэнтаў трэба, каб НКЗ прапанаваў Белсельтрэсту, Колгасцэнтру і іншым установам прыняць рашучыя захады для стварэньня спрыяючых умоў у правядзеньні вытворчай практыкі, а Акадэмія павінна наладзіць кіраўніцтва ёю.

*Гаворачы аб соцспаборніцтве*, т. Сталін на XVI партыйным зьезьдзе сказаў: «Самае цікавае ў соцспаборніцтве заключаецца ў тым, што яно робіць карэнны пераварот у поглядах людзей на працу, што яно ператварае працу з ганебнага і цяжкага ярма, якім яна лічылася раней, у справу гонару, у справу славы, у справу адвагі і гэройства».

Горацкая Сельска-Гаспадарчая Акадэмія таксама пераводзіць сваю работу на рэйкі соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

Станоўчым вынікам соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў Акадэміі зьяўляецца правядзеньне паскораных выпускаў факультэтаў і здача залікаў за мінулыя гады шляхам організацыі ўдарных брыгад і г. д.

Шляхам соцспаборніцтва і ўдарніцтва Акадэмія цалкам прымала актыўны ўдзел у колектывізацыі сельскае гаспадаркі і правядзеньні вясновай пасеўкампаніі, як у Горацкім раёне, так і па іншых раёнах БССР. У правядзеньні колектывізацыі сельскай гаспадаркі прымалі ўдзел як большасьць студэнтаў, так і навуковыя працаўнікі, вынікам чаго былі вялікія посьпехі колектывізацыі Горацкага раёну. Але-ж ўсё трэба адзначыць, што соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў Акадэміі не зьяўляецца мэтодам у штодзённай рабоце, хаця і заключана шэраг дагавароў.

Пры Акадэміі організаваны Завочны Колгасны Унівэрсытэт (усебеларускага маштабу) замест былога Горацкага сялянскага унівэрсытэту, таксама організаваліся розныя курсы па сельскай гаспадарцы.

*Навукова-дасьледчая* работа Акадэміі, згодна дырэктывы ЦК КП(б)Б, накіравана на абслугоўваньне соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі. Навуковымі працаўнікамі і студэнтамі складаліся організацыйныя пляны для колгасаў, выдана некалькі брошур для колгасаў па агротэхніцы, рабіліся даклады і г. д.

Да гэтага часу ўся дасьледчая работа Акадэміі праводзіцца пры паасобных

катэдрах. Адсутнічае адзіны і аб'яднаючы орган навукова-дасьледчай работы ў самой Акадэміі, і адсутнічае ўвязка як з боку НКЗ, так і з боку Навукова-дасьледчага Інстытуту.

Тэмы для дасьледчых прац выбіраюцца працаўнікамі катэдры па ўласнаму пагляду. Сувязь між катэдрай і дасьледчай працай адсутнічае.

Працягваецца работа па апрацоўцы экспэдыцыйнага матар'ялу дасьледваньня колгасаў БССР, вядуцца досьледы па вызначэньню сабекошту сельска-гаспадарчых продуктаў, і пачата работа па вызначэньню оптымальных памераў колгасу.

У галіне ўзмацненьня дасьледчай работы па соцыяльна-экономічных навуках зьмен амаль ніякіх няма. Як аб'ём, так і тэмп дасьледчай работы па соцыяльна-экономічных катэдрах не адпавядае сучасным патрабаваньням.

З папярэдняга відаць, што дасьледчая работа ў С.-Гас. Акадэміі пастаўлена ня зусім добра, вядзецца марудна. Галоўная прычына, якая перашкаджае Акадэміі разгарнуць шырока дасьледчую работу па ўсіх катэдрах,—перагрузка навуковых працаўнікоў навучальнай работай. Навуковыя працаўнікі з увядзеньнем цыклявой сыстэмы і паскораных тэмпаў навучаньня, сталі яшчэ больш перагружанымі, бо штат амаль не павялічыўся.

Асабліва ў цяжкім становішчы аказаліся расьлінаводныя катэдры, на якіх пераважная частка работы павінна быць прыстасавана да летняга сэзону.

Грашовыя асыгнаваньні на дасьледчую работу недастатковыя, але і з гэтых невялікіх асыгнаваньняў частка выдаткавана не па прызначэньні. Грошы, асыгнаваныя на дасьледчую работу, траціліся аа бягучыя выдаткі.

Дасьледчая станцыя Акадэміі не рэарганізавана. Маштаб яе дзейнасьці ў параўнаньні з мінулым годам не павялічыўся. Яшчэ да гэтага часу дасьледчая станцыя ня мае пэўнай мэтанакіраванасьці. Яна працягвае сваю старую «ўнівэрсальную» работу, вырашае шмат пытаньняў бяз мэтавай устаноўкі (дасьледуе, каб займацца дасьледваньнем).

З боку НКЗ БССР ёсьць тэндэнцыя абмежаваць навукова-дасьледчую работу Акадэміі. Ня гледзячы на зусім яскравыя дырэктывы НКЗ СССР аб рэорганізацыі дасьледчых «унівэрсальных» устаноў і організацыі вузкіх спэцыялізаваных дасьледчых устаноў па вытворчых адзнаках, працаўнікі НКБЗ высоўваюць проект організацыі пры Акадэміі ўнівэрсальнага інстытуту, няжыцьцёвасьць якога для ўсіх бясспрэчна.

Працаўнікі Акадэміі і дасьледчай станцыі зусім правільна лічаць, што больш мэтазгодным будзе, калі будуць організаваны ў Горках (пры Акадэміі) спэцыяльныя дасьледчыя ўстановы, якія адпавядалі-б характару факультэтаў і аддзяленьняў Акадэміі (станцыю па ільну, жывёлагадоўлі і агрохэміі).

Такія самыя дасьледчыя спэцыялізаваныя станцыі ўжо організоўваюцца па-замежамі Горак: па ільну—у Віцебску, па жывёлагадоўлі і агрохэміі—ў Менску.

Такім чынам С.-Гас. Акадэмія зноў застаецца без адпаведнай дасьледчай базы.

Адпаведныя органы павінны рашуча паставіць пытаньне перад НКЗ аб замацаваньні за Акадэміяй, акрамя вызначанай зональнай станцыі па садоўніцтву, іншых дасьледчых устаноў і, у першую чаргу, зональных станцый буйнай рагатай жывёлы і малочнай гаспадаркі, а таксама станцыі па культуры і апрацоўцы ільну.

Адсутнасьць дасьледчай базы вельмі дрэнна адбіваецца на рабоце Акадэміі. Навуковыя працаўнікі, асабліва малодшыя, ня маючы магчымасьці займацца дасьледчай работай па падвышэньні сваёй кваліфікацыі, прымушаны пакідаць Акадэмію. Частка навуковых працаўнікоў пераходзіць на работу ў НДІ, БАН, дзе больш шырока разгортваецца дасьледчая работа.

Толькі організацыя ў Горках пры Акадэміі спэцыялізаваных, шчыльна зьвязаных з сельска-гаспадарчай вытворчасьцю дасьледчых станцый можа ўцягнуць у сапраўдную дасьледчую работу навуковых працаўнікоў. Яны (станцыі) дадуць магчымасьць навуковым працаўні-

ком падвышаць сваю кваліфікацыю, будуць зьяўляцца базай для падрыхтоўкі асьпірантаў і студэнтаў адпаведнае спэцыяльнасьці.

Навукова-дасьледчая станцыя нарэшце будзе тэй крыніцай, адкуль будуць чэрпацца кадры для самой Акадэміі.

*Беларусізацыя* ў Акадэміі праводзіцца недастаткова хуткім тэмпам. За апошні час назіраецца паслабленьне ўжываньня беларускае мовы як студэнтамі, так і навуковымі працаўнікамі. Заняткі на беларускую мову не пераводзяцца.

З 33 профэсараў выкладаюць на беларускай мове—6; з 18 доцэнтаў—8; з 53 асыстэнтаў—45.

Студэнты ў штодзённым жыцьці беларускую мову ўжываюць слаба.

Малодшыя навуковыя працаўнікі беларускай мовай уладаюць недастаткова, мова іх не адшліфавана. Дрэнна абстаіць справа і з спэцыяльнай тэрмінолёгіяй, якую прыходзіцца ня толькі ўжываць, але і распрацоўваць.

Студэнты новых прыёмаў паступаюць у Акадэмію з недастатковай падрыхтоўкай па беларускай мове.

Беларуская мастацкая літаратура чытаецца мала, і лік прачытаных беларускіх кніг штомесяц памяншаецца (у кастрычніку 1929 г. было прачытана 969 беларускіх кніг, у красавіку 1930 г.—361 бел. кніга).

У бібліотэцы Акадэміі маюцца ўсе беларускія выданьні і яна акуратна папаўняецца новымі.

Беларускім тэатрам Акадэмія не абслугоўваецца на працягу апошніх 2-х год. Дырэктыва ЦК КП(б)Б і ў гэтым пытаньні ня выконваецца.

Бліжэйшмі задачамі Акадэміі па беларусізацыі павінна быць узьмацненьне тэмпаў беларусізацыі, перавод заняткаў у бліжэйшы час на 100% на беларускую мову; дабіцца абслугоўваньня Акадэміі беларускім тэатрам.

*Некалькі слоў аб тым, як ідзе кіраўніцтва работай Акадэміі.*

Адзінаначальле пачало праводзіцца з студзеня г. г., але ў правядзеньні яго бываюць часам хібы. Некаторыя прынцыповыя пытаньні вырашаюцца рэктарам бяз удзелу мас (абгаварэньне пяцігадовага пляну разгортваньня Акадэміі праводзілася габінэтным парадкам); доўга (да апошняга часу) ня былі акрэсьлены функцыі дэканаў; дэканы ў некаторых выпадках выконваюць тэхнічную работу (перапіска ды інш.).

Штаты работнікаў дырэкцыі Акадэміі не запоўнены. З прычыны-ж частых ад'ездаў рэктара ў камандыроўку, шмат якія галіны жыцьця Акадэміі доўгі час заставаліся без кіраўніцтва (няма нам. рэктара), прыблізна тое-ж было і у некаторых дэканатах (Колфак).

Дырэктару Акадэміі трэба ўзмацніць сваё кіраўніцтва Акадэміяй. Трэба больш шырока абгаварваць паасобныя пытаньні будаўніцтва Акадэміі на шырокіх сходах навуковых працаўнікоў, студэнцтва, рабочых і шырокай савецкай грамадзкасьці. Неабходна сыстэматычна праверацъ выкананьне дырэктыў партыі і ўраду ў пытаньні падрыхтоўкі кадраў, шляхам заслухоўваньня справаздач кіраўнікоў паасобных дэканатаў, катэдр і дасьледчых установаў.

*Новае будаўніцтва,* як пабудова бібліятэкі, ільноляборатарыі, гідроляборатарыі, інтэрнату, галоўнага будынку,—пад пагрозай зрыву. Усе об'екты будаўніцтва ў тэрмін скончаны ня будуць. Будаўніцтва зрываецца таму, што позна распачаты будаўнічы сэзон, слабая арганізацыя і разгортваньне Белдзяржбудам работы, недахват і дрэнная дастаўка матар'ялаў, незабясьпечанасьць заяўкамі на некаторыя матар'ялы (трубы, бэлькі, цэглу), непадпісаньне дагавору ды інш.

Адсутнічаюць дэталі і разьлікі асобных частак будынкаў, і ня ўсе чарцяжы ўзгоднены з акруговым інжынэрам. Няма ніякага пляну работы.

Патрэбны рашучыя захады адпаведных органаў, каб палепшыць справу новага будаўніцтва, а яе патрэбна палепшыць досыць значна, бо зрыў будаўніцтва—зрыў усяе работы Акадэміі.

*Вучэбныя гаспадаркі* Акадэміі не адпавядаюць свайму прызначэньню і ў такім стане, як яны ёсьць, вучэбна-практы-

кавальнымі гаспадаркамі быць ня могуць. Па сваёй зямельнай плошчы яны малыя (фэрмы)—700 га. Організацыйныя пляны гэтых гаспадарак не прадугледжваюць вытворчага навучаньня студэнтаў. Адсутнічаюць асноўныя сродкі с/гасп. вытворчасьці, а менавіта: трактары, складаныя с/гас. машыны, буйная рагатая жывёла ды інш. А бяз гэтага вучэбная гаспадарка Акадэміі палепшыць справы падрыхтоўкі малодшых спэцыялістых, організатараў колектыўнай сельскай гаспадаркі, ня зможа.

У напрамку палепшаньня гаспадарак у параўнаньні з мінулым годам нічога ня зроблена.

Трэба ўжыць усе захады да таго, каб зрабіць вучэбныя гаспадаркі Акадэміі базай для вытворчай практыкі студэнтаў.

Вышэй паданыя факты гавораць аб тым, што Акадэмія мае шэраг значных недахопаў. Наяўнасьць значнай часткі недахопаў можна тлумачыць слабым разгортваньнем крытыкі і самакрытыкі. Кіруючыя організацыі (профком, грамад. оргў) да голасу мас не прыслухоўваюцца. Пастановы сходаў у жыцьцё не праводзяцца, а таму на некаторых сходах чуліся такія галасы: «выступай, ня выступай, усёроўна нічога не праводзіцца ў жыцьцё».

На матар'ял, які зьмяшчаецца ў газэтах, ніхто не рэагуе. У Акадэміі існуе 5 «Ільлічовак» пад рознымі назвамі, якія выпушчаюць факультэты, мясцком і інш. орг., у якіх зьмяшчаецца шмат матар'ялу аб недахопах у рабоце і жыцьці Акадэміі, але карысьці ад гэтага мала, бо ніхто, як пісалася вышэй, на гэта ня хоча рэагаваць. Трэба адзначыць, што студэнцкія масы ў газэты ўцягнуты слаба. Кожная газэта мае сваіх «штатных» карэспондэнтаў.

Акрамя насьценгазэт, у Акадэміі выходзіць шматтыражная друкаваная газэта «За пролетарскія кадры». Вышла да гэтага часу 17 нумароў. Газэта «За пролетарскія кадры» слаба асьвятляе пытаньні нацполітыкі партыі і беларусізацыі, вытворчай практыкі, партыйна-комсамольскага жыцьця; на старонках газэты слаба было разгорнута змаганьне з варожай пролетарыяту ідэолёгіяй.

Лёзунг партыі аб разгортваньні самакрытыкі, «ня гледзячы на асобы», не знайшоў адбітку на старонках газэты «За пролетарскія кадры», бо крытыкавалі наогул. Зусім недастаткова разгорнута крытыка партыйна-комсамольскай і профсаюзнай работы, а таксама кіруючага іх складу і паасобных кіраўнікоў Акадэміі.

Трэба разгарнуць самакрытыку, узмацніць гэтым організацыі Акадэміі і палепшыць іх работу.

У заключэньне трэба адзначыць, што дырэктыва ЦК КП(б)Б па пытаньнях падрыхтоўкі асьпірантаў і вылучэнцаў, сваячасовага агляду работы і праверкі складу навуковых працаўнікоў, перагляду програм па социяльна-экономічных дысцыплінах кіраўніцтвам Акадэміі ня выканана.

Толькі рашуча перабудаваўшы сваю работу ў адпаведнасьці з пастановамі партыі і ўраду, толькі мобілізаваўшы шырокую савецкую грамадзкасьць навакол пытаньняў падрыхтоўкі кадраў для социялістычнай сельскай гаспадаркі, Акадэмія зможа падрыхтоўваць організатараў колектыўнай сельскай гаспадаркі.

# УЗМАЦНІМ ВАЕНІЗАЦЫЮ Ў ШКОЛЕ

А. Мэезіт

## Пэдкадры і вайсковая справа ў школе

### Агульныя задачы вайсковай падрыхтоўкі

Побач з вялізарнымі тэмпамі нашага соцыялістычнага будаўніцтва ўзбройваецца тэхнікай Чырвоная армія і ўдарнымі тэмпамі вядзе сваю падрыхтоўку, каб не адстаць ад разьвіцьця найноўшай вайсковай тэхнікі. Аўладаньне тэхнікай, аўладаньне новымі тэмпамі працы, выкананьне тактычных запатрабаваньняў сучаснага бою, з яго мобільнасьцю, складанасьцю, рознастайнасьцю,—усё гэта высоўвае падвышаныя культурныя запатрабаваньні да байца Чырвонай арміі. Баяздольнасьць яе ў значнай меры залежыць ад пісьменнасьці чырвонаармейцаў, ад іх культурнага ўзроўню, ад якасьці таго чалавечага матар'ялу, які выпушчае наша школа.

Кадры-ж нашага соцыялістычнага будаўніцтва ў вайсковы час зьявяцца кадрамі абароны краіны на розных дзялянках фронту ад перадавога выведніка і санітара да рабочага тылавога заводу і колгасу, якія забясьпечваюць армію, выхаваценя, што рыхтуе байцоў для фронту, урача, што лечыць параненых і хворых і г. д.

Сучасная вайсковая тэхніка вельмі складаная і рознастайная, і з кожным днём удасканальваецца і патрабуе больш складаных тактычных форм баявой чыннасьці. Разам з тым пытаньні абароны краіны і ўся складаная тэхніка надзвычайна шчыльна ў нас увязаны з усім нашым будаўніцтвам, бо мы прымушаны з вінтоўкай у руках організоўваць новае жыцьцё.

Вось чаму ўсе маладыя кадры соцыялістычнага будаўніцтва, незалежна ад роду, ад узросту, у сьценах школы павінны атрымаць належную вайсковую падрыхтоўку, каб актыўна ўдзельнічаць у абароне краіны, як працуючы па сваёй спэцыяльнасьці, гэтак і ў шэрагах тых, хто непасрэдна змагаецца са зброяй у руках. Для Беларусі гэта набывае асаблівае значэньне з прычыны такога прымежнага становішча, якое яна займае і якое зьявіцца шчыльна і непасрэдна зьвязаным з дзейнай арміяй, і кожны пасрабуе на справе новыя формы баявой чыннасьці супраціўніка, якія ўзьнікаюць на падставе новай тэхнікі і характару грамадзянскай вайны. Ствараюцца такія ўмовы, што ня толькі агульная пісьменнасьць у вайсковай справе неабходна для кожнага грамадзяніна СССР, але патрэбна і спэцыяльная вайсковая падрыхтоўка. Шматлікія катэгорыі жанчын будуць выкарыстаны ў выпадку вайны, як мэдычкі, будаўнікі, інжынэры, тэхнікі, адміністратары, гаспадарнікі, санітары, пэдагогі і г. д.

Многа каму прыдзецца весьці сваю работу ў часе вайны па-за шэрагамі арміі, як, напрыклад, частцы пэдагогаў адсюль значнае месца ў падрыхтоўцы кадраў павінна быць вызначана політычнай працы, якая павінна зьявіцца галоўнай дысцыплінай, бо яна дасьць ідэолёгічнае ўгрунтаваньне ўсім астатнім відам вайсковай падрыхтоўкі. Неабходна азнаёміцца з задачамі, формамі і мэтодамі садзейнічаньня політасьветных устаноў і організацый справе абароны краіны ў мірны і вайсковы час. На вёсцы школа павінна зрабіцца цэнтрам вайсковай працы сярод насельніцтва.

Побач з гэтым мы павінны выхаваць у моладзі псыхо-фізычныя якасьці і

звычкі, якія-б зьявіліся неабходнай умовай для набыцьця вайсковых ведаў і трэніроўкі ў баявой службе.

Мы павінны выхоўваць новых грамадзян з цьвёрдай воляй, дужых, настойлівых, што патрэбна аднолькава як будаўнікам социялізму, гэтак і абаронцам будаўніцтва. Ствараецца моцны новы тып чалавека.

Адсюль робіцца зразумелым усё тое вялізнае значэньне, якое ў пытаньнях абароны набывае праца кожнага пэдагога, які выхоўвае і навучае новыя кадры. У яго руках знаходзіцца вайсковая падрыхтоўка і выхаваньне абаронцаў социялістычнага будаўніцтва. Яго ўплыў ідзе яшчэ далей. Справа ў тым, што «асновай баяздольнасьці кожнай часьці зьяўляецца яе ўнутраная згуртаванасьць, яе дысцыпліна», а асновы дысцыпліны «павінны быць закладзены ў штодзённым быту насельніцтва»—пісаў яшчэ ў свой час нябожчык *М.В. Фрунзэ*. Усё гэта патрэбна для грамадзяніна нашага социялістычнага будаўнцтва. Шляхі да гэтага знаходзяцца ў руках пэдагогаў. Політэхнізацыя сярэдняе школы, *даючы школе перадавую* тэхніку, павінна *даць і аснову* ведаў перадавой вайсковай тэхнікі. Калі політэхнізацыя, паводле Маркса, павінна даць асьвету, фізычнае разьвіцьцё і політычнае выхаваньне, дык гэта ў аднолькавай ступені на сёньняшні дзень павінна ісьці як для социялістычнага будаўніцтва, гэтак і для абароны будаўніцтва. Асновы політэхнізацыі—агульнанавуковыя прынцыпы ўсіх вытворчасьцяй, добрае азнаямленьне з прыладамі ўсіх вытворчасьцяй—павінны быць пашыраны і на вайсковую справу.

Політэхнізацыя павінна падвысіць і ролю вайсковае справы ў школе. Вайсковая справа ў школе павінна садзейнічаць політэхнізацыі. Патрэбна шырокая аснова ведаў перадавой вайсковай тэхнікі, і неабходна навучыцца выкарыстаць мясцовасьць для зручнага вядзеньня стральбы, страляць, назіраць, хавацца, маскавацца хутка і, па магчымасьці, цішком перасоўвацца ад аднаго месца да другога, умець назіраць за месцам бою і падтрымліваць сувязь з сваімі сусездямі. Вось элемэнтарныя практычныя баявыя звычкі політэхнізацыі. Фізычная культура павінна, шляхам уплыву на організм вучня, пры мэтазгодным разьмеркаваньні матар'ялу і мэтодзе, апроч удасканаленьня нэрвова-мускульнага апарату чалавека, выхаваць валявыя і моральныя социяльна-станоўчыя для паводзін уласьцівасьці, як самаўладаньне, вытрыманасьць, сьмеласьць, цьвёрдасьць, настойлівасьць, колектывізм і, галоўнае—сапраўдную гатоўнасьць да зьдзейсьненьня задач, якія перад ім стаяць. Элемэнтамі выхаваньня можа зьявіцца азнаямленьне з гісторыяй гэраічнай барацьбы, штодзённага жыцьця і быту Чырвонай арміі і флёту. Рэгулярная штодзённая сувязь з аддзеламі Чырвонай арміі, добра прадуманая і організаваная, можа зьявіцца значным сродкам выхаваньня. Адзін толькі выгляд казармы, чырвонаармейцаў, камандзіраў прывучае дзяцей да акуратнасьці, ахайнасьці, спраўнасьці, дакладнасьці і г. д.

Гэткая простая рэч, як ранішняя зарадка, якая лічыцца толькі на паперы, павінна стаць абавязковай для вучняў і настаўнікаў. Палявыя экскурсіі павінны быць часткаю ўсяго выхаваньня.

Вучні павінны зразумець, што падрыхтоўка да аховы краіны заключаецца ня толькі ў падрыхтоўцы да непасрэднага ўдзелу ў вайсковых дзеяньнях (уменьне страляць, ведаць строй, тактычныя і іншыя прыёмы і г. д.), а і ва ўпартай, настойлівай, штодзённай працы, якая дапамагае ўзмацненьню магутнасьці нашай краіны, якая дапамагае найхутчэйшаму разьвязваньню задач індустрыялізацыі і колектывізацыі сельскай гаспадаркі.

Адсюль—штодзённы ўдзел школы ў вытворчай працы, шчыльнейшая сувязь з заводам, фабрыкай, адсюль уменьне злучаць задачы мірнага будаўніцтва з задачамі аховы краіны, бо адно бяз другога немагчыма да таго часу, пакуль будуць існаваць капіталістычныя дзяржавы.

У пытаньнях аховы краіны асаблівае значэньне набывае грамадзка-карысная дзейнасьць, якая зьвязана непасрэдна са справай абароны краіны і Чырвонай арміі.

### Падрыхтоўка кадраў

Але ўва ўсёй гэтай вялікай і складанай справе вайскова-палітычнага выхаваньня абаронцаў соцыялістычнага будаўніцтва мы стыкаемся з аднэй вялікай і вельмі значнай перашкодай. Тыя, хто павінен гэту працу весьці, пры ўсім сваім жаданьні часта нічога ня могуць зрабіць з прычыны сваёй уласнай вайсковай няпісьменнасьці ў самых элемэнтарных рэчах.

Калі маладыя пэдагогічныя кадры ўсіх ступеняў цяпер атрымліваюць пэўны комплекс вайсковых ведаў у ВНУ, у тэхнікуме, на курсах, дык нашы старыя пэдагогічныя кадры, ня гледзячы на спэцыфічныя географічныя ўмовы Беларусі, дзякуючы якім яна была на стыку інтарэсаў імпэрыялістых у іх барацьбе і апынулася на месцы сутычкі імпэрыялізму з Савецкім Саюзам, у большасьці сваёй зусім ізоляваны ад вайсковай справы, і па сёньняшні дзень значная частка іх зьяўляецца няпісьменнай у элемэнтарных вайсковых пытаньнях.

Адсюль першае, перад чым мы стаім, —гэта вайсковая падрыхтоўка старых пэдагогічных кадраў. Для падвышэньня вайсковай падрыхтаванасьці пэдагогаў павінны быць выкарыстаны ўсе магчымыя формы працы як па лініі сыстэмы падвышэньня іх агульнай пэдагогічнай кваліфікацыі, гэтак і па лініі грамадзкіх організацый, з умовай, што вайсковая падрыхтоўка зьяўляецца для пэдагогаў абавязковай і павінна ўлічвацца, як абавязковае патрабаваньне, што прад'яўляецца пэдагогу, незалежна ад яго роду і ўзросту, наркамасьветы, саюзам працасьветы і савецкай грамадзкасьцю ў цэлым. Усе пляны перападрыхтоўкі пэдагогічных кадраў як стацыянарныя, гэтак і завочныя, як доўгатэрміновыя, гэтак і кароткатэрміновыя павінны ўключаць пэўны курс вайсковай справы, слуханьне якога для ўсіх зьяўляецца абавязковым.

Для гарадзкіх пэдагогаў Асоавіяхэм павінен організаваць спэцыяльныя вячэрнія курсы, разьлічаныя, прыкладам, да 2 год з тым, каб кожны год меў ня менш 46 гадзін, падзеленых на 23 заняткі, як гэта організуецца ў РСФСР. На вёсцы на тэй жа падставе магчыма організаваць гурткі пры мясцкомах працасьветы для пэдагогаў вясковай школы. І самым рэальным і сапраўдным сродкам павінна зьявіцца організацыя Асовіяхэмам спэцыяльных лягерных збораў для пэдагогаў з прыцягненьнем апошніх туды ў добраахвотным парадку. Прымежныя ўмовы абавязваюць сур'ёзна заняцца гэтай справай, не адкладаючы яе.

У аснову гэткай падрыхтоўкі трэба пакласьці скарочаныя програмы вайсковай падрыхтоўкі пэдагогічных тэхнікумаў. Пасьпяховая праца асобных пэдагогаў па вайсковай падрыхтоўцы і актыўная іх праца ў галіне вайскова-палітычнай пропаганды ў школе і, наадварот, казённыя адносіны да гэтай працы, павінны ўлічвацца АНА і профсаюзам у службовай і грамадзкай характарыстыцы пэдагога.

Уся праца па падрыхтоўцы пэдагогаў павінна будавацца паводле прынцыпу соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва.

Задачай падрыхтоўкі, паводле патрэбы ўжо на першым годзе, павінна стаць набыцьцё слухачамі ведаў у галіне організацыі вайсковай працы школы ў мірны час, работы школы ў час мобілізацыі і ліквідацыі элемэнтарнай вайсковай няпісьменнасьці. Другі год пойдзе на аўладаньне мэтодыкай вайсковай працы ў школе і працяг вайсковага ўдасканаленьня.

Нельга, бясспрэчна, разьлічваць, што ўсю працу магчыма будзе правесьці толькі на курсах. Яны зьявяцца толькі зьвяном, якое організуе, кірує працай па вайсковай падрыхтоўцы дома, самастойна. Таму трэба будзе паклапаціцца аб стварэньні пэўнай базы для працы і ўдасканаленьня пэдагогаў у самых навучальных установах. Прыдзецца шырока карыстацца экскурсіямі ў дамы Чырвонай арміі, вайсковыя часьці, вайсковыя габінэты вышэйшых навучальных устаноў і г. д.

Для ажыцьцяўленьня ў далейшым непасрэдна агітацыйна-пропагандысцкай працы, самаабароны і ўключэньня вайсковых элемэнтаў у выкладаемыя дысцыпліны і яснага ўяўленьня ролі школы ў справе абароны і рэальнай сутнасьці

ўзброенай барацьбы, апроч агульна-вайсковай падрыхтоўкі, пэдагогам прыдзецца вывучыць сутнасьць сучаснага агульнавайсковага бою і зразумець бой меншых разьдзелаў, для чаго трэба будзе вывучыць непасрэдна ўладаць зброяй. У выніку пэдагог павінен разумець ролю чалавека ў сучасным баі, тыя патрабаваньні, якія адсюль прад'яўляюцца да выхаваўчай працы школы і тыя абставіны, якія могуць стварыцца ва ўмовах Беларусі з пачаткам вайны.

### Вайсковыя элемэнты ў курсах

Як мы ўжо адзначалі ў адносінах політэхнізацыі школы, усе дысцыпліны, якія прапрацоўваюцца ў навучальных установах, маюць унутраную сувязь і з пытаньнямі вайсковай справы. Ваенізацыя асноўных дысцыплін павінна даць базу для спэцыяльнага вайсковага курсу, а з гэтай прычыны і кожны настаўнік у тэй ці іншай меры робіцца адказным і за вайсковую падрыхтоўку вучняў. Агульныя намаганьні павінны даць большы эфэкт вайсковай працы ў школе.

Усе дысцыпліны павінны быць насычаны элемэнтамі вайсковай справы. У гэтай справе ўсе хочуць мець гатовы, раз назаўсёды складзены рэцэпт, форму, штандар, каб ім вольна карыстацца ва ўсіх выпадках. Але вайсковая справа—справа жывая, складаная, гібкая і рушыцца наперад тымі-ж тэмпамі, якімі ідзе наша будаўніцтва. Яна зьвязана ня толькі з матар'яльнай часткай і мэханічнымі законамі, а ў кожнай сваёй частцы зьвязана з жывым чалавекам, з масамі, і таму сталыя прынцыпы тут ня могуць быць дапасаваны.

Асноўныя пункты ў гэтым пытаньні пастаўлены ў кніжцы, выдадзенай Наркомасьветы РСФСР пад назвай «Повышенная школа и оборона страны», 3-е выданьне якой вышла ў 1930 годзе. Але ў сучасны момант і гэтае выданьне перапрацоўваецца, каб даць пэдагогу ў рукі больш конкрэтнага матар'ялу.

Усё-ж розных «выпадкаў» нельга прадугледзець. Ёсьць некаторыя выданьні, якія выпушчаны Дзяржаўным выдавецтвам РСФСР: Унукаў—«Физика и война», сэрыя выпускаў; Ватолін—«Курс химии»; Сьвянціцкі і Міхееў—«Геометрия в поле»; Госьцеў, Бермут, Пеперак і інш.—«Военизированный задачник по математике».

Могуць быць выкарыстаны і некаторыя падручнікі, складзеныя спэцыяльна для вайсковых школ, як, напрыклад: Унукаў і Казачэнка—«Учебник физики для артиллерийских и специальных военных школ», які рэкомэндаваны і для самаадукацыі, Давыдаў, Рэмізаў, Рэўзіс і Сядаў—«Учебник по математике. Краткий курс физики и геометрии для пехотных и кавалерийских школ»; Брэзіч—«Учебник технической механики для специальных военных школ и для самообразования». Уведзеныя ў програмы вайсковыя элемэнты патрабуюць пэўных конкрэтных ведаў, каб даць іх вучням у правільным выкладаньні і даволі поўна. Апроч таго, ёсьць цэлы шэраг пытаньняў, якія пры сваім спэцыяльным выкладаньні, паводле некаторых сваіх уласьцівасьцяй, патрабуюць асаблівай увагі. Калі мы бліжэй прыгледзімся да гэтых уласьцівасьцяй, дык убачым, што яны маюць значэньне ў вайсковай справе. Гэтак, напрыклад, па фізыцы разуменьне аб концэнтрацыі ў прыстасаваньні да газавых сумесяй, спосабы выражэньня концэнтрацыі (вагавыя і аб'ёмныя), перавод адных у другія, гранічная концэнтрацыя, яе вылічэньне з упругасьці насычанай пары і т. д.—усё гэта шчыльна зьвязана з атрутнымі матар'яламі, якія ўжываюцца ў вайсковыя часы, адсюль разьлік концэнтрацыі атрутных матар'ялаў у газавай хвалі—усё гэта зьвязана з О. В. у вайсковы час, і таксама адносіцца да цэлага шэрагу шкодных вытворчасьцяй у мірны час.

Але нярэдка бывае так, што настаўнік, разглядзеўшы ўласьцівасьці тае ці іншае матэрыі, гаворыць:—«Ну, яна мае сваё прыстасаваньне і ў вайсковай справе». Гэтага, зразумела, мала. Калі мы бярэм, для прыкладу, хлёр, дык трэба сказаць ня толькі наогул аб прыстасаваньні яго ў вайсковай справе і ў вайскова-хэмічнай прамысловасьці, але і аб тым, што хлёр—атрутная матэрыя, аб яго баявых якасьцях, ужываньні і абароне ад яго.

Пры вывучэньні тэорыі магчымасьці («вероятности»), ілюстрацыю асноўных

тэорэм тэорыі магчымасьцяй праводзіць на прыкладах артылерыйскай стральбы: магчымасьць пералёту і недалёту, магчымасьць пападаньня ў пляц найбольшага памеру, які разьмешчан у эліпсе расьсяваньня, магчымасьць комбінацый пералётаў і недалётаў адносна цэнтру пападаньня пры пэўным ліку стрэлаў, магчымасьць пападаньня ў палосы роўналежныя восям сымэтрыі эліпсу расьсяваньня, шкала расьсяваньня і г. д.

Адзначаныя прыклады падыходзяць у значнай меры да больш падвышанай школы, але і гэта ілюстрацыя паказвае, як шырока можа быць ілюстравана кожная дысцыпліна элемэнтамі вайсковай справы.

Калі мы возьмем географію, дык мы сустракаліся з гэткімі зьявамі: настаўнік, тлумачачы розныя нацыянальнасьці, гаворыць вучням:—«на ўсход ад нас жывуць вялікаросы, на захад—палякі, немцы, на поўдзень—украінцы». Гэтае апалітычнае тлумачэньне зьяўляецца па сутнасьці справы вельмі палітычным, але пэўнага напрамку. Тут не закрануты ня толькі вайсковыя элемэнты, але і сутнасьць усяго савецкага будаўніцтва. Ці можам мы вывучаць Польшчу, не закранаючы яе нацыянальнага і клясавага складу насельніцтва, асабліва прымежных зон, асаднікаў і не ўвязаўшы ўсяго гэтага з пытаньнямі пролетарскай рэволюцыі і ўзброенай барацьбы, калі ўся політыка Польшчы будуецца і вядзе да ўзброенай барацьбы з Савецкім Саюзам. Галоўныя прамысловыя цэнтры, вайсковая прамысловасьць і, у прыватнасьці, хэмічная прамысловасьць ня могуць быць выкінуты з пытаньняў вайсковага значэньня. Кірунак і стан шляхоў зносін мае непасрэдны ўплыў на вайсковую справу, а шляхі Польшчы і будуюцца, выходзячы з гэтых меркаваньняў. Мы мусім улічыць гэта. А потым, бязумоўна, патрэбна ўключыць і непасрэднае азнаямленьне з узброенымі сіламі і патаемнымі фашысцкімі організацыямі. Па гісторыі, напрыклад, разьдзел аб Вялікай француcкай рэволюцыі мы павінны папоўніць пытаньнямі замежнай політыкі і войнаў францускай рэволюцыі і Наполеона. Варта падрабязьней спыніцца на грамадзянскай вайне ў Амэрыцы, на вайсковай організацыі Парыскай Комуны, на сусьветнай вайне, пры чым з апошняй трэба знаёміцца ня толькі з экономічнага і політычнага боку, але і з вайскова-тэхнічнага пункту погляду. Але і тут можа паўстаць пытаньне аб тым, дзе ўзяць адпаведны матар'ял. Тут магчыма выкарыстаць: Сухаў—«Краткий очерк истории военного искусства»; Лукін—«Очерки по истории революционных армий»; Мацьвееў—«Как победила революция»; Молак—«Военная организация Парижской Коммуны» (у часопісі «Историк-марксист»); Навумаў—«Война 1914-1918 г. г.»: Б. Гораў—«Война 1914-1918 г. г.» (у IV т. «Книга для чтения по истории Запада», выд. «Пролетары»). Па гісторычнаму матэрыялізму можа быць уключана самастойная лекцыя «Проблема войны в свете исторического материализма».

Каб палегчыць працу настаўнікаў і забясьпечыць правільнасьць тлумачэньня чыста вайсковых элемэнтаў, зьяўляецца зусім мэтазгодным выданьне для настаўніцкага складу пэўных даведнікаў, як дапаможнага матар'ялу, але з такім разьлікам, каб яны не падмянілі орыгіналаў.

Толькі здавальняючая асабістая вайсковая пісьменнасьць і заўсёдная праца над сабою дасьць мажлівасьць правільна ажыцьцяўляць пастаўленую задачу па падняцьці вайсковай пісьменнасьці вучняў, улічваючы, што той аб'ём ведаў, які даецца вучню, павінен ведаць сам пэдагог.

### Самадзейная праца вучняў

Пэдагогічныя кадры ня могуць застацца ў баку ад самадзейнай працы вучняў па лініі падвышэньня абароназдольнасьці краіны і вайсковай падрыхтоўкі. Але і для гэтага патрэбна пэўная вайсковая пісьменнасьць. Самадзейнасьць павінна пайсьці па лініі розных вайсковых школьных гурткоў і команд, якія будуць абапірацца на зацікаўленасьць вучняў асобнымі спэцыяльнасьцямі, з якіх складаецца сучасная вайсковая справа.

Гурткі ствараюцца самыя рознастайныя па свайму зьместу. Адны могуць выраблядь розныя наочныя дапаможнікі для абавязковай вучобы, як гэта часта практыкавалася ў Дзяржаўным уні-

вэрсытэце, могуць складаць альбомы з выразак па найноўшай вайсковай тэхніцы, па авіяцыі, хэміі, па замежнай вайсковай хроніцы, па танках і г. д.

Другія могуць працаваць у гуртках: тopографічным, хэмічным, стралковым, авіяцыйным і г. д. Іншыя займаюцца ў атрадзе маладых санітараў, выведчыкаў, лыжнікаў, вэлёсыпэдыстаў і г. д.

Вайсковая справа мае гэтулькі розных спэцыяльнасьцяй, што гурткі, команды, групы могуць быць самыя разнастайныя. У навучальнай установе, зразумела, ня варта распыляцца па ўсіх гэтых спэцыяльнасьцях, а спыніцца на якой-небудзь групе гэтых організацый. І чым большы ўдзел возьмуць пэдагогі ў гэтай працы, тым лепш будзе весьці і абавязковую вайсковую падрыхтоўку і тым лепш пэдагогічны склад зжывецца з вучнямі. Яшчэ лепш, калі ў гуртку пэдагог можа весьці непасрэдную кіруючую ролю па аднэй спэцыяльнасьці. Гэтага трэба дамагацца і гэтага трэба дамагчыся. Для мэтоду соцспаборніцтва тут адчыняецца шырокая мажлівасьць.

Калі буржуазныя дзяржавы і іх школы, якія імкнуцца апраўдаць і ўзмацніць імпэрыялізм, прышчапляюць «культуру вайны», наша падрыхтоўка абароны соцыялізму зьяўляецца пачэсным абавязкам усіх працоўных і павінна ўвайсьці ва ўсю працу нашай школы, і пэдагог павінен быць актыўным удзельнікам умацаваньня абароназдольнасьці краіны, дзе будуецца соцыялізм.

---

**У. Раманінаў**

# Выкладаньне расійскай літаратуры ў сувязі з задачамі абароны краіны

Міжнародная буржуазія, бачачы шпаркі рост і экономічнае ўзмацненьне Савецкага Саюзу і ўлічваючы вялізарныя сымпатыі сусьветнага пролетарыяту да сапраўднай сваей бацькаўшчыны, краіны пролетарскай дыктатуры, увесь час вядзе падрыхтоўку да таго, каб зьнішчыць рэспубліку саветаў і тым самым працягнуць існаваньне ўсяе капіталістычнае структуры. Буржуазія організуе жорсткую расправу з пролетарыятам унутры сваіх дзяржаў і ў той-жа час з ліхаманкавай сьпешнасьцю вядзе падрыхтоўку да выступленьня супроць нас, выклікаючы рознымі провокацыямі нас на вайну. Аб гэтым гаворыць уся палітыка капіталістычых дзяржаў у адносінах да СССР: падзеі на Куч, Варшаўскае провокацыя і г. д. і г. д. Мы добра ведаем цану ўсім «мірным» конфэрэнцыям, якія зьяўляюцца ўзорам дыплёматычнай фальшывасьці. Мы павінны штодзённа чакаць нападу з боку буржуазных суседзяй. Яшчэ Ў. І. Ленін казаў: «Мы павінны быць на чаку. Мы ні ў якім выпадку ня можам сказаць,што ад вайны мы ўжо гарантаваны».

Вось чаму перад пролетарыятам Савецкага Саюзу, ня гледзячы на тое, што толькі апошні ажыцьцяўляе сапраўды мірную політыку, паўстае задача—узмацніць сваю ваенную падрыхтоўку. Выконваючы пяцігадовы плян індустрыялізацыі, мы тым самым павялічваем абароназдольнасьць Саюзу. Але, каб быць падрыхтаванымі да вайны, яшчэ мала мець добра разьвітую прамысловасьць, добрую ваенную тэхніку, дасканалае ўзбраеньне і дасканалую баявую падрыхтоўку Чырвонай арміі,—трэба, улічваючы асаблівасьці будучай вайны, падрыхтаваць да вайны ўсё працоўнае насельніцтва Саюзу. Перад намі стаіць задача ваенізацыі ўсіх працоўных, а асабліва працоўнай і вучнёўскай моладзі. Ваенная падрыхтоўка насельніцтва вядзецца па лініі Асоавіяхіму. Вучнёўская моладзь атрымлівае яе ў школе. Кожная дысцыпліна мусіць быць наколькі магчыма насычанай элемэнтамі ваенізацыі.

Якая-ж роля ў гэтым мовы і літаратуры, наогул, і расійскай, у прыватнасьці?

## II

Літаратуру нельга разглядаць выключа як адлюстраваньне клясавай барацьбы: літаратура разам з тым і зброя клясавай барацьбы. А калі так, то мастацкія творы, літаратурныя вобразы належыць скарыстоўваць для таго, каб дапамагчы выканаць агульнашкольную задачу па падрыхтоўцы сьвядомых барацьбітоў за інтарэсы пролетарыяту. Небясьпека-ж вайны патрабуе ад выкладчыка мовы і літаратуры ўвесьці элемэнты ваенізацыі ў заняткі і па літаратуры і па мове.

На лекцыях па літаратуры трэба заўсёды даваць асабліва выразную клясавую ўстаноўку, эмоцыянальную зарадку, калі разглядаеш творы, у якіх ёсьць апісаньне царскай альбо Чырвонай арміі, вайны, боек і г. д., а пры разглядзе некаторых твораў садзейнічаць замацаваньню вайсковых звычак і ведаў. Бязумоўна, мы ня можам пайсьці па шляху наіўнага рэалізму і вывучаць, напрыклад, тактыку бою па «Чапаеву» Фурманава ці па «Железному потоку» Серафімовіча, але-ж таксама няправільным будзе, калі мы, абгаварваючы зьмест гэтых твораў, зусім ня спынімся на пытаньнях тактыкі армій Чапаева і Кожуха. Калі-ж мы больш ці менш глыбока спынімся на пытаньнях тактыкі, растлумачым вайсковыя тэрміны, высьветлім клясавую сутнасьць (і гэта самае галоўнае) той барацьбы, якая адбіваецца ў творах, тае барацьбы, якая адбіваецца ў творах, то ўжо такім чынам будзе выканана частка задач па ваенізацыі на лекцыях літаратуры.

Адным словам нельга абыходзіць моўчкі тых вайсковых пытаньняў, што аўтар высоўвае ў сваім творы, а трэба на разгляд іх зварачаць асаблівую ўвагу. Але таксама нельга «прыцягваць за валасы» элемэнтаў ваенізацыі да кожнага твору, ад такой ваенізацыі ніякай карысьці ня будзе. Элемэнты ваенізацыі трэба ўводзіць у заняткі па літаратуры ў плянавым парадку, так сама як і элемэнты антырэлігійнага і інтэрнацыянальнага выхаваньня.

Па новай програме для сямігодак мы маем наступныя творы, у якіх ёсьць элемэнты ваенізацыі:

V кляса.

Горкі—«Советский Баку».
Жараў—«Песня о металле».
Нікіфараў—«Красные воробьи».
Някрасаў—«Эй, Иван».
Талстой—«Кавказский пленник».

VI кляса

Нявераў—«Ташкент—город хлебный»
Сэйфуліна—«Правонарушители».
Гладкоў—«Цемент».
Кірсанаў—«Чудесный бивуак».
Зазуля—«Мелочь».
Кажэўнікаў—«Дэур сейд».
Пушкін—«Дубровский».
Някрасаў—«Орина—мать солдатская»

VII кляса

Горкі—«9-ое января».
Горкі—«Мать».
Ляшко—«Рассказ о кандалах».
Д. Бедный—«Главная улица».
Серафімовіч—«Железный поток».
Лебядзінскі—«Неделя».
Маякоўскі—«150.000.000».
Новікаў-Прыбой—«Пленники моря».
Якаўлеў—«Октябрь».
Фурманаў—«Мятеж».
Фадзееў—«Разгром».
Бязыменскі—«Комсомолия».
Ляшко—«Доменная печь».
Панфераў—«Бруски».

Акрамя таго, з мэтай ваенізацыі можна скарыстаць у школе (для VII і старэйшых клясаў) наступныя творы, якія не ўваходзяць у програму[1]):

Фурманаў—«Чапаев», «Красный десант», «Пожар».
Іваноў—«Партизаны», «Бронепоезд».
Шолахаў—«Тихий Дон».
Нявераў—«Андрон Непутевый».
Малашкін—«Падение Даира».
Бабель—«Конармия».
Верасаеў—«На войне», «В тупике».
Блок—«Двенадцать».
Гаршын—«Четыре дня», «Из записок рядового Иванова», «Денщик и офицер».
Талстой — «Севастопольские рассказы, «Набег», «Казаки», «Хаджи-Мурат» «После бала», «Война и мир».

[1]) Сьпіс гэты, бязўмоўна, няпоўны

Лермантаў—«Герой нашего времени».
Грыбаедаў—«Горе от ума».

Гэтыя творы можно разьмеркаваць па тэмах:

1. Царская армія—апора самаўладзтва, абаронца інтарэсаў капіталістых і памешчыкаў.
2. Царская армія—«серая скотинка», цёмная, забітая.
3. Чырвоная армія—апора рэволюцыі і абаронца інтарэсаў працоўных.
4. Чырвоная армія—школа барацьбітоў за соцыялістычнае будаўніцтва.

Мэтодыка выкладаньня мовы і літаратуры не дае пэўнай схэмы разгляду мастацкага твору, улічваючы ваенны элемэнт у ім, яшчэ ў мэтодыцы не распрацавана пытаньне ўвязкі літаратуры і ваенізацыі і наогул яшчэ рана рабіць якія-небудзь пэўныя вывады ў гэтых адносінах,—пакуль што трэба ўлічваць практыку паасобных школ і настаўнікаў.

III

Я хачу падзяліцца сваім уласным вопытам.

Для ўзору разгледжу аповесьць Лебядзінскага «Неделю», пры чым трэба папярэдзіць, што я праводжу разгляд твору толькі з аднаго боку— аналізую ваенны элемэнт у ім і зьмяшчаць у гэтым артыкуле ўсебаковы разгляд «Недели» Лебядзінскага ня лічу сваёй задачай.

З чаго пачалі разгляд? Перш за ўсё было высьветлена, хто змагаецца, з кім змагаецца і чаму,—гэта значыць, была дадзена клясавая ўстаноўка і высьветлена роля Чырвонай арміі як абаронцы рэволюцыі і інтарэсаў працоўных. Потым перайшлі да разгляду 12 часткі, у якой адбіваецца тактыка бою.

У 12 частцы аповесьці апісваецца, як батальён чырвонаармейцаў наступаў на горад, у якім заселі белыя. Асноўная задача ў час наступленьня—дайсьці з найменшымі стратамі да такога пункту, з якога можна будзе кінуцца ў атаку на ворага. Для гэтага трэба ўмець карыстацца ўсімі ўкрыцьцямі—прыстасоўвацца да мясцовасьці. Пры наступленьні за ўкрыцьцём трэба рухацца скора; калі мясцовасьць адкрытая, наступленьне вядзецца перабежкамі. У даным выпадку месца было адкрытае, нізкае.

«На синих сугробах удобны были для прицела серые фигурки».

І таму рота павольна, перабежкамі прасоўвалася да гораду. Далей апавядаецца, як Сьпіцын, сагнуўшыся, перабягаў ад узгорачка да ўзгорачка.

Дзеля таго, каб сустрэча з войскамі ворага ня была неспадзяванай, і дзеля таго, каб можна было падрыхтавацца да бою, вядзецца разьведка, высылаюцца дазоры.

І мы бачым у аповесьці:

«На правом фланге дозоры высланы, конная разведка тоже».

Разьведка паведаміла аб тым, што ідзе «большая шайка». Потым зьявіўся другі разьведчык з паведамленьнем, і, толькі ўлічыўшы ўсе атрыманыя весткі, Караулаў дае загад:

«Ложись. К бою».

Для зближэньня з ворагамі і для атакі карысна скарыстоўваць ноч. Пры наступленьні ўначы забараняецца рабіць шум. Пераходы рабіць трэба з вялікай асьцярожнасьцю і не адрывацца ад сваіх начальнікаў і таварышоў. Страляць пачынаць толькі тады, калі зусім блізка падыйшлі да ворага, у час атакі.

Як жа малюецца зближэньне з ворагам у «Неделе»?

«Был отдан приказ не шуметь».

Але камбрыга непакоіла і гэта ціхае прасоўваньне наперад:

«Но шуршание земли под тысячами ног казалось Караулову громким гулом».

У часе наступу захоўваўся ўзорны парадак.

«Каждый знал своего соседа, своего начальника, каждый слушал тихую команду».

Калі ў гэтым годзе прышлося разглядаць твор з вучнямі, якія на працягу двух гадоў праходзілі ваенізацыю, як асобны прадмет, лёгка было вызначыць, якія недахопы ёсьць у дзеяньнях батальёну з пункту гледжаньня тактыкі сёньняшняга дня. Вучні зьвярнулі ўвагу на такія недахопы: 1) не скарыстоўваўся разьдзел, як баявая адзінка, 2) не скарыстоўваліся больш дасканалыя страі (калёнка, зьмейка, ланцужок), а ішлі

трайным ланцужком. Акрамя таго, было адзначана, што чырвонаармейцы рана пачалі страляць.

Перамаглі чырвоныя. Хто перамагае ў баю? Выйгрывае бой, папершае, той, хто рэальна верыць у перамогу. У чырвоных была вера ў неабходнасьць перамогі, вера ў сваю моц, бо яны ведалі, што змагаюцца за справу працоўных, за свае ўласныя інтарэсы, ведалі і тое, што ў варожых шэрагах шмат такіх, якія пашлі з белымі па несьвядомасьці, альбо па прымусу, што тамака ёсьць, побач з бандай сапраўдных ворагаў рабочае клясы, свае браты-працоўныя, якія пры першым выпадку павернуць сваю зброю ў бок капіталістых-эксплёататараў і іх служак, белае афіцэрства. Аднак, каб перамагчы, мала яшчэ аднэй толькі веры: трэба мець падрыхтаваных байцоў, на значнай вышыні павінна стаяць вайсковая тэхніка, трэба ў патрэбны момант, у патрэбным месцы сконцэнтраваць сілы, трэба захоўваць таямніцу бою. Ня цяжка давесьці на падставе зьместу твору, што ўсе гэтыя ўмовы чырвоны батальён меў, і таму ён перамог.

Вялікае значэньне ў баі мае комсклад, і перамога ў значнай меры залежыць і ад таго, якія камандзіры ў тэй ці іншай вайсковай частцы. Якім-жа павінен быць командзір? Ён таксама павінен верыць у перамогу, павінен быць гатовым на самаахвярнасьць, мець добрую падрыхтоўку, кемлівасьць і г. д.

У «Неделе» ёсьць наступныя тыпы командзіраў: Сялецкі, Каравулаў, Данілаў і Сьпіцын.

Вось што гаворыць Лебядзінскі пра Сялецкага:

«Селецкий еще раз столкнется с врагом, и еще раз на человеческих жизнях будет решать такую знакомую и все же каждый раз новую и захватывающе интересную боевую задачу. Еще раз столкнуться с врагом... С бандитами... Не все ли равно с кем».

Калісьці «мечтал он о геройской смерти за Россию». Цяпер ён ня цікавіцца, за што ён змагаецца, яго цікавіць самы процэс вядзеньня вайны:

«Но зато созрел болезненный интерес к этой смертельной игре, в которую вот уже сколько лет, не отрываясь, играет все человечество, к самой древней игре, к самой любимой детской игре... И теперь комбату Селецкому все равно — немцы, поляки, чехи и казаки, белые, бандиты, все равно... Впереди враг, который также будет рассыпать цепи, высылать щупальцы разведок, сыпать ружейный огонь и выбрасывать пламя штыковых атак».

Каравулаў думае пра яго:

«Ну, этот не изменит».

«Нет, Селецкий не изменит, изменить—это нарушить правила игры. Раз выбрал себе место в игре, держись его. Иначе—не интересно играть».

І камбрыгу Каравулаву амаль што ня прыходзілася ўмешвацца ў тыя загады, якія даваў комбат Сялецкі. Толькі адзін загад Сялецкага адмяніў Каравулаў—аб стральбе па горадзе.

Такім чынам, мы бачым, што Сялецкі зьяўляецца добрым спэцыялістым, знаўцам свае справы, але-ж клясава-бясапрынцыпным командзірам. Такіх спэцыялістых мы скарыстоўваем, але-ж, бязумоўна, сочым за імі, каб яны не пашкодзілі рэволюцыі, не пашлі супроць інтарэсаў працоўных; такіх ваенспэцаў было ў нас асабліва многа ў час грамадзянскай вайны; для нас-жа зьяўляецца больш карысным такі спэцыялісты, які зьяўляецца сапраўдным ідэёвым барацьбітом за інтарэсы пролетарыяту, за заваёвы Кастрычніка, які крэўна зьвязаны з працоўнымі.

Такім зьяўляецца Каравулаў.

У Каравулава ёсьць нянавісьць да сваіх клясавых ворагаў—белабандытаў. Калі Ліза Грачава паведаміла аб тым, як расправіліся белыя з лепшымі партызанамі, Каравулаў аддае загад:

«Данилов, иди в штыки. Теперь разрешаю. Крути их, сукиных сынов. Бей по улицам пулеметом. Пленных не брать... А пока вперед».

Аднак, пра Каравулава нельга сказаць, што ён без разбору, загарэўшыся толькі варожасьцю, пасылае ўвесь батальён у наступленьне. Не, Каравулаў стары, спрактыкаваны ваяка, для яго, так сама як і для Сялецкага, добра знаёмы законы «ваеннай гульні», і таму ён дзейнічае

так, як патрабуюць вакольныя абставіны. Калі Данілаў раней імкнуўся кінуцца ў штыкі, Каравулаў вылаяў яго, бо тады было яшчэ рана зьбліжацца з ворагам. Комбрыг Каравулаў пашоў у наступленьне толькі тады, калі атрымаў пэўныя весткі ад разьведкі, калі была наладжана сувязь з рабочымі-чыгуначнікамі, калі, нарэшце, атрымаў паведамленьне ад Грачавай. Каравулаў верыць у тую справу, за якую ён змагаецца. Каравулаў стаіць на варце заваёваў рэволюцыі і інтарэсаў працоўных. Ён інстынктыўна адчувае небясьпеку, добра ведаючы вакольныя ўмовы і ўлічваючы асаблівасьці політычнага моманту, і толькі гэтым можна тлумачыць, чаму адданы партыі Каравулаў выступаў супроць прапаноў партыйца Рабейкі, калі апошні высоўваў плян барацьбы з разбурэньнем: толькі гэтым можна тлумачыць, што Каравулаў трымаўся каля батальёну ў часе працы чырвонаармейцаў у лесе:

«Но какой-то смутный инстинкт уводил его из города и велел находиться возможно ближе к батальону».

Данілаў—ваенком батальёну.

«До рэволюции был Данилов шахтером, безграмотен был и до сих пор читал плохо, даже «Азбуку коммунизма» до конца не прочел, но красноармейцы его любили «за простоту».

У Данілава няма таго вопыту, які ёсьць у Каравулава, няма ваенных ведаў, якіх ёсьць так багата ў Сялецкага, затое Данілаў, так сама як і Каравулаў, не шкадуючы свайго жыцьця, гатоў змагацца з клясава-варожымі сіламі, затое ў маладога рабочага ваенкома так многа рэволюцыйнага энтузыязму, які штурхае яго ў бой з белымі і прымушае яго ўвесь час дамагацца ад Каравулава, каб той дазволіў яму на чале роты кінуцца «ў штыкі».

Гаворачы аб палітруку Сьпіцыне, нельга не закрануць пытаньня наогул аб ролі комполітскладу ў Чырвонай арміі. Задачай Сьпіцына зьяўляецца—выхоўваць чырвонаармейцаў у комуністычным духу, разьвіваць у іх пролетарска-клясавую сьвядомасьць. І мы бачым, што Сьпіцын на гэтую выхаваўчую працу звярочвае вялікую ўвагу. Ён праводзіць гутаркі з чырвонаармейцамі, і чырвонаармейцы гэтыя гутаркі любяць. Сьпіцын тлумачыць сэнс клясавай барацьбы, тлумачыць, чаму змагаюцца рускія супроць рускіх-жа. Выхаваўчая работа Сьпіцына не праходзіць дарма. Гэта відаць з таго, як перавыхоўваецца ў Чырвонай арміі селянін з кулацкай орыентацыяй—Фідзеін, які так аддана потым у час наступленьня змагаецца з белымі. Сьпіцын, вясковы кравец, ня толькі вядзе выхаваўчую працу, ён разам з чырвонаармейцамі ўдзельнічае ў перабежках, страляе, і сваім трыманьнем у час бою зьяўляецца прыкладам для астатніх байцоў.

IV.

Прыблізна так я разглядаў ваенны элемэнт у творы «Неделя» з вучнямі 9-й клясы і 3-га курсу школы дарослых узвышанага тыпу. Па гэткаму-ж прынцыпу можна пабудаваць аналіз ваеннага элемэнту ў творах «Железный поток» Серафімовіча, «Цемент» Гладкова, «Чапаев» Фурманава і ў іншых.

Разглядаючы астатнія творы, прыходзіцца менш ці больш спыняцца на ваенным элемэнце, але-ж плянаваць разгляд ня так, як у гэтым выпадку.

Да таго, што сказана, трэба дадаць яшчэ, што і пры аналізе ваеннага элемэнту ў творы трэба звярочваць асаблівую ўвагу на клясавую позыцыю аўтара і, значыцца, на яго падыход да апісаньня ваенных падзей у залежнасьці ад прыналежнасьці пісьменьніка да тае ці іншае клясы. Для таго, каб уявіць сабе важнасьць гэтага моманту разгляду, досыць успомніць, як неаднолькава малююць грамадзянскую вайну такія, напрыклад, пісьменьнікі, як Верасаеў і Серафімовіч.

Даючы пісьмовыя працы па літаратуры, таксама нельга забываць задач ваенізацыі. Побач з шэргам іншых літаратурных тэм я прапанаваў бы раіць вучням тэмы, якія мелі-б на мэце дасягнуць і ў пісьмовых працах увязкі літаратуры з пытаньнямі ваенізацыі. Прыводжу ўзорны сьпіс такіх тэм, большая частка якіх была распрацавана вучнямі VIII і IX кляс школы соцвыху і III кур-

су школы дарослых узвышанага тыпу на працягу 2 апошніх гадоў навучаньня.

*Тэмы пісьмовых прац і рэфэратаў*

1. Організацыя і клясавы склад арміі Кожуха (Серафімовіч—«Железный поток»).
2. Паходны рух у творы Серафімовіча «Железный поток».
3. Бойкі ў творы Серафімовіча «Железный поток».
4. Чаму армія Кожуха перамагае? (Серафімовіч—«Железный поток»).
5. Кожух як палкаводзец (Серафімовіч—«Железный поток»).
6. Чапаеў і Кожух—параўнальная характарыстыка (Фурманаў—«Чапаев» і Серафімовіч—«Железный поток»).
7. Нач. дывізыі і ваенком: як яны ўзаемна адзін другога дапаўнялі (Фурманаў—«Чапаев»).
8. Роля командна-політычнага складу ў грамадзянскай вайне па твору Фурманава «Чапаев».
9. Тактыка бою па твору Лебядзінскага «Неделя».
10. Тыпы каманднага складу ў «Неделе».
11. Што дала служба ў Чырвонай арміі Глебу Чумалаву (Гладкоў—«Цемент»).
12. Партызаны ў грамадзянскай вайне па творах У. Іванова («Партизаны», «Бронепоезд»).
13. Камсамол у грамадзянскай вайне па твору Бязыменскага «Комсомолия».
14. Як грамадзянская вайна адбіваецца ў літаратуры (Фурманаў—«Чапаев», «Мятеж», Серафімовіч—«Железный поток», Лебядзінскі—«Неделя», Ляшко—«Доменная печь», Шолахаў—«Тихий Дон», Бязыменскі—«Комсомолия», Іваноў—«Бронепоезд», «Партизаны», Верасаеў—«В тупике» і інш.).
15. Чырвоная армія, як школа, якая выхоўвае барацьбітоў для гаспадарчага і культурнага франтоў (Гладкоў—«Цемент», Ляшко—«Доменная печь», Нявераў—«Андрон Непутевый»).
16. Імпэрыялістычная вайна ў творы Барбюса «В огне».
17. Расійска-японская вайна ў творы Верасаева «На войне».
18. Севастопальская абарона ў творах Талстога «Севастопольские рассказы».
19. Война 1812 г. ў романе Талстога «Война и мир».
20. Царская армія—апора самаўладзтва (Горкі—«9-ое января»).
21. Царская армія — зброя прыгнечаньня іншых нацыянальнасьцяй (Толстой—«Кавказский пленник», «Набег», «Хаджи-Мурат», Лермантаў—«Мцыри», «Герой нашего времени»).
22. Салдат і офіцэр у царскай арміі ў паказаньні Гаршына («Денщик и офицер»).
23. Царская армія на службе ў капітала (Гаршын—«Записки рядового Иванова»).
24. Царская армія—«шэрая скацінка», цёмная, забітая (Талстой—«После бала», Някрасаў — «Орина-мать солдатская», Чэхаў—«Унтер Пришибеев», Гаршын—«Денщик и офицер, «Из записок рядового Иванова», Горкі—«9-ое января»).
25. Жыцьцё і быт офіцэрства ў паказаньні Талстога («Война и мир»).
26. Вобраз палкоўніка Скалазуба-вайскоўца Аракчэеўскага часу (Грыбаедаў—«Горе от ума»).

## V

Гаварыць многа аб выкладаньні мовы ў сувязі з задачамі па ваенізацыі ня буду. Скажу толькі, што вывучаць правапіс, сынтакс не абавязкова на прыкладах з «птушкамі», якія кудысьць паляцелі і г. д., а нават лепш будзе, калі мы, адмовіўшыся ад такіх прыкладаў (а ўжо час пазбавіць савецкую школу ад падручнікаў, дзе такіх прыкладаў поўна), будзем вывучаць законы мовы на сучасным матар'яле. У вывучэньне мовы можна ўвязаць пытаньні індустрыялізацыі і колектывізацыі, на лекцыях граматыкі можна праводзіць інтэрнацыянальнае і антырэлігійнае выхаваньне, для гэтага трэба толькі падбіраць адпаведны слоўны матар'ял. Можна, бязумоўна, вывучаць тыя ці іншыя правілы на матар'яле з ваенным зьместам. З прычыны таго, што падручнікаў, якія-б адпавядалі гэтаму запатрабаваньню, няма, прыходзіцца настаўні-

ку, скарыстоўваючы розныя спэцыяльныя кніжкі, самастойна падрыхтоўваць дыктанты і розныя практыкаваньні.

Прыводжу прыклады са свайго вопыту складаньня дыктантаў на знакі прыпынку, якія па сваім зьмесьце адпавядаюць задачам ваенізацыі.

## Узоры дыктантаў і практыкаваньняў

### Коска, двукроп'е, працяжнік пры пералічэньні

Цяпер у якасьці баявых хэмічных сродкаў ужываюцца наступныя: баявыя атрутныя газы, дымаўвараючыя матэрыі і запальваючыя матэрыі. Найбольш небясьпечнымі і пашыранымі зьяўляюцца баявыя атрутныя газы. Атрутныя газы да ўжываньня ў бойцы трымаюцца ў вадкім ці цьвёрдым стане. У часе іх дзеяньня, яны бываюць ці ў выглядзе газу, ці ў выглядзе туману, ці ў выглядзе дыму. У некаторых выпадках яны ўжываюцца ў вадкім стане. Баявыя атрутныя газы пападаюць у організм чалавека наступнымі шляхамі: праз органы дыханьня, праз вочы, праз страўнік. Атрутныя газы падзяляюцца на такія катэгорыі: удушлівыя, атрутныя, сьлёзатачывыя, чыхальныя, нарыўныя. Удушлівыя газы выклікаюць моцны кашаль, удушша, запаленьне лёгкіх і сьмерць ад гэтых зьяў. Атрутныя дзейнічаюць на кроў чалавека ці жывёлы. Сьлёзатачывыя выклікаюць рэзь у вачох і сьлёзы. Чыхальныя дзейнічаюць на нос і горла. Нарыўныя выклікаюць на целе запаленьне скуры і болькі, якія трудна вылечыць. Некаторыя атрутныя газы дзейнічаюць шкодна на зброю і наогул на мэталёвыя рэчы. Для захаваньня зброі і машыны іх неабходна добра змазваць, дасканала чысьціць. Вада, харчы, адзеньне—усё гэта паддаецца ўплыву некаторых атрутных газаў. Ні вада, ні харчы — нішто не павінна ўжывацца пасьля дзеяньня атрутных газаў без дазволу доктара ці хэмінструктара.

### Коска пры прыслоўях і дзеяпрыслоўях

Рабоча-сялянская Чырвоная армія, называемая скарочана РСЧА, створана савецкай уладай для абароны заваёў Кастрычнікавай рэволюцыі і мірнага социялістычнага будаўнцтва СССР. Наша армія падзяляецца на сухаземную армію, морскі флёт і паветраны флёт. Сухаземная армія падзяляецца на гэткія віды войск: пяхоту, коньніцу, артылерыю, інжынэрныя войскі, войскі сувязі, войскі зносін, броня-танкавыя і хэмічныя. Пяхота, зьяўляючыся самым шматлікім родам войска, выносіць на сабе ўвесь цяжар бою. Коньніца, перамяшчаючыся на конях, можа хутка зьявіцца ў патрэбным месцы. Артылерыя вядзе бой сумесна з пяхотай і коньніцай, страляючы з гармат на далёкую адлегласьць. Броня-ганкавыя войскі дапамагаюць весьці бой, страляючы з кулямётаў і гармат, што знаходзяцца на бранявых аўтомобілях, танках і бранявых цягніках. Хэмічныя войскі памагаюць весьці бой, пускаючы атрутныя газы з розных прылад, паражаючы імі войскі супраціўніка і атручваючы імі мясцовасьць. Інжынэрныя войскі дапамагаюць весьці бой, папраўляючы дарогі, масты, наладжваючы пераправы праз рэкі, будуючы прытулкі і ўкрыцьці для войска, падрываючы і разбураючы пры адступленьні масты, дарогі і іншыя пабудовы. Войскі зносін, абслугоўваючы транспорт у прыфрантавой паласе, аказваюць вялікую дапамогу ўсім іншым родам войск, падвозячы на фронт жывую сілу, зброю, харчы і г. д.

Войскі сувязі наладжваюць сувязь адных вайсковых частак з другімі, устанаўліваючы тэлефоны, тэлеграфы, радыё. Паветраны флёт вядзе бой у паветры з самалётамі супраціўніка і паражае наземныя войскі супраціўніка, скідаючы бомбы і страляючы з кулямётаў.

Морскі флёт вядзе бой на моры, страляючы з караблёў, з гармат, выпускаючы падводныя міны, паражаючы караблі праціўніка.

# У ДАПАМОГУ НАСТАЎНІКУ

У. З. Раманінаў

## Кіно ў школе

I.

«Зрокавыя вобразы надзвычайна захапляюць нас. Дзеля гэтага кіно зьяўляецца магутным сродкам уплыву на самыя шырокія масы, у тым ліку і на падрастаючае пакаленьне» [1]).

Кіно ў выхаваўчых і адукацыйных мэтах яшчэ і цяпер мы скарыстоўваем мала. А кіно, як фактар уплыву на дзяцей, па сваёй інтэнсыўнасьці, можна сказаць, абганяе кніжку.

«Кіно ня толькі паказвае, яно выклікае да дзеяньня, выклікае пераймальнасьць [2]), кіно трымае пад сваім уплывам дзіця ня толькі ў часе дэмонстрацыі фільмы, а і пасьля сэансу. Дзеля таго зусім няправільным будзе погляд на кіно, як на забаўку. А так глядзяць на яго часта самі дзеці. Але, як-бы вучні ні глядзелі на кіно, трэба констатаваць, што з іх боку ёсьць надзвычайна вялікі попыт на самыя рознастайныя фільмы і, у першую чаргу, на прыгодніцкія. Дзеці празязяць нават на такія фільмы, аб якіх афішы клапатліва папярэджваюць: «Дзецям уваход забараняецца».

Гэта зусім законнае жаданьне дзяцей карыстацца кіно мы вельмі мала задавальняем, бо і ў цэнтры і ў провінцыі адміністрацыя кінотэатраў і клюбаў часьцей зусім забараняе ўваход у кіно дзецям, чым наладжвае для іх спэцыяльныя сэансы.

Бязумоўна, нам трэба імкнуцца да таго, каб адчыніць асобныя кіно-тэатры для дзяцей. Але да таго часу, пакуль гэтага ня будзе зроблена, трэба арганізоўваць па ўсіх кіно дзіцячыя сэансы, што можна рабіць нават і па вёсках, калі туды прыяжджаюць кіно-перасоўкі.

Дзіцячыя кіно-сэансы прынясуць сапраўдную карысьць толькі ў тым выпадку, калі ў організацыі іх будуць прымаць удзел мясцовыя школы, і наведваньне кіно будзе ўпарадкавана школьнымі організацыямі. Дзеля гэтага трэба па ініцыятыве школ наладзіць сувязь з кіно, вылучыўшы прадстаўнікоў ад пэдколектыву ў мясцовыя тэатры.

Сэансы для дзяцей на працягу ўжо некалькіх гадоў сыстэматычна даюцца ў Менскім кіно-тэатры «Пролетары». З афіш нават вядома, што там ёсьць спэцыяльнае дзіцячае кіно «Юны піонэр». Калі гэта сапраўды дзіцячае кіно, дык трэба было-б наладзіць працу ў ім у адпаведнасьці з тымі задачамі, якія ставяцца перад тэатрамі і кіно для дзяцей, працу, падпарадкаваную запатрабаваньням мэтодыкі політасьветработы сярод дзяцей. «Юны піонэр» на даным этапе свайго разьвіцьця прымушае толькі жадаць лепшага.

І мэтодком і кіруючыя органы Наркомасьветы стаяць неяк у баку ад пытаньня кіноработы з дзяцьмі і ні тэорытычна ні практычна яго не вырашаюць. А нам трэба імкнуцца паставіць савецкія школы ў такія ўмовы, пры якіх школа ў штодзённай сваёй працы будзе мець магчымасьць скарыстоўваць кіно, чаго ўжо дасягнула частка школ гораду Масквы.

Чаму нашым буйным школам не наладзіць у сябе кіно? А вакол буйных школ маглі-б аб'яднацца больш дробныя. Аб тым, што гэта зусім магчымая справа, сьведчыць хоць-бы той факт, што ўжо 2 школы ў Менску маюць свае кіноўста-

---

[1]) Крупская. О кино. „На путях к новой школе", 1926 г., № 1.

[2]) Яна-ж. Кино и дети „На путях к новой школе", 1926 г., № 7-8.

ноўкі,—гэта школа на таварным вогзале, былая апорная 9-годка МББ чыгункі, і школа 9-годка імя Чарвякова, таксама раней чыгуначная.

Аб вопыце кіно-работы ў апорнай 9-годцы раскажу болей падрабязна.

II.

Былая апорная 9-годка МББ чыгункі—першая школа ў Менску, якая набыла за кошт гаспадарчых і вучэбных сродкаў кіно-апарат. У лістападзе 1929 году пачало працаваць кіно.

Што было зроблена на працягу навучальнага году?

Прадэмонстравана 38 наступных фільмаў:

1. Лясныя людзі.
2. Васька-рэформатар.
3. Ванька і Мсьцівец.
4. Лясная быль.
5. Два друга, модэль і падруга.
6. Вецер.
7. Дон-Дзіега і Палагея.
8. Марока.
9. Маніфэст.
10. Кастрычнік.
11. Два бранявікі.
12 Законы шторму.
13. Кастусь Каліноўскі.
14. Беларусь.
15. Нявольнікі мора.
16. Крыльлі халопа.
17. Булат Батыр.
18. Колгас.
19. Па Ленінскім шляху.
20. Гогі Раціані.
21. Маці.
22. Панове Скацініны.
23. Тарас Трасіла.
24. Бабы разанскія.
25. Патомак Чынгіз-Хана.
26. Песьня вясны.
27. «Прыжок».
28. Чыны і людзі.
29. Вір.
30. Саламандра.
31. У горад уваходзіць нельга.
32. Капітанская дачка.
33. Джымі Хігінс.
34. Байкал.
35. Чорны парус.
36. Залаты мёд.
37. Здань, якая не варочаецца.
38. Транспорт агню.

Акрамя таго, у пляне работы на далейшае ёсьць надзвычайна карысныя для школьнага кіно наступныя культфільмы і фільмы на літаратурныя тэмы.

А.

1. Навакол Эўропы.
2. Навакол Азіі.
3. Па Азіі і Сярэдняму Каўказу.
4. Да берагоў Ціхага акіяну.
5 За канцавосным кругам.
6. Па Конга.
7. Па Трыполі.
8. Савецкія субтропікі.
9. Страха сьвету (Памір).
10. Афганістан.
11. Волхаўбуд.
12. Бухара.
13. Салаўкі.
14. Па цюлені ў палярны лёд.
15. Гэройства сярод лёду.
16. Амундсэн.
17. Сярод зьвяроў.
18. Нанук.
19. Чанг.
20. Ваенныя сабакі на службе ў Чырвонай арміі.
21. Хэмічная зброя.
22. Радыё.
23. Нафта.
24. Проблема харчаваньня.
25. Змор і барацьба з ім.
26. Усесаюзная спартакіяда.

Б.

27. Сарачынская ярмарка.
28. Казакі.
29. Колескі рэгістратар.
30. Каін і Арцём.
31. Цэмант.
32. Авадзень.
33. Ася.
34. Расія Мікалая II і Леў Талстой.
35. Тарас Шаўчэнка.

Усе гэтыя фільмы ёсьць у пракатным аддзеле Белдзяржкіно (прынамсі, былі ўзімку).

Пералічаныя вышэй 38 фільмаў былі прапушчаны на працягу 6 месяцаў: лістапад-красавік, пры чым калі ў першым месяцы кіно працавала толькі 2 дні, дык у тры апошнія было па 8 веча-

роў, занятых кіно-сэансамі. За тэрмін лістапад-красавік праглядзелі фільмы 12093 чал., з іх 4246 дармова і 7847 за плату; 90% гледачоў—вучні школы 9-годкі і іншых школ раёну таварнага вогзалу-ФЗС (быўшая чыгуначная) і школы 4-годкі таксама).

Кошт білета на платны сэанс—5 капеек. Зборы з платных сэансаў давалі магчымасьць аплаціць усе выдаткі па кіно: пракат кіно-фільмаў (7 р. 50 к. за вечар), дастаўка іх і іншыя дробныя, і наладзіць 2-3 дармовыя сэансы ў месяц. У выніку шасьцімесячнай работы атрымаўся невялікі актыўны балянс. Аплата электрычнай энэргіі ў выдаткі кіно не ўваходзіла; памяшканьне і абслугоўваньне кіно, бязумоўна, таксама нічога не каштавала.

Загадвала школьным кіно кіно-рада, у складзе прадстаўнікоў ад пэдколектыву, вучнёўскага самакіраваньня і форпосту. У абавязак кіно рады ўваходзіла арганізацыя ўсяе справы, а таксама ідэёвае кіраўніцтва кіно і фінансава-гаспадарчая частка. Для контролю, падтрыманьня парадку ў залі і для падрыхтоўкі залі да чарговага сэансу былі арганізаваны з вучняў старэйшых клясаў 3 дружыны (па 5 асоб у кожнай), якія дзяжурылі па чарзе. Акрамя таго, на кожны вечар прызначаліся чарговыя настаўнікі. Распаўсюджваньне білетаў было даручана двум вучням-касірам. У якасьці дэмонстратараў і кіномэханікаў працавалі тры настаўнікі, выкладчыкі фізыка-матэматычнага цыклю, якія падрыхтаваліся да работы пад кіраўніцтвам кіномэханіка.

Якія былі перашкоды ў працы? Спынюся толькі на некаторых галоўных.

*Хуліганства.* Хуліганства ў сьценах школы і вакол яе ў час дэмонстрацыі кінофільмаў патрабавала шмат энэргіі для барацьбы з ім. Як толькі даведаліся аб адчыненьні кіно ў школе беспрытульныя і блізкія да іх дзеці, дык адразу цэлымі гуртамі пачалі зьяўляцца ў школу. Хуліганы наладжвалі бойкі, біліся з вучнямі, ад чаго асабліва цярпелі дзяўчаты. Калі-ж траплялі на кіно-сэанс, узьнімалі непарадкі ў залі і фойэ. Галоўны-ж удар іх быў накіраваны на дружыны парадку і на прадстаўнікоў школьнага самакіраваньня, якія змагаліся з хуліганствам. Дайшло да таго, што хуліганы кавалкам жалеза паранілі старшыню школькому, так што яго прышлося накіраваць у больніцу.

Барацьба з хуліганствам вялася ўпарта і ўсімі магчымымі сродкамі. Скарыстоўваліся ўсе мэтоды пэдагогічнага ўплыву ў сьценах школы, зварочваліся нават за дапамогай да міліцыі. Пасьля здарэньня з старшынёй шкалькому быў наладжаны ў памяшканьні школы пакказальны суд над хуліганамі, частку якіх пасьля суду пазбавілі волі і накіравалі ў Допр. У выніку ўсяго гэтага хуліганства было зьнішчана, і кіно магло працягваць сваю работу ў належных умовах.

Другой сур'ёзнай перашкодай трэба лічыць *адсутнасьць спэцыяльнай залі.*

У канцы году стварыла перашкоду Белдзяржкіно. Яно выклікала на іспыты школьных дэмонстрантаў-настаўнікаў. І пасьля таго, як настаўнікі на працягу 6 месяцаў зусім здавальняюча кіравалі кіно-апаратам, Белдзяржкіно «правaліла» на іспытах людзей, досыць падрыхтаваных у кіно-справе, не дазволіўшы ім працягваць тую работу, якую яны некалькі месяцаў вялі ў парадку грамадзкай нагрузкі.

III.

Практыка паказала, што школьнае кіно можна скарыстаць у чатырох напрамках:

1) для арганізацыі дзіцячага адпачынку;

2) для правядзеньня рэволюцыйных сьвятаў і палітычных кампаній;

3) для грамадзкай работы школы;

4) для вучэбных заняткаў па клясах.

З мэтай арганізацыі дзіцячага адпачынку наладжваюцца вячэрнія платныя кіно-сэансы. Рэпэртуар для іх падбіраецца такі, каб кіно-фільмы былі, папершае, цікавымі па зьместу, па-другое, каб было зразумелым для дзяцей іх мастацкае афармленьне, па-трэцяе, каб фільмы, маючы клясавую накіраванасьць, былі ідэолёгічна вытрыманымі,—толькі ў такім выпадку кіно будзе адным з фактараў марксысцка-ленінскага выхаваньня.

У пачатку месяца складаецца плян, у якім пералічваюцца выбраныя фільмы, потым заключаецца дагавор з пракатным аддзелам Белдзяржкіно, і вызначаюцца дні дэмонстрацыі кожнага фільму. Каб дасягнуць плянавасьці ўсяе работы кіно, вылучаюцца пэўныя дні для правядзеньня платных сэансаў. За вечар можна праводзіць 2 сэансы: першы—для вучняў малодшага ўзросту, другі—для старэйшага.

Перад пачаткам сэансу робіцца ўступнае слова. Уступнае слова будзе мець сэнс толькі ў тым выпадку, калі яно будзе кароткім (каля 5 хвілін) і цікавым. Для падрыхтоўкі да ўступнага слова патрэбна папярэдняе азнаямленьне з фільмам альбо з монтажам яго. У час дэмонстрацыі для вучняў I і II кляс чытаюцца голасна надпісы і даюцца неабходныя тлумачэньні. Тлумачэньні можна даваць і для вучняў старэйшых клясаў, але пры ўмове, што гэтыя тлумачэньні ня будуць занадта частымі, доўгімі і надакучлівымі, і толькі ў тых мясцох, дзе, па думцы настаўніка, яны зьяўляюцца сапраўды патрэбнымі.

У фойэ перад пачаткам сэансу наладжваецца голаснае чытаньне кніжак на тэму якая закранаецца ў фільме, вывешваецца плякат з малюнкамі і дыяграмамі і сьпіс кніжак для хатняга чытаньня; працуюць бібліотэка-чытальня; арганізуюцца ціхія гульні.

Пасьля сэансу з жадаючымі праводзіцца гутарка аб фільме. Настаўнікі скарыстоўваюць прагледжаны вучнямі фільм пры прахаджэньні праграмнага матар'ялу—для ілюстрацыі тэм, на падставе зьместу фільмаў, даюць пісьмовыя працы і г. д.

У дні правядзеньня рэволюцыйных сьвятаў і розных політычных і гаспадарчых кампаній дэмонстрацыя кінофільмаў уваходзіць у програмы вечароў, якія прысьвячаюцца тым ці іншым падзеям. Пры гэтым фільмы падбіраюцца на адпаведныя тэмы. Трэба, аднак, лічыць няправільным імкненьне замяніць вучнёўскія школьныя вечары, пабудаваныя на прынцыпе самадзеяньня, кіно-сэансамі. Кіно-сэанс павінен лічыцца толькі часткай агульнай програмы, бо інакш будзе заціснута вучнёўская актыўнасьць і заглушана самадзейнасьць.

Як казалася вышэй, школьнае кіно можна скарыстоўваць у справе організацыі грамадзка-карыснае працы школы. Тут амаль што выключна маецца на ўвазе сувязь з вакольным насельніцтвам, работа з ім і, галоўным чынам, культурнае абслугоўваньне яго. Акрамя таго, што кіно дапаможа прыцягнуць бацькоў і наогул працоўнае насельніцтва ў школу і разгарнуць тую ці іншую работу, самыя кіно-сэансы, дзякуючы падбору адпаведных фільмаў, будуць садзейнічаць выхаваньню мас. Так, напрыклад, у практыцы кіно-работы апорнай школы, аб якой ужо гаварылася, наладжваліся вечары няпісьменных, бязбожнікаў, комсамольцаў. На вечары для няпісьменных дэмонстраваліся такія фільмы: «Колгас» і «Па Ленінскім шляху», надзвычайна карысныя ў выхаваўчых адносінах.

Кіно на лекцыях ужываецца, як дадатак да розных мэтодаў працы: да лябораторнага, экскурсійнага і іншых і часьцей за ўсё скарыстоўваецца для ілюстрацый. Фільм звычайна дэмонструецца ў часе лекцыі, альбо дэмонстрацыя выносіцца на вечар. І ў адным і ў другім выпадку дэмонстрацыя, калі выкладчык знаходзіць патрэбным, праводзіцца з адпаведнымі тлумачэньнямі. У такім выпадку кіно ні ў якай меры ня носіць забаўнага характару і мае выключна вучэбнае значэньне. Перашкодай у організацыі кіно-лекцый зьяўляецца адсутнасьць у пракаце кароткамэтражных вучэбных фільмаў, дзеля чаго прыходзіцца скарыстоўваць культурфільмы, якія і па сваёй агульнай пабудове і па даўжыні не прыстасаваны да лекцый. Але скарыстаць іх можна і трэба. У адносінах скарыстаньня культурфільмаў з вучэбнай мэтай больш за ўсё магчымасьцяй у географаў, ёсьць яны і ў выкладчыкаў фізыка-прыродазнаўчага цыклю. Што датычыцца грамадазнаўства і літаратуры, то па гэтых дысцыплінах ёсьць досыць многа фільмаў, і для школы лёгка зрабіць выбар з ліку тых фільмаў, якія дэмонструюцца ў тэатрах для

дарослых. Паказ шматмэтражных фільмаў прыдзецца заўсёды выносіць на вечар.

Для падліку працы ўжываецца 2 формы. Першая—абавязковая, агульная для ўсіх кіно-ўстановак, яна даецца Белдзяржкіно і яна-ж служыць штомесячнай справаздачай перад апошнім. Другая—гэта картка падліку, якая мае значэньне для школьнага кіно і ўсяе школы. Яна мае выгляд анкеты і складаецца з такіх пытаньняў:

1. Дата.
2. Назва фільму.
3. Тэма фільму.
4. Дадатныя бакі фільму.
5. Адмоўныя бакі фільму.
6. Мэта дэмонстрацыі.
7. Лік сэансаў.
8. Лік і склад (вучні якіх клясаў, бацькі, настаўнікі і г. д.) прысутных на кожным сэансе.
9. Зацікаўленасьць дзяцей.
10. Якая была праведзена работа перад дэмонстрацыяй.
11. Якая была праведзена работа пасьля дэмонстрацыі.
12. Ці пажадана скарыстаньне гэтага фільму яшчэ раз.
13. Подпіс чарговага настаўніка альбо настаўніка-лектара.

IV.

Прывяду прыклад скарыстаньня кіно пры распрацоўцы з вучнямі 9-ае клясы заданьня па літаратуры.

Тэма «Новэлі Чэхава».

Плян распрацоўкі:

Чытаньен (хатнае) новэляй Чэхава, у тым ліку «Анны на шее», «Смерти чиновника» і «Хамелеона».

2. Распрацоўка першай часткі заданьня.

а) Галоўныя рысы экономікі Расіі ў 80-х гадох 19 стагодзьдзя.

б) Клясавыя супярэчнасьці і клясавая барацьба.

в) Грамадзкія і літаратурныя плыні ў 80-х гадох.

г) Чэхаў, як дробна-буржуазны пісьменьнік канца 19 стагодзьдзя.

д) Зьмест новэляй «Анны на шее», «Смерть чиновника» і «Хамелеон».

е) Галоўныя вобразы ў новэлях Чэхава.

ж) Асаблівасьці композыцыі новэляй: тэма, фабуля, сюжэт, колькасьць дзеючых асоб і сродкі апісаньня іх, завязка-разьвязка, імпрэсыонізм.

з) Выяўленчыя сродкі: эпітэты, параўнаньні, мастацкія дэталі, стылізацыя мовы.

3. Гутарка па першай частцы заданьня.

4. Абгаварэньне наступных пытаньняў да другой часткі:

а) розьніца паміж зьместам кіно фільму «Чины и люди» і апавяданьняў «Анна на шее», «Смерть чиновника» і Хамелеон». Чым яна тлумачыцца;

б) галоўныя пэрсонажы на экране ў параўнаньні з уласным уяўленьнем пры чытаньні і, у сувязі з гэтым, выкананьне паасобных роляй артыстымі (у прыватнасьці Масквіным);

в) асаблівасьці композыцыі кіно-фільму ў параўнаньні з композыцыяй новэляй;

г) выяўленчыя сродкі: мэтафоры, параўнаньні, мастацкія дэталі, прыём першага пляну;

д) мастацтва слова і мастацтва кіно, іх падабенства і розьніца.

5. Дэмонстрацыя фільму «Чины и люди».

6. Гутарка па II частцы заданьня.

Я. Магілянскі

# Распрацоўка тэмы „Малако і малочныя продукты“

*(З практыкі работы 30-й школы Менску)*

Хачу падзяліцца практыкай распрацоўкі ў школе (VI кл.) аднэй тэмы, якая, на мой погляд, мае вельмі вялікае значэньне. Аднак, перш чым прыступіць да гэтае тэмы, я дазволю сабе некалькі заўваг агульнага характару.

Выбар гэтай тэмы, як аб'екту некалькі доўгай і старанная распрацоўкі, я зрабіў па наступных меркаваньнях:

1) Калі, яшчэ параўнаўча нядаўна, пытаньне аб вытворчым ухіле ў выкладаньні прыродазнаўства магло абгаварвацца, дык цяпер канечнасьць яго стала відавочнай для кожнага масавага настаўніка. Пры гэтым самым жыцьцём разуменьне вытворчага мэтоду ўсё больш паглыбляецца і конкрэтызуецца. Неяк жадаеш, каб тэма, якая распрацоўваецца, ня толькі мела якое-небудзь дачыненьне да вытворчасьці, але каб яна як мага больш да яе набліжалася, а там, дзе можна, і зьлівалася, адлюстроўваючы цалкам вытворчасьць.

У той момант, калі проблема аб кадрах стаіць ва ўсёй сваёй шырыні, можна і патрэбна, на мой погляд, ставіць пытаньне так, каб ад распрацоўкі тэй ці іншай тэмы па прыродазнаўстве вучань мог атрымаць і такія навыкі, якія ён, па выходзе з школы, мог-бы выкарыстаць і прыстасаваць на вытворчасьці (або ў лябораторыі пры вытворчасьці). Гэтая тэма мае ў некаторых мясцох некалькі такіх пунктаў сувязі з адпаведнымі процэсамі вытворчасьці.

2) Малочная справа, добра і навукова пастаўленая ў масавым абхваце ў нас толькі цяпер, у сувязі з колектывізацыяй, пачне разьвівацца, пры тым, бясспрэчна, пойдзе шпаркім тэмпам. Таму гэтая справа, як новая ў нас (у масавым абхваце), патрабуе шырокай пропаганды. Школа ў гэтым напрамку павінна і можа шмат зрабіць. Асабліва гэта важна для спэцыяльна малочных раёнаў, адным з якіх зьяўляецца наша Беларусь.

3) Тэма гэтая, як убачым, закранае некалькі важных проблем прыродазнаўства наогул, зьяўляючыся, такім чынам, добрым прыкладам блізкага падыходу навуковых проблем да вытворчых, а нават часамі і зьліцьця іх. З гэтага пункту гледжаньня гэта можа зьявіцца грунтоўным довадам супроць магчымых пярэчаньняў, што яе распрацоўка адыйме вельмі шмат часу. Бо аднačасова з вытворчымі пытаньнямі тут высьвятляецца і шмат прыродазнаўча-навуковага матар'ялу (на практычным фоне гэта асабліва каштоўна).

4) Гэтую тэму можна лёгка распрацаваць лябораторным шляхам, пры чым досьледы вельмі даступныя як з боку тэхнікі іх пастаноўкі, так і ў сэнсе патрэбнага для гэтага абсталяваньня.

Пасьля такіх заўваг пераходжу да апісаньня досьледаў, праведзеных намі пры распрацоўцы адзначанай тэмы, пры чым некаторыя з гэтых досьледаў узяты гатовымі з адзначаных ніжэй крыніц, з некаторымі зьменамі, большую-ж частку прышлося самому распрацаваць на аснове матар'ялу ніжэйпаказанай літаратуры. Каб быць карацейшым, лічу непатрэбным апісваць іх у такой форме, як яны былі дадзены вучням (у выглядзе пытальнікаў), а пастараюся коратка толькі апісаць самы процэс досьледаў з некаторымі заўвагамі.

**РАБОТА 1-ая**

### Азнаямленьне з фізычнымі ўласьцівасьцямі малака

1. Заўважыць колер і пах сьвежага малака.

2. Вызначыць удзельную вагу малака.

У нас вызначэньне ўдзельнае вагі малака было зроблена самаробным ляктомэтрам. Аднак зрабіць яго вельмі цяжка, марудна, ды і дае ён ня зусім дакладныя вынікі. Лічу, што з прычыны надзвычай-

най важнасьці вызначэньне ўдзельнае вагі ў малочнай справе ня было-б вельмі вялікай раскошай для школы набыць ляктомэтр.

3. Вымераць удзельную вагу зьнятага малака. Якім чынам можна па ўдзельнай вазе вызначыць якасьць малака (цэльнае яно ці зьнятае)?

4. Да зьнятага малака дадаць крыху вады. Заўважыць, як зьмяняецца ўдзельная вага малака. Да зьнятага малака дадаць толькі вады, каб удзельная вага стала роўнай удзельнай вазе цэльнага малака. (Выкрываецца адзін з відаў фальсыфікацыі малака).

**РАБОТА 2-ая**

### Вызначэньне тлустасьці малака

Дакладнае вызначэньне тлустасьці малака ня было зроблена з прычыны адсутнасьці бутымэтра. Апроч таго, нават пры наяўнасьці такога, магчыма, што рабіць з ім досьледы для школы—справа досыць складаная. Сам я, аднак, лічу, што гэтую работу можна ўвесьці ў школе, карыстаючыся парашком «саль». Важнасьць гэтага досьледу відавочная. Намі былі зроблены наступныя досьледы:

1. У адну прабірку наліць цэльнага малака, у другую мешаніну таго-ж малака на ½ з вадой, у трэцюю малако таксама разбаўленае на ⅓ вадою, у чацьвёртую —на адну чвэрць. Прабіркі паставіць на суткі. Тыя пласты тлустасьці, якія пры гэтым адлучыліся, прыблізна адваротна пропорцыянальны колькасьці разбаўленьня. (Лепш, зразумела, прарабіць гэты досьлед у шклянках).

2. Другі досьлед быў зроблены самаробным ляктоскопам Фэзэра наступнай пабудовы: адрэзак фарштоку ад халадзільніка Лібіха заткнёны коркам з шырокага канца. У трубку ўстаўлена шкляная палачка, на якой напільнікам зроблены адзнакі. У трубку ўліць 1 к. с. малака, потым крыху вады, пакуль не закрыюцца адзнакі. Пры далейшым прыліваньні вады (паступова) даходзім да такога ўзроўню, калі адзінкі зноў паказваюцца. Узровень вадкасьці адзначаецца адзнакай на трубцы.

Пры паўтарэньні таго-ж самага досьледу з заменай 1 к. с. цэльнага малака такой самай колкасьцю разбаўленага ўзровень вадкасьці, пры якой пачынаюць адкрывацца адзнакі ўнутраной палачкі, ужо значна ніжэйшы. Такім чынам, хоць вынікі атрымліваюцца ня колькасныя, але досьлед знаёміць з прынцыпам ляктоскопу Фэзэра, і дзеці пасьля гэтага лёгка змогуць карыстацца апошнім. (Можна скарыстаць шырокае лямпавае шкло для пабудовы такога самаробнага ляктоскопу).

**РАБОТА 3-я**

### Вызначэньне забруджваньня малака

*1-шы спосаб.* У лейку ўлажыць адважаны на дакладнай вазе (аптэкарскай) кавалак ваты. Адмераную колькасьць малака (200-500 к. с.) працадзіць праз гэты фільтр. Пасьля праз тую самую вату працускаць чыстую ваду да таго часу, пакуль вата не абмыецца ад малака (пойдзе чыстая вада). Вату выняць чыстай шкляной палачкай, палажыць на чыстыісподак, прыкрыць чыстай паперай і высушыць да сталай вагі. Узважваем і знаходзім прыблізны % бруду.

*2-і спосаб.* На рыльца бутэлькі з адрэзаным дном надзець шырокую гумавую трубку. У канец апошняй усадзіць шкляную трубку з адцягненьнем і занітаваным канцом. Бутэльку ўмацаваць у штатыве, уліць шклянку малака і пакінуць да заўтра. На канцы трубкі адлічваецца пласт бруду.

Досьлед ілюструе спосаб Гэрбэра вызначэньня забруджанасьці малака, але ён не дае колькасных вынікаў. Аднак дзеці, зрабіўшы гэты досьлед, цалкам уцямяць гэты мэтод і змогуць яго выкарыстаць на практыцы.

Можна нават, параўнаўшы з купленай прыладай, зрабіць такую самаробную, прыгодную і для колькасных разьлікаў.

**РАБОТА 4-ая**

## Як захаваць малако на доўгі час

*1. Пастэрызацыя.*

Адну шклянку малака награваць у колбе (выгадней Эрленмээраўскай) на працягу 30 м. на каструлі з вадою да 63-65 гр. С. Потым улажыць пасудзіну з малаком у ваду з лёдам. Заткнуць рыльца ня туга ватавым коркам і паставіць у халоднае месца; малако доўгі час ня ськісае.

*2. Стэралізацыя.*

Узяць тры маленькіх колбы (у крайнім выпадку прабіркі). У першай колбе малако гатаваць мінут 5, заткнуўшы ватовым коркам.

У другой—рабіць тое-ж самае, але колбу не затыкаць. У трэцюю колбу наліць сырога малака, зусім яго не гатаваўшы. Вынікі відавочныя. У нас, паміж іншым, праз суткі скісалася малако ў трэцяй колбе, праз трое сутак у другой, у першай малако доўгі час ня кіснула. Значэньне гэтае работы вялікае як у сэнсе практычнага прыстасаваньня, так і таму, што закранае вельмі каштоўнае пытаньне прыродазнаўства (пытаньне аб бактэрыях і іх цыстах ды інш.). Тут-жа закранаецца і пытаньне аб вітамінах (перавага пастэрызацыі перад стэралізацыяй).

Вынікі гэтае работы асабліва відаць былі пасьля, калі мы рабілі экскурсію на малочны завод. Адпаведныя там працэсы аказаліся вельмі яснымі і зразумелымі для дзяцей. Дзеці былі зьдзіўлены, наколькі пройдзенае ў школе і прароблене на практычных занятках супала з практычным жыцьцём. Апроч гэтых двух досьледаў, было зроблена консэрваваньне малака содай і хромінкам (1 кропля $\frac{N}{10}$ рошчыны $K_2$, $Cr_3$, $O_7$, якое ўжываецца пры перасылцы малака для спробаў.

**РАБОТА 5-ая**

## Якасны склад малака

1. У прабірку з малаком уліць некалькі кропель разбаўленай воцатнай кіслаты. Выпадаюць каваклі. Адфільтраваць. У фільтраце знаходзім пры дапамозе вадкасьці Фэлінга малочны цукар.

2. Ападак палажыць у прабірку, прыліць 10-15 кропель лугу (NaOH), пабаўтаць. Даліць 1-2 кроплі рошчыны $CuSO_4$. Атрымліваецца пасьля асьцярожнага падаграваньня фіялетавая ахварбоўка (Біўрэтава рэакцыя). Такім чынам знаходзім бялок (казэін).

3. Такім самым спосабам, як у 1-м пункце, зрабіць, каб казэін асеў на дно, бяручы большую колькасьць малака (у хэмічнай шклянцы), адфільтраваць і фільтрат паварыць. Выпадае альбумін. Біўрэтавай рэакцыяй пераконваемся, што ён—від бялку.

Атрымліваецца разуменьне аб двух відах бялку, расчыненага ў вадзе: альбуміне, які выпадае (згортваецца), калі яго варыць, і казэіне, які не распушчаецца. Адсюль розьніца малодзіва ад звычайнага малака і згортваньне малодзіва пры награваньні.

**РАБОТА 6-ая**

## Здабываньне „сухога малака" і вызначэньне проц. сухой матэрыі малака

1. ½ літра малака (дакладна адмераць) уліць у фарфаравую выпараную міску і паставіць на вадзяной каструлі час ад часу мяшаючы шкляной палачкай. Атрыманае вільготнае «цеста» высушыць да сталай вагі. Узважыць. Пералічыць аб'ём узятага малака на вагу па ўдзельнай вазе. (вылічыць % сухіх матэрый малака).

Работа мае некалькі значэньняў: 1) знаёміць з адным з самых пашыраных мэтодаў вызначэньня % сухіх матэрый; 2) знаёміць з прынцыпам распаўсюджанай пакуль што толькі за мяжой вытворчасьці сухога малака; 3) дзеці пераконваюцца навочна ў вялікай колькасьці спажыўных матэрый у малацэ.

Дзеці проста ня верылі сваім вачом, нагэтулькі вынікі работы іх зьдзівілі. Ды і дарослыя-настаўнікі вельмі зьдзівіліся, ніколі ня бачылі «сухога малака».

**РАБОТА 7-ая**

### Здабываньне паасобных складаных частак малака (казэіну, альбуміну і малочнага цукру)

1. 500 к. с. зьнятага малака разбавіць такой самай колькасьцю вады. Уліць 15-20 к. с. разбаўленай воцатнай кіслаты, покуль не асядзе казэін. Паставіць прыблізна на гадзіну. Працадзіць праз густое палатно. Ападкі выціснуць, прамыць спачатку сьпіртам, потым мешанкай сьпірту з эфірам (1:2). Высушыць. Атрымліваецца казэін. (Казэін, зразумела, хэмічна-ня чысты, але для школьнага досьледу зусім дастатковы).

2. Фільтрат заварыць. Згортваецца і выпадае альбумін. Адфільтраваць, прамыць так сама, як казэін, і высушыць.

3. Фільтрат выпарыць на вадзяной каструлі да невялікага аб'ёму. Пакінуць крышталізавацца. Праз суткі выпадаюць крышталі малочнага цукру жаўтаватага колеру. Дзеля атрыманьня больш чыстага малочнага цукру можна спусьціць 6 крышталікаў у невялікай колькасьці гарачай вады, адфільтраваць праз жывёльны вугаль і зноў паставіць крышталізавацца.

Вынік для дзяцей вельмі цікавы. Малочны цукар яны бачаць самі і нават спрабуюць на смак.

**РАБОТА 8-ая**

### Вызначэньне колькасьці мінэральных матэрый (попелу) ў малацэ

1. Адважыць 5 грамаў атрыманай у рабоце № 6 сухой рэшткі малака і моцна награваць да сталага колеру попелу (сьветла-шэры, амаль брудна-белы).

Адважыць % сухой матэрыі малака, дадаць да звычайнага малака і вызначыць % попелу ў малацэ.

Вынік таксама вельмі цікавы для дзяцей, якія раней рэальна не ўяўлялі, а некаторыя нават ня верылі, што з малака можна здабыць попел.

Апроч таго, досьлед цікавы тым, што дае магчымасьць ва ўмовах школы наблізіцца больш-менш дакладна да навуковых мэтодаў колькаснага аналізу. (У гэтым выпадку, зразумела, адзін з самых прымітыўных мэтодаў, але затое вельмі распаўсюджаны).

У нас % попелу атрымаўся роўны 0,7% супроць навуковых дадзеных— 0,75%. (Прымаючы пад увагу, што ўзважвалі на аптэкарскіх вагах, вынік можна лічыць вельмі дакладным).

**РАБОТА 9-ая**

### Атрымаць масла з малака

1. Атрыманыя ў папярэдніх работах сьлівкі (пасьля здыманьня) пры скісаньні даюць сьмятану.

2. Сьмятану ўліць у шырокую прабірку (мы бралі цыліндрычную для насеньня), заткнуць коркам і ўзбоўтваць. Праз 5-10 хвілін зьбіваецца масла.

Аб сэпаратарах і маслабойках дзецям даводзілася ўжо расказваць, а пасьля паказаць толькі на экскурсіі.

У выніку папярэдніх работ была сабрана колекцыя «склад малака», каштоўная асабліва тым, што ўсе матэрыялы для яе былі атрыманы самымі вучнямі ў час практычнай работы.

**Колекцыя: „Склад малака“**

П р о ц.

| Малако | Вада | Сух. мат. | Тлустасьць (масла) | Казэін | Альбумін | Малоч. цукар | Мінэр. мат. (попел) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|

Па пляну мы павінны былі зрабіць яшчэ дзьве работы: 1. Здабываньне кэфіру. 2. Здабываньне сыру (галяндзкага). Але потым я парашыў гэтыя работы перанесьці на заняткі хэмгуртка школы, з прычыны таго, што гэтыя работы маюць больш спэцыяльны характар, прытым тэма і так заняла шмат часу.

У заключэньне хачу адзначыць наступнае: мяркуючы па цікавасьці, з якою дзеці распрацавалі гэтую тэму і па выніках, я цалкам пераканаўся ў мэтазгоднасьці такой распрацоўкі. Разам з гэтым я ўпэўнены, што гэтая распрацоўка далёка не ідэальная, вельмі магчыма, што тыя настаўнікі, якія захочуць яе праводзіць, удасканаляць яе. Я хацеў падзяліцца толькі вопытам аднэй з масавых школ на шляху набліжэньня да вытворчасьці, спробай распрацоўкі такой тэмы, якая раней у школьным прыродазнаўстве адсутнічала. Цяпер само жыцьцё зьмяняе нашыя старыя програмы, уключае ў гэтыя програмы шмат тэм практычнага характару, якія, як новыя для школы, у школьнай мэтодычнай літаратуры адсутнічаюць. Патрэбна ініцыятыва масавага настаўніцтва ў распрацоўцы такіх тэм, бо бяз гэтага новы матар'ял у програмах мы будзем прымушаны праходзіць вэрбальным мэтодам, пры якім матар'ял згубіць, можна сказаць, 90% свае каштоўнасьці.

Я ўпэўнены, што гэтая мая спроба распрацаваць адну з тэм практычнага характару ня першая і не адзіная. Я лічыў-бы патрэбным, каб часопісь адводзіла месца для такога абмену вопытам, а таварышы пісалі-б пра свае вопыты.

Сьпіс

літаратуры, якою я карыстаўся.

Нагорский—„Молоко, масло, сыр".

Ипихов—„Химия молока".

" —„Анализ молока и молочных продуктов". Справочная книга сельского хозяина под ред. Котельникова

Малахов—„Школьные работы по химической технологии органических веществ".

Р.

## Рашэньні XVI зьезду ЎсеКП(б) і XIII зьезду КП(б)Б—у аснову школьных заняткаў

Наша школа павінна быць зброяй соцыялістычнага будаўніцтва. Яна павінна рыхтаваць будаўнікоў соцыялізму ў нашай краіне, змагароў за міжнародную пролетарскую рэволюцыю. Для таго, каб рыхтаваць кадры соцыялістычнага будаўніцтва, трэба адпаведным чынам насычаць програмы матар'ялам, які адлюстроўвае ўсё змаганьне пролетарыяту за пабудову соцыялізму.

Няма сумненьня, што найлепшым матар'ялам, у якім адлюстроўваюцца ўсебакова шляхі будаўніцтва соцыялізму, зьяўляюцца матар'ялы нашых партыйных зьездаў, конфэрэнцый і пленумаў ЦК.

Наша партыя кіруе соцыялістычным будаўніцтвам Саюзу ССР, яна зьяўляецца кіруючай сэкцыяй у Комінтэрне. Партыя паказала з максымальнай пунктуальнасьцю шляхі змаганьня, ход яго і тэндэнцыі нашага разьвіцьця, а таксама дала дырэктывы для далейшага разгортваньня руху ўперад як унутры, так і па-за нашай краінай. Усё гэта зроблена на навуковых падставах, гэта значыць на падставах дыялектыка-матэрыялістычнай тэорыі.

Школа дае веды навукова абаснаваныя. Школа рыхтуе людзей для будаўніцтва новай грамады. Як жа можна такую задачу выканаць, калі стрыжнем вучобы ў школах ня зьявіцца партыйны зьезд, які кіруе будаўніцтвам гэтай грамады?

*Стрыжнем работы ў школе на наступны навучальны 1930/31 год павінна быць прапрацоўка матар'ялаў і пастаноў партыйных зьездаў: XVI—УсеКП(б) і XIII—КП(б)Б.*

Гэтыя зьезды, якія нядаўна адбыліся, выключна багаты жыцьцёвымі пытаньнямі змаганьня пралетарыяту за соцыялізм. Няма ніводнага моманту нашай рэволюцыйнай рачаіснасьці, якая ня была-б так ці інакш асьветлена зьездамі. Сусьветны экономічны крызіс, клясавае змаганьне ў краінах капіталу, рэволюцыйны рух у колёніях, дзейнасьць комуністычных партый у краінах, дзе пануюць эксплёататары; СССР—становішча народнае гаспадаркі і ступень соцыялістычнага будаўніцтва краіны, проблемы індустрыялізацыі і колектывізацыі, проблемы цяжкасьцяй, проблема нацыянальнай політыкі; партыя—яе становішча і вынікі змаганьня з ухіламі, і, урэшце, чарговыя задачы далейшага руху ўперад да соцыялізму—усе гэтыя пералічаныя пытаньні, якімі займаўся зьезд і па якіх ён даў сваё рашэньне, зьяўляюцца невычарпальным матар'ялам для іх вывучэньня.

XVI зьезд УсеКП(б) і XIII зьезд КП(б)Б даюць багаты матар'ял усім тыпам школ, усім дысцыплінам для свае работы. Можна яшчэ часам сустрэць такі погляд, што партыйны зьезд дае матар'ял толькі грамадаведам, што матэматыкі, напрыклад, нават пры ўсім сваім жаданьні, ня могуць атрымаць з матар'ялаў зьезду матар'ял для свае работы. Ці правільны такі погляд? Зразумела, не. Такі погляд даўно ўжо адкінуты практыкай найбольш перадавых матэматыкаў (у межах Беларусі можам назваць тав. Сагаловіча, матэматыка, які паказаў і з посьпехам, як можна насычаць матэматыку матар'яламі розных зьездаў і конфэрэнцый: пры чым трэба адзначыць, што матар'ялы значна ажыўлялі выкладаньне і лягчэй успрымаліся слухачамі). Паглядзім на тыя лічбы, табліцы, падрахункі, якія ёсьць амаль ва ўсіх дакладах, што былі зроблены на зьездах, і мы ўбачым, які багаты матар'ял мае матэматык-выкладчык для выкладаньня свае дысцыпліны. Чаму-ж на гэтых лічбах, якія зьяўляюцца вынікам жорсткіх баёў за соцыялізм, продуктам вострага клясавага змаганьня, ня вучыць наша маладое пакаленьне ня толькі матэматыцы, але праз матэматыку зразуменьню таго змаганьня, якое адбываецца ў гэтых лічбах? Гэта можна і трэба зрабіць. Тое самае можна сказаць пра настаўніка прыродазнаўства і г. д. Адным словам, кожны настаўнік павінен быць агітатарам за комунізм, выхавацелем маладога пакаленьня ў духу комунізму. Вострай зброяй гэтай работы зьяўляюцца матар'ялы партыйных зьездаў. Няма сумненьня, што гэта цяжкая і складаная справа, гэта значыць не мэханічнае карыстаньне матар'ямалі зьездаў. Але калі верыш у комунізм і жадаеш яго ажыцьцяўленьня, то гэту справу можна добра наладзіць.

Адсюль мы робім наступны вывад: *кожны настаўнік павінен ведаць матар'ялы і пастановы XVI зьезду УсеКП(б) і XIII зьезду КП(б)Б, узяць з іх патрэбныя для сябе матар'ялы і зрабіць іх стрыжнем свае работы.*

Якім чынам трэба апрацоўваць матар'ялы зьездаў у школах? Зусім зразумела, што нельга прапрацоўваць матар'ялы аднолькава ў розных тыпах школ. Тут трэба ўлічваць і тып школ, і ўзрост, і клясавы склад школ і г. д. Гэты момант трэба ўлічваць, каб *не бюрократызраваць* прапрацоўку матар'ялаў партыйных зьездаў.

Перш-на-перш трэба гэта пытаньне паставіць на абгаварэньне ўсіх настаўнікаў школ. Трэба кожнаму настаўніку прапанаваць, каб ён прадставіў плян, якім чынам ён будзе карыстацца матар'яламі зьездаў у сваёй рабоце. Трэба абавязкова проекты ўсіх гэтых плянаў абгаварыць на агульным сходзе настаўнікаў такім чынам, каб не ўтварыўся паралелізм у апрацоўцы матар'ялаў, а таксама, каб матар'ялы былі ўсебакова скарыстаны і апрацаваны.

Зразумела, што большасьць матар'ялаў зьездаў будуць апрацоўваць грамадаведы. Трэба адзначыць, што апошнія зьезды партыі як УсеКП(б), так і КП(б)Б даюць, акрамя апісальнага, яшчэ шмат тэорытычнага матар'ялу. Напрыклад, політэконом мае магчымасьць на падставе матар'ялаў XVI зьезду апрацаваць такое важнае пытаньне, як марксысцка-ленінскую тэорыю крызісаў, сутнасьці эпохі імпэрыялізму і конкрэтныя

шляхі яе разьвіцьця; ленініст мае багаты матар'ял наконт ленінскай тэорыі нацыянальнага пытаньня і шляхі яе ажыцьцяўленьня; эканомполітык таксама мае вялікі матар'ял наконт тае эканомічнай політыкі, якую зараз вядзе партыя і савецкая ўлада, і г. д. і г. д. Як мы бачым, грамадавед мае багаты матар'ял, якім ён павінен карыстацца. Трэба адзначыць, што мы не заўсёды маем магчымасьць атрымаць самыя сьвежыя падручнікі, у якіх бы асьвятлялася сучаснасьць. Але гэта ня значыць, што настаўнік-грамадавед павінен абыходзіць гэтую самую сапраўднасьць.

Мы павінны зьвярнуць увагу тавярышоў выкладчыкаў на тое, што асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на рэзолюцыю зьездаў. Трэба зрабіць так, каб больш усяго знаёміць слухачоў, вучняў з рашэньнямі зьездаў. Трэба дабіцца таго, каб гэтыя рэзолюцыі, як дырэктывы для нашага будаўніцтва, былі добра вядомы вучням.

Такім чынам мы прыходзім да наступнага вываду: *асноўны мэтод апрацоўкі матар'ялаў—гэта ўключэньне іх ва ўсе тэмпы тае ці іншай дысцыпліны, бо, як мы ўжо казалі вышэй, матар'ялы зьездаў павінны быць стрыжнем навучальнай работы школы.*

Добра будзе, калі самі настаўнікі арганізуюць гурток для грунтоўнага вывучэньня зьездаў, а таксама для абгаварэньня тых вынікаў, якія яны маюць у справе апрацоўкі матар'ялаў зьездаў у процэсе вывучэньня іх дысцыпліны.

Якою літаратураю можна карыстацца для прапрацоўкі зьездаў? Перш-наперш, зразумела, трэба прапрацаваць даклады і рэзолюцыі. Акрамя гэтага, мы маем шэраг дакладаў, якія рабіліся да зьезду і пасьля зьезду, такія брашуры, як Варашылава, у якім асабліва высьвятляецца пытаньне будучай вайны, даклады Сырцова, Бубнова, Гамарніка і г. д. У гэтых дакладах мы маем багаты матар'ял, які ілюструе і дапаўняе тое, што далі зьезды.

Ёсьць яшчэ добрыя мэтадычныя распрацоўкі матар'ялаў зьездаў у 16, 17, 18, 19 нумарох часопісі «Пропагандист», а таксама ў 18-19 нумары часопісі «Коммунистическая Революция». Мы раім усім настаўнікам карыстацца гэтымі мэтадычнымі распрацоўкамі.

# СТАВІМ НА АБГАВАРЭНЬНЕ

Н. І. Шэўчык

## „Новае“ пастарому

### I Аб програмах па расійскай літаратуры для II концэнтру сямігодак

Аб тым, што трэба перабудаваць нашы школы ў залежнасьці ад сучаснага моманту, крычыць штодзённая работа саміх школ. У гэтым напрамку мы толькі ідзем па шляху *«дастасаваньня»*, але ніяк практычна ня сталі на грунт пераварэньня, перабудовы нашых школ сямігодак у залежнасьці ад запатрабаваньня рэконструкцыйнага пэрыоду.

Праўда, тут ёсьць свае цяжкасьці. І, можа, зараз можна апраўдаць тое, што работа па перабудове школ абмяжоўваецца пакуль што толькі ўнясеньнем некаторых зьмен у програмы. Але затое ніяк нельга апраўдаць, калі гэтыя зьмены робяцца толькі ў выглядзе частковых «паправак», «падчыстак» старых програм.

Возьмем новыя програмы па расійскай літаратуры НК асьветы БССР для II концэнтру сямігодак на будучы 1930-31 навуч. год. Параўнаўшы іх з програмамі старымі, вы заўважыце толькі розьніцу ў замене часткі самых твораў (гэта асноўныя зьмены) і некаторыя мэтодолёгічныя корэктывы. Калі, напрыклад, у програмах 1927 г. і нават 1929 г. у паясьняльнай запісцы да програм беларускае літаратуры давалася такая мэтодолёгічная ўстаноўка: «для аналізу літаратурна-мастацкага твору рацыянальным зьяўляецца соцыолёгадыялектычны мэтод у злучэньні з формальным» (прогр. II концэнтру 7-гадовай школы, БДВ 1929 г., стар. 37), то ў програмах гэтага году сказана інакш. У паясьняльнай запісцы да програм па расійскай літаратуры для II концэнтру сямігодак ужо гаворыцца: «В процессе прохождения литературы неизбежно должно вскрываться классовое лицо автора». Але і тут, правільна гаворачы, што «Уяснение классового содержания литературных произведений является могучим средством в выработке марксистско-ленинского мировоззрения», аўтары робяць няправільны вывад, кажучы: «и в этом смысле марксистское изучение литературы является ценным воспитательным средством». Робячы націск на словы «и в этом смысле», аўтары робяць памылку ў тым, што абмяжоўваюць марксысцкі мэтод вывучэньня літаратуры толькі выхаваўчаю роляю ў той час, як марксысцкі мэтод вывучэньня літаратуры ёсьць адзіны навуковы мэтод і абмяжоўваць яго ўсякага роду «смысламі»—значыць ня цьвёрда станавіцца на грунт марксысцкае мэтодолёгіі. І гэта, мусіць, невыпадкова. Бо калі ў старых програмах зьвярталася ўвага на вывучэньне формы твору, маляўнічых сродкаў пісьменьніка, і нават раіўся спэцыяльны мэтод (формальны), дык у програмах гэтага году гэтая частка выпушчана зусім. Як павінна разумецца форма твору з пункту погляду марксысцкага мэтоду? Ці ўключае ў сябе марксысцкі мэтод і вывучэньне «формы»? Ці, можа, згодна прынцыпаў марксысцкае мэтодолёгіі, сам падзел на «форму» і «зьмест» зьнішчаецца, як падзел ненавуковы, і твор разглядаецца як органічнае цэлае? Аб гэтым у програмах—ні слова. Цяжка дапусьціць думку, каб аўтары трымаліся таго погляду, што для разгляду «формы» трэба і далей карыстацца «формальным» мэтодам у розных «злучэньнях», але, як гавораць: «маўчаньне—знак згоды».

Няправільная ў програмах таксама і тая парада,якую даюць аўтары для выяўленьня клясавага твору пісьменьніка. Аўтары раяць «розьніцу» клясавага твару пісьменьніка выводзіць з параўнаньня творчасьці Тургенева і Някрасава з творчасьцю Вольнава і Замойскага. Яны гавораць: «Если первые (Тургенев, Некрасов) рисуют крестьян кротких, покорных своей судьбе, то писатели крестьянской бедноты (Вольнов, Замойский) умеют найти в этой среде яркие протестующие образы, показать весь гнев, угнетенных масс».

Па-першае, брацъ у адны дужкі Тургенева і Някрасава і гаварыць, што вобразы Тургенева і Някрасава аднолькава пакорны, значыць пашырыць няпісьменнасьць.

Па-другое, аўтары забыліся на тое, што творчасьць Тургенева ад творчасьці, скажам, Вольнава аддзяляецца цэлай гісторычнай эпохай. І вобразы сялян Вольнава ад вобразаў сялян Тургенева розьняцца ня толькі таму, што яны намалёваны пісьменьнікамі-прадстаўнікамі розных соцыяльных груп (гэта правільна), але, галоўным чынам, таму, што вобраз самога селяніна карэнна зьмяніўся. Вось на гэта ня трэба забывацца. Бо браць вобразы бяз вучоту клясавых узаемаадносін на пэўнай гісторычнай ступені значыць мімаволі аб'ясняць іх, выходзячы з соцыяльнага паходжаньня аўтара. А гэта значыць мімаволі скачвацца да суб'ектывізму.

У програмах павінны быць выразна і ясна выстаўлены асноўныя прынцыпы *марксысцкае* мэтодолёгіі, якія павінны служыць адпраўнымі пунктамі кожнага выкладчыка. І дзіўна, што ў програмах гэтыя прынцыпы абойдзены моўчкі.

«Гэта-ж ня конспэкт мэтодолёгічных запісак», могуць сказаць мне, а програмы. І выкладаць у програмах розныя прынцыпы зусім лішне. Не, таварышы аўтары програм. Цяпер на літаратурным фронце адбываецца яўная клясавая барацьба розных груп і групак. І кіруючым органам нельга стаяць у баку і пускаць выкладаньне літаратуры, а значыць, і выхаваньне дзяцей бяз руля. Апроч таго, у мінулым годзе была дадзена няправільная, *эклектычная* устаноўка выкладаньня літаратуры і выправіць яе можна толькі, даўшы ў програмах гэтага году ясную марксысцка-мэтодолёгічную ўстаноўку.

Нельга згадзіцца і з самой пабудовай програм. У аснову структуры програм пакладзены не асноўны прынцып марксысцкага мэтоду, што літаратура ёсьць асобны від клясавае ідэолёгіі, якая адбівае адну з уласьціваcьцяй клясавае псыхолёгіі, «определяющейся частью непосредственно экономикой, а частью всем социально-политическим строем, выросшим на данной экономической основе» (Пляханаў, том XVIII стар. 231), а прынцып мэханічнае «увязкі» выкладаньня літаратуры з грамадазнаўствам.

Пры чым увязка гэта ідзе выключна па шляху дастасаваньня да тэм грамадазнаўства. Аўтары забыліся, што, ня даўшы выразнае мэтодолёгічнае і мэтавае ўстаноўкі таго, чаго павінен дабіцца выкладчык літаратуры пры выкладаньні таго ці іншага твору, а заваструшы ўвагу, што «воспитательное использование литературных произведений, в соответствии с особенностями возраста учащихся семилетки, должно основываться *прежде всего на эмоциональной сфере*» (падкрэсьлена мною, Н. Ш.), яны штурхаюць выкладчыка мімаволі на шлях талстоўскага трактаваньня, что «искусство выражает *только* чувство людей» (Плеханаў, падкрэсьлена ім-жа), яны піхаюць выкладчыка к тэорыі непасрэдных уражаньняў Воронскага і забываюцца на марксысцкі прынцып, што літаратура—гэта асобны від клясавае ідэолёгіі.

У програмах сказана аб гэтым толькі наступнае: «Разумеется, в процессе прохождения литературы неизбежно должно вскрываться лицо автора. Уже на пятом году, конечно, в элементарной форме необходимо проводить эту работу». Сказаць «в элементарной форме»—гэта значыць сказаць «наогул». І гэта абсолютна ня ставіць перад выкладчыкам ніякай задачы. А тут трэба конкрэтна сказаць, чаго павінен дамагчыся выкладчык літаратуры ў 5-х групах. Далей у програмах сказана яшчэ «ясьней»: «На шестом и седьмом годах работа по уяснению классовой «приз-

мы» автора углубляется». А як яна павінна быць паглыблена, напрамак гэтага паглыбленьня, ды, нарэшце, аб'ём паглыбленьня, аб гэтым програмы маўчаць. Праўдзівей, яны прымушаны маўчаць і толькі таму, што програмы выходзілі не з асноўнага прынцыпу—выпрацоўка марксысцка-ленінскага сьветапогляду вучня, а з формальнага прынцыпу тэматычнае ўвязкі літаратуры з грамадазнаўствам. Пастаўлена, напрыклад, у грамадазнаўстве тэма «Колектывізацыя», і аўтары капаюцца, шукаюць твору, у якім было-б што-небудзь падобнае на колектыў. Знайшлі «Бабью деревню»—давай сюды. Гэта нічога, што комуна ў гэтым творы як з неба ўпала, што ўзьнікла яна стыхійна, абы гаварылася пра комуну. Аўтары забыліся, што, па іх устаноўцы, выхаваўчае выкарыстаньне літаратуры «должно основываться прежде всего на эмоциональной сфере». А гэта значыць, вобразы «баб», уплываючы на эмоцыі вучня, павінны захапіць іх сваімі перажываньнямі, імкненьнямі і паводзінамі. А гэта значыць—вучням мімаволі павінна прывіцца думка, што комуны, колектывы могуць будавацца і бяз кіруючай ролі компартыі,—стыхійна. Вось куды гэта прыводзіць. Гэта значыць, што без належнага высьвятленьня клясавай сутнасьці твору «эмоциональная сфера» прывядзе ў меншавіцка-эсэраўскае балота.

Усё гэта гаворыць за тое, што стрыжнем програм павінна быць не формальная ўвязка літаратуры з грамадазнаўствам, а органічная—па лініі выкананьне тае мэты, якая пастаўлена перад савецкай школай—выхаваньне чалавека-барацьбіта за інтарэсы працоўных, чалавека-комуністага.

А гэтая мэта будзе дасягнута толькі пры ўмове прышчэпкі вучням марксысцка-ленінскага сьветапогляду. І выкладчык літаратуры будзе ісьці к дасягненьню гэтае мэты толькі тады, калі само выкладаньне будзе весьціся, выходзячы з прынцыпаў марксысцкае мэтодолёгіі.

Ці адмаўляецца гэтым увязка літаратуры тэматычна нават з грамадазнаўствам? Ці адмаўляецца гэтым выкарыстаньне эмоцыянальнасьці літаратуры для дасягненьня пастаўленае мэты?

Не, не адмаўляецца.

І ня толькі не адмаўляецца, а, наадварот, такая пастаноўка найцясьней замацоўвае сувязь літаратуры з грамадазнаўствам і паказвае найлепшыя шляхі выкарыстаньня мастацкае літаратуры як сродку клясавае барацьбы для мэты выхаваньня новага чалавека, будаўніка соцыялістычнае грамады.

Толькі трэба не мэханічна падбіраць літаратурныя творы, у якіх адбіта тая ці іншая тэма грамадазнаўства, бо ў такім выпадку гэта прыводзіць, як мы ўжо паказалі, да вельмі нежаданых вынікаў, па-першае, і, па-другое, не да кожнае тэмы можна падабраць адпаведны твор. І на практыцы з гэтым сустрэліся і аўтары програм, калі да тэмы пра фэодалізм для 5 груп зусім не знайшлі мастацкіх твораў.

Гэтыя дзьве дысцыпліны самі ўвязваюцца органічна. Калі, напрыклад, грамадавед прапрацоўвае тэму: «Колектывізацыя сельскай гаспадаркі і індустрыялізацыя краіны» або «Кастрычнік» ці іншую якую-небудзь падобную тэму, то гэта ня тэма, якая ўзята з галавы грамадаведа, а гэта прапрацоўваецца пэўны соцыяльна-політычны процэс, які ўзьнік на грунце пэўнай экономікі і выклікае зьмену клясавых узаемаадносін, а ў зьвязку з гэтым і выклікае зьмену клясавых ідэолёгій, і гэтыя зьмены адбіваюцца ў мастацкай літаратуры. Ды і на самай справе—Кастрычнікавая рэволюцыя карэнна зьмяніла клясавыя ўзаемаадносіны, а значыць і выклікала зьмену клясавых ідэолёгій. Гэтыя зьмены праз пісьменьнікаў, якія «зьяўляюцца ня толькі выказьнікамі, але і продуктамі клясаў» (Пляханаў), адбіваюцца ў мастацкай літаратуры.

І дасьледчык літаратуры вывучае гэты процэс ня толькі як проста запісаны процэс, а як клясавае ўспрыманьне і выяўленьне ў вобразах гэтага процэсу. А адгэтуль, разумеецца, вынікае, што зусім неабавязкова і нават няправільна абмяжоўвацца толькі творамі, дзе гаворыцца аб дадзенай тэме, ці пісьменьнікамі, якія гавораць аб ёй. Калі, напрыклад, ёсьць пісьменьнікі, якія зусім не гавораць пра Кастрычнік (Клычкоў), то гэта зусім ня значыць, што яны не выяўляюць клясавае ідэолёгіі. Якраз у са-

мым замоўчваньні гэтага вялікага гістонычнага процэсу трэба бачыць клясавую ідэолёгію пісьменьніка.

А таму, калі ў грамадазнаўстве стаіць тэма «Кастрычнік», то ў програмах літаратуры трэба яе сформуляваць прыблізна так: «Кастрычнік ва ўяўленьні пролетарскіх, сялянскіх і іншых пісьменьнікаў». І тут даць творы пролетарскіх пісьменьнікаў і поэтаў, паказаць, як рабочая кляса ўспрыняла Кастрычнік і як выкарыстоўвае мастацкую літаратуру, як адзін з сродкаў клясавае барацьбы, сялянскіх пісьменьнікаў і поэтаў (беднаты, серадняцкіх), рэволюцыйнае інтэлігенцыі і г. д. Тое самае і з тэмай «Колектывізацыя». Колектывізацыя—гэта цэлы соцыяльна-палітычны процэс, які таксама розныя клясы ўспрынялі парознаму. Значыць, і тут трэба тэму «Колектывізацыя» пераформуляваць так, каб на падставе вывучэньня мастацкае літаратуры паказаць, як якая кляса зьмяніла сваю ідэолёгію ў залежнасьці ад гэтага соцыяльнага процэсу.

І так з кожнай тэмай.

Як бачым грамадазнаўства і літаратура органічна зьвязваюцца між сабою нават і ў тэмах.

Такая перабудова програм, калі асноўным іх стрыжнем стане не мэханічнае дастасаваньне выкладаньня літаратуры да грамадазнаўства, а іх органічная сувязь, будзе садзейнічаць выпрацоўцы марксысцка-ленінскага сьветапогляду вучняў. Гэтую-ж задачу ставіць перад сабою і выкладаньне грамадазнаўства. Значыць, і тут органічная сувязь грамадазнаўства і літаратуры. А адгэтуль вынікае: ня трэба шукаць мэханічных «увязак», разарваўшы органічную сувязь. Разумеецца, высунутыя мною палажэньні зусім не ўскладняюць практычнае працы ў школе, як і не паграбуюць больш складаных ці большых па разьмерах твораў. Наадварот, конкрэтызацыя програм значна палегчыць практычную работу настаўніка. Наадварот, іменна ў програмах павінна быць ясна пастаўлены асноўны прынцып сучаснае мэтодыкі—ісьці ад больш простага і блізкага да больш складанага і далёкага. Гэты прынцып, у зьвязку з адсутнасьцю мэтавай устаноўкі, для кожнае групы ў програмах зусім выпушчаны.

Вывады такія: у програмах трэба з усёй выразнасьцю і на першы плян выставіць асноўныя прынцыпы марксысцкай мэтодолёгіі, ясна вызначыць мэту выкладаньня для кожнае групы (чаго выкладчык літаратуры павінен дасягнуць, разглядаючы той ці іншы твор), ясна вызначыць шляхі дасягненьня гэтае мэты. Конкрэтна: паказаць у програмах, выказьнікам якое клясы зьяўляецца кожны пісьменьнік ці поэта, асабліва ў програмах 6-х і 7-х груп. Конкрэтызаваць програмы па мове, паказаўшы тыя шляхі, па якіх павінны ісьці выкладчыкі мовы, каб з сямігодак выпускаць людзей пісьменных. Перабудаваць програмы так, каб мэханічная і формальная «ўвязка» літаратуры з грамадазнаўствам была заменена *органічнаю сувязьзю* гэтых дысцыплін. Аўтары програм забыліся на тое, што фронт выкладаньня літаратуры ёсьць самы слабы фронт. І тут, як нідзе, павінна быць мэтодолёгічная выразнасьць і акрэсьленасьць, а не адчэпка заўвагаю: «на шестом и седьмом годах работа по уяснению классовой «призмы» углубляется».

У заключэньне трэба сказаць, што новыя програмы выкладаньня расійскае літаратуры—новыя толькі па матар'ялу (часткова), чаго зусім недастаткова для задавальненьня запатрабаваньняў, высунутых сучасным рэконструкцыйным пэрыодам. Яны зусім неконкрэтны.

А адгэтуль вывад—програмы патрэбна пераапрацаваць.

---

*Ад рэдакцыі*

Програмы на 1930-31 навучальны год, разасланыя НКА, не зьяўляюцца стабільнымі і канчаткова зацьверджанымі. Гэта проекты, якія патрабуюць абмеркаваньня і прапрацоўкі на колектывах практычных работнікаў. Заўвагі настаўнікаў і ўстаноў будуць зьяўляцца вельмі каштоўнымі для канчатковага аформленьня програм

## II. Аб праграмах для сямігодак па беларускай літаратуры

Пры складаньні праграм за адпраўныя пункты павінны быць прыняты: *мэта,* якая пастаўлена перад дадзенай школай, і *кадры,* якія будуць дасягаць гэтай мэты.

Што да мэты, дык праграмамі па беларускай літаратуры для II концэнтру сямігодак яна была ўлічана. Але вось пытаньне кадраў ні праграмамі па расійскай літаратуры, ні праграмамі па беларускай літаратуры ня было прынята пад увагу.

У якім сэнсе трэба прымаць пад увагу пытаньне кадраў выкладчыкаў літаратуры ў школах сямігодкі? Асноўнае—гэта аўладаньне марксысцкім мэтодам выкладаньня літаратуры. Ніколі так востра ня высоўвалася патрэбнасьць пастаноўкі выкладаньня літаратуры ў школе на рэйкі марксысцкае мэтодолёгіі, як цяпер. Ды яно і зразумела. Патрэбнасьць у новым чалавеку, пролетарскім па сваёй ідэолёгіі, загартаваным і цьвёрдым у сучасны момант стала найвялікшай. А адгэтуль на службу дадзенай мэце павінна быць пастаўлена літаральна ўсё, і ў першую чаргу работа настаўнікаў. Настаўнік-літаратар у процэсе выкладаньня мастацкае літаратуры будзе выконваць гэтую задачу толькі тады, калі прышчэпіць вучню марксысцкі сьветапогляд. І калі на дадзеным вучастку ёсьць у нас прабелы, то асноўнай прычынай гэтага трэба лічыць слабую забясьпечанасьць нашых школ (у дадзеным выпадку сямігодак) выкладчыкамі-марксыстымі. Нікому не сакрэт, што выкладаньне літаратуры ў сямігодках да гэтага году ў сваёй падаўляючай большасьці вялося мэтодамі далёкімі ад марксызму. Дзецям прышчаплялі дуалізм, формалізм, эклектызм, толькі не марксызм. І прычынай гэтаму—непадрыхтаванасьць настаўніцкіх кадраў. Ня кажучы ўжо аб старых настаўніках, якіх у сямігодках усё-ж досыць значная колькасьць і якія марксызму не вывучалі, у парадку самакрытыкі трэба сказаць, што літаратурна-лінгвістычнае аддзяленьне пэдфаку дало вельмі слабую марксысцкую зарадку студэнтам-літаратарам, асабліва першых пяці выпускаў. Самымі шырокімі мэтодамі ў практычнай рабоце студэнтаў першых пяці год былі социолёгічны ў злучэньні з формальным, культурна-гісторычны і чыста формальны. Па мэтодолёгіі студэнты прапрацавалі Тэна, Сэнт-Бэва, Фрэйда, Эйхенбаўма, адным словам, усіх каго хочаце, толькі не Пляханава. А адгэтуль, зразумела, і ў практычнай рабоце ў школах пераважаюць пералічаныя вышэй мэтоды. Гэтаму ў вялікай меры садзейнічае яшчэ і тое, што падручнікаў па літаратуры, распрацаваных з пункту погляду марксысцкае мэтодолёгіі няма.

На долю праграм гэтага году выпала ламаць старыя «прынцыпы» і «традыцыі» і ставіць мэту марксысцкага выкладаньня літаратуры. Шкадаваць толькі прыходзіцца, што гэта так позна. Але «лепш позна, чым ніколі», скажам усьлед за пагаворкай. І заслуга праграм па беларускай літаратуры для сямігодак вялікая ўжо таму, што яны гэтую мэту ставяць. Зразумела, тут ёсьць шмат труднасьцяй. І аднэй з такіх труднасьцяй трэба прызнаць усё-ж нераспрацаванасьць марксысцкае мэтодолёгіі ў беларускай літаратуры. Але гэта ні ў якай меры ня значыць, што мы павінны заняць позыцыю «чаканьня». Прынцыпы, распрацаваныя Ю. В. Пляханавым, даюць ясную ўстаноўку выкладаньня літаратуры. І яны павінны быць базай кожнага выкладчыка. Аднак, на вялікі жаль, прыходзіцца констатаваць, што Пляханаўскія прынцыпы ў паясьняльнай запісцы да праграм па беларускай літаратуры дадзены толькі ў выглядзе выпіскі, без належнае іх распрацоўкі, што неабходна было зрабіць, маючы на ўвазе слабую марксысцкую падрыхтоўку выкладчыкаў літаратуры сямігодак. Мала выпісаць Пляханаўскую пяцічленку. Яе выпісваюць усе эклектыкі. Ёю клянецца і Сакулін, і Львоў-Рагачэўскі, і Піксанаў. Але мэтоды гэтых «марксыстых» вельмі далёкія ад мэтоду Пляханава. і таму патрэбна было ня толькі выпісаць пяцічленку, але і паказаць, як ёю карыстацца ў практычнай рабоце. Погляд на праграмы, як на навучальны плян, як на

сьпіс тэм і матар'ялаў, асабліва зараз, ня мае пад сабою грунту.

Робіцца пералом.

А гэта значыць—пытаньне ставіцца панsocial новаму. І вось гэта новае трэба выкладацца ясна, зразумела і выразна.

На справе-ж памянёная паясьняльная запіска дае шэраг няправільных установак.

Аўтары, напрыклад, раяць разглядаць твор «у цеснай сувязі з эпохай». Ну чым не Сакулінская ўстаноўка: разглядай твор у сувязі з эпохай. Па-першае, сам тэрмін «эпоха» ў прыстасаваньні да літаратуры вельмі няўдалы, бо па традыцыі гісторыка-культурнага мэтоду пад эпохай у літаратуры звычайна разумеецца экономіка пэўнага часу, культура, літаратурныя і філёзофскія плыні, політыка, пры чым гэта ўсё даецца паасобна (Львоў-Рагачэўскі, Назарэнка і інш.), бясклясава, і калі разглядаецца творчасьць якога-небудзь пісьменьніка, то проста шукаюць «увязак». Ня хочацца верыць, што аўтары програм стаяць на такім жа пункце погляду.

Па-другое, трэба ставіць пытаньне не адшуканьня «сувязяй», а *аб'ясьненьня* твору. Ня «ўвязваць» творчасьць, а *адшукаць, псыхоідэолёгія якое клясы выяўлена ў ёй у пэўны гісторычны час*, пры чым гэтую клясу трэба разглядаць заўсёды не ізолявана, не мэханістычна, а ва ўзаемадзеяньні з іншымі клясамі. Трэба помніць, што ў грамадзтве, падзеленым на клясы, псыхолёгія кожнае клясы адчувае на сабе вялізарнейшы ўплыў клясавае барацьбы. І «хто хоча вывучаць гісторыю ідэолёгій у грамадзтве, падзеленым на клясы—кажа Пляханаў, таму неабходна ўважліва лічыцца з гэтым уплывам» (т. XVIII, стар. 225). Больш таго, Пляханаў проста гаворыць: «*Змаганьне клясаў афарбоўвае сабою псыхолёгію бакоў, якія змагаюцца*» (т. XVIII, стар. 225. Падкр. мною Н. Ш.). Значыць творчасьць мы зразумеем толькі тады, калі будзем разглядаць яе ня «ў сувязі з эпохай», а як выяўленьне думак і пачуцьцяў пэўнае клясы (зразумела, у пэўны час), помнячы, што гэтыя думкі і пачуцьці складваюцца пад ударамі клясавае барацьбы.

Няясна таксама ў запісцы і ўстаноўка на «ўвязку маляўнічых сродкаў з тэматыкай». Такая ўстаноўка нагадвае сабою прынцып падзелу на славуты «зьмест» і «форму». І калі дадаць, што ў програмах ёсьць цэлы разьдзел «тэорыі поэтыкі», то можна з упэўненасьцю сказаць, што на практыцы маляўнічыя сродкі («форма») будуць разглядацца асобна, а матывы творчасьці, ідэя («зьмест»)—асобна. Другімі словамі, гэта зьбівае на шлях програм мінулага году: разглядаць твор з пункту погляду двух мэтодаў—соцыолёгічнага і формальнага. А ў програмах гэтага году, якраз наадварот, трэба завастрыць увагу, што твор—гэта адзінства «зьместу» і «формы».

І тут, зразумела, і само паняцьце вобразу трэба разумець шырэй, чым яноададзена ў програмах. Вобраз у програмах узяты ў адны дужкі з мэтафорамі, эпітэтамі і іншымі вобразнымі выказваньнямі. На справе ж у вобразах выяўляюцца ідэі і пачуцьці, і ўсе вобразныя словы: мэтафоры, эпітэты, параўнаньні і інш., зьяўляюцца толькі элемэнтамі вобразу.

Абсолютна нельга згадзіцца з такім абзацам паясьняльнае запіскі:

«Выхаваўчая роля літаратурнай творчасьці, як сродку клясавае барацьбы, можа быць дасягнута толькі тады, калі твор будзе вызначацца яскравасьцю, эмоцыянальнасьцю зарысоўкі соцыяльна-бытавых момантаў дзеючых асоб і іх змаганьня. Уплыў такіх мастацкіх твораў на вучняў будзе фармаваць іх клясавую сьвядомасьць у патрэбным нам напрамку і ўздымаць іх актыўнасьць да змаганьня з сваімі клясавымі ворагамі. На яскравых літаратурна-мастацкіх творах вучні ўспрымуць пролетарскую псыхоідэолёгію і з нянавісьцю аднясуцца да варожых пролетарыяту клясаў і груповак».

Сказаць гэтак—гэта сказаць проста няпраўду.

Няўжо ж, таварышы аўтары, вы ўпэўнены, што «Крывічы», «Лісты да сабакі», творы Лужаніна, і ім падобныя сапраўды будуць фармаваць «пролетарскую» ідэолёгію. Няўжо ж даволі твору быць эмоцыянальным, каб ужо і ўплываць у патрэбным пролетарыяту напрамку?

Не. Тут вы, таварышы аўтары, проста, мякка кажучы, сказалі відавочны абсурд. Вы ж самі пішаце, што літаратура зьяўляецца адным з сродкаў клясавае барацьбы. А раз так, значыць гэты сродак выкарыстоўвае ня толькі пролетарыят, але і ворагі пролетарыяту. Яны таксама маюць сваіх пісьменьнікаў, якія імкнуцца сваімі творамі ўплываць на ідэолёгію якраз у адваротны пролетарыяту бок. Дык што ж—скажаце, што іх творы не эмоцыяльны? Скажаце так, значыць, скажаце другі абсурд. Калі-б было так, што ўсе творы буржуазных кулацкіх пісьменьнікаў неэмоцыянальны, што кожны твор, які «вызначаецца яскравасьцю і эмоцыянальнасьцю» абуджае актыўнасьць да змаганьня з клясавымі ворагамі пролетарыяту, то тады літаратура якраз бы ня была адным з сродкаў клясавае барацьбы. Гэта была-б зброя аднае клясы. І тады навошта ламаць галаву над мэтодамі вылучэньня мастацкае літаратуры?

Глядзі, каб твор быў эмоцыянальны ды і ўсё.

Мала выкладчыку падабраць твор эмоцыянальны і *ня толькі важна* паказаць тую социяльную групу, якая яго парадзіла, абавязкова трэба яшчэ паказаць, *якую ролю ён іграў у клясавай барацьбе таго часу,* калі ён нарадзіўся і *якую ролю ён іграе ў клясавай барацьбе ў наш час рэконструкцыі.* Інакш кажучы, *неабходна вызначыць грамадзкую функцыю твору.* І вось пад такім кутом погляду калі разгледзім якія-небудзь «Крывічы» ці «Лісты», дык мы і скажам ня толькі, якая кляса іх нарадзіла, але і на чыё кола яны ліюць воду, каму яны дапамагаюць у сучаснай клясавай схватцы.

Пераходзячы да зьместу самых програм, трэба з задавальненьнем констатаваць імкненьне аўтараў пабудаваць програмы па прынцыпу клясавае клясыфікацыі пісьменьнікаў. Праўда, аўтары абмежаваліся толькі аднэй 7-ай групай, і програма для гэтай групы мае свае недахопы, але ў аснове яе ляжыць прынцып марксысцкага вывучэньня літаратуры.

Тыя недахопы, якія ў іх сустракаюцца, яны неабмінны і ў процэсе шырокага іх абгаварэньня, конкрэтнай распрацоўкі будуць выпраўлены. Важна даць выкладаньню літаратуры правільны марксысцкі напрамак.

Якія-ж недахопы?

Не гаворачы ўжо аб такім недахопе, як нявытрыманасьць програм у адным мэтодзе (для V і VI груп пабудаваны па прынцыпу «увязкі»), аб тым, што програмы слаба распрацаваны і прадстаўляюць толькі проста сьпіс твораў, програмы маюць недахопы мэтодычнага і мэтодолёгічнага характару.

У програмах, напрыклад, вельмі часта раяцца ўрыўкі з буйных твораў, але не паказаны—якія. А гэта неабходна зрабіць.

Нельга таксама згадзіцца з аднясеньнем да аднае плыні (буржуазнае) Максіма Багдановіча і Ядвігіна Ш. Досыць беглага прагляду творчасьці гэтых пісьменьнікаў, каб убачыць, што вобразы Ядвігіна Ш. маюць зусім іншую социяльную аснову, чым вобразы М. Багдановіча.

Вельмі няўдала сформулявана апошняя тэма: «Бядняцка-серадняцкая і папутніцкая літаратура, якая набліжаецца да пролетарскай». Па тэме выходзіць, што тут прадстаўлены тры социяльныя групы творчасьці: бядняцка-серадняцкая, папутніцкая і «набліжэнская». «Набліжэнская» прыходзіцца браць у дужкі ўжо па аднаму таму, што такой социяльнае групы няма ў сучаснай грамадзе (ды і ня толькі ў сучаснай)

Што значыць «літаратура, якая набліжаецца да пролетарскай»?

Уся сялянская (зразумела, бяз кулацкай) і, асабліва, бядняцкая літаратура па сваёй ідэі, настроях, мэтаімкнёнасьці набліжаецца да пролетарскай.

І нават вобразы пролетараў у гэтай літаратуры займаюць досыць значнае месца. Сялянства (беднякі-серадняки) ідзе пад кіраўніцтвам пролетарыяту, прымае ўдзел у соцбудаўніцтве, не трацячы пры гэтым да пэўнага часу спэцыфічных рыс селяніна. Таксама ня мае пад сабою грунту і тэрмін «папутніцкая» літаратура. Гэтым тэрмінам (попутчики) ў расійскай літаратуры азначана пэўная група пісьменьнікаў і поэтаў, выхадцаў з інтэлігенцкага асяродзьдзя дробнае

буржуазіі, якая (група) парвала з сваімі старымі традыцыямі і гэтымі наблізілася да рэволюцыйнае творчасьці. Кастрычнікавая революцыя імі ўспрымаецца не як організаваная барацьба працоўных, дзе пролетарыят зьяўляецца кіраўніком і гэгемоном, а як наогул барацьба, у якой кіруючая роля часта належыць інтэлігенцыі. У нас у беларускай літаратуры такімі папутнікамі можна было-б назваць скарэй Ус. Галубка, З. Бядулю. У програме-ж пад дадзенай тэмай зьмешчаны пісьменьнікі-пасьлякастрычнікаўцы, якія мала дасьледваны і, пры тым, розных соцыяльных груп. І пры выкладаньні ў школе да папутнікаў могуць быць аднесены яўна сялянскія пісьменьнікі, што будзе грубай памылкай як з літаратуразнаўчага, так і політычнага погляду. Сялянства—не папутнік рэволюцыі, а саюзьнік пролетарыяту ў рэволюцыі.

І апошняе, гэта адносна дачы цэлага букету кулацкіх і дробнабуржуазных твораў. Ну тут, проста, будзе вялікая памылка, калі НК Асьветы дапусьціць прапрацоўку ў сямігодцы розных «Крывічоў», «Сабачых лістоў», «Стромы» і Лужаніна. Вось тут якраз аўтары забыліся пра тое, што кадры сямігодак з пункту погляду тэорытычна-марксысцкае падрыхтаванасьці вельмі слабыя. Падобныя творы можна прапрацоўваць у тэхнікумах, дзевяцігодках, наогул у III концэнтрах, а ня ў другім концэнтры, дзе толькі, можна сказаць, пачынаем аформляць ідэолёгію вучня. Сялянска-ўласьніцкія настроі—пераважная рыса псыхолёгіі вясковых вучняў сямігодак. Ды гэта і зразумела. І школа якраз усе сілы кладзе, каб выкараніць гэтую рысу з псыхікі дзіцяці. А цяпер гэтая задача займае першае месца. І з літаратуры тут павінна якраз у падаўляючай большасьці падбіраць пролетарскіх і бядняцкіх пісьменьнікаў.

Нельга думаць, што вывучаючы кулацкую літаратуру, у вучняў будзе формавацца пролетарская ідэолёгія.

Гэта бяссэнсіца.

Праўда, мне скажуць, што гэтая літаратура акрэсьлена вялікімі літарамі кулацкай, і настаўнік павінен будзе прапрацаваць яе па самых жорсткіх пытаньнях.

Аднак «Крывічы» твор забаронены, «Падарожжа на новую зямлю» выкінута з школьных бібліотэк. Дык навошта ж вы заднім чыслом адмяняеце зусім слушны загад НК Асьветы і нанова пашырае це гэтыя творы?

Я не хачу гэтым сказаць, што ў сямігодках павінна прапрацоўвацца толькі пролетарская літаратура і зусім не паказвацца дробнабуржуазная, кулацкая, асабліва ў 7-х групах. Трэба і кулацкія настроі ў літаратуры паказаць вучням, але для гэтага ня трэба браць забароненыя творы.

Няма чаго перадрукоўваць у хрэстоматыі Лужаніных.

Куды карысней перадрукоўваць творы БелАПП'аўцаў. Іх творы варты таго, каб іх популярызаваць, шырэй праводзіць у масы.

---

А. Аронаў

# Спрэчныя пытаньні ў рабоце вячэрніх рабочых тэхнікумаў

Вырашэньне проблемы падрыхтоўкі кіраўнічых кадраў для прамысловасьці ў значнай меры залежыць ад магчымасьцяй увязкі тэорытычнага навучаньня з вытворчай працай. Ад таго, наколькі магчыма зьвязаць тэорыю адпаведнымі вытворчымі ўменьнямі і звычкамі, ахапіць і зразумець усе вытворчыя процэсы цалкам і ўзаемаадносіны паміж іх, залежыць якасьць тае продукцыі, якая цяпер падрыхтоўваецца ў навучальных установах. Тыя навучальныя ўстановы, якія ў максымальнай меры забясьпечваюць такую ўвязку паміж тэорыяй і практыкай, заслугоўваюць асаблівае ўвагі. Бязумоўна, што ў справе падрыхтоўкі сярэдняга кіраўнічага тэхнічнага пэрсоналу гэткай навучальнай установай зьўляецца вячэрні рабочы тэхнікум

У чым перавага гэтае навучальнае ўстановы перад іншымі аналёгічнымі ёй? Асноўнай перавагай ВРТ зьяўляецца тое, што ён комплектуецца выключна з рабочых, якія маюць ужо пэўную спэцыяльнасьць і кваліфікацыю, і што ўвесь час навучаньня студэнты працягваюць працаваць на вытворчасьці, не адрываючыся ад яе. Гэтыя два асноўныя моманты павінны служыць ня толькі асновай для вырашэньня організацыйна-пэдагогічных пытаньняў, але і зьяўляюцца базай усяе навучальнае работы. Таму ўсялякая спроба мэханічнага перанясеньня формаў і мэтодаў работы навучальных плянаў і програм дзённых тэхнікумаў ня можа даць адпаведных станоўчых вынікаў. ВРТ патрабуе асаблівага падыходу пры вырашэньні пытаньняў яго навучальнага жыцьця, бо трэба заўсёды памятаць, што яго студэнты—рабочыя, якія ня маюць дастатковай агульнаадукацыйнай асьветы, звычак да самастойнай разумовай працы і якія сумяшчаюць штодзённую працу на вытворчасьці з навучаньнем. Усё-ткі, ня гледзячы на шэраг цяжкасьцяй як у організацыі працы наогул, а пэдагогічнай асабліва, ВРТ усё больш і больш прыкоўвае ўвагу ня толькі кіруючых органаў нарасьветы, гаспадарнікаў, зацікаўленых справай падрыхтоўкі кадраў, але і ўсяе працоўнае масы.

Падрыхтоўка тэхніка з кваліфікаванага рабочага—задача адказная і цяжкая. Студэнты, якія зараз пачынаюць вучыцца, увальлюцца ў вытворчасьць як кіруючыя кадры к пачатку другой пяцігодкі. І таму навучальная ўстанова павінна ўлічваць патрабаваньні прамысловасьці і стан вытворчасьці ня толькі на сёньняшні дзень, але ў максымальнай меры ўлічваць і тэндэнцыю разьвіцьця прамысловасьці. Ускладненьне функцый кіруючага пэрсоналу на вытворчасьці ў сувязі з разьвіцьцём тэхнікі, крайнім дыфэрэнцыяваньнем вытворчасьці, выяўляючыміся проблемамі організацыі масавай працы патрабуе ад навучальнае ўстановы вучоту ўсіх гэтых асаблівасьцяй. Навучаньне зводзіцца ня толькі да вывучэньня матар'ялаў і мэтодаў іх апрацоўкі, варштатаў і іх прыстасаваньняў, але і пытаньні навуковай організацыі працы і вытворчасьці, вучоту, контролю і разьмеркаваньня, пытаньні рацыяналізацыі і плянаваньня павінны займаць адпаведнае месца. Гэта значыць, што падрыхтоўваемыя зараз кіруючыя «кадры павінны ўладаць дастаткова глыбокімі, спэцыяльна-тэхнічнымі і экономічнымі ведамі, шырокім грамадзка-політычным кругавідам і якасьцямі, якія патрэбны для організатараў вытворчай актыўнасьці шырокіх мас працоўных».

Пры такім разуменьні функцый тэхніка на вытворчасьці наўрад ці будзе правільнай тэндэнцыя некаторых работнікаў ВРТ да максымальнага скарачэньня ня толькі грамадазнаўчага цыклю, але і агульнатэхнічных прадметаў. Продукцыя ВРТ ня будзе поўнаякаснай, калі мы ня ўлічым у дастатковай меры таго, што тэхніку трэба даць адпаведныя агульнатэхнічныя веды, калі будзем у навучальнай рабоце ВРТ ігнараваць элемэнты політэхнізму і політычна-культурнае разьвіцьцё будучага тэхніка.

Ня трэба забываць, што для большасьці рабочых ВРТ зьяўляецца першай школай, дзе яны займаюцца больш-менш плянамерна і сыстэматычна. Вось чаму пытаньні мэтодыкі выкладаньня ў ВРТ павінны вырашацца такім чынам, каб прывучыць студэнта-рабочага да актыўнай самастойнай работы, далучыць яго паступова да навуковых мэтодаў, уводзячы ўсё больш і больш моманты самастойнага аналізу, дасьледваньня непасрэдна па крыніцах.

Рабочы тэхнік—гэта ня толькі вузкі кіраўнік маленькага цэху, гэта не мэханічны выканаўца вытворчых процэсаў, ён непасрэдны будаўнік і рацыяналізатар соцыялістычнае вытворчасьці, ён потэнцыяльны інжынэр, вынаходца, і яму павінны быць даны магчымасьці ня толькі выконваць, але і будаваць, тварыць. Толькі пры строгім адборы ўсяго програмнага матар'ялу, пры ўважлівым выбары адпаведных мэтодаў работы, каб рабочы разумеў і адчуваў карыснасьць і рэальнасьць атрымліваемых ведаў, можна будзе сапраўды падрыхтаваць тэхнікаў, якія патрэбны сёньня соцыялістычнай вытворчасьці.

Якая павінна быць навучальная нагрузка студэнтаў ВРТ?

Цэлы шэраг умоў спэцыфічных для работы ВРТ, як недастатковая агульнаадукацыйная падрыхтоўка, якая ў бліжэйшыя гады можа быць толькі ў межах пяцігодкі альбо профтэхкурсаў, праца на вытворчасьці на працягу шасьці, а для некаторай часткі нават і васьмі гадзін, немагчымасьць хатняе работы і г. д., дае магчымасьць устанавіць працяг навучаньня ў 4 гады. Выходзячы з працяжнасьці навучальнага году ў 9 месяцаў з штомесячнай нагрузкай у 100 навучальных гадзін для першых трох год навучаньня і 168 гадзін для апошняга году навучаньня, калі студэнты зусім аслабаняюцца ад працы на вытворчасьці, можна ўвесь курс пабудаваць у межах 4200-4300 нав. гадзін. Працяг навучальнага месяца ў 20 дзён, з нагрузкай у 5 акадэмічных гадзін, прадстаўляецца нам найбольш мэтазгодным. Дапушчэньне Менскага ВРТ сконцэнтраваць гадавую навучальную работу на працягу 7-7½ месяцаў павінна адбіцца на якасьці прапрацоўкі навучальнага матар'ялу. Пытаньне ж зводзіцца ня толькі да таго каб прачытаць курс, трэба яшчэ даць студэнтам і дастатковы час, каб яго прапрацаваць, асмысьліць, «пераварыць». Вось чаму ўсялякае скарачэньне часу ў гэтым сэнсе можа толькі пагоршыць справу. Тое, што студэнт мае некалькі вольных вечароў на працягу месяца, акрамя сваёй акадэмічнай вартасьці, мае яшчэ і агульнапалітычны сэнс. Ня трэба забываць, што студэнтамі ВРТ зьяўляюцца па большасьці актыў на вытворчасьці, і таму адрываць іх ад масавай работы на вытворчасьці, ад удзелу ў вытворчых нарадах і г. д. наўрад ці будзе мэтазгодна. ВРТ павінен даць хоць мінімальную магчымасьць студэнтам-рабочым знаходзіцца ў сталай сувязі з рабочымі масамі на вытворчасьці і гэтым самым яшчэ ў большай меры замацоўваць сваю тэорытычную падрыхтоўку і агульнатэхнічнае разьвіцьцё, не адрываючыся ад новых форм работы, ад тых новых соцыяльна-экономічных проблем, якія выяўляе рэконструкцыйная прамысловасьць.

Правільная організацыя работы ВРТ магчыма толькі пры аднэй бясспрэчнай умове: цесная сувязь усяе работы навучальнае ўстановы з тымі прадпрыемствамі, якія яна абслугоўвае. Бяз гэтай сталай плянавай сувязі з вытворчасьцю ў сваёй практычнай рабоце ВРТ ня справіцца з сваімі асноўнымі задачамі.

Ці можа 2-3-месячная вытворчая практыка на даным прадпрыемстве альбо, што яшчэ горш, на другім прадпрыемстве дапамагаючы студэнту ахапіць вытворчасьць цалкам, азнаёміцца з усімі тымі элемэнтамі вытворчасьці, якія яму патрэбны, як будучаму тэхніку? Ці можна наогул адарваць ад работы пэўную групу кваліфікаваных рабочых для выкананьня навучальных заданьняў, ня зьвязаных з іх кваліфікацыяй. Ці згодзяцца гаспадарчыя органы на такога роду часовае «ізьяцьце» рабочае сілы? Ці магчыма гэта ў матар'яльных адносінах, каб студэнт-рабочы на працягу трох месяцаў у годзе адлучаўся ад сваёй работы па сваёй спэцыяльнасьці на іншую, яму незнаёмую, а значыць, і горш аплачваемую? Вытворчая практыка, як сыстэма, ня можа мець месца ў навучальнай рабоце ВРТ. У асобных выпадках адносна беспрацоўных, недастаткова кваліфікаваных, калі-б такія выпадкова знайшліся ў навучальнай установе, вытворчая практыка яшчэ можа мець некаторы сэнс.

Мэтавая ўстаноўка ВРТ павіннаісьці ня толькі па лініі агульнай увязкі з патрэбнасьцямі і плянамі разьвіцьця адпаведных вытворчасьцяй, але і па лініі выконваньня практычных заданьняў вытворчасьці. Трэба ня толькі ўзгадніць навучальныя пляны і програмы ВРТ з конкрэтнымі задачамі вытворчасьці, але і дабіцца таго, каб тэорытычныя і практычныя дасягненьні студэнта ўлічваліся адпаведнымі органамі на вытворчасьці. Праз вядомы прамежак часу перасоўка рабочых-студэнтаў ад менш кваліфікаванай да больш кваліфікаванай работы, ад варштату да варштату, ад цэху да цэху можа ў значнай меры пашырыць тэхнічнае разьвіцьцё студэнта, даць адпаведнае разуменьне вытворчых процэсаў бяз шкоды для вытворчасьці. Плянавая перасоўка рабочых-студэнтаў і скарыстоўваньне яе з навучальнай мэтай за-

меніць у поўнай меры тую вытворчую практыку, якую раіць менскі ВРТ, і не адарве рабочых ад іх вытворчасьці. «Толькі 2% нашых служачых-інжынэраў і тэхнікаў атрымалі падрыхтоўку у коледжы. 98% атрымалі падрыхтоўку на вытворчасьці. Загадчыкі аддзяленьнямі прадпрыемства (інжынэры і тэхнікі) атрымалі ўсю падрыхтоўку на прадпрыемстве. Яны пачынаюць з звычайнага рабочага, затым робяцца ўстаноўшчыкамі, памочнікамі майстраў, майстрамі—да пасады загадчыка» (з лісту компаніі Форда інстытуту кадраў).

Перад ВРТ стаіць сур'ёзная задача па распрацоўцы такой сыстэмы сувязі з вытворчасьцю, якая забясьпечвала-б выконваньне навучальных задач на ёй. Вядзеньне студэнтамі вытворчых журналаў, наяўнасьць інструктара-інжынэра—работніка ВРТ—на вытворчасьці, які-б зьяўляўся зьвязваючым зьвяном паміж вытворчасьцю і тэхнікумам у яго штодзённай рабоце,—пытаньні, якія патрабуюць яшчэ свайго аформленьня і дасканалай прапрацоўкі колектывамі ВРТ.

Асноўным і галоўным зьяўляецца фактычны ўдзел спэцыялістых вытворчасьці, прадстаўнікоў адпаведных профсаюзаў у навучальна-мэтодычнай рабоце ВРТ—бяз гэтага сувязь з вытворчасьцю застанецца пустым гукам.

---

**А. Іванькоў**

# Пра школьную пасьпяховасьць

У пляне вялікіх работ па соцыялістычнаму будаўніцтву мы маем у другім годзе пяцігодкі пэўна вызначаныя тэмпы абавязковага росту народнае гаспадаркі. Павялічэньне вытворчасьці працы на 25%, зьніжэньне сабекошту продукцыі на 11% зьяўляюцца тымі паказальнікамі, за выкананьне і перавыкананьне якіх рабочая кляса пад кіраўніцтвам УсеКП(б) напружана працуе на фронце соцыялістычнага будаўніцтва.

Культурны фронт таксама павінен мець па лініі якасных паказальнікаў адпаведную яснасьць і чоткасьць. Культурныя працаўнікі павінны таксама актыўна змагацца за ажыцьцяўленьне культурных паказальнікаў, як актыўна змагаюцца рабочыя на гаспадарчым фронце.

Нажаль, мы павінны адзначыць, што ў сучасны момант, калі ўвага ўсіх працоўных прыкована да пытаньня паднянцця продукцыйнасьці працы, у школе гэта ўвага яшчэ не мобілізавана належным чынам. У выніку гэтага мы і зараз яшчэ маем у школах і адсеў вучняў, і значную іх непасьпяховасьць, і досыць вялікі процант другагодніцтва. Якасьць нашай школьнай продукцыі вымагае жадаць ёй шмат чаго лепшага. Вялікім злом у жыцьці школ зьяўляецца школьная непасьпяховасьць вучняў. Яна аднімае нямала сродкаў, перашкаджае адчыненьню новых комплектаў і значна перашкаджае хутчэйшаму правядзеньню ўсеагульнага навучаньня. Усё гэта вымагае абвясьціць школьнай непасьпяховасьці рашучую барацьбу.

Школьная непасьпяховасьць і другагодніцтва ня ёсьць «неизбежное зло» ў жыцьці школы, а ёсьць паказальнік якасьці яе работы. Тав. Блонскі ў сваёй кніжцы «Трудные школьники» (Выд. «Рабпрос», 1929 г., стар. 5) кажа: «Для того, каб выхаваць дзіця, трэба ведаць яго».

З мэтай высьвятленьня прычын непасьпяховасьці вучняў 1-га концэнтру мазырскіх гарадзкіх школ, а таксама і характэрных рыс непасьпяваючых, была праароблена адпаведная праца мазырскай акрмэткомісіяй. Было высьветлена,

што на 10 лістапада 29 г. непасьпяховасьць вучняў мела наступны малюнак:

**а) % другагоднікаў па гр. I, II, III і IV; в) % непасьпяваючых па адным, двух, трох прадм. і ўсіх галінах у тых жа групах**

| ГРУПЫ | Школы | %% другагадн. | %% непасьпаваючых па розн. галінах (прадм.) | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Па I прадм. | Па II прадм. | Па III прадм. | Па ўсіх галінах |
| I гр. . . | Шк. В | 25 | 20 | 25 | — | 13 |
| I " . . . | " Б | 17 | 23 | 24 | — | 10 |
| I " . . . | " А | 14 | 18 | 20 | — | 9 |
| II гр. . . | Шк. А | 9 | 15 | 10 | 4 | 4 |
| II " . . | " Б | 8 | 11 | 9 | 6 | 12 |
| II " . . | " В | 31 | 22 | 19 | 17 | 15 |
| III гр. . . | Шк. А | 21 | 13 | 17 | 9 | 16 |
| III " . . | " Б | 20 | 10 | 14 | 8 | 17 |
| III " . . | " В | 33 | 17 | 10 | 7 | 18 |
| IV гр. . . | Шк. А | 4 | 12 | 7 | 2 | 8 |
| IV " . . | " Б | 7 | 11 | 8 | 5 | 10 |
| IV " . . | " В | 11 | 12 | 9 | 7 | 12 |

Увага. Гэтыя весткі ўзяты з трох мазырскіх школ.

Прыблізна такі малюнак школьнай непасьпяховасьці маюць і астатнія школы г. Мазыру.

Наступная схэма дае ўяўленьне аб тым, па якіх галінах у групах і колькі было непасьпяваючых вучняў на той жа час.

**У якіх групах, па якіх галінах (прадметах), колькі ёсьць непасьпяваючых вучняў (агульны лік непасьпяваючых—123 асобы)**

| ГРУПЫ | Арытмэтыка | Пісьмо | Чытаньне | Чытаньне і пісьмо | Пісьмо і арытм. | Чытаньне і арытм | Пісаньне, чытаньне і лічэньне | Арытмэт. і грамад. | Усе галіны | Агульн. колькасьць асоб. | %% непасьпяв. (кругл. лічбы) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I група . . | 5 | 3 | 2 | 3 | — | 1 | — | — | 22 | 36 | 29 |
| II " . . | 2 | 3 | 3 | 1 | 1 | 4 | 4 | — | 6 | 24 | 19,5 |
| III " . . | 4 | — | — | 2 | 4 | 1 | 2 | — | 20 | 33 | 26,5 |
| IV " . . | 2 | 1 | 2 | 4 | 2 | 6 | 2 | 2 | 9 | 30 | 24 |
| % непасьпяховасьці па паасобных галінах (выліч. прыбл.) . . | 10 | 6 | 6 | 8,5 | 6,5 | 9,5 | 5,5 | 1 | 46,5 | 123 | 100 |

Увага. Паказаныя ў гэтай схэме непасьпяваючыя вучні ўзяты з розных школ г. Мазыру.

Гэтыя матар'ялы сьведчаць аб тым, што непасьпяховасьць у мазырскіх гарадзкіх школах дае ў паасобных выпадках вельмі значны процант.

З паасобных галін школьнае працы самы высокі процант непасьпяховасьці дае матэматыка і далей (у старэйшых групах)—мова. Значны процант непасьпяховасьці ў 1-ай групе мазырскіх школ абумоўлены быў няправільным комплектаваньнем гэтых груп з пачатку навучальнага году: разам з няпісьменнымі вучнямі прымаліся такія, якія ўмеюць чытаць і пісаць. Высокі ж процант непасьпяваючых па 3-й групе абумоўліваецца, па нашай думцы, разьбежкай праграмы другога і трэцяга году. Па свайму характару і аб'ёму матар'ял трэцяга году значна цяжэйшы за матар'ял другога году. Гэта зьявілася асноўнай прычынай паказанай непасьпяховасьці.

Дасьледваньне школьнай непасьпяховасьці было разгорнута ў напрамку высьвятленьня наступных асноўных пытаньняў: 1) соцыяльна-эканомічнага стану сям'і непасьпяваючага вучня, 2) стану яго здароўя і 3) паасобных рыс пэдагогічнай характарыстыкі непасьпяваючага вучня. Досьледамі былі ахоплены вучні першага концэнтру шасьці гарадзкіх школ, з агульнай колькасьцю непасьпяваючых—110 асоб.

Па роду і ўзросту яны разьмяркоўваліся наступным чынам:

| УЗРОСТ | Хлопчыкі | Дзяўчынкі |
|---|---|---|
| 8 г. (ад 7 г. 6 м да 8 г. 5 м.) | 11 | 9 |
| 9 г. ( " 8 г. 6 м. да 9 г. 5 м.) | 14 | 7 |
| 10 г. ( " 9 г. 6 м. " 10 г. 5 м.) | 8 | 7 |
| 11 г. ( " 10 г. 6 м. да 11 г. 5 м.) | 9 | 5 |
| 12 г. ( " 11 г. 6 м. " 12 г. 5 м.) | 8 | 3 |
| 13 г. ( " 12 г. 6 м. " 13 г. 5 м.) | 10 | 6 |
| 14 г. ( " 13 г. 6 м. " 14 г. 5 м.) | 8 | 3 |
| 15 г. ( " 14 г. 6 м. " 15 г. 5 м.) | 1 | 1 |
| Разам . . | 69 | 41 |

**Соцыяльны склад**

| | | |
|---|---|---|
| Дзяцей рабочых | 49 | асоб |
| " сялян . | 21 | " |
| " служачых | 22 | " |
| " саматужн. | 8 | " |
| " беспрацоў. | 8 | " |
| " іншых . . | 2 | " |
| Разам . | 110 | асоб |

**Нацыянальны склад**

| | |
|---|---|
| Беларусаў . . . | 53 |
| Яўрэяў . . . . | 50 |
| Палякаў . . . . | 5 |
| Іншых . . . . . | 2 |
| Разам . | 110 |

### Экономічны стан:

Экономічны стан вызначаўся па формуле:

а) Прыбытак сям'і / колькасьць сяброў сям'і+утрыманцы:

(Формула гэта ўзята намі з кніжкі „Проблемы школьной педологии“ пад рэд. Блонскага, выд. „Раб. Пр.“ ст. 7).

| | |
|---|---|
| Заработак на аднаго чал. ад 10 р. да 20 р. | 55% |
| „ „ „ „ „ 20 р. „ 30 „ | 11% |
| „ „ „ „ „ 30 р. „ 40 „ | 3% |
| „ „ „ „ „ 40 р. „ 50 „ | 0% |
| Беспрацоўныя | 16% |

б) Харчаваньне, вопратка і абутак

Нездавальняюча харчуюцца з ліку непасьпяваючых . . . . . . . . . 50 проц.
Нездавальняючая вопратка і абутак . . 45 „

Далей былі высьветлены наступныя пытаньні:

1) удзел непасьпяваючых у дапамозе бацьком (догляд свойскай жывёлы, хадзьба ў крамы, догляд дзяцей ды інш.);

2) забясьпечанасьць непасьпяваючага ў сям'і спрыяючымі ўмовамі для школьных заняткаў.

Выявілася, што 64% з ліку непасьпяваючых сыстэматычна дапамагаюць бацьком у розных хатніх справах, пры чым дапамагаюць не таму, што няма чаго рабіць, а таму, што няма каму рабіць бяз іх. Па другому пытаньню выявілася, што 78% з ліку непасьпяваючых ня маюць дома асобнага кутка для сваіх заняткаў. Значная частка з гэтай колькасьці (прыблізна палова) і такіх, якія па кватэрных умовах ня могуць зусім дома займацца. Дадаўшы да гэтага яшчэ і тое, што сярод бацькоў непасьпяваючых вучняў, як паказалі нашы дасьледваньні, 25% зусім няпісьменных, мы атрымаем даволі поўны малюнак экономічнага і бытавога стану сям'і непасьпяваючага вучня.

Падагуліўшы ўсё вышэй сказанае, трэба констатаваць наступнае:

а) сярод непасьпяваючых дзяцей асноўнай масай зьяўляюцца дзеці экономічна слаба забясьпечаных сем'яў. Як вынік гэтага, непасьпяваючымі дзецьмі зьяўляюцца дзеці, якія дрэнна харчуюцца, маюць нездавальняючую вопратку і абутак і жывуць у дрэнных жыльлёвых умовах;

б) непасьпяваючыя дзеці—дзеці, у большасьці выпадкаў, занятыя працай па дапамозе бацьком;

в) непасьпяваючыя дзеці—дзеці часьцей малапісьменных і нярэдка зусім няпісьменных бацькоў;

г) непасьпяваючыя дзеці ў масе ня могуць у хатніх умовах займацца школьнай працай.

### Фізычны стан

У галіне высьвятленьня фізычнага стану былі ўзяты паказальнікі толькі росту і вагі (што, зразумела, ня можа даць поўнага адказу на пытаньне). Гэтыя паказальнікі параўноўваліся з паказальнікамі N (нормы), вагі і ўзросту. За N (норму) браліся адпаведныя паказальнікі з табліц НК Аховы Здароўя БССР. Атрымаліся наступныя вынікі:

| | Рост у проц. | | | Вага у проц. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | −N | N | +N | −N | N | +N |
| Хлопчыкі | 49 | 33 | 18 | 51 | 30 | 19 |
| Дзяўчынкі | 55 | 36 | 9 | 59 | 27 | 14 |

Каб дапоўніць малюнак фізычнага стану непасьпяваючых, прыводзім наступнае:

Сярод непасьпяваючых вучняў ёсьць:

1. Малакроўных . . . . . . . . . 20 проц.
2. З недахопам зроку . . . . . . 15 „
3. З недахопам слыху . . . . . . 10 „
4. З павышанай нэрвовай узбуджанасьцю . . . . . . . . . . . 13 „
5. Адэноіды . . . . . . . . . . . . 9 „
6. З скрыўленым пазваночнікам . . 8 „
7. З двума фізычнымі недахопамі (малакроў'е і адэноіды. нэрвовае ўзбуджэньне і слабасьць зроку і г. д.) . . . . . . . . . . . 20 „

Такім чынам фізычны стан непасьпяваючага вучня характарызуецца наступным:

а) у пераважнай большасьці непасьпяваючыя дзеці—дзеці фізычна няпоўнакаштоўныя, ёсьць значная частка з іх такіх, якія па стану свайго здароўя павінны знаходзіцца пад сталым наглядам школьнага доктара;

б) слабы стан здароўя непасьпяваючага вучня патрабуе асаблівай увагі да працоўнай нагрузкі яго як у школе, так і дома, бо перагружанасьць такіх дзяцей, як паказалі нашы назіраньні, часта цягне за сабой лёгкае захворваньне.

Лічым патрэбным адзначыць, што нашы вывады адносна фізычнага стану непасьпяваючых вучняў падмацоўваюцца досьледамі такіх аўтараў, як Болдуін, Блонскі ды інш. Па даных Болдуіна: «Тупыя дзеці важаць менш разьвітых. Пасьпяваючыя вучні вышэй ростам, чым непасьпяваючыя» (Зборнік амэрыканскіх артыкулаў пад рэд. Оша, ст. 96—97). «Процант захворваньня лёгкіх, а таксама малакроўных дзяцей непасьпяваючых значна большы, чым у лепшых. Стан унутраных органаў і агульны стан непасьпяваючых дзяцей рэзка зьніжаны ў параўнаньні з лепшымі» («Проблемы школьной педологии» пад рэд. Блонскага, выд. «Р. П.» 1929 г., ст. 14—15).

Падводзячы вынікі вышэйпаданаму адносна прычын школьнай непасьпяховасьці трэба сказаць, што асноўнай прычынай зьяўляюцца экономічна-бытавыя ўмовы жыцьця вучняў, непасьпяваючыя дзеці—гэта ў масе дзеці мала забясьпечаных бацькоў, бацькоў у большасьці малакультурных. Экономічны стан іх жыцьця абумоўлівае сабою ахарактарызаваны вышэй і стан іх здароўя, а гэты апошні зьяўляецца вельмі сур'ёзнай перашкодай для пасьпяховых заняткаў у школе.

Нажаль, нам па ўмовах работы, у якіх вяліся досьледы, не ўдалося ў дастатковай ступені высьвятліць пытаньне разумовага стану і разьвіцьця непасьпяваючых вучняў. Спасылаючыся ж на досьледы Блонскага і іншых аўтараў, лічым патрэбным зазначыць, што разумовая недаразьвітасьць непасьпяваючых школьнікаў, параўнаўча з іх таварышамі, пасьпяваючымі ў школьнай працы, зьяўляецца істотнай прычынай, якая абумоўлівае школьную непасьпяховасьць.

## Рысы характарыстыкі непасьпяваючых вучняў

З мэтай высьвятленьня паасобных рыс непасьпяваючых вучняў было зроблена дасьледваньне па адпаведнай анкеце. Каб яскравей уявіць характарыстыку непасьпяваючых былі дасьледваны адначасова і добра пасьпяваючыя вучні (прыблізна па 100 асоб з кожнай катэгорыі). Вось што мы атрымалі:

| | Непасьпяваючыя (у проц.) | Добра пасьпяваючыя (у проц.) |
|---|---|---|
| Уважлівыя на школьных занятках | 14 | 90 |
| Няўважлівыя " " | 86 | 10 |
| Актыўныя ў " " | 16 | 87 |
| Пасыўныя ў " " | 84 | 13 |
| Ініцыятыва (у школьных занятках. у грамадзкай рабоце) . . . . | 9 | 42 |
| Ініцыятыва ў хуліганстве . . . | 24 | — |
| Важакі . . . . . . . . . . . . | — | 18 |
| Таварысткасьць . . . . . . . . | 37 | 79 |
| Абасабляемасьць . . . . . . . . | 57 | — |

Даныя гэтай схэмы гавораць аб тым, што непасьпяваючыя дзеці—дзеці ў большасьці з няўстойлівай увагай, дзеці мала актыўныя ў школьных занятках і грамадзкай рабоце і са слабай ініцыятывай, дзеці схільныя больш да абасабляемасьці, чым да колектыву, дзеці, якія ў большасьці ідуць за другімі ў сваіх паводзінах.

Далей была праведзена работа па высьвятленьню наступных пытаньняў (тыя-ж вучні і тая-ж колькасьць, што і раней):

1) кім хачу быць;
2) што хацеў бы больш усяго мець;
3) што люблю больш усяго рабіць;
4) што больш усяго падабаецца з школьных заняткаў.

Адказы на гэтыя пытаньні непасьпяваючых і добра пасьпяваючых вучняў уяўляюць наступны малюнак:

| КІМ ХАЧУ БЫЦЬ | Непасьпяв. (у проц.) | Добра пасьп. (у проц.) |
|---|---|---|
| Інжынэрам . . . . . . . . | 30 | 25 |
| Рабочым . . . . . . . . | 15 | 13 |
| Літаратарам . . . . . . | 4 | 5 |
| Музыкантам . . . . . . | 14 | 4 |
| Мастаком . . . . . . . | 11 | 6 |
| Аграномам . . . . . . . | 2 | 18 |
| Доктаром . . . . . . . | 2 | 23 |
| Настаўнікам . . . . . . | 4 | 3 |
| Артыстым . . . . . . . | 9 | 1 |
| Лётнікам . . . . . . . | 5 | — |
| Іншыя профэсіі . . . . . | 4 | 2 |

| Што хацеў бы больш усяго мець | Непасьпяв. (у проц.) | Добра пасьп. (у проц.) |
|---|---|---|
| Грошы | 45 | 3 |
| Музычны інструмант | 20 | 6 |
| Добры гарнітур | 16 | 5 |
| Кніжкі | 6 | 70 |
| Мотоцыкл, аўтомобіль | 5 | — |
| Іншыя рэчы | 8 | 16 |

| Што люблю больш усяго рабіць | Непасьпяв. (у проц.) | Добра пасьп. (у проц.) |
|---|---|---|
| Працаваць у майстэрні | 47 | 8 |
| Вучыцца ў школе | 9 | 76 |
| Працаваць на гаспадарцы | 10 | 12 |
| Займацца спортам | 26 | 2 |
| Вышываць | 4 | 1 |
| Вучыцца вайсковай справе | 2 | — |
| Інш. справы | 2 | 1 |

| Што больш усяго падабаецца з школьных заняткаў | Непасьпяв. (у проц.) | Добра пасьп. (у проц.) |
|---|---|---|
| Матэматыка (лічэньне) | 5 | 32 |
| Фізкультура<br>Маляваньне | 46 | 10 |
| Чытаньне | 10 | 10 |
| Пісьмо | 8 | 7 |
| Грамадазнаўства | 10 | 21 |
| Прыродазнаўства | 8 | 7 |
| Сьпевы | 11 | 1 |
| Усе прадметы | 2 | 12 |

Прыведзеныя даныя сьведчаць аб тым, што галоўныя інтарэсы непасьпяваючых вучняў і іх імкненьні накірованы, галоўным чынам, на такія заняткі, якія патрабуюць расходваньня фізычнай энэргіі (работа ў майстэрні, фізкультура і спорт). Зусім нязначная колькасьць непасьпяваючых вучняў мае імкненьне да такіх заняткаў, як лічэньне, мова і іншыя заняткі, якія можна характарызаваць хадзячым выразам «школьная вучоба».

Зусім адваротны малюнак маюць імкненьні і галоўныя інтарэсы добра пасьпяваючых вучняў. Гэтыя імкненьні і інтарэсы накірованы ў іх якраз на тое, што ў першую чаргу патрабуе выяўленьня разумовай энэргіі і што можна ахарактарызаваць, як процэс школьных згняткаў наогул.

Атрыманыя намі даныя па пытаньню характэрных рыс непасьпяваючых школьнікаў і іх галоўных інтарэсаў у параўнаньні з характэрнымі рысамі і галоўнымі інтарэсамі добра пасьпяваючых вучняў маюць, на наш погляд, вялікую каштоўнасьць.

Аналіз гэтых даных прыводзіць нас да вываду, што школьная група, складзеная з непасьпяваючых і пасьпяваючых вучняў прадстаўляе сабою такі дзіцячы колектыў, у якім правільна арганізаваць пэдагогічны процэс надзвычайна цяжка: у такой групе адна частка вучняў нямінуча будзе знаходзіцца ў «страдательном» становішчы. Не забудзем пры гэтым, што ў паасобных групах, як масавых чатырохгадовых, так і першага концэнтру сямігадовых школ, процант непасьпяваючых вучняў паднімаецца часамі да 30-35. Зусім зразумела, што ліквідацыя школьнай непасьпяховасьці ў такіх групах патрабуе не поліатыўных сродкаў часовага характару, а рашучых і грунтоўных мерапрыемстваў, якія гарантуюць сабою стварэньне ўмоў для правільнай організацыі школьнай работы з дзецьмі. Правільна-ж організаваць пэдагогічны процэс магчыма толькі ў пэдолёгічна-аднароднай групе.

## Формы і мэтоды дапамогі непасьпяваючым вучням

Дапамога непасьпяваючым вучням у мазырскіх школах ішла такім шляхам: а) экономічная дапамога непасьпяваючым вучням (стыпэндыі, вопратка, абутак); б) дапамога непасрэдна ў занятках шляхам утварэньня з непасьпяваючых вучняў груп і дадатковыя заняткі як з імі, так і з паасобнымі непасьпяваючымі; в) работа настаўніцтва сярод бацькоў непасьпяваючых вучняў (за разгрузку вучняў ад выкананьня розных хатніх абавязкаў, за ўтварэньне ў сям'і вучня кутка для заняткаў і г. д.).

Адносна сваячасовай дапамогі непасьпяваючым вучням гаварыць няма чаго: такая дапамога павінна быць у кожнай школе. Што-ж датычыцца форм гэтай дапамогі, дык тут справа іншая. Эко-

номічная дапамога і работа сярод бацькоў непасьпяваючых вучняў у нашай практыцы цалкам сябе апраўдалі. Такія формы дапамогі трэба прызнаць вельмі каштоўнымі, выходзячы з таго, што яны якраз б'юць па тых прычынах, якімі часткова і абумоўліваецца школьная пасьпяховасьць. Гутарка толькі можа ісьці аб пашырэньні і ўдасканаленьні форм гэтай дапамогі. Да бясспрэчных форм дапамогі непасьпяваючым вучням трэба аднесьці і такія, як індывідуальны падыход і асаблівая ўвага да непасьпяваючага ў часы заняткаў, актывізацыя школьных заняткаў і, агулам кажучы, рацыяналізацыя пэдагогічнага процэсу. У нас ёсьць весткі, якія гавораць аб тым, што групы, работа якіх характарызуецца актыўнасьцю вучняў у школьных занятках і іх самадзейнасьцю, далі меншы процант непасьпяваючых параўнаўча з тымі групамі, работа якіх па свайму характару набліжалася да работы па «сядзячых комплексах».

Што ж датычыцца да пашыранай у нас формы дапамогі непасьпяваючым вучням у выглядзе дадатковых заняткаў, то мы лічым такую форму, у лепшым выпадку, мала каштоўнай, а часамі і проста шкоднай для непасьпяваючых вучняў.

Спачатку некалькі заўваг адносна таго, як аказвалася ў нас дапамога ў выглядзе дадатковых заняткаў. Яны праводзіліся: а) непасрэдна пасьля дзённых заняткаў усяе групы, гэта значыць, пасьля 4 і болей гадзін школьнай работы; непасьпяваючыя вучні затрымліваліся на 30-40 хвілін у школе, і з імі займаліся па тых пытаньнях, па якіх яны не пасьпявалі; б) праводзіліся заняткі ў клюбны дзень два разы ў месяц па 2-3 гадзіны ў дзень.

Думаем, што прыблізна так робіцца ня толькі ў школах г. Мазыру, бо зьбіраць вучняў для заняткаў пасьля абеду шмат дзе немажліва таму, што ў адных выпадках памяшканьні школ заняты другімі і нават трэцімі зьменамі, а ў другіх—вучні жывуць на далёкай адлегласьці ад школ. У сілу неабходнасьці, такім чынам, дадатковыя заняткі з непасьпяваючымі вучнямі адбываюцца альбо пасьля дзённых заняткаў усяе групы, альбо ў клюбны дзень. Якую-ж каштоўнасьць маюць такія заняткі? Калі-б мы дапусьцілі, што непасьпяваючыя вучні ёсьць у масе дзеці, якія нічым не адрозьніваюцца ад сярэдніх дзяцей тэй ці іншай групы, дык і ў такім выпадку мы павінны былі-б узяць такія заняткі пад сумненьне на падставе наступнага: чатыры гадзіны заняткаў для 1-й і 2-й груп і пяць для 3-й і 4-й зьяўляюцца тэй нагрузкой, якая лічыцца дастатплатны» дадатак, для каго-б ён ні налену дзяцей адпаведнай групы. Таму «бясплатны» дадатак, для каго-б ён ні належаў, у выглядзе дадатковай нагрузкі непасрэдна пасьля дзённай ня можа быць апраўданы. Калі-ж прыняць пад увагу стан здароў'я непасьпяваючых вучняў і псыхолёгічна іх рысы, дык у лепшым выпадку нямэтазгоднасьць дадатковых заняткаў з такімі дзецьмі відавочна. Але мы ідзем далей і сьцьвярджаем, што дадатковыя заняткі ў вышэй паданай форме шкодны для масавага непасьпяваючага вучня. Фізычны стан непасьпяваючых вучняў і фізычныя недахопы, на якія так багаты непасьпяваючыя вучні, вымагаюць якраз адваротнага: меншай нагрузкі, параўнаўча з сярэднімі, а тым больш лепшымі, ва ўсіх адносінах, вучнямі.

Можна спрачацца аб тым, што наша работа не дае грунтоўнай падставы сьцьвярджаць наш вывад. Але ёсьць цэлы шэраг досьледаў адносна непасьпяваючых вучняў, і пераважная большасьць іх гаворыць аб тым, што непасьпяваючыя дзеці ў большасьці ўяўляюць сабой дзяцей фізычна слабых, нэрвовых, схільных да рознага роду хвароб. Аб гэтым гавораць працы раней прыведзеных намі аўтараў, а таксама і працы проф. Эфрусьсі («Школьная неуспеваемость и второгодничество» «ГИЗ», выд. 1928 г.), Белаусава («Как надо группировать учащихся», выд. «Рабпрос», 1930 г.). І вось атрымліваецца, што дзеці з такім фізычным станам, дзеці з слабай увагай, дзеці, якія мала цікавяцца школьнымі заняткамі, прымушаны пасьля 4-5 гадзін гэтых заняткаў брацца зноў за іх з мэтай «падцягнуцца» ў галіне сваёй непасьпяховасьці. Што можна сказаць аб мэтазгоднасьці такіх заняткаў?

Ну, а заняткі ў клюбны дзень?

Здаецца, што тут справа іншая: лекцый ніякіх ня было, дзеці ня стомлены і падзаняцца можна з імі на карысьць. Але гэта толькі здаецца.

У той час, калі ўсе вучні, калі таварышы па групе займаюцца «для свайго задавальненьня» (выраз непасьпяваючага вучня), «мы прымушаны сядзець над рознымі прыкладамі і задачкамі» (ён жа). Псыхолёгічныя абставіны заняткаў у клюбны дзень з непасьпяваючымі вучнямі такія, што гэтыя заняткі зьнясільваюць і зусім ня спрыяюць яго бадзёрасьці ў школьнай рабоце. Па агульных адзнаках настаўнікаў, якія займаюцца з непасьпяваючымі вучнямі ў клюбныя дні, атрымліваецца такі вывад: вучні нездаволены, што яны прымушаны займацца ў клюбныя дні звычайнымі справамі вучобы, вучні зусім няўважлівы на занятках, вынікі работы—нездавальняючыя. Вывад ясны: па сутнасьці заняткі ў клюбны дзень ня могуць лічыцца пэдагогічна-мэтазгоднай формай ліквідацыі школьнай непасьпяховасьці, ня кажучы ўжо аб тым, што для непасьпяваючых дзяцей у такім выпадку клюбны дзень страчвае сваю пэдагогічна-выхаваўчую мэту.

Усё гэта дае нам падставу выказаць думку аб тым, што дадатковыя заняткі ў вышэйапісаных формах ня могуць лічыцца пэдагогічна-мэтазгоднымі сродкамі ліквідацыі школьнай непасьпяховасьці.

Калі быў зроблены адпаведны даклад на агульна-гарадзкім сходзе асьветнікаў Мазыру па трактуемаму тут пытаньню, дык вывад сэкцыі і тэзіс дакладчыка аб нямэтазгоднасьці дадатковых заняткаў з непасьпяваючымі вучнямі выклікаў вельмі жывыя спрэчкі. Па гэтаму пытаньню ў адпаведным месцы рэзолюцыі па дакладу сход асьветнікаў гораду Мазыру зазначыў:

«Лічыць, што дадатковыя заняткі з непасьпяваючымі вучнямі, слабымі здароўем, якія мала цікавяцца школьнай вучобай, падчас разумова-адсталымі (апошняе выведзена на падставе об'ектыўных назіраньняў.—*А. І.)* не дасягаюць мэты... Нярэдка такія заняткі шкодны для вучняў, ствараючы для іх цяжар, перашкаджаючы фізычнаму разьвіцьцю дзяцей і ўсугубляючы недахопы іх здароўя...

У мэтах грунтоўнага разьвязаньня пытаньня аб школьнай непасьпяховасьці прызнаць мэтазгодным: а) утварэньне з пачатку навучальнага году пэдолёгічна-аднародных груп з аднародным складам вучняў па разумоваму разьвіцьцю, навыках і тэмпах разьвіцьця; б) утварэньне асобнай школы для дзяцей, якія ня могуць займацца ў нормальнай школе».

Вось у гэтых мерапрыемствах мы і бачым тое асноўнае, што ў першую чаргу павінна быць ужыта ў барацьбе з школьнай непасьпяховасьцю.

Зразумела, што ўтварэньне пэдолёгічна-аднародных груп, утварэньне побач з гэтым асобнай школы для разумова-адсталых дзяцей—справа досыць складаная. Калі-ж дадаць, што ажыцьцяўленьне гэтага мерапрыемства цягне за сабою неабходнасьць вырашэньня шэрагу іншых пытаньняў (праграмнае пытаньне, пытаньне форм і мэтодаў заняткаў з рознымі групамі, пытаньне пераводаў з групы ў групу і г. д.), дык зусім ясна стане, што да вырашэньня гэтага пытаньня трэба падыходзіць вельмі абдумана і сур'ёзна. Тым ня менш мы павінны сказаць, што жыцьцё патрабуе ад нас рашуча ўзяцца за ўзмацненьне якасьці школьнай работы, каб якасьць школьнай продукцыі ўзьняць на такую вышыню, якая-б адпавядала тэмпам соцыялістычнага будаўніцтва. Калі да гэтай справы будуць прыцягнуты, акрамя асьветніцкай масы і органаў Наркомасьветы, шырокія колы працоўных, калі ліквідацыя школьнай непасьпяховасьці зробіцца справай ня толькі школьнай, але і справай усяе грамадзкасьці—посьпех гэтай справы, ня гледзячы на яе складанасьць, будзе забясьпечан.

Д-р Д. Эйнгорн

# Да пытаньня аб школьнай мэблі

Пытаньнямі школьнай мэблі ў апошнія гады займаюцца некалькі інстытутаў, напр.: інстытут Соц. Гігіены ў Маскве, з проф. Молькавым на чале, Усеукраінскі Дзяржаўны Інстытут Гігіены Выхаваньня ў Кіеве—з проф. Пісаравым. Асноўныя палажэньні конструкцыі школьнай мэблі больш-менш прапрацаваны. Задача гэтага артыкулу—разгледзець некаторыя проблемы школьнай мэблі і азнаёміць пэдагогаў з паасобнымі цікавымі драбніцамі іх конструкцыі.

Галоўную ўвагу ў абгаварэньні пытаньня школьнае мэблі прыцягвае да сябе натуральна пытаньне аб рабочым стале і крэсьле для дзяцей: парты ці сталы? Супроць школьных парт ужо з даўніх часоў набралася, я-б сказала, многа злосьці, і першым натуральным імкненьнем было скончыць з партамі. Новыя мэтоды працы: шырокае ўжываньне самастойнай вучнёўскай дасьледчай працы, вольныя групоўкі дзяцей у час заняткаў і г. д., здаваліся зусім несумяшчальнымі з традыцыйнымі партамі. На практыцы-ж выходзіла, што будавалі вялікія сталы, да іх на два месцы ўслоны, на якіх часамі садзілі па трое дзяцей,—усё гэта ставілася шчыльна ў цеснай клясе і, у выніку, атрымліваецца, што такое рассаджваньне не прыстасавана ні для чытаньня, ні для пісаньня, ні для якой-бы там ні было іншай працы, г. з., мы маем поўнасьцю ўзор парты, у якім сконцэнтраваны ўсе яе адмоўныя бакі, бяз жаднага станоўчага боку.

Адно толькі, што застаецца станоўчага ад усіх гэтых навін—гэта паземнае становішча дошкі стала, якое, праўда, ня спрыяе для чытаньня і пісьма, але патрэбна для некаторых іншых прац.

І мы бачым, што, нарэшце, усе патроху прыходзяць да думкі, што для І концэнтру,—аб ІІ будзе гутарка далей,—найбольш рацыянальны школьны стол, гэта—парта, у якую ўносяць некаторыя зьмены, што прыстасоўваюць яе да запатрабаваньняў новай школы.

Адзін з найбольш шкодных момантаў працы дзяцей у школе—гэта сядзеньне на месцы па некалькі гадзін. Такое становішча ні ў якім разе нельга разглядаць, як становішча адпачынку для організму. Толькі ляжаньне дае найменшае актыўнае напружаньне мускулатуры. Дзеля таго, каб падтрымліваць організм у сядзячым стане, патрабуецца каардынаванае напружаньне шмат якіх груп мускулатуры. Інакш кажучы, сядзеньне зьяўляецца для організму напружанай актыўнай дзейнасьцю, якая вядзе ўжо сама па сабе да хуткага зморваньня організму. Расходы энэргіі на сядзеньне, вельмі значныя ўжо самі па сабе, павялічваюцца яшчэ ў шмат разоў, калі парушаюцца гігіенічныя ўмовы сядзеньня.

Што мы павінны лічыць умовамі правільнага гігіенічнага сядзеньня?

Каб ня зморваць організм у час сядзеньня, неабходна мець устойлівую апору для некаторых частак цела:

па-першае,—цьвёрдую ўстойлівую апору для ног, каб уся ступня апіралася на падлогу ці на спэцыяльную прыступку;

па-другое,—апору для паясьнічнай часткі; яшчэ лепш, калі апора для сьпіны даецца ў двох месцах: для паясьнічнай часткі—абавязкова, і для грудной, на вышыні лапатак; апошняя павінна аднак знаходзіцца трохі далей назад, чымся сподняя апора, бо хрыбетнік не зьяўляецца простай лініяй, а мае гэтак званыя, фізыолёгічныя выгібы; калі робяць простую высокую сьпінку, дык гэтым даюць апору верхняй частцы хрыбетніка і пазбаўляюць апоры паясьнічную частку;

па-трэцяе,—дзеля таго, каб тулава не зьяжджала з сядзеньня, трэба заднюю частку сядзеньня зрабіць трошкі ніжэй за пярэднюю, якая зьвернута да стала. Гэтага можна дасягнуць тым, што дошка сядзеньня выдзёўбваецца шырокім жолабам у задняй трэці ці, яшчэ прасьцей, тым, што ўсяму сядзеньню надаецца лёгкі нахіл для сьпінкі.

Для цэлага шэрагу прац, якія выконваюцца абавязкова ў сядзячым станові-

шчы, напр., пісьмо, маляваньне, зьяўляецца важным ня толькі гігіенічная пабудова сядзеньня, але і ўзаемаадносіны паміж крэслам і сталом. Так, напрыклад, для правільнага становішча тулава і верхніх канцовасьцяй у час пісьма важна, каб крэсла сваім сядзеньнем часткова заходзіла пад бераг стала, г. з. пэрпэндыкуляр, спушчаны ад берагу стала, павінен упасьці на сядзеньне на адлегласьці 5 см. ад яго краю. Гэта завецца адмоўнай дыстанцыяй паміж сталом і крэслам. Патрабаваньне гэта, надзвычайна важнае для правільнага становішча тулава ў час пісьма, дасягаецца пры наяўнасьці моцнай звычкі да правільнага становішча ў час пісьма прысоўваньнем кожны раз крэсла шчыльна да стала, калі садзішся. Але для гэтага неабходна, з аднаго боку, каб у чалавека былі ўжо моцныя, набытыя звычкі правільнага сядзеньня ў час пісьма, з другога боку—лёгкасьць перасоўваньня крэсла да правільнага становішча.

Гэтыя моманты разьвязваюць пытаньне аб вольным стале і крэсле або парце з фіксаванай да стала лавай, пытаньне, якое гэтак горача абгаварвалася сярод пэдагогаў і гігіеністых у апошнія гады.

Аб вольным, нефіксаваным у адносінах да стала, крэсьле магчыма гаварыць толькі ў тым выпадку, калі гутарка ідзе аб *індывідуальным крэсьле*. Пры наяўнасьці парты на два месцы ўся перавага вольнага сядзеньня і індывідуальнага прыстасаваньня адпадаюць, і застаюцца толькі адмоўныя бакі няправільнага ўзаемастановішча паміж сталом і крэслам.

Вольныя крэслы для малодшых узростаў, якія павінны толькі прывучыць дзяцей да правільнага сядзеньня, патрабуюць большай увагі пэдагогаў, што магчыма ў патрэбнай меры толькі з паменшэньнем нагрузкі настаўніка. Ці магчыма чакаць ад настаўніка, які вядзе першую групу ў 50 чалавек, што ён зможа навучыць кожнага вучня правільна садзіцца і толькі потым пачынаць пісаць? Правільнае сядзеньне ў час пісьмовых прац, нават пры наяўнасьці фіксаванага ўслону, патрабуе пільнай увагі да сябе з боку групавода, чаго, да слова, мы нават у гэтым выпадку далёка не заўсёды сустракаем у нашай практыцы.

Пры вялікай рухавасьці і няўседлівасьці маленькіх дзяцей і пры іх няўменьні абыходзіцца добра і спакойна з крэсламі, часта атрымліваецца ў клясах шум, грукат, што павялічвае нэрвовую ўзбуджанасьць дзяцей. Вядома, магчыма і трэба навучыць дзяцей таму, як карыстацца крэслам, як мы гэта бачым хаця-б у дзіцячых садох, але колькі ўвагі гэта патрабуе ад групавода?

Гэтыя меркаваньні прымушаюць нас з упэўненасьцю выказацца за *фіксаваныя* адносна адзін да другога сталы і крэслы ў малодшым концэнтры.

У старэйшым концэнтры другое меркаваньне, зразумела, адпадае. Таму пры ўмове індывідуальных крэслаў мажліва лічыць у II конц. больш мэтазгодным вольныя крэслы. Але і тут неабходна, з мэтай паменшаньня гармідару ў час перасоўваньня, падклейваць лінолеум ці лямец пад ножкі крэслаў.

Застаецца яшчэ разгледзець пытаньне аб сьпінцы крэсла. Мы ўжо казалі, што сьпінка павінна даць апору хрыбетніку, галоўным чынам, у яго паясьнічнай частцы, і ад вышыні паясьнічнай плянкі яна павінна адхіляцца назад пад кутом у 5-10 град., каб даць вышэй апору груднай частцы хрыбетніка ў адпаведнасьці з фізыолёгічным выгібам хрыбетніка. Проблема тэхнічнага выкананьня гэтага патрабаваньня бяз шкоды для мацунку больш-менш вырашана. Розныя ўзоры гэтага разьвязваньня магчыма бачыць на малюнках крэсла Малава, нямецкага крэсла і г. д. Найлепшае ўражаньне ў сэнсе таннасьці і мацунку дае наступны проект: прымацоўваць сьпінку не да лавы, а да стала, які знаходзіцца ззаду, як гэта мы бачым у шмат якіх нямецкіх школах. Значным недахопам гэтага проекту зьяўляецца аднак неабходнасьць строга фіксаванага раду парт, каб кожная наступная лава мела сваю сьпінку ў стале, які стаіць ззаду. З гэтай прычыны мы ня можам рэкомэндаваць гэту модыфікацыю.

На памерах стала і сядзеньня ня будзем асабліва спыняцца. Вывучаныя і вызначаныя яшчэ проф. Эрысманам, яны ў асноўным застаюцца правільнымі і да

сучаснага моманту. На табл. № 1 мы даем памеры, якія прыняты ў наш час катэдрай гігіены выхаваньня ў Маскве (проф. Малькоў). Гл. табл. № 1.

### Памеры школьнай мэблі

Табліца № 1

| №№ сталоў | Групы росту ў см. | Памеры крэсла-лавы: Вышыня сядзеньня над падлогай або прыступкай | Шырыня (пярэдня-задні памер) | Вышыня верхняга берагу сьпінкі над сядзеньнем | Даўжыня лавы на 1 чалав. | Памеры стала: Шырыня стала (пяр.-задн. памер) | Вышыня стала | Даўжыня стала для аднаго | Вышыня пад'ёму дошкі пры 15° нахілу |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | 110—114 | 29,5 | 25 | 18,0 | 35 | 40 | 48,5 | 45 | 7,00 |
| 6 | 115—119 | 31,5 | 27 | 18,5 | 37 | 41 | 51,0 | 45 | 7,75 |
| 7 | 120—129 | 34,0 | 28 | 19,0 | 40 | 44 | 54,0 | 50 | 8,50 |
| 8 | 130—139 | 38,0 | 30 | 20,0 | 45 | 46 | 59,5 | 55 | 9,00 |
| 9 | 140—149 | 41,0 | 33 | 21,0 | 48 | 49 | 64,0 | 58 | 9,75 |
| 10 | 150—159 | 44,0 | 36 | 23,0 | 52 | 52 | 69,5 | 62 | 10,50 |
| 11 | 160—169 | 47,0 | 39 | 25,0 | 55 | 54 | 74,0 | 65 | 11,00 |

Разгледзім яшчэ некаторыя драбніцы конструкцыі. Ворагі парт паказалі, галоўным чынам, на нязручнасьць нахіленай роўніцы стала для некаторых прац і ў паземнай дошцы бачылі галоўную перавагу стала. З другога боку для многіх процэсаў працы—чытаньня, пісаньня—нахіленая роўніца мае бясспрэчныя перавагі. Чытаньне-ж і пісьмо ўяўляе з сябе найбольшы процант школьнай нагрузкі. Выйсьце з становішча было знойдзена ў прыстасаваньні, якое дае мажлівасьць апушчаць нахіленую роўніцу стала-парты з боку, які зьвернуты ў адваротны ад вучня напрамак, да ўзроўню паземнай роўніцы. Прыстасаваньне гэта не складанае, можа быць прыдумана ў розных адменьніках (гл. парту Малава). Асноўныя патрабаваньні да яго—дастатковая трываласьць, нескладанасьць, лёгкасьць у пабудове і апушчаньне абавязкова берагу стала, процілежнага таму, дзе сядзіць вучань. У іншым выпадку зьмяняецца дыфэрэнцыя, г. з., адлегласьць ад сядзеньня да дошкі стала, правільны памер якога надзвычайна важны для кожнай працы.

Дошка стала павінна быць разрэзана ў сярэдзіне, адпаведна двом месцам, каб даць мажлівасьць кожнаму вучню паднімаць або апушчаць яе без залежнасьці ад свайго суседа.

Кіеўскі Інстытут Гігіены Выхаваньня дае адменьнік стала, дзе падстаўкі, што падымаюць дошку стала, павінны даваць нахіл у 15 град. для пісьма і ў 45 град. для чытаньня. У сувязі з гэтым на дошцы стала прырабляецца пляначка, якая трымае кнігу ў час чытаньня (пры нахіле ў 45 град.). Даўжыня яе раўняецца даўжыні алоўка, шырыня каля 4 см., ляжыць супроць грудзей вучня паміж ніжняй і сярэдняй трацінай дошкі, усоўваецца.

Гэткае прыстасаваньне для падвойнага нахілу накрыўкі стала ў 15 і 45 град. ускладняе конструкцыю, тым самым падрывае трываласьць і ў значнай меры перашкаджае наглядаць за дзяцьмі, калі кляса сядзіць за чытаньнем з паднятымі дошкамі сталоў. На падставе ўсіх гэтых меркаваньняў мы лічым прыстасаваньне для другога нахілу ў 45 град. не рацыянальным.

Калі хацець абавязкова захаваць гэтую выгоднасьць большага нахілу для чытаньня, тады лепш за ўсё зрабіць накрыўку стала адкідной у трэці, якая зьвернута да вучня. Тады гэта частка служыць надзвычайна добрым пюпітрам для кнігі, нот і г. д. Пляначка да ніжняга берагу адкінутай дошкі прымацоўваецца вышэйпаказаных памераў нярухома. Гэткая адкідная ніжняя трэць дошкі стала ідзе таксама бясспрэчна за кошт мацунку агульнай конструкцыі, але парушае яе ў меншай меры, чым складанае прыстасаваньне падвойнага пад'ёму. Ап-

роч гэтага, прыстасаваньне найбольш проста і лёгка робіцца і малодшымі дзяцьмі.

Наогул жа трэба сказаць, што ўсялякія прыстасаваньні для зьмены стала і крэсла ў час працы не апраўдваюць сябе. Яны значна падвышаюць кошт, зьніжаюць трываласьць і ў асноўным ня прыводзяць да мэты, бо ўсе гэтыя зьмены ў час працы адбіраюць занадта багата часу. Таму ўсе працэсы працы на практыцы ўсёроўна праводзяцца звычайна ў адным і тым жа становішчы.

Дзеля таго, каб лягчэй рассадзіць дзяцей у пачатку года, неабходна, каб на ўсіх сталох, крэслах і лавах быў напісаны іх нумар і рост, якому яны адпавядаюць. У пачатку году вызначаецца рост усіх дзяцей, і кожнаму гаворыцца № стала і крэсла. Гэты нумар запісваецца таксама ў журнал групавода.

Пры абсталяваньні школы ці асобных клясных пакояў школьнай мэбляй паўстае пытаньне, якую колькасьць кожнага памеру сталоў і крэслаў (або парт) трэба зрабіць.

Інстытут Соцыяльн. Гігіены ў Маскве (проф. Малькоў) дае наступнае разьмеркаваньне нумароў парт:

№ 5— 2,0 проц.
№ 6— 5,0 „
№ 7—32,4 „
№ 8—33,4 „
№ 9—18,8 „
№ 10— 7,1 „
№ 11— 0,3 „

Досьледы антропомэтрычнага габінэту Цэнтральнага Дзіцячага Дыспансэру г. Менску даюць некалькі іншыя дадзеныя для Менску, якія будуць больш дакладнымі для ўсяе Беларусі. Перагледзеўшы дзяцей 1-га концэнтру школ г. Менску, мы знайшлі наступнае іх разьмеркаваньне па роставых групах, адпаведных нумарох услонаў і сталоў.

| №№ парт | Рост у см. | Проц. дзяцей ва ўсіх школах | У тым ліку: У бел. шк. | У тым ліку: У яўр. школ. | Школа 1 ступені гор. Масквы (проф. Малькоў) |
|---|---|---|---|---|---|
| 4 | 105—109 | 1 | 1 | 2 | 2,0 |
| 5 | 110—114 | 5 | 5 | 6 | 5,0 |
| 6 | 115—119 | 11 | 10 | 12 | 32,4 |
| 7 | 120 129 | 34 | 31 | 37 | 33,4 |
| 8 | 130—139 | 28 | 29 | 26 | 18,8 |
| 9 | 140—149 | 16 | 18 | 14 | 7,1 |
| 10 | 150 - 159 | 5 | 6 | 3 | 0,3 |
| 11 | 160—169 | — | — | — | — |

Гэта значыць, што, калі школа разьлічвае, напрыклад, на 400 вучняў у I концэнтры, ёй трэба зрабіць 200 парт на два месцы. З іх павінны быць:

№ 4— 2
№ 5—10
№ 6—22
№ 7—68
№ 8—56
№ 9—32
№ 10—10

Усяго—200 парт

Маючы склад галоўным чынам беларускіх або яўрэйскіх дзяцей, магчыма яшчэ адпаведным чынам зьмяніць гэты падбор нумароў, што зьвядзецца да наступнага:

| | Для беларускіх школ | Для яўрэйскіх школ |
|---|---|---|
| № 4 . . . . | 2 | 4 |
| № 5 . . . . | 10 | 12 |
| № 6 . . . . | 20 | 24 |
| № 7 . . . . | 62 | 74 |
| № 8 . . . . | 58 | 52 |
| № 9 . . . . | 36 | 28 |
| № 10 . . . . | 12 | 6 |
| | 200 | 200 парт |

Для паасобных груп разьмеркаваньне нумароў парт павінна быць наступным:

| | № 4 105—109 | № 5 110—114 | № 6 115—119 | № 7 120—129 | № 8 130—139 | № 9 140—149 | № 10 150—159 | № 11 160—169 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Група „0" . | 7 | 23 | 31 | 37 | 2 | — | — | - |
| „ I . . | 1 | 8 | 20 | 56 | 14 | 1 | — | — |
| „ II . . | — | 1 | 7 | 46 | 37 | 9 | — | — |
| „ III . | — | — | 2 | 24 | 44 | 23 | 7 | — |
| „ IV . | — | — | — | 9 | 38 | 38 | 14 | 1 |

Правільная пабудова сталоў і крэслаў зьяўляецца, бязумоўна, адным з асноўных момантаў рацыянальнай гігіенічнай організацыі асяродзішча, умоў для працы дзяцей. Але гэтым справа далёка яшчэ не абмяжоўваецца.

Трэба з усёй рашучасьцю сказаць, што ў сучасных школах няма патрэбных умоў для разьвіцьця элемэнтарнай гігіенічнай культуры: няма рукамыйнікаў, а дзе гэткія ёсьць, яны служаць як-бы толькі для выгляду, бо пры іх няма ні мыла, ні рушнікоў, няма скрынак для сьмецьця, зусім кепскія вешалкі для вопраткі, брудныя шафы, дзе хаваецца начыньне, няма месца для хаваньня і дастатковай ізоляцыі рэчаў індывідуальнага карыстаньня і г. д.

Між тым абсталяваньне кожнае клясы ўсім неабходным дзеля нормальнага гігіенічнага школьнага жыцьця ня так ужо дорага каштуе, патрабуе толькі ўдумлівых адносін да кожнай дробязі, падліку ўсіх асаблівасьцяй школьнага жыцьця, працы дзіцяці і яго біолёгічных асаблівасьцяй.

Даем ніжэй сьпіс поўнага мэблевага абсталяваньня клясы.

**Сьпіс мэблевага абсталяваньня для групы ў 50 дзяцей**

1. Парты—25 штук або 25 сталоў і 50 крэслаў (разьмеркаваньне нумароў для кожнай групы паказана вышэй).
2. Клясная дошка, скрынка для крэйды, кручок для вільготнай анучкі або місачкі для губкі.
3. Шафа для начыньня і падручнікаў.
4. Рукамыйнік, які можа зьмяшчацца ў клясе, у калідоры або ў асобным пакоі. Па два кранты на кожную клясу. Калі няма вадаправоду з адлівам, дык да рукамыйніка неабходна вядро або памыйніца для бруднай вады і трошкі меншае вядро для чыстай вады. Мыльніца.
5. Вешалкі для індывідуальных ручнікоў з палічкай наверсе для мыла.
6. Скрынка для сьмецьця, лепш за ўсё з фанэры, якую лёгка пераносіць. Горш за ўсё плецены кошык.
7. Плявальніца. Вельмі зручна рабіць яе пры сьцяне, на вышыні 50-60 см. ад падлогі.

Каб не забруджвалася сьцяна, патрэбна каля рукамыйніка і плявальніцы завесіць сьценку цыратай.

8. Графін і міса для зьліваньня вады.
9. Градусьнік.
10. Стол і крэсла для настаўніка.
11. Столік для графіна з гатаванай вадою.
12. Вешалка для верхняй вопраткі, $12\frac{1}{2}$ мэтр. з 50 індывідуальнымі аддзеламі.

Спынімся каротка на пабудове вешалкі.

Вешалка павінна мець індывідуальныя аддзелы для кожнага дзіцяці, шырынёю ня менш 25 см., падзеленыя паміж сабою фанэрай ці, яшчэ лепш, тонкімі дошкамі, бо фанэра лёгка загінаецца і выкідаецца. Наверсе павінна быць паліца для галаўных убораў, таксама падзеленая перагародкамі адпаведна аддзелам унізе. Пры гэтай конструкцыі вопратка дзяцей можа добра прасушвацца і праветрывацца. Агульная вышыня вешалкі $1\frac{1}{4}$-$1\frac{1}{2}$ мэтры. Ладзіць унізе спэцыяльныя аддзяленьні для галёш не патрэбна, бо гэта ствараe толькі месца, дзе зьбіраецца бруд і пыл.

Няма таксама ніякай патрэбы ў дзьверцах, каб зачыняць індывідуальныя аддзяленьні.

Кожны, каму даводзілася абсталёўваць школу мэбляю, ведае, як цяжка атрымаць правільную, адпаведную патрабаваньням гігіены, школьную мэблю. Між тым, сумы, якія трацяцца на абсталяваньне мэбляй школы, зусім не малыя. У бліжэйшыя гады яны значна павялічацца. Неабходна, зразумела, каб гэтыя сумы выдаткоўваліся больш рацыянальна, з найбольшым гігіенічным эфэктам. Гэтага магчыма будзе дасягнуць з цэнтралізацыяй вырабу школьнай мэблі.

Таму трэба організаваць пры АКАсьветы спэцыяльную камісію, якая занялася-б выпрацоўкай дакладных стандартаў школьнай мэблі, плянаваньнем патрабаваньняў на бліжэйшыя гады на падставе досьледаў і падліку інвэнтару, які ўжо ёсьць, праверкай і гігіенічнай ацэнкай мэблі, якая выпушчаецца.

# НА ФРОНЦЕ КУЛЬТУРНАЙ РЭВОЛЮЦЫІ

В. Мухін

## Палітыка-выхаваўчая работа з няпісьменнымі і малапісьменнымі

### Горад і вёска павінны быць пісьменнымі

СССР уступіў у новы пэрыод—у пэрыод соцыялістычнай перабудовы краіны.

У першы этап гэтай пролетарскай рэволюцыі нам прышлося весьці барацьбу на грамадзянскім фронце з нашымі клясавымі ворагамі. Мы прайшлі другі этап разьвіцьця пролетарскай рэволюцыі, этап аднаўленьня гаспадаркі, якая была разбурана імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайной. Зараз мы перайшлі да новага этапу, этапу перабудовы ўсяе народнае гаспадаркі на новых соцыялістычных падставах і ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі.

Будаваць соцыялізм—гэта значыць, раней за ўсё, перабудаваць тэхнічныя асновы нашай гаспадаркі. Ленін навучаў нас, што электрыфікацыя і коопэрацыя ў савецкай краіне—соцыялізм. Для таго, каб перарабіць тэхнічную аснову нашай гаспадаркі, патрэбна замяніць сялянскую саху трактарам, перавесьці дробныя сялянскія гаспадаркі ў колгасы, павялічыць выкарыстаньне электрычнай энэргіі для прамысловасьці і сельскай гаспадаркі,—бяз усяго гэтага нам немагчыма пасоўвацца ўперад як у галіне гаспадарчай, так і культурнай.

Перад партыяй, рабочай клясай і ўсім працоўным насельніцтвам стаіць асноўная задача—дагнаць і перагнаць у тэхнічных і гаспадарчых адносінах перадавыя капіталістычныя краіны.

Уладзімер Ільліч казаў: «хто каго выпярэдзіць—у гэтым усё пытаньне». Вось на падставе чаго мы павінны разгарнуць вялізарнейшую актыўнасьць і організаванасьць працоўных мас для таго, каб узмацніць тэмп разьвіцьця нашай краіны, каб перамагчы клясавага ворага ўнутры краіны і вытрымаць націск з боку сусьветнай буржуазіі ў будучых клясавых бойках.

Усё гэта патрабуе палітычнага перавыхаваньня працоўных мас. На адным тэхнічным навучаньні грамаце далёка не паедзеш, а між тым у нас надзвычайна вялікая колькасьць няпісьменных рабочых і сялян, якіх трэба, апрача тэхнічнага навучаньня, перавыхоўваць.

З усяго вышэйсказанага відаць, што кожны працоўны, які жадае быць на справе сьвядомым будаўніком соцыялістычнай гаспадаркі, павінен быць пісьменным. Ён павінен быць актыўным удзельнікам і абаронцай усіх мерапрыемстваў, якія садзейнічаюць разгортваньню культпаходу.

СНК і ЦВК БССР вынесьлі пастанову, каб на працягу 1930/31 навучальн. году да 1-га мая, зьліквідаваць няпісьменнасьць сярод рабочых прадпрыемстваў, батракоў, рабочых саўгасаў, і да канца 1931 году—сярод усяго апошняга няпісьменнага працоўнага насельніцтва гораду і вёскі да 45 гадовага ўзросту.

Гэта ўсё патрабуе ад членаў партыі, комсамольцаў, членаў профсаюзаў, коопэрацыйных організацый актыўнага ўдзелу ў барацьбе за справу ліквідацыі няпісьменнасьці сярод працоўных праз непасрэдны ўдзел у рабоце па разгортваньні культпаходу і праз грашовую дапамогу.

Пісьменны завод, пісьменны колгас і саўгас—гэта агнявыя лёзунгі сёняшняга дня, гэта наша програма на 1930-31 навучальны год.

## Патрэбна займацца ня толькі тэхнічнай ліквідацыяй няпісьменнасьці

Мы не павінны ставіць перад сабою за мэту толькі тэхнічнае навучаньне грамаце, ад гэтага мала карысьці, бо навучаны толькі чытаць і пісаць хутка прыдзе зноў да нас у лікпункт. Задача кожнага пісьменнага рабочага і селяніна—сыстэматычна працаваць у напрамку паглыбленьня і пашырэньня ведаў, набытых рабочым або селянінам у лікпункце. Калі ў нас будзе дапамога ў гэтай справе з боку шырокіх мас пісьменнага і палітычна сьвядомага насельніцтва, дык гэтым самым мы вырашым пытаньне няпісьменнасьці.

Па пяцігадоваму пляну нашай гаспадаркі ў значнай ступені будзе пашырана наша прамысловасьць, будуць уцягнуты новыя масы рабочых, сярод якіх патрэбна сыстэматычная напружаная работа па паглыбленьні і набыцьці культурнай і палітычнай сьвядомасьці.

Пытаньне тэхнічнай ліквідацыі няпісьменнасьці сярод працоўных мас гораду і вёскі вырашаецца значна прасьцей, чымся палітычная адукацыя тых, што навучаюцца ў лікпунктах. Для практычнай работы ў лікпунктах мы прыцягвалі ў мінулыя гады вучняў сямігодак, студэнтаў, настаўнікаў, агрономаў, дактароў, актыў комсамольскага культпаходу, актыў с/с.

У гэтым годзе мы будзем прыцягваць таксама вышэйпералічаныя катэгорыі для работы ў лікпунктах, апрача іх, мы шляхам курсаў рыхтуем кадры для ліквідацыі няпісьменнасьці з нашага актыву ў кожным раёне. Тысячы ліквідатараў нам павінна даць грамадзкасьць. Калі мы зоймемся мобілізацыяй грамадзкасьці на справу ліквідацыі няпісьменнасьці, дык нам трэба ўлічваць той контынгент кадраў, які мы будзем мець. Вядома, што ў ліку нашага актыву, які прыцягнуты да ліквідацыі няпісьменнасьці будуць дактары, агрономы, інжынэры, політпрасьветработнікі, якіх выкарыстоўваюць для работы ў лікпункце па навучаньню грамаце ня зусім мэтазгодна, значна лепш іх выкарыстаць на рабоце сярод няпісьменнага насельніцтва па правядзеньню гутарак, лекцый, дакладаў. Яны будуць гэтую работу праводзіць з большай заахвочанасьцю.

Наша задача—паставіць работу такім чынам, каб наш актыў культпаходу быў упэўнены, што ён робіць карысную справу, а ня выконвае даручаны яму абавязак, а гэта будзе толькі пры ўмове, калі кожны культармеец будзе займаць адпаведнае месца ў паходзе супроць няпісьменнасьці, згодна яго ведам і здольнасьцям.

Надзвычайна карысна і неабходна праз друк высьвятляць, як праходзіць мобілізацыя спэцыялістых для практычнае работы ў справе культпаходу, як праходзіць мобілізацыя шырокіх мас грамадзкасьці на справу ліквідацыі няпісьменнасьці.

Калі работа будзе праходзіць габінэтным шляхам, дык мобілізаваць належны лік ліквідатараў, патрэбных для політыка-выхаваўчай работы спэцыялістых, мы ня зможам прыцягнуць.

Вопыт работы мінулага году ў Менску досыць яскрава аб гэтым сьведчыць. Калі ў пачатку навучальнага году па ініцыятыве Пэдфаку Б. Дз. У. змаглі прыцягнуць усё студэнцтва для правядзеньня організаванай работы па разгортваньню сеткі лікпунктаў (перавучоту няпісьменнага насельніцтва), дык у далейшым гэтая ініцыятыва Пэдфаку ня была падтрымана з боку друку, і праз пяць дзён работа пашла тым-жа тэмпам, якім ішла раней. Яна праходзіла габінэтным шляхам, жывую ініцыятыву падмянілі зноў бяздушным чыноўніцтвам. Праўда, пазьней у Менску было мобілізавана студэнцтва, якое пры адсутнасьці сродкаў усё-ж праводзіла ў асноўным сваімі сіламі ўсю работу з няпісьменнымі па тэхнічнаму навучаньню грамаце. На пытаньне, ці была наладжана політыка-выхаваўчая работа з няпісьменнымі і малапісьменнымі ў Менску, дзе грунт быў досыць добры для гэтага, трэба адказаць, што яна адсутнічала. Былі спробы наладзіць вечары па вучастках, дзе ставілася мэта пра-

водзіць і політыка-выхаваўчую работу, але-ж уся гэтая работа насіла выпадковы характар, без належнае падрыхтоўкі з боку кіраўнікоў гэтых вечароў. Вядома, што такая работа належных вынікаў не давала. Не атрымаўшы пэўнага задавальненьня ад вечароў, малапісьменны альбо няпісьменны ў другі раз на вечар ня ішоў, і ў гэтым ён быў праў, бо сама форма і сыстэма політыка-выхаваўчай работы з гэтай катэгорыяй насельніцтва мае свае асабліўасьці, патрабуе сваіх мэтодаў і форм, а мы гэтым зусім ня цікавіліся, спадзяваліся «на авось».

**Навошта нам праводзіць політыка-выхаваўчую работу з няпісьменнымі і малапісьменнымі**

Побач з тэхнічным навучаньнем, нам трэба займацца і політычным выхаваньнем няпісьменных і малапісьменных, каб падрыхтаваць сьвядомых, актыўных удзельнікаў соцыялістычнага будаўніцтва краіны.

Аналізуючы работу нашых лікпунктаў як у горадзе, так і вёсцы за 1929-30 г., мы прымушаны зазначыць на такое прыкрае зьявішча, як адсеў да 50% тых, што пачалі наведваць лікпункты з пачатку году. Якія прычыны адсеву? Само навучаньне насіла характар выключна ліквідацыі тэхнічнай няпісьменнасьці— навучыць чытаць і пісаць. Другіх мэт нашы работнікі ня ставілі, ды і не маглі ставіць, бо ім было падчас цяжка справіцца з тым лікам зусім няпісьменных, якіх трэба было вучыць элемэнтарнай грамаце. А праз некаторы час, па невядомай для настаўніка прычыне, пачынаўся адсеў з лікпункту, і да канца навучальнага году заставался вучняў зусім мала.

Прычыны адсеву тыя, што з пачатку навучаньня няпісьменны вельмі часта ня быў зацікаўлены сваім навучаньнем, ня быў належным чынам організаваны для навучаньня.

Давесьці няпісьменнаму, што трэба навучацца, на падставе некалькіх слоў нельга. Трэба з ім праводзіць сыстэматычную політыка-асьветную работу. Трэба паказаць карысьць і неабходнасьць граматы на практычных прыкладах.

Аб мэце політыка-выхаваўчай работы сярод няпісьменных т. Ульянін пісаў у газэце «Савецкая Беларусь» ад 23/VIII-1929 г. № 191 наступнае:

„Аналізуючы мінулую працу па ліквідацыі няпісьменнасьці. трэба зазначыць, што прычынай адсеву вучняў на лікпунктах была адсутнасьць політасьветнай працы.

Дарослага чалавека, ды ў дадатак няпісьменнага, цяжка організаваць на доўгі час у лікпункце ці школе.

Наша задача—падвысіць культурны ўзровень рабочага, селяніна. Калі мы можам гэта зрабіць, дык гэтым самым вырашым задачу культурнага паходу. Злучаючы навучаньне з грамадзка-карыснай працай, мы даём няпісьменнаму мэту. якую ён сам вырашае, і гэтым самым вырашаем пытаньне адсеву. (Адсеў у нас быў у мінулым годзе 42-46 проц.).

Політыка-асьветную працу ў лікпунктах трэба праводзіць поруч з тэхнічным навучаньнем, абавязкова і да канца.

Актыўнасьць працы ў школе соцвыху залежыць ад дашкольнага выхаваньня, а актыўнасьць працы ў лікпункце залежыць ад праведзенай раней і ў часе навучаньня політыка-асьветнай працы.

У працэгу падрыхтоўкі да навучальнага году ў лікпунктах нашым політыка-асьветным установам неабходна правесьці шырокую масавую працу, давесьці няпісьменнаму аб значэньні пісьменнасьці, чаму ён навучыцца ў лікпункце, школе. Ад гэтага будзе залежыць посьпех комплектаваньня лікпунктаў. Трэба правесьці рашучую барацьбу з тым шкодным поглядам. які пануе ў вёсцы: „мой дзед і бацька былі няпісьменныя. але-ж жылі, пражыву і я“. Наша задача—не абмяжоўвацца навучаньнем толькі ў лікпункце, а каб рознымі шляхамі паглыбіць веды таго, хто навучаецца ў лікпункце, прывучыць яго да колектыўнай працы, а гэтаму лікпункт і школа могуць навучыць.

Трэба памятаць, што мы будзем мець справу не з аднолькавым узростам, а разам з тым будуць і неаднолькавыя запатрабаваньні. Вядома, што прыводзіць усіх вучняў да аднаго назоўніка нельга, ды ў гэтым няма і патрэбы. Каб дабіцца эфэкту ў масавай працы. мы не павінны пакідаць бяз увагі запатрабаваньні няпісьменных. Тыя думкі і настроі, якія ўзьнікаюць у няпісьменнай аўдыторыі, неабходна схапіць. даць ім належны напрамак, накіраваць іх па тым шляху, якога патрабуе сёньняшняе жыцьцё. Самае галоўнае, што ў масавай працы павінна заняць першае месца,—гэта політычны зьмест.

Нашым нізавым працаўніком перш за ўсё трэба выбіраць мэтод працы з малапісьменнымі, потым форму,—мэтод працы будзе адыгрываць галоўную ролю.

Віды політыка-асьветнае працы могуць быць розныя. Галоўнымі з іх будуць наступныя: лекцыі, дыспуты, гурткі, спэктаклі, кіно—пастаноўкі, гутаркі. Прымаючы пад увагу, што віды працы ва ўмовах гораду і вёскі неаднолькавыя, я спынюся паасобку на формах гарадзкой і вясковай політыка-асьветнай працы“.

Нам трэба, каб ліквідацыя няпісьменнасьці зьяўлялася ня толькі простай культурнай работай, а карэнным перавыхаваньнем чалавека, бо само навy-

чаньне грамаце без перавыхаваньня ідэолёгіі ня будзе мець сэнсу. Нашу работу лікпунктаў трэба неразрыўна зьвязаць з агульным социялістычным будаўніцтвам краіны.

### Хто павінен займацца організацыяй політыка асьветнай работы

Адлучыць політыка-выхаваўчую рабоботу ад агульнай сыстэмы работы лікпунктаў і школ малапісьменных нельга. Толькі пры шчыльнай сувязі мы зможам дасягнуць конкрэтных вынікаў,—калі ліквідатар і політасьветчык будуць узгадняць сваю работу. Вядома, што ўзгадненьне работы паміж ліквідатарамі і політасьветчыкамі рэч неабходная, але-ж трэба ва ўсіх гарадох, раёнах заняцца пытаньнем наладжваньня сыстэматычнага правядзеньня політыка-асьветнай работы, і гэтым пытаньнем у раёнах павінны заняцца раённыя політыкаасьветныя комітэты, а ў гарадох—саветы «П. Н.», якія зьяўляюцца тым асяродкам, што мобілізуе грамадзкасьць навакол справы ліквідацыі няпісьменасьці. Гарадзкім саветам «П. Н.» трэба стварыць інстытут політасьветпрацаўнікоў па розных галінах, якія, па заяўках кіраўнікоў політасьветнай работы змаглі-б абслугоўваць няпісьменных і малапісьменных.

Культкомісія пры гарадзкім савеце «П. Н.» павінна, улічваючы кадры сваіх работнікаў, будаваць пляны работы так, каб выкарыстаць усе свае сілы. Вядома, што культкомісіі не заўсёды змогуць улавіць усе запатрабаваньні няпісьменных і малапісьменных, ім трэба наладзіць сувязь з культкомісіямі вучасткаў, і апошнія праз гарадзкую культкомісію «П. Н.» будуць атрымліваць неабходны лік працаўнікоў і праводзіць штодзённую работу.

Вучастковы організатар політасьветнай работы павінен адыгрываць галоўную ролю, ён павінен улічваць неабходны кадр работнікаў для свайго вучастку, тыя запатрабаваньні, якія паўстаюць у малапісьменнага і няпісьменнага жыхара.

Схэма пабудовы політасьветнай работы ў гарадох можа быць наступная*):




[1]) Схэма, што прыводзіцца мною, належнымі ўстановамі не абгаворана і не зацьверджана, і таму я падаю яе ў друк як спрэчную.

Нацыянальную работу ва ўмовах Беларусі з няпісьменнымі і малапісьменнымі трэба ўлічваць, і ў рабоце політыка-асьветнай сэкцыі Гарсавету «П. Н.» трэба адвесьці належнае месца нацыянальнай рабоце, забясьпечыўшы правядзеньне яе адпаведнымі кадрамі і дапаможнікамі.

З тае прычыны, што цэнтрам усяе масавай работы будзе зьяўляцца вучастак, трэба гэта мець на ўвазе пры вылучэньні кіраўнікоў політыка-асьветнай работы таго альбо іншага вучастку. Організатарамі гэтае справы трэба вылучаць таварышоў, якія жадаюць і ўмеюць працаваць.

Вучастковы організатар павінен змагчы організаваць самую работу, змагчы выкарыстаць у масавай рабоце таварышоў, якія жадаюць працаваць.

Ндзвычайна пажадана організатарамі вылучаць членаў партыі, комсамольцаў, рабочых, студэнтаў, профэсійны актыў і членаў т-ва «ПН».

### Аб рабоце з кадрамі

Калі да нас прыходзілі ў мінулым годзе культармейцы для работы ў лікпунктах з навучальных установ, дык мы ім даручалі тую ці іншую работу ў лікпункце, групе альбо давалі заданьне навучыць грамаце некалькі асоб, і на гэтым спыняліся. Штодзённага кіраўніцтва іх работай ня было. У нас працавалі ў большасьці студэнты тэхнікумаў і ВНУ, якія ведалі тэхніку навучаньня грамаце, а іншых мэт мы перад імі ня ставілі. Былі выпадкі, што асобныя работнікі самі праводзілі політгадзіну, гутаркі па розных пытаньнях, але ж гэта было, як выключэньне. Зараз перад намі пастаўлена задача: увязаць тэхнічнае навучаньне з політычным перавыхаваньнем малапісьменных і няпісьменных, зьвязаць работу лікпунктаў з бягучым політычным жыцьцём.

Нам трэба з ліку добраахвотнікаў культармейцаў выбраць больш падрыхтаваных для правядзеньня політыка-выхаваўчай работы, трэба даць ім напрамак, як праводзіць гэтую работу, бо мы сустрэнемся з такімі таварышамі, якія маюць добрыя агульныя веды, алеж з асноўнымі задачамі нашай работы будуць незнаёмы, ня будуць ведаць мэтодаў політыка-выхаваўчай работы. У час азнаямленьня з мэтодамі політвыхаваўчай работы, трэба мець на ўвазе тое, што ліквідатары будуць працаваць з дарослымі і малапісьменнымі. Калі яны ня будуць гэтага ўлічваць, дык загадзя можна сказаць, што работа іх ня будзе мець посьпеху. Мы павінны быць зацікаўлены і тым, каб нашы кадры політасьветработнікаў падымалі свой культурна-політычны ўзровень. Гэта мы зможам зрабіць праз організацыю курсаў-нарад, дзе будзем практычна прапрацоўваць пытаньні політ-выхаваўчай работы, і, з другога боку, праз консультацыю культармейцаў пры сэкцыі політасьветработы саветаў «П. Н.».

Організацыяй нарад-конфэрэнцый мы зможам дасягнуць шырокага абмену вопытам практычнае рботы і належнай згуртаванасьці паміж культармейцамі, а консультацыя будзе падставай для разгортваньня самаадукацыйнай работы на падставе назапашанага вопыту працы сярод няпісьменных і малапісьменных.

Штодзённы клопат аб культармейцах з боку савету «П. Н.», штодзённае кіраўніцтва імі дасьць выразнасьць у рабоце, забясьпечыць посьпех нашай справы.

### Лікпункт павінен стаць школай комунізму

Злучэньне навучаньня грамаце з грамадзка-політычным разьвіцьцём вучняў лікпункту, сувязь работы лікпункту з бягучымі кампаніямі, задачамі партыі і савецкай улады, з конкрэтнымі задачамі гаспадарчага і культурнага будаўніцтва—чарговая задача нашых лікпунктаў і школ малапісьменных на 1930-31 год, —такую думку выказаў III пленум ЦС т-ва «П. Н.».

Мы павінны паставіць сабе галоўную задачу—далучыць нашых вучняў да актыўнага ўдзелу ў грамадзкім жыцьці, навучыць іх стаць сьвядомымі будаўнікамі нашай гаспадаркі.

Якімі шляхамі праз лікпункт мы зможам праводзіць тую альбо іншую політычную работу?

Спынімся на некалькіх прыкладах. Перад намі пасеўная кампанія. Лікпункт

не павінен прайсьці міма гэтай работы. Кіраўнік павінен организаваць сваіх вучняў для ўдзелу ў гэтай кампаніі, яму трэба вызначыць тое месца, якое павінен заняць лікпункт у цэлым і кожны вучань паасобку, згодна тых плянаў, якія ёсьць у с/с.

Адбываецца колектывізацыя вёскі. Няпісьменная частка вёскі, дзякуючы сваёй несьвядомасьці, асабліва рашуча выступае супроць колектывізацыі. Справа кіраўніка лікпункту растлумачыць сваім вучням, а праз іх і апошнім членам іх сем'яў аб перавагах колектыўнай гаспадаркі перад індывідуальнай.

Праходзіць месячнік зьберажэньняў. Кіраўнік лікпункту таксама можа паставіць перад вучнямі задачу, каб кожны з іх лішкі грошай захоўваў у касах ашчаднасьці.

Наогул ніводная задача, ніводная кампанія не павінна прайсьці міма лікпункту, міма школы малапісьменных.

Настаўнікі і кіраўнікі лікпунктаў павінны займацца гэтым пытаньнем пры складаньні сваіх гадавых плянаў работы, быць падрыхтаванымі для гэтай работы.

## Палітгадзіна ў лікпункце

Палітгадзіна ў рабоце лікпунктаў павінна адыграць рашучую ролю, зьявіцца тым сродкам, які перабудуе ўсю нашу работу лікпунктаў на новых падставах—масавасьці палітычнага выхаваньня. Мы павінны паставіць перад сабою мэту перавыхаваць прышоўшых да нас навучацца няпісьменных у духу марксызму-ленінізму, уцягнуць іх у грамадзкую работу. У нашых програмах і падручніках адведзена значнае месца матар'ялу, які палітычна чалавека перавыхоўвае. Пры ўмелым кіраўніку лікпункту гэта дасягаецца ня так цяжка, але ж адмовіцца ад правядзеньня ў дэкаду двух заняткаў па пытаньнях бягучага палітычнага жыцьця нельга. Палітгадзіна дасьць магчымасьць няпісьменнаму падвысіць сваю сьвядомасьць, будзе садзейнічаць орыентацыі ў штодзённым жыцьці.

Вядома, што пры правядзеньні палітгадзіны трэба ўлічваць і програмны матар'ял, які прапрацоўваецца ў лікпункце, бо калі ня будзе гэтае ўвязкі, дык вынікі ад такой работы не заўсёды будуць добрыя. Сувязь паміж програмай лікпункту і палітгадзінай можна ажыцьцяўляць такім чынам: калі па програме прапрацоўваецца пытаньне аб Чырвонай арміі, то ў час правядзеньня палітгадзіны трэба спыніцца на Чырвонай арміі і яе задачах, якую дапамогу зможа аказаць працоўнае насельніцтва Чырвонай арміі, Асоавіяхім і яго мэта, удзел у рабоце гэтай організацыі працоўных. Альбо прапрацоўваецца згодна програмы тэма аб шкоднай ролі духавенства і сэктанцтва ў часы грамадзянскай вайны і мірнага будаўніцтва. Праводзячы палітгадзіну, трэба спыніцца на крыжовым паходзе супроць СССР. Пры азнаямленьні з географічным палажэньнем БССР на палітгадзіне магчыма і трэба вывучыць плян разьвіцьця прамысловасьці па пяцігодцы і г. д.

Вядома, што браць як закон увязку програмнага матар'ялу з палітгадзінай нельга, бо мы можам сустрэцца з такім зьявішчам, што жыцьцё патрабуе высьятленьня таго альбо іншага моманту з палітычнага жыцьця, якое ўвязаць з програмным матар'ялам не заўсёды бывае магчыма.

Гэтае пытаньне зараз зьяўляецца актуальнымі і яго трэба на чарговых занятках палітгадзіны распрацаваць. Асоба, якой будзе даручана праводзіць заняткі з няпісьменнымі і малапісьменнымі, павінна распрацаваць плян сваіх заняткаў, палітгадзіну па аднэй програме.

Трэба ўлічваць, што аднаго пляну зусім мала для сыстэматычнага і пасьпяховага правядзеньня палітгадзіны, трэба наладзіць, апрача гэтага, і сыстэму работы, увесьці некаторую агульнасьць у гэтай рабоце ва ўсіх лікпунктах. Вядома, што будзе памылкай, калі мы для рабочага і селяніна будзем праводзіць палітгадзіну па аднэй програме.

Рабочы зьяўляецца палітычна больш сьвядомым, больш організаваным, чымся селянін і з ім прыдзецца прапрацоўваць матар'ял больш складаны, чымся з селянінам.

Неабходна ўвесьці ў сыстэму распрацоўкі тэзісаў і рассылку іх для заняткаў кіраўніком палітгадзіны, як кіруючы ма-

тар'ял, зьбіраць кіраўнікоў для абмену вопытам работы і інструктаваньня.

Каму даручаць кіраваньне політгадзінай у лікпункце? Вядома, што гэту справу трэба даручаць членам партыі і комсамолу, політычна разьвітым і тэарытычна падрыхтаваным.

Кіраўнік політгадзіны, атрымаўшы тэзісы, не павінен на гэтым спыніцца, быць упэўненым, што матар'ял знаёмы і рыхтавацца ня трэба. Неабходна да кожных заняткаў рыхтвацца. Для кіраўнікоў трэба наладзіць консультацыі, колектыўныя і індывідуальныя. Гэта ў значнай ступені дапаможа палегчыць іх работу.

Правядзеньне політгадзіны ў вёсцы патрабуе вялікай увагі з боку раённых кіруючых організацый, больш мэтодычнага і організацыйнага кіраўніцтва, бо там мы ня знойдзем належнага ліку адпаведных кадраў, літаратуры і консультантаў; але ж гэта зусім ня значыць, што правядзеньне політгадзіны там магчыма апусьціць, заняцца толькі тэхнічным навучаньнем грамаце. Там трэба праводзіць політгадзіну абавязкова.

Праўда, там програма будзе мець другі характар. У адпаведнасьці з тымі задачамі, якія пастаўлены партыяй па перабудове сельскай гаспадаркі, галоўнымі пытаньнямі будуць: саўгаснае і колгаснае будаўніцтва, коопэраваньне вёскі, сувязь гораду з вёскай, жывёлагадоўля.

У тых выпадках, калі мы маем раёны і сельсаветы суцэльнай колектывізацыі, пытаньне кадраў выраіпаецца проста, там заўсёды знойдуцца культурныя сілы, якія змогуць правесьці політгадзіну, кіраваць гэтай рботай пры дапамозе РК КП(б)Б. Там жа, дзе мы будзем сустракацца з індывідуальным сэктарам с. гаспадаркі, нам з кадрамі для правядзеньня політгадзіны будзе цяжка. Прыдзецца мобілізаваць усю партыйную і савецкую грамадзкасьць, выкарыстаць комсамольскі актыў. Гэтая работа павінна праводзіцца не стыхійна, а пры належным кіраўніцтве з боку райкому партыі.

Правядзеньне сэмінараў з кіраўнікамі політгадзін у такіх выпадках павінна прыняць абавязковы і сыстэматычны характар. Трэба наладзіць сувязь з гарадзкім цэнтрам і выкарыстаць яго мэтодычныя матар'ялы для правядзеньня політгадзіны. Трэба прыцягнуць да гэтай работы шэфаў гораду, прызначыць паседжаньні сэмінараў к часу іх прыезду. Закоўваць політгадзіну ў пэўныя програмныя рамкі ва ўмовах вёскі нельга, трэба падбіраць матар'ял у адпаведнасьці з мясцовымі ўмовамі.

Правядзеньне політгадзіны ў лікпунктах гораду і вёскі патрабуе значнай колькасьці падрыхтаваных кіраўнікоў, таму мэтазгодна будзе злучыць два-тры лікпункты, тэрыторыяльна блізкія. Аднак, кіраўнік зможа праводзіць у такіх выпадках тую работу, дзе патрэбны былі-б тры кіраўнікі.

Трэба спыніцца на самым мэтодзе заняткаў політгадзіны. Вопыт у гэтай рабоце сьведчыць, што ўжываць лекцыі нельга, бо малапісьменнай аўдыторыі яны могуць быць незразумелымі, хаця кіраўнік можа быць і добра падрыхтаваным.

Правядзеньне політгадзіны павінна насіць характар гутаркі, выклікаць актыўнасьць у слухачоў, бо мы можам спаткацца з такімі заявамі, што слухачы будуць адказваць сьціела, не пашыраючы сваю думку. З такою зьявай трэба змагацца.

Кіраўнік політгадзіны павінен, зрабіўшы ўступную гутарку, працягам 10-12 хв., паставіць некалькі вузлавых пытаньняў, на якія дамагацца атрымліваць колектыўныя адказы ад слухачоў, напраўляючы і дапамагаючы даваць адказы. К канцу гутаркі кірўнік політгадзіны павінен падагуліць прапрацаваны матар'ял, удасканаліць адказы слухачоў.

Надзвычайна карысна, калі ў час правядзеньня політгадзіны кіраўнік будзе карыстцца малюнкамі, дыяграмамі, запісам характэрных лічбаў на дошцы.

Пачынаючы гутарку, кіраўнік павінен зьвязаць яе з папярэдняй гутаркай, заўсёды імкнуцца да замацаваньня матар'ялу, што вывучаецца.

**Кіно, тэатр, школа, клюб, газэта і кніжка павінны быць мобілізаваны для нашай работы**

Спыняючыся на праведзенай політгадзіне ў лікпунктах і школах малапісьменных, трэба адзначыць немалую ролю нашых політасьветных установ, якую яны могуць адыгрываць у барацьбе за перавыхаваньне і падвышэньне культурнага ўзроўню няпісьменных і малапісьменных вучняў.

За рэдкім выключэньнем, нашы клюбы, бібліотэкі, школы і тэатры былі ў баку ад агульнай масавай работы з няпісьменнымі, а былі выпадкі (ў Бабруйску), што з клюбу будаўнікоў няпісьменных выганяла адміністрацыя клюбу, ёй «шкодзілі» няпісьменныя.

Праглядаючы работу клюбаў, ня будзе памылкай, калі скажам, што яны ня маюць у сваёй большасьці організаванага наведвальніка, а мы сваёй арміяй няпісьменных зможам даць організаванага наведвальніка, сярод якога магчыма праводзіць сыстэматычную работу. Кажучы аб гарадзкіх клюбах, трэба прыняць пад увагу, што ў нас навучаюцца члены профэсійных організацый, якіх мы павінны ўцягваць у члены клюбу. Такім чынам, прыводзячы няпісьменных у клюб, мы паступова робім іх членамі клюбу, актывізуем іх праз клюб, падвышаем культурны ўзровень тымі сіламі і сродкамі, якія мае клюб, павялічваем контынгент наведвальнікаў клюбу.

Вядома, што сёньняшняя работа клюбаў ня зможа задаволіць малапісьменнага і няпісьменнага наведвальніка, яна патрабуе прыстасаваньня да культурнага ўзроўню і запатрабаваньня малапісьменнага. Гэта ня значыць, што ўсю работу клюбу трэба спрасьціць, каб яна адпавядала толькі запатрабаваньням малапісьменных, зусім выкінуўшы з пляна ў абслугоўваньне тых наведвальнікаў, якія раней абслугоўваліся клюбам. Трэба паставіць справу так, каб масавая работа клюбу адначасова была прыстасавана да першых і другіх, і гэта магчыма зрабіць. Антырэлігійная работа, работа рабкораўскіх гурткоў, харавых, кіно-пастаноўкі, лекцыі (популярныя) магчыма праводзіць адначасова з малапісьменнымі і няпісьменнымі. Клюбныя работнікі, работнікі профэсійных саюзаў, магчыма, будуць супярэчыць супроць такой пастаноўкі пытаньня, але-ж ім трэба памятаць аб тым, што ў іх работу ўваходзіць, як галоўная задача, перавыхаваньне працоўных мас, падвышэньне іх культурнага ўзроўню.

Клюб павінен зьявіцца організатарам політычна-выхаваўчай работы.

Перад нашымі кіраўнікамі часта паўставала пытаньне аб вызначэньні спэцыяльнага дню ў клюбах для малапісьменных. Гэтага рабіць ня трэба, трэба дамагацца таго, каб вучні лікпунктаў і школ малапісьменных удзельнічалі ў клюбнай рабоце адначасова з членамі клюбу, прывучаліся да колектыўнае работы праз сходы ў клюбах, наведваньне гурткоў.

Ва ўмовах нашых гарадоў магчыма прымацоўваць лікпункты да клюбаў, захоўваючы вытворчы прынцып. Вытворчы прынцып будзе значна палягчаць работу, тут мы будзем мець большую згуртаванасьць агульных інтарэсаў на падставе вытворчасьці.

Мы маем ня мала выпадкаў, калі вучні другога концэнтру навучаюць няпісьменных, але ж увязкі работы лікпункту з той грамадзка-карыснай работай, якую праводзіць школа, у нас няма. Трэба рашуча дамагацца, каб лікпункты былі зьвязаны з школамі соцвыху ня толькі праз правядзеньне вечароў; вучні школы павінны жыць тымі інтарэсамі, якімі жыве рабочы, зблізіцца з штодзённым жыцьцём рабочага, дапамагаць рабочаму ў падвышэньні свайго культурнага ўзроўню. У лікпунктах будуць навучацца ня толькі рабочыя, а і асобы з мяшчанскімі настроямі; вядома, могуць быць выпадкі, калі вучням школ цяжка будзе утрымацца супроць таго напору дробнабуржуазнай плыні, якая можа мець месца, але ж настаўнікі школы, комсамольскія, піонэрскія організацыі, што кіруюць правядзеньнем грамадзка-карыснай работы школы, павінны ўзяць на сябе абавязак штодзённа праводзіць сумесную работу вучняў школы і лікпункту, кіраваць ёй, дапамагаць культармейцам-вучням, даваць консуль-

тацыі, праводзіць гутаркі, лекцыі і г. д.

Аб увязцы работы школы з лікпунктам кажа жыцьцё, школа павінна дапамагчы лікпункту ў пытаньні разгортваньня грамадзкай работы, бо яна мае вопыт.

## Чырвоныя куткі, чытальні і бібліотэкі

Сетка чырвоных куткоў, бібліотэк і чытальняў у нашых гарадох пашырана досыць значна. Гэты тып устаноў нельга пакінуць у баку ад нашай работы. Ня будзем спыняцца на ўдзеле гэтых устаноў у рабоце па разгортваньні культпаходу, а зоймемся разглядам пытаньня, якім чынам зможа чытальня, чырвоны куток і бібліотэка праводзіць політычна-выхаваўчую работу сярод няпісьменных і малапісьменных. Галоўнае, чым гэтыя ўстановы змогуць абслужыць нашых вучняў, гэта—газэтай і кніжкай.

Як карыстацца газэтай, даецца азнаямленьне ў лікпункце згодна програмы; наша задача—ня толькі навучыць вучня карыстацца газэтай, але ж і прывучыць яго да сыстэматычнага чытаньня газэты. Гэтым і павінны заняцца бібліотэка, чытальня і чырвоны куток.

Апрача азнаямленьня з газэтным матар'ялам, нам трэба прывучыць вучняў і да мастацкай літаратуры, бо нашы падручнікі пытаньню эстэтычнага выхаваньня мала адводзяць месца. Гэты прабел трэба папоўніць бібліотэкам, чытальням і чырвоным кутком. Трэба навучыць вучняў самастойна карыстацца кніжкай, знаходзіць асноўнае ў кніжцы.

У час заняткаў на лікпункце газэты і кніжкі трэба выкарыстоўваць для галосных чытак, пераказваньня прачытанага. Настаўнік лікпункту на першых кроках павінен організаваць галосныя чыткі кніжак і газэт, а ў далейшым гэтую справу магчыма даручыць асобам, якія змогуць выразна чытаць, сьцісла пераказваць прачытанае. Гэтых чытачоў мы зможам мобілізаваць з ліку вучняў II концэнтру школ, студэнтаў тэхнікумаў. Пры мобілізацыі трэба выбіраць тых, якія змогуць уважліва адносіцца да сваіх абавязкаў, жыць гэтай справай.

Газэтай для малапісьменнага ў нас можа зьявіцца «Рабочий» і «Беларуская Вёска». Спэцыяльнай газэты для малапісьменнага чытача ў нас, на вялікі жаль, пакуль што няма. Да падбору кніжак для малапісьменных трэба падыходзіць больш асьцярожна, бо калі адразу будзе падабраны матар'ял, які ня выклікае зацікаўленасьці з боку чытачоў, то галосныя чыткі ў далейшым ня будуць мець посьпеху, слухачы нават ня будуць жадаць заставацца на чытцы.

Часткова магчыма выкарыстоўваць школьныя чытанкі, магчыма браць літаратуру сучасную, але ж браць такую, каб закончыць чытаньне апавяданьня за адзін раз, а ў далейшым, калі галосныя чыткі адваююць сабе належнае месца, падбор кніжак будзе зьяўляцца другарадным пытаньнем.

Бібліотэкі клюбаў, чырвоныя куткі, чытальні павінны вылучыць спэцыяльную літаратуру для малапісьменных, як перасовачны фонд. Праўда, добра наладжаныя чыткі газэт і кніжак у час навучаньня канчаткова не вырашаюць пытаньня замацаваньня звычак чытаць кніжку і газэту. Скончыўшы лікпункт, наш малапісьменны зьнікаў з нагляду настаўніка, ён, умеючы добра карыстацца кніжкай і газэтай, у хуткім часе забываўся на ўсё гэта дзякуючы хатнім умовам, адсутнасьці адпаведнай газэты і кніжкі і зноў рабіўся няпісьменным. Добрым сродкам барацьбы супроць гэтага можа зьявіцца кніжка і газэта, якія трэба прасунуць на кватэру малапісьменнага.

Калі ў час навучаньня ў лікпункце мы прыцягвалі вучняў і актыў у якасьці чытачоў, дык зараз перад намі паўстае пытаньне аб стварэньні інстытуту кніганош.

Малапісьменны не заўсёды наведвае бібліотэкі і чытальні. Задача кніганош—прынесьці кніжку на кватэру да малапісьменнага.

Кепскай будзе такая работа, калі кніганоша абмяжуецца толькі дастаўкай кніжкі і абменам яе на другую. Яго абавязак правесьці гутарку аб прачытаным, высьветліць, што незразумела для малапісьменнага. Некаторыя звычкі чытань-

ня кніжкі малапісьменныя атрымаюць у лікпункце, сваю работу кніганоша павінен распачаць ў той час, калі лікпункты і школы малапісьменных працуюць, паступова пераходзячы да абслугоўваньня цэлага раду лікпунктаў і школ.

Ён зможа тут азнаёміцца з запатрабаваньнем чытачоў, выявіць нахілы кожнага паасобку да таго ці іншага пытаньня, і калі лікпункты скончаць сваю работу, яму будзе значна лягчэй абслугоўваць свой вучастак няпісьменных. Пасьля спыненьня заняткаў у лікпунктах, работа кніганош становіцца асабліва адказнай. Добрае абслугоўваньне кніжкай малапісьменнага не дае магчымасьці яму зноў стаць няпісьменным. Улічваючы адказнасьць работы, якая ўскладаецца на кніганош, нашым клюбным і гарадзкім бібліотэкам трэба асаблівую ўвагу зьвярнуць на мэтодычную работу з кніганошамі праз індывідуальную консультацыю, праз скліканьне конфэрэнцыі для абмену вопытам работы і праз правядзеньне гутарак аб падборы кніжак, дачы парад чытачу і г. д.

Бібліотэкам, чырвоным куткам і чытальням трэба вылучыць для малапісьменнага чытача спэцыяльны фонд, даць кніганошам належны лік кніжак для абслугоўваньня яго чытачоў.

Правядзеньне работы з малапісьменнымі праз кніганош ня зможа застацца ў баку ад бібліотэчнага паходу. Неабходна дамагацца ў час разгортваньня бібліотэчнага паходу ўключэньня ў пляны абслугоўваньня малапісьменных слухачоў лікпунктаў кніжкай, вылучэньне перасовачнага фонду кніжак для іх з гарадзкіх і профэсійных бібліотэк.

Нам ня трэба пры гэтым забывацца і пра насьценную газэту. Пры організацыі лікпункту і школы малапісьменных неабходна прыняць адпаведныя захады кіраўніку лікпункту аб стварэньні газэты, пры актыўным удзеле вучняў, прывучаючы іх выкладаць свае думкі на паперы праз насьценную газэту. Праз насьценную газэту слухачы змогуць выказваць свае думкі аб рабоце прадпрыемства, ЖАКТ'у, кооперэтыву, лікпункту. Матар'ял для газэты будзе самы разнастайны. На першых кроках нашым культармейцам прыдзецца зьвярнуць нямала ўвагі на работу сярод будучых сьцянкораў і рабкораў, але-ж паступова будзе выхоўвацца і гуртавацца навакол насьценнай газэты актыў. Мы павінны ставіць мэту—прывучаць нашых сьцянкораў пісаць ня толькі ў газэту лікпункту і школы, а даваць матар'ял у акруговую і цэнтральную газэту.

Пры падагуленьні работы лікпунктаў, выстаўка насьценных газэт павінна зьявіцца тым люстрам, якое дае ўзор работы і настрояў вучняў кожнага лікпункту паасобку, што зьяўляецца для нас досыць каштоўным матар'ялам.

У нас могуць быць зьявы, што сьцянкор, даўшы матар'ял у газэту адзін раз, потым становіцца пасыўным. Часта гэта тлумачыцца тым, што на яго допіс ня было належнага рэагаваньня, таму рэдакцыйнай колегіі трэба даваць адказы, што зроблена па тым ці іншым допісе, каб сьцянкор бачыў, што да яго голасу прыслухоўваюцца.

Закранаючы пытаньне наконт абслугоўваньня клюбамі вучняў лікпунктаў і школ малапісьменных, мы спынімся на момантах увязкі масавай работы клюбу з запатрабаваньнямі малапісьменных і з матар'ялам програмы лікпунктаў.

Нельга апусьціць з нашай работы такі сродак, як кіно. Трэба дамагацца, каб для малапісьменных і няпісьменных у клюбах наладжваліся спэцыяльныя кіно-пастаноўкі, трэба ўлічыць тое, што кіно-пастаноўкі зьяўляюцца магутнай зброяй для выхаваньня мас, таму і самі пастаноўкі трэба выкарыстоўваць, як адзін з галоўнейшых відаў політыка-асьветнай работы. Кожная кіно-пастаноўка дасьць магчымасьць культармейцам праводзіць з няпісьменнымі і малапісьменнымі надзвычайна многа гутарак, узбагаціць програму новым матар'ялам.

Прывядзем некалькі прыкладаў. Прапрацоўваючы пытаньне соцыялістычнага будаўніцтва, мы можам паказаць у кіно наступныя фільмы: «Песьня вясны», «Беларусь», «Заваёваная Зямля», «Пяцігадовы плян», альбо пры вывучэньні пытаньня клясавай рэволюцыйнай барацьбы, мы з посьпехам можам пака-

заць вучням наступныя фільмы: «Готэль Савой», «Касьтусь Каліноўскі», «Мяцеж», «Хвоі гамоняць», «Лясная быль», «Масква ў кастрычніку», «Трыпольская трагедыя» «Крыж і маўзэр» і г. д.

Гэтыя фільмы дадуць нам надзвычайна багата матар'ялу для програмнай прапрацоўкі, для правядзеньня гутарак у час палітгадзіны, для чыткі мастацкай і рэвалюцыйнай літаратуры. Яны выклічуць зацікаўленасьць з боку малапісьменных да цэлага шэрагу програмных пытаньняў, якія пры звычайнай распрацоўцы для вучняў здаюцца няцікавымі. Увязваючы програмны матар'ял з кінофільмай, магчыма будзе разгарнуць шырокую гутарку аб тым, што вучні бачылі ў кіно, выкарыстаць усё неабходнае са зьместу фільму для палітычнага і агульнага разьвіцьця вучняў.

Вядома, што мы павінны ставіць задачу выкарыстаць кіно ня толькі клюбныя, але ж і стацыянаркі Белдзяржкіно. Неабходна наладзіць колектыўныя наведваньні кіно.

З адміністрацыяй кіно трэба дамовіцца аб прадстауленьні скідкі для малапісьменных наведвальнікаў кіно. За лік іх у далейшым значна павялічыцца круг наведвальнікаў кіно. Адміністрацыя кіно, прапускаючы нашых вучняў, адначасова дапамагае нам праводзіць палітыка-асьветную работу.

Значна пашыраныя кіно-перасоўкі ва ўмовах вёскі ўсё-ж ня змогуць абслужыць у сыстэматычным парадку ўсяе няпісьменнай і малапісьменнай арміі, якая будзе ў нас навучацца. Але гэта ня значыць, што кіно-перасоўкі могуць праяжджаць міма лікпункту, ня робячы там пастановак. Лікпункты, школы малапісьменных павінны абслугоўвацца кіно-сэансамі ў першую чаргу, ім трэба даць перавагу перад іншымі гледачамі вёскі, бо на вёсцы праводзіць тую палітыка-выхаваўчую работу, аб якой казалася раней, не заўсёды магчыма, а кіно больш даступна з складаных відаў палітыка-выхаваўчай работы.

Тэатрам мы ня зможам абслугоўваць нашых няпісьменных і малапісьменных у такой колькасьці, у якой зможам абслугоўваць кіно-сэансамі, але трэба частцы слухачоў даць магчымасьць наведваць тэатр, асабліва тым, якія пры клюбах удзельнічаюць у харавых, драматычных і музычных гуртках. Пастаноўкі, нават няўдалыя, сіламі вучняў лікпункту, адыграюць немалую выхаваўчую ролю ня толькі сярод удзельнікаў пастаноўкі, але-ж і сярод гледачоў з ліку вучняў лікпункту. Пры разгортваньні драматычных, харавых і музычных гурткоў пры клюбах, у якіх будуць удзельнічаць вучні лікпунктаў і школ, работа зможа праходзіць належным чынам, там будуць адпаведныя ўмовы, будзе спэцыяльны кіраўнік. Але можа быць, што вучні пажадаюць стварыць драматычны або харавы гурток, а клюбу няма, няма належнага памяшканьня, аднак гэта ня можа і не павінна спыніць ініцыятывы вучняў. Трэба праводзіць заняткі ў тым памяшканьні, дзе займаецца лікпункт, кіраўніком прыцягнуць з ліку культармейцаў асобу ведаючую справу гуртковай драматычнай або музычнай работы.

*(Канец будзе).*

# ПАШЫРЫМ ЗАВОЧНАЕ НАВУЧАНЬНЕ

М. Радзеўскі

## Тварам да завочніка

(*Вынікі конфэрэнцыі завочнага пэдтэхнікуму*)

Сярод чарговых пытаньняў, якія выплываюць з савецкай асьветнай палітыкі, усё больш і больш высоўваюцца пытаньні завочнага навучаньня і самаадукацыі шырокіх настаўніцкіх мас. Вывучэньне павольных пакуль-што крокаў, якімі прасоўваецца завочнае навучаньне ў самыя глухія куткі вёскі, дзе працуе наш настаўнік, ёсьць актуальнае заданьне цяперашняга часу. Кожны, самы маленькі, досьлед у гэтай справе павінен быць прааналізаваны і дасьледваны. Падагульняючы асобныя спробы нашай работы, мы гэтым самым даем мажлівасьць удасканаліць спосабы, якія ўзмацняюць справу завочнага навучаньня, да таго часу, пакуль яна зойме пэўнае месца ў сыстэме асьветы.

Завочны пэдтэхнікум організаваны НКА ў красавіку месяцы 1929 г. у складзе 2-х аддзяленьняў: агульнага, з 3-гадовым тэрмінам навучаньня, і спэцыяльнага, з 2-гадовым курсам.

Настаўніцтва адгукнулася на гэтую новую спробу, якая мае дапамагчы яму папоўніць сваю агульную і спэцыяльную адукацыю і аформіць сваё прававое становішча. На працягу першага году завочны пэдтэхнікум ахапіў навучаньнем 329 настаўнікаў. Увесь склад завочнікаў можна характарызаваць у процантных адносінах наступнымі лічбамі:

*Па полу*: мужчын —51,3%, жанчын—48,7%.

*Па партыйнасьці:* членаў і канд. КП(б)Б—3,3%, членаў і канд. ЛКСМ—7,3% і беспартыйных—89,4%.

*Па пэдстажу:* ад 1 да 5 год—46,5%; ад 6 да 10 г.—26,1%; ад 11 да 15 год—14,4% і звыш 15 год—13%.

*Па ўзросту:* ад 18 да 30 год—53,8%; ад 31 да 40 год—38,2%; звыш 40 год—8%.

*Пасада:* настаўнікаў пачатковых школ—91,7%; загадчыкаў школ—4%, іншых (бібл., лікв. няпісьм.)—4,3%.

*Па адукацыі:* спэцыяльна-пэдагогічная адукацыя дарэволюцыйнага часу--34,4%; сярэдняя агульная адукацыя—31,2% і няскончаная сярэдняя—34,4%.

Гэтыя лічбы сьведчаць, што:

а) значны процант вясковых настаўнікаў (65,6%), якія ня маюць спэцыяльнай пэдагогічнай адукацыі, жадаюць падвысіць сваю кваліфікацыю і аформіць сваё прававое становішча праз завочны пэдтэхнікум;

б) галоўную частку завочнікаў складаюць настаўнікі пачатковых школ і пераважна актыў масавага настаўніцтва;

в) досыць значны процант (46%) складаюць настаўнікі, якім больш за 30 год і якія ўжо ня могуць паступіць у стацыянарныя пэдтэхнікумы;

г) зусім слабое ядро партыйцаў і камсамольцаў, якое складае 10,6%;

д) недастаткова ўцягненьне жанчын у завочны пэдтэхнікум (48,7%) у той час, калі жанчыны сярод настаўніцтва складаюць значную большасьць.

Завочны пэдтэхнікум на працягу першага году свайго існаваньня вышаў з перыоду організацыйнага проектаваньня і юрыдычнага афармленьня і распачаў сталую навучальную працу сярод завочнікаў.

Для падагуленьня гадавой працы завочнага пэдтэхнікуму была склікана ўсебеларуская канфэрэнцыя завочнікаў, якая адбылася пры Менскім белпэдтэхнікуме з 19 па 25 чэрвеня.

Прымаць удзел у конфэрэнцыі маглі ўсе завочнікі як спэцыяльнага, так і агульнага аддзяленьняў.

На конфэрэнцыю прыехала 47 завочнікаў (7%).

Па месцы працы—выключна вясковыя настаўнікі пачатковых школ.

Конфэрэнцыя паставіла перад сабой наступныя здачы:

1. Асноўная задача—лябораторным або сэмінарскім шляхам прапрацаваць найбольш складаныя тэмы асобных прадметаў і праконсультаваць удзельнікаў конфэрэнцыі па ўсім програмным матар'яле заданьняў.

2. Спрабаваць праводзіць конфэрэнцыі як форму дапамогі ў вучобе завочнікаў, каб на далейшы час на падставе вопыту арганізаваць цэлую сыстэму дапамогі завочнікам на мясцох.

3. Прыцягнуць увагу да справы падвышэньня кваліфікацыі праз завочнае навучаньне партыйных і профэсыянальных організацый і ўцягнуць у актыўную працу групкомы і мясцкомы саюзу працасьветы.

4. Наладзіць жывую сувязь і ўзьняць сваячасова настрой сярод курсантаў завочнага пэдтэхнікуму, якія пачалі ўжо сумнявацца ў сваіх сілах і жыцьцёвасьці завочнага пэдтэхнікуму.

5. Вывучаць стан (умовы і мэтоды) завочнай работы на мясцох і жаданьні ў гэтых адносінах саміх завочнікаў.

Усе гэтыя сур'ёзныя задачы прышлося вырашыць за 6 дзён—48 рабочых гадзін.

У асноўным конфэрэнцыя з пастаўленымі задачамі справілася, і ўдзельнікі конфэрэнцыі атрымалі як моральную, так і акадэмічную карысьць.

Зьместам мэтодычнай работы ўдзельнікі конфэрэнцыі задаволены: праведзеныя лябораторныя заняткі, іспыты і консультацыі па програмнаму матар'ялу заданьняў наблізілі завочны пэдтэхнікум да непасрэднай працы з вясковым настаўніцтвам і паказалі завочнікам, як трэба працаваць над падвышэньнем свае кваліфікацыі, і высьветлілі пытаньні вучэбнага і вытворчага характару, якія здаваліся няяснымі.

На гэтай конфэрэнцыі завочнікі адчулі сябе не адзіночкамі, дзе кожны для сябе прыватным парадкам праходзіць курс навучаньня ў завочным пэдтэхнікуме, а членамі адзінага вялікага колектыву, які заўсёды працуе над сабой для справы соцыялістычнага будаўніцтва і культурнай рэволюцыі.

Конфэрэнцыя адзначыла шэраг недахопаў, якія перашкаджаюць далейшай працы па разгортваньню завочнага навучаньня. Настаўніцтва перагружана надзвычайна грамадзкай і пэдагогічнай працай, а райінспэктура на мясцох, а таксама і профорганізацыі ня толькі не дапамагаюць завочнікам урэгуляваць грамадзкую нагрузку, а і зусім ня лічацца з настаўнікамі, якія лічацца завочнікамі, пры разьмеркаваньні розных грамадзкіх, а таксма і пэдагогічных абавязкаў.

Недахоп падручнікаў на рынку, а таксама адсутнасьць сродкаў у вясковага настаўніцтва на набыцьцё іх стварае цяжкія ўмовы для працы завочнікаў.

Да гэтага часу да завочнага навучаньня няма належнай увагі з боку НКА і ЦП Саюзу працасьветы; завочны пэдтэхнікум таксама ня змог мобілізаваць грамадзкай думкі вакол гэтага пытаньня.

Конфэрэнцыя адзначыла, што калі завочнае навучаньне можа быць зброяй у барацьбе за пэдагогічныя кадры для нашага соцыялістычнага будаўніцтва, то НКА, а таксама ЦП саюзу працасьветы трэба рашуча павярнуцца тварам да завочнікаў, бо новая справа завочнага навучаньня можа быць праведзена ў жыцьцё толькі пры актыўным удзеле ЦП саюзу працасьветы, органаў НКА, а таксама пры належнай дапамозе савецкай грамадзкасьці.

Конфэрэнцыя лічыць, што НКА трэба ў гэтую справу ўнесьці сыстэму, плянавасьць, мэтодычнае кіраўніцтва і даць паказаньні райінспэктуры аб дапамозе завочнікам у іх штодзённай рабоце; ЦП

саюзу працасьветы прыняць рашучыя меры да ўрэгуляваньня грамадзкай працы завочнікаў, організаваць пры райгрупкомах комісіі садзейнічаньня завочнікам для першапачатковай консультацыі і распрацоўкі програмнага матар'ялу; дабіцца перад адпаведнымі органамі, каб падручнікі настаўнікам-завочнікам выдаваліся дармова, згодна пастанове прэзыдыуму ЦК саюзу працасьветы ад 5 IV-30 г. (бюл. № 7-8).

Справа гэта важная, тэрміновая, патрабуе хуткіх і рашучых мер для выпраўленьня ўсіх недахопаў.

Ня маючы на ўвазе пералічыць усе пажаданьні і заўвагі завочнікаў, трэба яшчэ раз падкрэсьліць, што першай конфэрэнцыяй завочнікі засталіся задаволены. Конфэрэнцыя, як кажуць завочнік Няфэдаў і інш., высока ўзьняла рабочы настрой сярод завочнікаў. Завочнікі адчулі, што яны не «папяровыя», а сапраўдныя студэнты, а завочны пэдтэхнікум—сталая ўстанова.

Гэты ўздым і настрой завочнікаў знайшоў сваё выяўленьне ў падпісаньні ўдзельнікамі конфэрэнцыі дагавору па соцспаборніцтве паміж слухачамі агульнага і спэцыяльнага аддзяленьняў.

Завочнікі ўзялі на сябе абавязак падняць продукцыйнасьць і якасьць свае працы, сваячасова выконваць работы і здаваць залікі, популярызаваць справу завочнага навучаньня як сярод настаўніцтва, так і насельніцтва і вербаваць новых завочнікаў.

Конфэрэнцыя зрабіла сваю справу. Яна раскачала настаўніцтва і прыцягнула ўвагу да завочнага навучаньня асьветніцкія масы. Патрэбна выкарыстаць гэты першы крок, каб на далейшы час замацаваць, паглыбіць і пашырыць завочнае навучаньне, як самы верны і дасканалы спосаб падвышэньня кваліфікацыі працаўнікоў асьветы, асабліва зараз, у час самамобілізацыі кадраў настаўніцтва для хутчэйшага выкананьня задач соцыялістычнага будаўніцтва.

# У ДАПАМОГУ ДАШКОЛЬНАМУ РАБОТНІКУ

## З практыкі работы ў дзіцячым садзе

Дзіцячы сад знаходзіцца пры колгасе, на ўтрыманьні Астрашыцкага РВК і часткова бацькоў; працуе 4 гадзіны ў дзень; налічвае 45 дзяцей, якія падзяляюцца на 2 групы па мове: беларуская і яўрэйская. Групы—match рознага ўзросту, пачынаючы з 4 да 7 год. Яны знаходзяцца ў адным памяшканьні, карыстаюцца сумеснымі матар'яламі для гульні і працы. Маленькае памяшканьне —з двух пакояў. Навакол—вольная плошча, маленькі агарод, які належыць часткова да школы і да дзіцячага саду. Даволі прыгожае месца: лес, рака, луг. Дзіцячы колектыў складаецца з дзяцей колгасьнікаў, але большая частка—дзеці неколгасьнікаў. Па орыентыроўках дзіцячы колектыў даволі адсталы. Дзеці 7-гадовага ўзросту ня маюць звычак і ведаў дзяцей 4-5-гадовага ўзросту, напрыклад: мыць рукі, стаяць у чарзе. Звычак самаабслугоўваньня няма. Дзеці маюць слабую социяльна-клясавую ўстаноўку. Ня маюць колектывістычных звычак. Даволі рэлігійна настроены. Асабліва адсталай была беларуская група: дзеці не разумелі самай простай гутаркі. На ўсе пытаньні давалі такі адказ: «так, не»...

Яўрэйская група найбольш актыўная, рухавая, але і найбольш з рэлігійнымі настроямі. Дзеці прыходзяць у суботу ў новым адзеньні, гутараць аб рэлігійных забабонах, ходзяць у шапках, адмаўляюцца працаваць разам з дзяўчаткамі, кажуць: гэта «трэф». Творчасьць аднабаковая, бедная. Заўжды малююць альбо з гліны робяць хаткі, дрэвы, булкі. Гэта як у яўрэйскай, так і ў беларускай групах. Бяручы пад увагу становішча дзіцячага колектыву, асяродзьдзя, мы паставілі сабе мэтай выкарыстаць у нашай працы шавецкую арцель, скарыстаць для працы непатрэбны ім матар'ял—кавалкі скуры, цьвікі, скрынкі і шляхам гэтага аздаравіць дзіцячы колектыў, паставіць працу так, каб дзіцячая дзейнасьць ішла ў напрамку здаровага выхаваньня.

Першы організуючы момант, які мы выпрацавалі, быў такі: «Удзел дзяцей у падрыхтоўцы і сьвяткаваньні 11 ліпеня».

Тут мы сабе паставілі за мэту ўзмацніць социяльна-клясавую орыентыроўку дзяцей, зьвязаць эмоцыянальныя пачуцьці іх з эмоцыямі працоўных мас у зьвязку з нашымі дасягненьнямі за 10 год.

Для гэтага была праведзена гутарка з дзяцьмі: ці заўсёды фабрыкі належалі рабочым? Ці былі пры палякох колгасы, дзіцячыя сады, школы для рабочых мас?

З гутаркі з дзяцьмі вынікла думка аб тым, што трэба прайсьціся па мястэчку, паглядзець дасягненьні за гэты час: машынную станцыю, сталоўку, электрычную станцыю; хто іх пабудаваў, для каго, хто перашкаджае нам у будаўніцтве ўнутры краіны.

Другой мэтай організуючага моманту было дыфэрэнцыяваньне польскага насельніцтва: рабочыя палякі—нашы таварышы; палякі—паны, капіталістыя—нашы ворагі. Праз гутаркі і плякаты, што былі зроблены дзяцьмі, мы гэтай мэты дасягнулі. «Прывітаньне рабочым Польшчы» вось што было на плякатах. Дзеці гэтыя лёзунгі чыталі і сьвядома ўспрымалі. Для замацаваньня ўсяго гэтага мы зрабілі дзіцячы ранішнік. Шылі чырвонаармейскія шлемы, рабілі стрэльбы. Паставілі жывы малюнак з нашага будаўніцтва, вывучалі сьпевы, як, напрыклад, «Барабаншчык». Расказалі казку: «Аб Ошару і яго кані», дзе даецца малюнак гэроізму Чырвонай арміі. На сьцены павесілі малюнкі, якія стымулявалі

дзіцячую дзейнасьць да сьвята. Нашы мэты—выклікаць у дзяцей глыбокую сымпатыю да будаўніцтва, да пролетарыяту, да колгасаў, выклікаць варожыя адносіны да нашых ворагаў. У дзень сьвята 11-ліпеня дзеці дэмонстравалі па вуліцах мястэчка разам з працоўным насельніцтвам. З рознакалёрнымі шапачкамі, з сьцягамі і плякатамі нашы дзеці сьвяткавалі і радаваліся тэй радасьцю, якою былі ахоплены працоўныя мястэчка. *Такім чынам, наш організуючы момант быў шчыльна ўвязаны паміж сабою.* Адно выцякала з другога. Усё гэта аб'яднала дзіцячыя паводзіны, пашырала іх фантазію, думкі аб навакольным жыцьці, вяло на правільныя рэйкі дзіцячую дзейнасьць. Наколькі дзеці ўсё гэта ўспрынялі, мы бачылі з іх вольнай дзейнасьці.Дзеці малявалі і рабілі аплікацыі трактараў, дэмонстрацый, гулялі ў белых і чырвоных і гаварылі аб белапаляках, аб межах.

Калі скончылася праца, прысьвячаная 11 ліпеня, мы пачалі вырашаць пытаньне аб паляпшэньні дзіцячага жыцьця ў садзе, дома і таксама аб паляпшэньні санітарных умоў у навакольным жыцьці дзіцяці. Мы выпрацавалі другі організуючы момант: «Удзел дзяцей у паляпшэньні дабрабыту».

Мэтай было: 1) узмацніць фізычны стан дзяцей, як будучых барацьбітоў і будаўнікоў; 2) даць шэраг санітарна-гігіенічных звычак; 3) правільна організаваць дзіцячае жыцьцё як у садзе, так і дома.

Тут пачаліся работы, шчыльна зьвязаныя адна з другой. Спачатку была праведзена гутарка з дзяцьмі: «Для чаго трэба быць здаровымі». Пры гэтым дзіцячыя думкі былі накіраваны на тыя недахопы санітарыі, якія нас абкружаюць: ня ўсе ходзяць чыстымі, ня ўсе маюць чыстыя ручнікі, кубікі і іншыя матар'ялы. Вывад быў такі: трэба ісьці на экскурсію ў аптэку і ў ясьлі (адзіныя культурныя ўстановы), каб паглядзець, як трэба шанаваць сваё здароўе. Аптэкар быў ужо намі падрыхтаваны да таго, як весьці гутарку. Дзеці прапанавалі купіць для саду аптэчку. Зараз жа вылучылі з дзяцей санітарную брыгаду, якая павінна будзе ахоўваць здароўе сваіх таварышоў. Яны атрымалі чырвоныя крыжы, кожны дзень праводзілі санітарны агляд, перавязвалі рану каму трэба і г. д. Каб выклікаць у дзяцей пачуцьцё адказнасьці за свае пастановы, за сваю работу, мы выпрацавалі шэраг элемэнтарных санітарна-гігіенічных правілаў. Дзеці давалі падпіску, што будуць выконваць усе прынятыя правілы. Дзеці, якія парушалі гэтую пастанову, атрымлівалі сіні, а ня чырвоны значок. Уся праца была накіравана на тое, каб прывучыць дзяцей ахоўваць ня толькі сваё здароўе, але і іншых. Дзеці зрабілі шафку для аптэчкі, вешалкі для хаты, плякаты і лёзунгі, плявальніцы, набылі насавыя хустачкі...

Мы парашылі зьнішчыць мух, якіх ёсьць тут надта шмат. Дзеля гэтага мы з дзяцьмі прарабілі такія спробы: у бутэльку з хлебам пасадзілі некалькі мух і ў другую бутэльку бяз хлеба—некалькі мух. Дзеці ўвесь час наглядалі за гэтым. Яны ўбачылі, што без яды мухі жыць ня могуць. Яны таксама зразумелі, чаму на кухні больш мух, чаму трэба трымаць сябе і пакой у чыстаце. Для таго, каб сконцэнтраваць грамадзкую думку ў справе аховы здароўя, мы пастанавілі наладзіць дзіцячую дэмонстрацыю з патрабаваньнямі: «Дайце нам лепшае памяшканьне, змагайцеся з мухамі, тараканамі, піце здаровую ваду, будуйце студні!»

Да гэтае справы мы прыцягнулі бацькоў піонэраў...

Для таго, каб наша праца дала належныя вынікі, мы вялі сыстэматычную працу з бацькамі: выпусьцілі насьценную газэту, пазнаёмілі з асноўнымі мэтамі дашкольнага выхаваньня, наладжвалі сходы бацькоў, праводзілі індывідуальныя гутаркі. Праз мастацкую форму (Пятрушка) удалося прышчапіць дзецям санітарна-гігіенічныя звычкі. Была пастаўлена інсцэніроўка «Пятрушка» (першая спроба ў дзіцячым садзе), каб прышчапіць дзецям звычкі чыстаты і варожасьць да бруду, антысанітарыі. На гэты ранішнік былі запрошаны бацькі і неорганізаваныя дзеці.

Рэакцыя дзяцей, іх далейшыя паводзіны сьведчылі аб тым, што нашы мэты

былі дасягнуты, і ўся праца была правільна пабудавана. Дзеці прыходзілі чыстымі, з чыстымі ручнікамі і нават з зубным парашком.

Навакольную прыроду мы выкарысталі ў антырэлігійных мэтах. Арганізавалі жывы куток, працавалі ў горадзе і г. д.

Праводзячы гэтую працу, мы павінны падкрэсьліць, што пытаньні паляпшэньня дзіцячага дабрабыту, пытаньні санітарыі і гігіены не павінны разьвязвацца толькі як пытаньні чыстаты, гэта павінна мець і антырэлігійныя мэты. Дзеці не павінны ў шапках есьці ня толькі таму, што гэта антыгігіенічна, але і таму, што гэта зьвязана з рэлігійнымі традыцыямі. Падругое, пры неаднолькавым нацыянальным складзе дзяцей, ня трэба дапушчаць, каб адна з моваў найбольш домінавала. Калі дзеці, як беларускія, так і яўрэйскія, жывуць разам, дык гульні, маршыроўкі павінны быць на абедзьвюх мовах, але мець адзіны зьмест. Таксама і з бацькамі. Сходы яўрэйскіх бацькоў павінны быць асобнымі, як і сходы беларускіх бацькоў. У выпадку, калі сход сумесны, кожны з прысутных павінен выказвацца на сваёй роднай мове, калі яму цяжка на другой мове. Гэта дасьць тое, што яўрэйскія бацькі будуць больш ахвотней пасылаць сваіх дзяцей вучыцца на роднай мове.

Тут трэба пазнаёміць дзяцей з тым, як сумесна працуюць бацькі розных нацыянальнасьцяй у колгасах, адкуль бярэцца нацыянальная варожасьць. Трэба каб дзеці ўсё гэта ўспрымалі сьвядома, не мэханічна. Практыка паказала, што толькі такім шляхам можна разьвязваць гэтыя пытаньні.

Вырашаць пытаньне аб дзяўчатках і хлопчыках мала толькі шляхам тлумачэньня родавай розьніцы, тут трэба падыйсьці да соцыяльна-гісторычнага кораню гэтага пытаньня. Трэба выявіць прычыны гэтага зьявішча. У працы, у гульні трэба глядзець за тым, каб усе дзеці, як хлопчыкі, так і дзяўчаткі гулялі і працавалі разам.

**Студэнты 3 курсу яўпэдтэхнікуму**

מיט זיך קיין האנטעך ניט גענומען,
יע יע יע!
הענגען האנטעכעלעך אסאך,
יע יע יע!
צוליב וואס אזויפיל, כ׳ גיב אטראכט,
יע יע יע!

(פעטרושקע—אפן מאטיוו „אדאנק דעם ליבן שוס־טערל״)

יעדער קינד א האנטעכל
מוז דאך שטענדיק האבן,
ער זאל א פרעמדע קרענק אף זיך
ניט אריבערטאגן. } 2 מאל

(שמוציקער זינגט אפן מאטיוו „אין א שטעטל שטייט א שטיבל״)

כ׳ פויל זיך וואשן, אנטאן וועש,
ריי̆ניקן די זאכן

(פעטרושקע כאפט אונטער:)

און דערפאר לאמיר, קינדער,
אלע פון אים לאכן.

(פעטרושקע ווייטער אפן מאטיוו „אדאנק דעם ליבן שוסטערל„)

ווייסטו, וואס די שמוץ באטייט?
וועל איך באלד דערציילן:
זי ברענגט אונדז אלע קרענק און שלעק,
מיר מוזן דערנאך זיך היילן. } 2 מאל
פארן עסן דארף מען גוט
מיט זייף זיך גוט איינוואשן.

(שמוציקער כאפט אונטער:)

איך מיט מיינע שווארצע הענט
כאפ די ברייט און קאשע!

(פעטרושקע אפן מאטיוו Жили толстые буржуи.)

און אף מארגן ליגט ער דאך,
שרייט און וויינט און קרעכצעט: „אך!״
שטענדיק עסט ער גרינע עפל,—
טוטוויי דער בויך, טוטוויי די קעפל, אוי!

(שמוציקער צו פעטרושקען אפן מאטיוו פון א частушке.)

זאג, פון וואנען נעמען זיך אט די שווארצע פליגן?
אז זיי טוען שאדנס אונדז—
אן עמעס צי א ליגן? } 2 מאל

(פעטרושקע פרעגט די קינדער: איר ווייסט פון וואנען? און הויבט אן זינגען אפן מאטיוו „שניי און שניי און שניי̆עלעך...״)

אפט באגעגנט מען דאך זיי,
אט די שווארצע פליגן,
אף קופעס מיסט, אף שמוציק היי,
אף ברייט דערנאך זיי ליגן } 2 מאל

(פעטרושקע זעצט פאר אפן מאטיוו פון א частушке.)

און וועו מען עסט דעם ברויט,
קען זיך אפטמאל טרעפן,
אז דעם שטויב, וואס ברענגט די פליג,
האט מען אייך געגעסן.

(פעטרושקע זעצט ווייטער פאר אפן מאטיוו „Чурара„)

מיסט זאל האבן אייך אן ארט,
טראליא . . . . . .
קעסטעלעך מאכן דארף מען פארט,
טראליא . . . . . .
די פענסטער אפן דארפן זיין,
טראליא . . . . . .
פרישע לופט זאל אייך אריין
טראליא . . . . . .

(פעטרושקע אפן מאטיוו „Жили толстые буржуи“)

סיי די קליידער, סיי די זאכן
דארף מען שטענדיק גוט אויסוואשן,
דארף מען אומגיין שטנדיק ריין,
דארף מען ריי̆ניקן די ציין,—יע.

(שמוציקער אפן מאטיוו „כאים יאנקל, נו דערלאנג..״.)

הער זיך, הער זיך, הער זיך איין
כ׳ וויל קיין שמוציקער ניט זיין. } 2 מאל

ביידע ריכטיק!

מיינע בעסטע גוטע פריינט
וועלן ריינע קינדער זיין. } 2 מאל

ביידע ריכטיק!

כ׳וועל ניט לייגן זיך גאר שפעט,
כ׳וויל ניט ליגן לאנג אין בעט.

ביידע ריכטיק!

(ביידע זינגען אפן מאטיוו „Наши деды... будь готов для победы“)

נאר די ריינקייט דעם געזונט
וועט פארהיטן.
ארבעטער, מיר דארפן זען
די גרענעצן אפהיטן
פריילעך, לעבעדיק אין קאמף.
היט דעם געזונט אפ,
פאר ארדענונג אין צימער
און פאר זיין געזונט!

ביידע אגוטן טאג, א גוטן טאג!

איר ווילט, מיר זאלן נאך אמאל קומען,
טא היט די ריינקייט!
א גוטן טאג...

(פארמאכט די סצענע.)

דורכפירנדיק דידאזיקע ארבעט, קענען מיר מאכן אזוינע אויספירן:

1) די פראגע פון פארבעסערן דעם שטייגער-לעבן, פון סאניטאריע און היהיענע קענען געלייזט ווערן דאן, ווען זיי וועלן זיין ענג צוזאמענגעבונדן מיט דער אנטירעליגיעזער פראגע, די קינדער דארפן ארויסגיין פון אזא שטאנד-פונקט, אז מען דארף ניט עסן אין א היט, ניט נאר דערפאר, ווייל ס' איז ניט היהיעניש, נאר אויך דערפאר, ווייל דער מינהאג עסן אין א היטל דרינגט ארויס פון געוויסע רעליגיעזע טראדיציעס;

2) אין די קינדער אנשטאלטן, ווו ס' געפינען זיך קינדער פון פארשיידענע נאציאנאליטעטן, טאר מען בעשום אויפן ניט דערלאזן, אז איינע פון די שפראכן זאל דאמינירן. ווען די קינדער געפינען זיך צוזאמען, דארפן די מאכשירונג, די לידער און באוועגונג זיין פון איין אינהאלט. אויך אזוי דארף זיך פירן די ארבעט מיט די עלטערן: די עלטערן פון די יידישע קינדער און די עלטערן פון די ווייסרוסישע קינדער דארפן האבן באזונדערע פארזאמלונגען. ווען עס טרעפן זיך פאראייניקטע פארזאמלונגען, איז ווינשנסווערט, אז די עלטערן פון די יידישע קינדער זאלן זיך קענען ארויסזאגן אין יידיש, אויב זיי איז שווער ריידן אין ווייסרוסיש, דאס וועט אסאך מיטווירקן אף דעם, אז די יידישע עלטערן זאלן לאזן גיין זייערע קינדער אין די יידישע שולן לערנען זיך אף דער מוטער-שפראך, נאר דא דארף מען זען, אז די קינדער זאלן דאס אלץ ניט אופנעמען מעכאניש, ניט פארשטייענדיק, פארוואס עס טוט זיך אזוי. דערביי פאדערט זיך א סיסטעמאטישע ארבעט: דערקלערן די קינדער די געמיינזאמע ארבעט פון זייערע עלטערן (יידישע, ווייסרוסישע) אין די קאלווירטן זייערע אלגעמיינע צילן, שמועסן מיט זיי, פון וואנען נעמט זיך דער נאציאנאלער האס; מען מוז זיך, נאטירלעך, שטרעבן צו דעם, אז די קינדער זאלן דאס אלץ אופנעמען באוווסטזיניק. די פראקטיק האט אונז באוויזן, אז נאר דורך אזא וועג קען מען דערלייזן די פראגע.

די פראבלעם וועגן די צוזאמענפארהעלטענישן צווישן יינגלעך און מיידלעך קען מען דערלייזן, ארויסגייענדיק ניט נאר פון געשלעכט-שטאנדפונקט, נאר אויך פון סאציאל היסטארישן, ווי ס'איז אויבן אנגעוויזן; דער שטאנדפונקט: יינגלעך מיט מיידלעך ווילן ניט ארבעטן צוזאמען, ווייל ס'איז טרייף, איז א רעאקציאנערער, אבסקוראנטישער. קעדיי צו אויסמיידן אזעלכע אומנארמאלקייטן, פאדערט זיך א סיסטעמאטישע ארבעט: שאפן א סוויווע, וואס זאל סטימולירן, אז די יינגלעך און מיידלעך זאלן זיך פארנעמען מיט איינער און דערזעלבער ארבעט.

---

# פעטרושקע

אף דער טעמע „געזונט פארהיטונג“

אופגעשטעלט פון ע. ליבערמאן

(עס ווייזט זיך די פעטרושקע. זינגט אפן מאטיוו „Понапрасну...“)

כ' בין געשיקט פון ווייטע לענדער,
היינט בא אייך בין איך א גאסט.
גוט איז דעם, וואס היט די ריינקייט,
ווער ביז ריין דעם פאנים וואשט.

(פעטרושקע רעדט צו די קינדער: איר ווייסט, ווער איך בין און נאך וואס איך בין צו אייך געקומען? ניין? — א קוקטאן, ווי פארהיט איר אייער געזונט. הויפט אויף די הענט. ווער איז דארטן א שמוציקער. (ווייזט אן אף א קינד. שיקט אים אויסוואשן זיך...)

(פעטרושקע זינגט ווייטער אפן מאטיוו „א דאנק דעם ליבן שוסטערל“)

היינט וועל איך אייך פארשטעלן
גאר א שמוציק אינגל
אויערן מיט קויט אסאך, (2 מאל)
האט א שארפן צינגל

(פעטרושקע: בא אייך איז דא אזוינע, יע? אט וועל איך אייך ווייזן זייער כאווער: עס באווייזט זיך די 2-טע קוקלע — די שמוציקע).

קרענקען קרענקט ער זייער אפט,
לאזט דורך טעג אפולע,
פון קיין נאזטיכל ווייס ער ניט
און די זאכן — גאר א שרעק.
יעדן אוונט אין נארדאס,
מוז ער שפעט זיך לייגן.
ליגט ער שפעט אין פוילער בעט,
עפנט שפעט די אויגן.
זעט ער קיין מאל ניט די זון,
באדט זיך ניט אין וואסער;
ווייסט איר, קינדער, אז דערפון
מוז מען זיין א בלאסער.

(שמוציקער רעדט: גוט מארגן... אפן מאטיוו „Стучит малютка“)

א שמוציק יינגל בין איך דאך,
יע יע יע!
פאר זייף שרעק איך זיך זייער אפט,
יע יע יע!
די האר איז שמוציק, שטענדיק הארט,
יע יע יע!
דעם קעמל שטענדיק איך פארווארף,
יע יע יע!

(פעטרושקע כאפט זיך ארויס: הערט, וואס ער רעדט, נו, קינדער, אזוי דארף זיין?)

(שמוציקער רעדט ווייטער:)

אין קינדער גארטן כ' בין געקומען,
יע יע יע!

האט אף זיי געמאכט א קאלאסאלן איינדרוק און בארייכערט זייער קינדערשע וועלטל.

אט אזיי האט אונזער ארגאניזיר-מאָמענט, ווי א שנירעלע, זיך געצויגן, איינס איז ארויסגעדרונגען פון צווייטן. קיין זאך איז ניט געווען אָפּגעריסן, אלץ איז געווען צוזאמענגעבונדן, און דאס האט קאנצענטרירט די קינדערשע אופמערקזאמקייט, באַרייכערט די קינדערשע פאנטאזיע, דעם אַרט-דענקען און ארויסגעפירט אף א ריכטיקער וועג די קינדערשע טעטיקייט.

אף וויפל די קינדער האָבן דאס אלץ אופגענומען, האבן מיר געזען אין זייער פרייע טעטיקייט, אין זייער ר אקציע: די קינדער האבן גענומען מאלן, קלעפּן, לאקירן, ארגאניזירן קינדער-דעמאנסטראציעס, טראקטארן, שפּילן אין ווייסע און רויטע, שמועסן ארום די בילדער, וועגן גרענעצן, רויטע ארמיי א. ד. ג. נאכדעם, ווי מיר האבן פארענדיקט די ארבעט ארום דעם 11-טן יול, האבן מיר גענומען דערלייזן די פראגע צו פארבעסערן דעם שטייגער-לעבן ווי פון די קינדער, אזיי אויך פון דעם ארום.

דער צווייטער אָרגאניזיר-מאמענט איז געווען— אנטייל פון די קינדער אין פארבעסערן דעם שטייגער. די צילן זיינען געווען: א) פארשטארקן דעם קינדערשן געזונט-צושטאנד, ווי קומענדיקע קעמפער און בויער; ב) באַיאָפּענען זיי מיט אריי סאניטאר-היהיענישע געוויינהייטן; ג) ריכטיק ארגאניזירן דעם קינדערשן לעבן ווי אין קינדער-גאָרטן, אזיי אייך אין דערהיים. ארויסגייענדיק פון די אויבן-אנגעמערקטע אופגאבן, האבן מיר דורכגעפירט אריי ארבעט, איינע איינג פארבונדן מיט דער צווייטער: א שמועס מיט די קינדער—צוליב וואס דארף מען זיין געזונט. דערביי האבן מיר אנגעוויזן אף אונזערע באדינגונגען, צי זיינען זיי אלע ריין, צי האט יעדערער א ריינעם האנטעכל, צי איז די אויסשטאטונג אין ארדענונג א. אז. וו. דורכפירנדיק דאס אלץ, זיינען מיר געקומען צום אויספיר, אז מען דארף גיין אף עקסקורסיעס אין אפטייק, אין יאסלעס, קעדיי צו זען, ווי אזיי די עלטערע פון די קינדער פארהיטן דעם געזונט. דער אפטייקער האט מיט די קינדער געפירט א שמועס. די קינדער האבן דערנאך פארגעלייגט, אז מיר זאלן קויפן אן אפטייקל. מען האט אויסגעקליבן א סאניטארע בריגאדע, וועלכעס צייל איז—פארהיטן דעם קינדערשן געזונט. די סאניטארע בריגאדע האט באקומען צייכנס פון רויטן קרייץ פאר איר ארבעט: זי פלעגט אלע טאג באקוקן די קינדער, צי איז מען געקומען ריינע, פלעגט מאכן איבערבינדונגען א. אז. וו.

קעדיי אנטוויקלען בא די קינדער א פאראנטווארטלעכקייט פאר זייערע באשטימונגען, פאר זייער ארבעט, האבן מיר אויסגעארבעט סאניטארע געזעצן, וועלכע די קינדער האבן אונטערגעשריבן און צוגעזאקט אויספילן זיי. די קינדער, וואס פלעגן ברעכן די געזעצן, פלעגן באקומען א שווארצן צייכן אנשטאט א רויטן. די גאנצע ארבעט, די גאנצע קינדערשע אופמערקזאמקייט איז אריבערגעטראגן געווארן אף דעם מאמענט פון פארהיטן ווי דעם אייגענעם געזונט, אזיי אויך דעם געזונט פון דעם ארום. די קינדער האבן געמאכט אן אלמערל פארן אפטייק, וועשעלקעס פאר זייערע האנטעכלעך אין דער היים, פּ׳אקאטן, לאזונגען, שפּיי-קעסעלעך, נאזטיכלעך א. ד. ג. מיר האבן זיך אויך געשטעלט א ציל—פארניכטן די פ׳יגן און טאראקאנעס, וואס געפינען זיך דאָרטן אין א מאסן צאל. צוליב דעם האבן מיר דורכגעטירט אן עקספּערימענט: אין צוויי פּראָבירלעך, איינע מיט ברויט און די צווייטע אן ברויט, האבן מיר ארייגעלאזן פליגן. די קינדער האבן די גאנצע צייט באאַבאכטעט נאך דעם און אם לעצטן דערזען דעם רעזולטאט, אז פליגן אן שפּייז קענען ניט לעבן. באקענענדיק זיך מיט אזא עקספּערעמנט, זיינען די קינדער געקומען צום באשלוס, אז קעדיי פליגן זאלן זיך ניט קלייבן, דארף זיין ריין, די שפּייז אפן קיך דארף זיין צוגעדעקט.

קעדיי שאַפן די געזעלשאפטלעכע מיינונג, ארומכאפן דעם ארום מיט דער ארבעט פון ק. ג., האבן מיר באשטימט דעמאנסטרירן מיט לאזונגען און פּאָדערונגען: ג י ט א ו נ ז א ב ע ס ע ר ע ג ע ב י י ד ע, ה א ל ט ר י י ן א י ן ש ט ו ב א ו ן א ר ו ם ש ט ו ב, ק ע מ פ ט מ י ט פ ל י ג ן א ו ן ט א ר א ק א נ ע ס, ב ו י ט ב ר ו נ י מ ע ר, ט ר י נ ק ט ג ע ז א ד ע נ ע ו ו א ס ע ר. א. אז. וו.

צו דער ארבעט האָבן מיר צוגעצויגן די עלטערן, פּיאנערן, זיי זאלן אונז העלפן אין דער ארבעט. קעדיי די ארבעט פון ק. ג. זאל געבן רעזולטאטן, האבן מיר געפירט א סיסטעמאטישע ארבעט מיט די עלטערן: ארויסגעלאָזן א וואנט-צייטונג, באקאַנט זיי מיט די הויפּט צילן און אופגאבן פון קינדער-דערציאונג, אָפּט געשמועסט מיט זיי אף פארזאמלונגען און פּריוואט.

דורך א קינסט/ערישער פארם האבן מיר פארשטארקט די אלע געוויינהייטן, וואס די קינדער האבן באקומען פון דעם ארגאניזיר-מאמענט. מיר האבן געשטעלט א פּעטרישק—אן ערשטער פּרווו אין דעם ק.ג. דורך אזא פארם צו שאפן באם קינד א פּאזיטיווע באציאונג צו ריינקייט און א האס צו שמוץ. אף דעם פרימארגן זיינען איינגעלאדן געווארן די עלטערן און ניט ארגאניזירטע קינדער.

קעדיי צו פארשארקן דעם ארגאניזיר-מאמענט, האבן מיר אויסגענוצט א מייסעלע, א ליד. ביכלאל די גאנצע ארבעט האט זיך געפלאכטן ארום דעם ארגאניזיר-מאמענט.

וואס האבן אונז באוויזן די רעזולטאטן? די רעזולטאטן, וואס מיר האבן ערהאלטן, די רעאקציע פון די קינדער, האבן אונז באוויזן, אז מיר האבן די אנגעמערקטע צי׳ן דערגרייכט, אז די ארבעט איז געווען ריכטיק געבויט: די קינדער פלעגן קומען ריינע, ברענגען ריינע האנטעכלעך, אריינגעפירט ציינ-פּאראשאק... די ארומיקע נאטור האבן מיר אויסגענוצט אף אנטירעליגיעזע דערציאונג. געשאפן א לעבעדיקן ווינקל, געארבעט אפן גארטן און געשטעלט אייניקע פּרוּוון.

# דערפארונג פון דער ארבעט אין אסטראשיצקער-האראדאקער קינד-גארטן.

## 3־טער קורס פארשול מינסקער יידפעדטעכניקום.

דער קינדער-גארטן געפינט זיך באם קאלווירט, איז אפן אויסהאלטונג פון „ריק" און טיילווייז פון די עלטערן, ארבעט 4 שא אין טאג, כאפט ארום 45 קינדער. וועלכע זיינען איינגעטיילט אין 2 גרופן לויט דער שפראך: אין א ווייסרוסישע און א יידישע. די גרופן זיינען פון געמישטן עלטער—7-4-יאריקע. ביידע גרופן זיינען אין איין געביידע, באנוצן זיך מיט צוזאמענדיקע ארבעט און שפיל-געצייג. די געביידע איז א קליינע—פון צוויי צימערלעך. ארום געפינט זיך א פרייער פלאץ, א קליינער גארטן, א טייל פון וועלכן געהערט דעם קינדער-קאלווירט און דעם ק. ג. די נאטור איז ניט קיין ארעמע: עס איז דא א וואלד, א טייך, א לאנקע. א טייל קינדער אין דעם קינדער-קאלווירט באשטייט פון קינדער פון קאלווירטניקעס; א מערסטן טייל קינדער באשטייט פון קינדער פון ניט קיין קאלווירטניקעס. דער קאלעקטיוו, לויט די אריענטירונגען, איז א אפגעשטאנענער. קינדער פון 7-6-יאריקן עלטער האבן ניט די געוויינהייטן פון 4-5 יאריקן עלטער, צ. ב.: שטיין אין אַריי, וואשן די הענט, געוויינהייטן פון זעלבסטבאציאונג פעלט. די קינדער האבן שוואכע סאציאל-קלאסן אריענטירונג, גאנץ רעליגיעז און ניט קאלעקטיוויסטיש. די ווייסרוסישע גרופע איז ביכלאל געווען אין א פארטארמאזירטן צושטאנד, זי האט ניט פארשטאנען אפילע קיין עלעמענטארסטן שמועס—אף אלץ פלעגט זי ענטפערן מעכאניש: יע, ניין. די יידישע גרופע איז מער אקטיוו, באוועגלעך. די ווייסרוסישע גרופע איז ווייניקער רעליגיעז, די יידישע גרופע איז מערער רעליגיעז. די קינדעד פלעגן שאבעס אנטאן נייע זאכן, ריידן וועגן אברים, א כאסענע, גיין אין די היטלען, ניט וועלן זיצן און ארבעטן מיט מיידלעך: זיי פלעגן זאגן, אז דאס איז טרייף. די שעפערישקייט איז זייער אן ארעמע: שטענדיק פלעגן די קינדער מאלן, קלעפן, מער ניט ווי שטיבעלעך, טעפ׳עך און בולקעס.

דיסקאנטירנדיק דעם צושטאנד פון קינדער-קאלעקטיוו, די אויסערליכע און אינערליכע סוויווע, האבן מיר, זייענדיק אין די זעלבע מאטעריעלע באדינגונגען, געשטעלט זיך א ציל: אויסנוצן, ווי ווייט מעגליך, די שוסטער-ארטעל, קאפעראציע, (פושקעלעך, טשוועקעלעך, רימענדלעך...), מאכן געזונט דעם קינדער-קאלעקטיוו, אוועקשטעלן די ארבעט אף אזא אייפן, אז די קינדערשע טעטיקייט זאל אויסגענוצט ווערן אין דער ריכטונג פון א געזונטער און ריכטיקער דערציאונג. דער ערשטער ארגאניזיר-מאמענט, וואס מיר האבן אויסגעארבעט, איז געווען א נ ט ײ ל פון די קינדער אין צוגרייטן און פייערן דעם טאג פון 11-טן יול (10 יאר באפרייאונג ווייסרוסלאנד פון די ווייסע פאליאקן)

מיר האבן זיך געשטעלט א ציל: פארשטארקן בא די קינדער די סאציאל-קלאסן אריענטירונג דורך פארבינדן זייערע עמאציאנעלע איבערלעבנגען מיט די עמאציעס פון די ארבעטער-מאסן, אין צוזאמענהאנג מיט אונזערע דערגרייכונגען פאר 10 יאר. דא האבן מיר געשמועסט מיט די קינדער, צי איז שטענדיק געווען די פאבריקן בא די ארבעטער, צי איז פאר די פאליאקן געווען קאלווירטן, קינדער-גערטנער, שולן פאר די א־עמע קינדער און ארבעטער א. א. וו. פון די שמועסן איז ארויסגעדרונגען, אז מיר דארפן גיין איבערן שטעטל א קוק טאן די דערגרייכונגען: וואס האט מען אויסגעבויט פאר די 10 יאר, די מאשינען סטאנציעס, עלעקטראסטאנציעס, קאאפעראציע. ווער האט דאס אלץ געבויט און פאר וועמען? ווער שטערט אונז דא, אין לאנד גופע, די בויאונג...

נאך איינע פון די צילן אין דעם ארגאניזיר-מאמענט איז געווען: די קינדער זאלן קאנען דיפערענצירן די פיילישע באפעלקערונג: די פיילישע ארבעטער זיינען אונזערע פריינט, די פוילישע בורזשואזיע זיינען אונזערע סאנים. דורך שמועסן און דורך פלאקאטן, וואס מיר האבן געמאכט מיט די קינדער, האבן מיר דעם ציל דערגרייכט. מען האט אופגעהאנגען די לאזונגען: „מיר גריסן די פיילישע ארבעטער" „זאלן לעבן די ארבעטער פון פוילן". די לאזונגען האבן די קינדער געלייענט און באוואוסטזיניק אופגענומען.

קעדיי בא די קינדער זאל דאס אלץ איבערברעכן, פארשטארקן זיך, האבן מיר דורכגעפירט א פרימארגן, געגרייט קאסטיומען, רויטע ארמיישע היטלען, ביקסלעך, אופגעשטעלט א קליינע לעבעדיקע בילדל. פון אונזער בויאונג, געלערנט די פאסיקע לידער, צ ב. באראבאנטשיק, דערציילט א מייסעלע „אשער אף זיין פערד", וואו עס שילדערט זיך די העלדישקייט פון דער רויטער ארמיי, זייער העראיזם. די ווענט זיינען געווען באפוצט מיט בילדער, וועלכע האבן סטימולירט די קינדערשע אופמערקזאמקייט צום יאנטעוו, צו די צילן, וואס מיר האבן זיך געשטעלט—שאפן באם קינד א ליבע צו דער בויאונג צום גאנצן פראלעטאריאט. אין קאלווירטן—שאפן א פיינטלעכע באצואונג צו אונזערע סאנים.

אין טאג פון 11-טן יול האבן מיר דעמאנסטרירט איבער די גאסן צוזאמען מיט אלע ארבעטנדיקע מאסן פון שטעטל. אונזערע קינדער, באפוצטע אין רויט-ארמיישע היטלעך, מיט פאָנען און פלאקאטן, האבן געפרייט און געלעבט צוזאמען מיטן גייסט און ווילן פון דער גרייסער בויאונג. אין די שטימונג פון די קינדער, די פרייד איז געווען אן א סאף. דאס אלץ

# НАШ ВОПЫТ

Ю. Дардак, І. Фрыдман

## З практыкі работы ў аднакомплектавай школе

Аднакомплектавая школа, якая па сваёй колькасьці зьяўляецца самай распаўсюджанай школай у БССР (56,4% усіх школ), і рост якой у сувязі з суцэльнай колектывізацыяй сельскай гаспадаркі пойдзе вельмі шпаркім тэмпам (па апошняй пастанове Н. К. А. у нацыянальных раёнах, там, дзе ёсьць 12 чалавек дзяцей, павінна быць адчынена аднакомплектавая школа), ставіць пытаньне організацыі работы ў ёй як адно з самых важнейшых.

На вялікі жаль, гэтаму пытаньню як у мэтодычнай, так і наогул у пэдагогічнай літаратуры не аддаецца належнае ўвагі. На сёньняшні дзень нідзе няма (за выключэньнем некалькіх артыкулаў) ніякага грунтоўнага матар'ялу па гэтаму пытаньню. Характэрна, што ў праграмах па пэдагогіцы для пэдтэхнікумаў няма нават аддзелу аб аднакомплектавай школе.

Гэтым усім і тлумачыцца тое, што большая частка аднакомплектавых школ прадстаўляюць сабою паўвербалістычную школу. Настаўнікі прабуюць гэта тлумачыць тым, што, працуючы аднachасова з 3-ма або 4-ма групамі, нельга ўвесьці актыўныя мэтоды.

Нават у мэтодычным лісьце аб комплеснай сыстэме (мэтодычны ліст № 1) гаворыцца: «...і як жа ажыцьцёвіць комплексную програму тым настаўнікам, якім трэба працаваць аднachасова з дзьвюма або трыма групамі? Як ім падзяліць свой час, свой школьны дзень? Звычайнымі формамі організацыі зьяўляюцца наступныя:

1) адна група працуе самастойна, з другой працуе настаўнік;

2) форма «Крыжаванага агню», калі настаўнік працуе некалькі хвілін з аднэй групай, дае ёй работу і зараз жа бяжыць да другой; пагутарыўшы некалькі хвілін з ёй, бяжыць да трэцяй і г. д.;

3) частку дня настаўнік займаецца з аднэй групай, другую частку дня—з другой;

4) адзін дзень настаўнік займаецца з аднэй групай, а другі дзень—з другой,—іншых спосабаў няма».

Устаноўка, якая даецца мэтодычным лістом, дае магчымасьць настаўнікам апраўдаць сваю «устаноўку» адносна замацаваньня пасыўных мэтодаў у працы дзяцей, а па-другое, фактычна зьменшае навучальны год на палову (працаваць па паўдня, або праз дзень). Ісьці гэтай лініяй, лініяй найменшага супраціўленьня, мы лічым няправільным і непатрэбным.

Досьлед, які быў пастаўлен Менскім яўпэдтэхнікумам у Заслаўскай яўр. аднакомплектавай школе (Меншчына), даказаў, што ў аднакомплектавай школе можна ўвесьці актыўныя мэтоды, ня зьніжаючы пры гэтым якасьць і не зьмяншаючы колькасьць работы.

### Організацыя работы

У рэзолюцыях другой партыйнай нарады, якая адбылася ў маі месяцы 30-га году, і ў пастановах «аб адзінай політэхнічнай школе», якія падпісаны былі 19/VI—30 г. Наркомасьветы, ЦК УсеЛКСМ і ЦК Працасьветы, гаворыцца:

«У сучасны пэрыод соцыялістычнага будаўніцтва ставіцца з асаблівай завостранасьцю пытаньне аб увязваньні ўсяе сыстэмы народнай асьветы з соцыялістычнай экономікай нашай краіны. Гэта патрабуе ня толькі максымальнага

контакту паміж асобнымі зьвеньнямі сыстэмы народнай асьветы, але таксама павінна паскорыць у кожным зьвяне тыя патрабаваньні, якія прыдаюць нашай сыстэме соцыялістычны напрамак і зьмест».

Тэзісы так формулююць характар школы:

«Політэхнічная школа павінна будавацца на базе індустрыі; політэхнічная школа павінна організаваць дзіцячую працу, увесьці яе ў грамадзкую вытворчасьць і грамадзка карысную працу».

Такія асноўныя рысы нашай школы. Усё гэта вызначае зьмест і формы работы таксама і аднакомплектавай школы.

Якія цяжкасьці мы сустракаем у працы аднакомплектавай школы?

Галоўнай і асноўнай цяжкасьцю зьяўляецца тое, што аднаму настаўніку трэба організаваць работу ўсіх клясаў адначасова так, каб яны ўсе мелі работу.

Як жа разьвязваецца гэтая цяжкасьць у большай частцы масавых аднакомплектавых школ?

У большай частцы настаўнікі ўжываюць тыя мэтоды, якія паказаны ў мэтодычным лісьце. Калі настаўнік займаецца аднэй клясай—ён астатнім дае або чытаць «адсюль—дагэтуль», або штонебудзь сьпісаць з кніжкі таксама «адсюль—дагэтуль».

Як чытаньне, так і сьпісваньне адбываюцца мэханічна; ніякай творчай работы, ніякай работы па прыродазнаўству, досьледаў, экскурсій, наогул, дасьледчых элемэнтаў ня ўжываецца, і зразумела, што ўся работа становіцца «сідзячай работай», ніякая грамадзка карысная работа—як аснова комплексу не вядзецца.

Фактычна тут ніякага комплексу як сыстэмы няма. Тут мы маем рэформаваную прадметную сыстэму, якая формальна падпарадкуецца аднэй тэме.

У Заслаўскай аднакомплектавай школе мы работу спачатку паставілі на другой аснове. Мы пачалі з раскладу лекцый і ад сыстэмы організацыі работы.

Расклад лекцый мы будавалі так:

| Час | 4-ая кляса | 3-яя кляса | 2-я кляса | 1-ая кляса |
|---|---|---|---|---|
| 8—30—9—15 | актыўна | самастойна | — | — |
| 9—25—10—10 | самастойна | самастойна | самастойна / актыўна | актыўна / самастойна |
| 10—20—11—15 | самастойна | актыўна | самастойна | — |
| 11—35—12—20 | агульная | сэнсорна | маторная лекцыя | — |
| 1—20—2—05 | актыўна | самастойна | — | — |
| 12—30—1—15 | самастойна | самастойна | актыўна / самастойна | — |

(Пад актыўнасьцю мы разумеем, калі настаўнік асабіста працуе з клясай; самастойна, калі кляса працуе без настаўніка).

Як відаць з гэтай схэмы, 4-ая і 3-я клясы пачынаюць працу ў школе на адну лекцыю раней чымся 1-ая і 2-ая. Гэта дае магчымасьць настаўніку організаваць заняткі ў старэйшых клясах і даць ім заданьні для самастойнай работы на той час, калі прыдуць вучні малодшых клясаў, якія больш займуць настаўніка.

Пры гэтым трэба старацца, каб адна кляса—3-я або 4-ая заўсёды мела ўжо з ранейшага часу (хаця-б з учарашняга дню) заданьне для самастойнай работы над тэмай. Першая актыўная лекцыя мяняецца: адзін дзень у 4-ай, а 3-я група працуе самастойна над ранейшым заданьнем, на заўтра—першая актыўная ў 3-яй, чацьвёртая працуе самастойна. Гэтаксама з апошняй. Трэба толькі рэгуляваць, каб аднэй клясе ня прыходзілася цэлы дзень ня бачыць настаўніка, г. зн., калі першую лекцыю мае 4-я, апошнюю трэба аддаць 3-яй.

Усе гэтыя актыўныя лекцыі павінны (для старэйшых груп у большай частцы) аддавацца на пляноўку тэм, на ўводныя лекцыі да новай тэмы, да новага заданьня, комплексу, на контроль працы, на дадатковае растлумачаньне прапрацованага матар'ялу. Што датычыцца 2-ой групы, дык тут—гэтае самае раз-

меркаваньне; толькі з імі трэба часьцей актыўна працаваць над арытмэтыкай, мовай, акрамя ўводных або заключных лекцый. Наогул, канечна, схэма гэта не абавязкова на 100%. Тут павінна быць гнуткасьць настаўніка, тут яшчэ трэба ўзяць пад увагу розныя сьвяты, непрадбачаныя здарэньні, калі трэба або ўсе клясы злучыць разам, або перанесьці актыўную лекцыю з аднэй клясы ў другую, але ў аснове гэтакае разьмеркаваньне дае магчымасьць арганізаваць работу ва ўсіх клясах без перашкоды аднае клясы другой. Таксама трэба дадаць, што не абавязкова цэлую гадзіну або ўвесь час аддаць клясе пры актыўнай лекцыі. Часта можна задаволіцца некалькімі хвілінамі, астатні час настаўнік праводзіць у практычнай дапамозе, нагляданьні, контролю паасобных вучняў.

Ніякага шаблёну тут ня можа быць, але ў аснове такое разьмеркаваньне дапамагае і арганізуе .

Пропорцыя паміж актыўнай і самастойнай работай па клясах павінна быць прыблізна такая.

| Кляса | Актыўна ў о/о | Самастойна % |
| --- | --- | --- |
| 4 | 30 | 70 |
| 3 | 40 | 60 |
| 2 | 60 | 40 |
| 1 | 70 | 30 |

Прыблізна такая пропорцыя была ў нашай рабоце (за выключэньнем 1-ай клясы, якой у нас фактычна ня было). Зразумела, што і ў гэтых адносінах павінна быць гнуткасьць настаўніка, каб кожны раз адчуваць, дзе патрэбна зьмена ходу.

II.

## Організацыя паасобных форм работы.

## Роля заданьня ў рабоце аднакомплектавай школы

Мы лічым, што самастойная работа дзяцей у габінэтах ні ў якім разе ня меней важна і продукцыйна, чым іх работа з настаўнікам. Толькі праз самастойную работу вучань можа актыўна прапрацаваць і замацаваць тую або іншую тэму комплексу.

У сувязі з гэтым, важную ролю адыгрывае арганізацыя самастойнай работы дзяцей праз заданьне (напісанае на паперы). Апошняе павінна быць «пуцевадзіцелем» вучня ў яго самастойнай рабоце, у самастойнай распрацоўцы матар'ялу, або выкананьні задачы.

Патрэбнымі элемэнтамі заданьня павінны быць мэтаўстаноўка ўсяе работы (калі заданьне разьлічана на доўгі тэрмін), паказчык навучальнага матар'ялу з кнігі, часопісі, газэты, на якой старонцы; пры досьледах—якія прылады патрэбны, потым некалькі паказаньняў, як трэба зрабіць гэты досьлед; некалькі пытаньняў, якія штурхаюць да разуменьня сувязі матар'ялу, і ў канцы некалькі контрольных пытаньняў, якія падагульваюць матар'ял.

Ніжэй мы даем прыклад заданьня для самастойнай работы другой групы з тэмы—«Забясьпека ад пажараў». Работа праводзіцца па дальтонпляну.

2-ая кляса. Габінэт па прыродазнаўству.

Заданьне №

для работы патрэбны:

прабіркі, бляшаная каробка, газа, запалкі, вада.

1. Бяры ў прабірцы трошкі газы (да чырвонай рыскі), налі ў бляшаную скрынку і запалі запалкай.

2. Заўваж, як яна гарыць: ці адразу запалілася, ці гарыць з дымам, полымем; заўваж, які колер полымя.

3. Набяры крыху вады ў прабірку і вылі яе ў палаючую газу.

4. Ці патухла газа ад вады?

5. Набяры ў прабірку вады, улі некалькі кропель газы. Ці зьмяшалася газа з вадою? Чаму?

6. Ці можна вадою затушыць палаючую газу? Чаму?

7. Накрый палаючую газу анучкай.

8. Як трэба тушыць палаючую газу? Досьлед запішы ў сваім сшытку.

Заданьне ў асноўным дапасавана да 3-яй і 4-ай групы, паколькі ім трэба большую частку навучальнага часу працаваць самастойна. Таксама яно дапасавана да 2-ой групы. Пры гэтым велічыня

заданьня, мова павінны быць дапасаваны да кожнай групы ўпаасобку. Да заданьняў павінны быць дапасаваны наступныя галіны комплексу, як напрыклад: праца па мове, арытмэтыка, прыродазнаўства, досьледы, экскурсіі, працоўныя процэсы і г. д. Што датычыцца 1-ай групы, дык тут, зразумела, заданьне можа давацца ёй толькі ў другой палове навучальнага году, калі вучні гэтае групы навучыліся чытаць. Заданьне павінна тут будавацца навакол дыдактычнага матар'ялу, гульняў (лато), але ні ў якім разе не навакол тэмы.

Пры такой пабудове, заданьне зможа быць сапраўдным дапаможнікам вучняў у іх самастойнай рабоце з ня меншай эфэктыўнасьцю і з большай актыўнасьцю.

## „Інструктаж“ заданьняў

Зусім зразумела, што заданьні патрабуюць ад настаўніка вялікай напружанасьці. Каб забясьпечыць 3 групы заданьнямі на некалькі дзён па розных габінэтах, патрабуецца шмат часу, які настаўнік павінен мець пасьля лекцый.

Заданьні павінны быць напісаны на некалькіх экзэмплярах у кожным габінэце, каб гэта дало магчымасьць кожнаму вучню добраахвотна выбраць работу ў тым габінэце, дзе гэта яму захочацца. Аднаму настаўніку ўсё гэта падрыхтаваць амаль што немагчыма. Апрача гэтага, яшчэ патрэбна ў некалькіх словах пазнаёміць дзяцей з заданьнем, бо яны заўсёды знойдуць што-небудзь, аб чым пытацца, і растлумачыць заданьне тром групам па розных габінэтах таксама патрабуе часу. Каб зрабіць палёгку настаўніку ў гэтым, мы ў Заслаўскай школе ўвялі г. зв. інструктаж, г. зн., пры складаньні заданьня настаўнік заве да сябе па вучню з кожнай групы. Дзеці знаёмяцца з самым процэсам складаньня заданьняў. Калі заданьні складзены, кожны з вучняў перапіша па некалькі экзэмпляраў заданьня сваёй клясы. Пры гэтым кожны вучань павінен добра азнаёміцца з заданьнямі сваіх габінэтаў. Тут яму настаўнік павінен дапамагчы. Калі мы тут маем, напрыклад, заданьне па арытмэтыцы на вылічэньні, ён павінен ведаць рашэньне ўсіх больш цяжкіх прыкладаў, калі маем досьлед—павінен бачыць і прарабіць гэта ўперад з настаўнікам( бо ўсёроўна настаўнік уперад праробіць гэты досьлед) і г. д.—ён павінен быць знаёмым з тым, што сёньня робіцца ў габінэтах яго клясы. Гэтыя вучні зьяўляюцца інструктарамі габінэтаў. Яны, па-першае, знаёмяць вучняў, якія сёньня габінэты працуюць, раздаюць заданьні, падзяляюць навучальныя прылады (кнігі, часопісі, газэты), калі тут досьлед, ён (інструктар) зьяўляецца лябарантам: раздае ўсё, што патрэбна для досьледу (усё гэта трэба ўперад падрыхтаваць), а пасьля і дапамагае дзецям у распрацоўцы. Для 3-яй і 4-ай клясы інструктары назначаюцца з сваёй клясы на час, пакуль закончыцца распрацоўка заданьня, і калі яно вялікае, дык можна падзяліць на дзьве. Што датычыцца другой клясы, дык тут таксама выдзяляюцца інструктары; калі-ж заданьне больш складанае, дык можна прымацаваць вучня з 3-ай або 4-ай групы.

Інструктаж пры добрай падрыхтоўцы інструктароў мае два важныя полюсы: па-першае, гэта разгружае настаўніка ад абавязкаў аформіць працу груп па габінэтах, тут яму на дапамогу прыходзяць інструктары, калі-ж у яго актыўная лекцыя, дык яны самі пачнуць працу ў габінэтах; а, па-другое, гэта выклікае вялікую актыўнасьць у дзяцей. Яны робяцца фактычнымі памочнікамі настаўніка ў яго рабоце.

Усё гэта не павінна, канечна, аслабаніць настаўніка ад нагляду за вучнямі. Нельга зусім спадзявацца на інструктароў. Яны настаўніку толькі дапамога, але не замена. Калі ўсе групы працуюць па габінэтах, дык настаўнік тут жа контролюе работу інструктароў і таксама дапамагае вучням. Калі-ж ён заняты, дык контроль будзе на другі дзень, але павінен мець на ўвазе работу інструктароў. У нашай практычнай рабоце гэты досьлед сябе апраўдаў. Пры добрай падрыхтоўцы інструктаж уносіць новае ў жыцьцё клясы, аказвае палёгку настаўніку ў яго рабоце.

## Экскурсіі

У практыцы бывае такое зьявішча, што ў працы значнай часткі аднакомплектавых школ абыходзіцца такая важная і цікавая рэч, як экскурсія. Матывіроўка вядомая. Нельга пакінуць тры групы ў школе і пайсьці з чацьвертай на экскурсію. Такі выхад лёгкі, але шкодны.

Мы практыкавалі экскурсіі двух тыпаў:

1. Фронтальная экскурсія, г. зн., настаўнік ідзе на экскурсію з усёй школай. Гэта экскурсія ў большай частцы—у жывую прыроду. Калі экскурсія ставіць сабе мэту, напрыклад, пазнаёміцца з надыходам вясны, настаўнік у школе ў агульных рысах знаёміць дзяцей з мэтаю экскурсіі. Ніякай пляноўкі, ніякіх заданьняў на руках няма. У прыродзе дзеці павінны прыглядацца, зьбіраць матар'ял і г. д.; тое самае і пры экскурсіі—«Шкоднікі агароду і змаганьне з імі». Увесь сабраны матар'ял прыносіцца ў клясу, тут ён сартуецца, а апрацоўка ўжо адбываецца па габінэтах у кожнай групе асобна. Тут ужо для кожнай групы розная глыбіня і шырыня апрацоўкі гэтага ж матар'ялу. Калі гэта не перашкодзіць другому чаму, дык можна нават для апрацоўкі такога матар'ялу злучыць 3-ю і 4-ую клясу разам, тым больш пры падсумаваньні.

2. Другі тып экскурсіі—групавая. Гэты тып экскурсіі больш продукцыйны. Тут ужо кляса ўперад плянуе, складае пытальнік экскурсіі; адным словам, экскурсія цесна зьвязваецца з комплексам данай групы. Настаўнік раней дагаварваецца з прадпрыемствам, установай (колгас, саўгас, электростанцыя, арцель ды інш.) і з кіраўніком экскурсіі, пры гэтым прысутнічае інструктар групы. Настаўнік азнаёмлівае кіраўніка (з установы) з пытаньнямі, і экскурсія адбываецца без настаўніка. Калі-ж яго прысутнасьць абавязкова, можна дапасаваць экскурсію да апошняй лекцыі, калі малодшых груп ня будзе. Што датычыцца 1-ай і 2-ой клясы, дык тут прысутнасьць настаўніка абавязкова, а 3-ю і 4-ую клясу можна сьмела на гадзіну пакінуць працаваць над заданьнем у габінэце.

Пры другім тыпе экскурсіі дапушчальны і злучныя экскурсіі асобна 3-яй і 4-ай груп. Пры распрацоўцы тэмы «колектывізацыя» Саюзу—з 4 гр., БССР—з 3 гр. і раёну—з 2-ой мы праводзілі агульную экскурсію ў колгас. 3-яя і 4-ая групы плянавалі разам, разам складалі пытаньні, 2-ая гр. плянавала асобна, а праводзілі разам, калі колькасьць дзяцей ня вельмі вялікая, прыблізна, 40-45 дзяцей, дык гэта магчыма. Што датычыцца распрацоўкі экскурсіі, дык зразумела, што яна ідзе асобна.

Пры такой організацыі экскурсія зойме належнае месца ў жыцьці школы, не перашкаджаючы пры гэтым нормальнаму ходу заняткаў.

## Мастацкае і фізычнае выхаваньне

Вялікую цяжкасьць уносяць у работу аднакомплектавай школы дысцыпліны мастацкага і фізычнага выхаваньня: сьпевы, маляваньне і фіз. выхаваньне. Калі яшчэ можна праводзіць маляваньне з аднэй клясай у той час, калі другія працуюць, дык гэта немагчыма з сьпевамі і фізвыхаваньнем. І ня дзіва, што ў значнай колькасьці аднакомплектавых школ мы тут маем пустое месца. У нашай рабоце мы ўжывалі наступныя мэтоды. Па-першае, аб маляваньні: маляваньне наогул пераносіцца ў лябараторную работу ў габінэтах. Кожная тэма комплексу мае ўроўні з другімі працамі ў габінэтах габінэт маляваньня. Тут у габінэце ёсьць заданьне, дзе паказана, што трэба замаляваць, таксама даецца магчымасьць вольнай творчасьці. Паміж іншым, нам найлепш удалася апплікацыя, дзе ў дастатковай меры ёсьць працоўныя процэсы, як выразка, клейка і г. д. Мы таксама практыкавалі агульныя лекцыі маляваньня ўсёй школай, асобна перад сьвятам, дзе кожная кляса колектыўна працавала над лёзунгамі, плякатамі.

Што датычыцца сьпеваў, дык у нас адзіным выхадам было—гэта заняткі ўсяе школы разам. У нашай схэме раскладу лекцый паказана, што кожны дзень 4-ая лекцыя агульная. Зразумела,

што вытрымліваць комплекснасьць цяжка. Тут мы проста падбіралі найбольш дапасаваныя песьні. 3-яя і 4-ая клясы запісываюць тэкст, 2-ая, каб не затрымліваць, можа атрымаць гатовы тэкст на рукі, а першую можна заняць пакуль гульнёю (лато, арытмэтычныя гульні), а потым усе сьпяваюць разам. Ніякіх перашкод у нас у гэтым ня было, усе дзеці разам сьпявалі. Асабліва гэта ўдаецца пры харавых дэклямацыях, дзе можна падзяліць паміж старэйшымі і малодшымі лёгкія і цяжкія месцы з дэклямацыі. Вельмі пажадана, каб настаўнік змог ужываць струнны інструмант, гэта больш арганізоўвае дзяцей пры сьпевах.

Гэтаксама і фізкультурай. Праводзіць фізкультурныя заняткі з паасобнымі клясамі немагчыма (асабліва зімою). Наогул ня цікава займацца па фізкультуры з 10-12 дзяцьмі. Мы і тут практыкавалі агульныя заняткі. Тут трэба мець на ўвазе, што фізычнае выхаваньне, увязанае з сэрыямі фізвыхаваньня, дапасована да вядомага ўзросту, і ўжываньне іх з усімі трупамі разам можа шкодна ўплываць на здароўе дзяцей. Мы ў большай частцы ўжывалі не рухавыя практыкаваньні, а гульні, пры тым мы орыентаваліся на ўзрост 2-ой і 3-яй групы. Калі-ж сустракаецца больш-менш цяжкая гульня, дык першай групе прыходзіцца выйсьці. Такім чынам у нашай рабоце былі ўвязаны мастацкае і фізычнае выхаваньне ў агульнае жыцьцё школы.

Толькі пры такой арганізацыі магчыма было ўтрымаць у школе гэтую важную галіну, не перашкаджаючы агульнаму ходу заняткаў.

### Пленумы

Па ўжо вядомай прычыне ў аднакомплектавай школе часта адсутнічае такая патрэбная і цікавая рэч, як пленум, як падагуленьне прароблена̀й працы па комплексу.

Мы і гэта будавалі не па асобных групах, а ўсёй школай. Нам удалося арганізаваць два такіх вечары-пленумы падагуленьня работы.

Мы, напрыклад, паставілі вечар-пленум перад бацькамі і наогул працоўным насельніцтвам у нардоме. Ні ў якім разе гэты вечар не павінен будавацца на спэцыяльна падрыхтаванай пастаноўцы, або іншых мастацкіх нумарох. Мы па групах падрыхтавалі справаздачы па розных частках тэмы. Напрыклад, 4-ая група падрыхтавала справаздачу-даклад аб колектывізацыі Саюзу, аб трактарным будаўніцтве, 3-ая група—аб колектывізацыі БССР, 2-ая—аб тэхнічных расьлінах раёну, агульны рапарт аб працы нашага дзіцячага колгасу. Пасьля гэтага—мастацкія нумары—харавыя дэклямацыі, песьні, маршыроўка—усё з таго, што вывучалі ў парадку выкананьня програмы. Ніякіх спэцыяльных нумароў. Кожная кляса была досыць самастойна ў справаздачах, кожны вучань быў досыць актыўны у агульных выступленьнях. Падрыхтоўка да вечару ішла ў часе тых лекцый, якія былі ў парадку пляну адпушчаны на падагуленьне. Калі ж вельмі патрэбна, дык можна адпусьціць на гэта і лішнюю пару гадзін. Такія вечары-пленумы шмат даюць эмоцыянальнаму выхаваньню дзяцей. Яны здавальняюць дзяцей і ствараюць стымул да наступнай працы. Апрача гэтага, яны прыцягваюць грамадзкую думку да школы, узмацняючы пры гэтым яе аўторытэт.

### Грамадзкая-карыстная работа

Паколькі ў аснове кожнага комплексу ляжыць грамадзка-карысная работа, у нас у сувязі з гэтым выплывае пытаньне аб увязцы апошняй паміж усімі клясамі. Узяўшы за аснову грамадзка-карыснай работы школы—працу ў колгасе (дзіцячым і дарослым), мы яе будавалі не па групах, а па брыгадах. Усе кампаніі, як збор утылю, збор попелу, праца ў дзіцячым колгасе адбываліся па брыгадах, пры тым брыгада будавалася па ўзросту, што часта можа супадаць і з групамі. Конкрэтна, у кожным выпадку часамі прыходзілася кожнай клясе паасобку што-небудзь зрабіць, напр., пры вывучэньні тэмы—«ахова здароўя» 2-ая кляса рыхтавала лёзунгі для колгасу, а таксама і іншыя рэчы.

Наогул кажучы, у галіне грамадзка-карыснай работы аднакомплектавая

школа ніякіх асобных спэцыфічных цяжкасьцяй ня мае, калі-ж яна дзе і адсутнічае, дык у кожным выпадку прычынай не зьяўляецца «аднакомплекснасьць» школы.

Пазашкольная і клюбная работа дзяцей таксама ў аднакомплектавай школе асаблівасьцямі ня вылучаецца.

Праца ў гурткох, канечна, адбываецца не па групах. У нас, напрыклад, пераплётны і бібліотэчны гурток у большай частцы складаліся з вучняў 4-ай і 3-ай групы. У клюбнай рабоце, організацыі гульняў і чыткі даволі былі актыўнымі і вучні 2-ое групы. Галоўнае ў тым, што ў пазашкольнай рабоце (па-за лекцыямі) дзеці адчуваліся не як розныя групы, а як адна школа. У падрыхтоўцы вечару для колгасу аднолькавы ўдзел прымалі ўсе групы. Тут роля настаўніка заключаецца ў тым, каб правільна падзяліць паміж розных дзяцей гэтую працу.

Наогул пры сярэдняй колькасьці дзяцей у аднакомплектавых школах (40-50 чал.) настаўнік можа ўсіх нагрузіць работаю.

**Некалькі слоў аб самакіраваньні**

Апошняе павінна таксама будавацца не па групах, а па зьвеньнях. У кожнае зьвяно (санітарнае, культ., гаспадарчае) у нас уваходзілі вучні розных груп, бязумоўна, на дабраахвотных пачатках. Магчыма, што ў такім зьвяне, як санітарнае, застануцца толькі малодшыя, тут трэба работу зрабіць больш цікавай, а па-другое, так рэгуляваць, каб і старэйшыя ўвайшлі. Гэта, бязумоўна, злучае больш дзяцей, ад чаго і ўся школа адчувае сябе больш монолітнай.

Такім чынам мы ў кароткіх рысах ахапілі ўсе асноўныя галіны жыцьця аднакомплектавай школы. Наша мэта даказаць, што няправільнай і шкоднай зьяўляецца тая ўстаноўка, што ў аднакомплектавай школе нельга працаваць актыўнымі мэтодамі.

Пры належнай організацыі, бязумоўна, можна ўвесьці актыўныя мэтоды, якія дапамогуць агульнай задачы савецкай школы—выхаваць актыўных змагароў і будаўнікоў для соцыялістычнага грамадзтва. Проектны мэтод і дальтон-плян павінны стаць асноўнымі мэтодамі і формамі работы ў аднакомплектавай школе.

Савецкая школа ўжо рыхтуецца сур'ёзна да політэхнізацыі. Калі аднакомплектавая школа будзе хавацца за цяжкасьцямі, яна застанецца ў хвасьце гісторыі.

---

П. Лаўроў

## З пэдолёгічнага практыкуму Мсьціслаўскага пэдтэхнікуму.

Студэнты Мсьціслаўскага пэдтэхнікуму ў парадку пэдолёгічнага практыкуму гэтага году, між іншым, дасьледвалі першую клясу в/п школы пры тэхнікуме.

Цікавы вынікі гэтае колектыўнае працы.

Папершае, што прадстаўляе з сябе першая кляса школы па соцыяльнаму складу яе вучняў? Пытаньне для настаўніка першачарговай важнасьці. Сапраўды, мы стаім ужо на мяжы абавязковага ўсеагульнага навучаньня, і ў школе павінны быць адчынены дзьверы для ўсіх дзяцей адпаведнага ўзросту. Але для настаўніка ведаць соцыяльнае становішча сваіх вучняў—першы абавязак, як у мэтах правільнага і пэўнага падыходу да іх у процэсе выхаваньня, так і ў мэтах асаблівай увагі да дзяцей пролетарыяту: рабочых, батракоў, сялянбеднякоў і серадняков: падрыхтоўка кадраў павінна пачынацца ўжо з першых крокаў навучаньня.

Аб соцыяльным складзе вучняў дасьледуемай клясы яскрава гаворыць наступная дыяграма.







Разьмеркаваньне дзяцей па школах г. Мсьціслаўля ў пачатку навучальнага году было праведзена асобнай комісіяй пры РВК і, відавочна, вопытна-практыкавальная школа пры пэдтэхнікуме ў адносінах соцыяльнага складу вучняў новага набору комісіяй была пастаўлена на адно з першых месц. Як паказвае дыяграма, у клясе дзяцей рабочых і батракоў 15 (37,5%), дзяцей сяброў профсаюзаў 11 (27,5%), сялян 10 (25%), дзяцей саматужнікаў 3 (7,5%) і адзін выхаванец дзіцячага гарадка (2,5%)

Хлопчыкаў у клясе 11 (27,5%), дзяўчатак—29 (72,5%). Па ўзросту склад вучняў першае клясы прадстаўляе значныя ваганьні ў межах ад 7 год 2 месяцаў да 10 год аднаго месяца. Па наступнай крывой мажліва яскрава бачыць, як вучні данай клясы па свайму ўзросту разьмяркоўваюцца ў паказаных межах.

Як паказвае графік, сярэдняя (М) паспартнага ўзросту данае клясы раўняецца 8 гадам 4,9 месяцам, а стандартна-тыповае для групы адхіленьне (Б) 8,5 м. Тыповы для данае клясы ўзрост ад 7 г. 8 м. да 9 год 1 мес.: на адну шостую больш і на адну менш паказанай сярэдняй велічыні (М). У даных межах у клясе 29 вучняў—72,5% агульнага ліку. Сем вучняў (17,5%), маладзейшыя, знаходзяцца ў межах другога стандартнага адхіленьня (2Б) ад 7 г. 2 м. да 7 г. 8 м. Адхіленьне невяліаке, але настаўніку прыходзіцца зьвярнуць на яго ўвагу і ўвесь час лічыцца з ім у працы. З чатырох вучняў, старэйшых, два (5%) стаяць таксама ў межах другой Б і два (5%) у межах трэцяга стандартнага адхіленьня. Два апошнія вучні (10 г. 1 м.) ужо значна вылучаюцца па ўзросту ад асноўнай масы, але па правілу трох Б усё-ж не павінны лічыцца выходзячымі з нормы для данае статыстычнае скупнасьці.

Надта цікава было прасачыць, як розныя соцыяльныя групы вучняў разьмяркоўваюцца ў паказаных межах.

Адпаведныя даныя згрупаваны ў наступнай табліцы.

| У межах | ад | да | Усяго | У тым ліку: Хлопчык. | Дзяўчын. | Дзяцей рабочых | Батракоў | Сялян | Членаў профсаюз. | Саматужнікаў | Дзяц. гарад. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| —ББ . . . . . | 7 г. 2 м. | 7 г. 7 м. | 7 | 2 | 5 | 2 | — | 3 | 1 | 1 | — |
| ±Б . . . . . | 7 г. 8 м. | 9 г. 1 м. | 29 | 8 | 21 | 9 | 1 | 7 | 10 | 1 | 1 |
| +ББ . . . . | 9 г. 2 м. | 9 г. 8 м. | 2 | — | 2 | 2 | — | — | — | — | |
| +БББ . . . . | 9 г. 9 м. | 10 г. 1 м. | 2 | 1 | 1 | 1 | — | — | — | 1 | — |

З аналізу прыведзеных даных вынікае, што з дзяцей рабочых двое (14,2%) і сялян трое (30%) у школу залічаны раней тыповага для данае клясы ўзросту: хто ў час царызму быў прыгнечаны, прыходзіў у школу пазьней усіх і кідаў яе далёка да сканчэньня курсу, тыя цяпер, пры савецкай уладзе, імкнуцца паступіць і залічыцца ў школу першымі. Але соцыяльная спадчынасьць старога часу яшчэ засталася і адчуваецца: двое з дзяцей рабочых па ўзросту вышэй паказанай нормы. Нават адна дзяўчынка, дачка чорнарабочага, зьяўляецца старэйшай у клясе (10 г. 1 м.). Другі хлопчык такога ж узросту з сям'і саматужніка.

Дзеці сяброў профсаюзаў у колькасьці 90% маюць узрост тыповы для данае групы.

Асабліва цікава было побач з узростам вучняў клясы дасьледваць іх разумовы ўзрост (I). Дасьледваньне праводзілася па тэстах Біне і Сымона ў перапрацоўцы МОНО. Вынікі дасьледваньня такія:

Як бачна з графікаў, сярэдняя (М) разумовага ўзросту клясы 8 г. 1, 8 м. Квадратовае адхіленьне (Б) 1г. 2,4 месяца, а тыповы разумовы ўзрост (±Б) для групы вагаецца ў межах ад 6 г. 11 м. да 9 г. 3 м.

На гэтай ступені разумовага ўзросту ў групе 25 дзяцей (62,5%).

Вучняў ніжэйшага разумовага ўзросту, у межах аднае Б, 6 чалавек (15%). Гэта дзеці, асабліва бліжэйшыя з іх да мяжы трэцяга квадратовага адхіленьня, ужо адсталыя.

Дзяцей, якія па разумоваму ўзросту стаяць вышэй асноўнай групы, у межах




другога квадратовага адхіленьня (ББ), 7 і крыху далей за гэтымі межамі усяго 9 вучняў (22,5%).

Прыведзеныя даныя паказваюць разумовы ўзрост кожнага з вучняў і месца яго ў гэтых адносінах сярод таварышоў. Але яны яшчэ не характарызуюць тэмпу разумовага росту дзяцей і іх адноснага інтэлектуальнага разьвіцьця ў цэлым. Вучань дзесяці год па пашпарту

і сямі год па разумоваму ўзросту ў працэсе навучальнай працы зусім ня тое, што яго таварыш сямі год паспартнага і разумовага ўзросту.

Для характарыстыкі адноснага разумовага разьвіцьця трэба было вызначыць адносіны разумовага ўзросту кожнага з вучняў да яго ўзросту па паспарту-інтэлектуальны яго паказальнік (JO).

Па прыведзеных раней даных паспартнага і разумовага ўзросту дзяцей клясы параўнальнае інтэлектуальнае іх разьвіцьцё можна запісаць у такім графічным выглядзе:




Як бачна з графіку, больш-менш аднатыповая па інтэлектуальнаму разьвіцьцю частка ў клясе складаецца з 29 вучняў. Гэтыя дзеці з інтэлектуальным паказальнікамі ад 78 да 113 (±Б). Значна шырокія межы групы кажуць аб тым, што яна далёка не аднастайная ў адносінах данае адзнакі, але астатнія вучні клясы ў гэтым выпадку прадстаўляюць яшчэ большыя адхіленьні.

У бок вышэйшага разумовага разьвіцьця ёсьць дзьве групы: у межах другога квадратовага адхіленьня пяць вучняў, з паказальнікамі 114-132, і ў межах трэцяй Б, з паказальнікамі 136-40—тры вучні.

Гэтыя вучні, асабліва апошнія тры, ужо вельмі адрозьніваюцца ад вучняў з сярэднім разумовым разьвіцьцём, і перад настаўнікам паўстае проблема, каб гэтых больш здольных вучняў не затрымаць у іх разьвіцьці, а паступова пашыраць іх здольнасьці і разьвіцьцё.

З ніжэйшым разумовым разьвіцьцём, з паказальнікамі 77-70.—тры вучні. Гэта вучні ўжо адсталыя, цяжкія; яны патрабуюць ад настаўніка асаблівай да сябе ўвагі.

Прыведзеныя вынікі дасьледваньня інтэлектуальнага разьвіцьця вучняў першае клясы яскрава высьветлілі студэнтам цэлы шэраг грунтоўных пытаньняў, якія ўзьніклі ў іх у час пэдпрактыкуму ў гэтай клясе. Агульнае ўражаньне студэнтаў: у першай клясе праводзіць практычныя лекцыі значна цяжэй, чым у астатніх клясах першага концэнтру. Звычайна ў гэтай клясе надта цяжка ўцягнуць у працу ўсіх дзяцей. У першай клясе горшая дысцыпліна. Сярод вучняў гэтае клясы ёсьць асобныя дзеці, якія ня толькі самі парушаюць працоўны парадак, але бываюць выпадкі, што яны робяць дэзорганізуючы ўплыў на астатніх дзяцей, нават вучняў іншых клясаў.

У першай клясе з першых жа крокаў навучаньня ўжо вылучылася некалькі непасьпяваючых вучняў. Студэнты ў час пэдпрактыкуму штодзень сустракаліся з рознымі конкрэтнымі выпадкамі паказанага зьместу і ў іх ўзьнікла пытаньне: чым і як абумоўліваюцца пералічаныя асаблівасьці ў паводзінах дзяцей першае клясы? Ужо азнаёмленыя тэорэтычна з узроснымі асаблівасьцямі дзяцей першага школьнага ўзросту, студэнты спачатку тлумачылі прыведзеныя факты як раз узростам вучняў гэтае клясы: гэта дзеці маладзейшыя у параўнаньні з вучнямі другой, трэцяй і чацьвёртай клясы, ім цяжка вучыцца, яны яшчэ ня прывыклі да школьных парадкаў і дысцыпліны.

Бязумоўна, некаторая частка праўды была ў гэтых думках, але больш сталае

пэдолёгiчнае дасьледваньне дзяцей данай групы дало магчымасьць студэнтам глыбей падыйсьцi да гэтага пытаньня. Пасьля досьледаў студэнты зразумелi: цяжка зацiкавiць працай усю першую клясу цалкам ня толькi таму, што гэтыя дзецi маладзейшыя па ўзросту, але i таму, што яны занадта рознастайныя па ўзросту i разумоваму разьвiцьцю. Таму-ж так цяжка ўстанавiць у клясе ў час заняткаў актыўную дысцыплiну, якая грунтуецца на зацiкаўленасьцi вучняў. Гэтай жа прычынай тлумачыцца выпадак дэзорганiзаванасьцi: стракатыя групы ў адносiнах iнтэлектуальнага разьвiцьця, кажа пэдолёгiя, даюць большую колькасьць выпадкаў дэзорганiзаванасьцi ў паводзiнах дзяцей. Цiкава, што самыя старэйшыя ў клясе вучнi зьяўляюцца i найбольш адсталымi ў разумовым разьвiцьцi i менш выяўляюць зацiкаўленасьцi i арганiзаванасьцi ў працы.

Такiя тлумачэньнi ў сваю чаргу высунулi перад студэнтамi новыя грунтоўныя пытаньнi.

Вынiкi дасьледваньня iнтэлектуальнага разьвiцьця дзяцей групы амаль што цалкам апраўдвалiся пэдагогiчнай практыкай, пасьпяховасьцю вучняў i яскрава высьвятлялi грунт для пасьпяховасьцi. Але знайшлiся выпадкi, калi ступень пасьпяховасьцi вучняў супярэчыла вынiкам дасьледваньня iх разумовага разьвiцьця. Дзяўчынка, якая па iнтэлектуальнаму разьвiцьцю, па вынiках дасьледваньня, стаяла амаль што на першым месцы ў клясе (у межах БББ), па пасьпяховасьцi ня вылучалася з групы вышэй сярэднiх (ББ). Наадварот, хлопчык, якi па разумоваму разьвiцьцю стаяў блiзка да мяжы нiжэй сярэднiх (—ББ) выяўляў здавальняючыя посьпехi. Як растлумачыць такую супярэчнасьць? Далей, што самае галоўнае, чым жа абумоўлiваецца заўважаная ў значнай колькасьцi выпадкаў адсталасьць у дасьледваных дзяцей у разумовым разьвiцьцi ў параўнаньнi з iх паспартным узростам? Якiя трэба ўжыць крокi, каб дапамагчы гэтым дзецям? Як трэба весьцi навучаньне для таго, каб не затрымаць разьвiцьцi тых дзяцей, якiя ў сваiм iнтэлектуальным росьце iдуць уперадзе асноўнай масы вучняў данае клясы?

Першым i самым грунтоўным з гэтых пытаньняў, бязумоўна, было пытаньне аб тых прычынах, якiмi абумоўлiвалася тая або iншая ступень адсталасьцi ў разумовым разьвiцьцi не пасьпяваючых вучняў.

Педолёгiя дае сталы адказ на гэтае пытаньне: прычыны адсталасьцi ў разумовым разьвiцьцi школьнiка трэба шукаць у бiолёгiчных яго асаблiвасьцях i, галоўным чынам, у соцыяльных умовах яго жыцьця. Данае паказаньне студэнтам трэба было скарыстаць у далейшых сваiх дасьледваньнях.

Яшчэ раней з мэтай вывучэньня фiзычнага разьвiцьця вучняў былi зроблены студэнтамi антропомэтрычныя вымеры дзяцей першае клясы, быў праведзены доктарамi мэдычны агляд.

Занадта малая колькасьць дасьледжаных, асаблiва пры падзеле iх па соцыяльнаму складу, узросту i полу i адсутнасьцi адпаведных мясцовых антропомэтрычных стандартаў, не дазваляла на грунце праведзеных вымераў рабiць якiя-небудзь шырокiя абагульняючыя вынiкi. Але зробленыя студэнтамi вымеры i вылiчэньнi на iх грунце энэргетычны, морфолёгiчны i жыцьцёвы паказальнiкi, дапоўненыя мэдычным аглядам, далi студэнтам шмат матэрыялу для разуменьня конституцыянальных асаблiвасьцяй, стану здароўя, а разам з тым i трыманьня кожнага з вучняў.

Студэнты, вiдавочна, упэўнiлiся ў тым, колькi пераваг у адносiнах конституцыянальнага складу i здароўя мелi дзецi найбольш выдатныя па iнтэлектуальнаму разьвiцьцю i пасьпяховасьцi, у параўнаньнi з таварышамi непасьпяваючымi i адсталымi ў разумовым разьвiцьцi. Дзьве дзяўчынкi i хлопчык, якiя займаюць першыя месцы (у межах БББ) у клясе ў адносiнах нтэлектуальнага разьвiцьця, маюць паказальнiкi вышэй стандартаў Наркамздрава РСФСР, энэргетычны на дзьве-тры адзiнкi, а жыцьцёвы на 0,02-0,03. Гэтыя даныя сьведчаць аб багатым запасе энэргii i моцы, аб нормальным абмене матэрыi ў організь-

ме і сваячасовым папаўненьні страчаных сіл. Доктар характарызуе ўсіх траіх як здаровых. Гэта ўсё такія ўмовы, якія добра забясьпечваюць нормальны ход працы, яе пасьпяховасьць і нормальны ход разьвіцьця асобы.

Зусім іншае з вучнямі, якія стаяць на ніжэйшай ступені разумовага разьвіцьця ў клясах (у межах—ББ). Такіх вучняў у клясе таксама тры—адна дзяўчынка і два хлопчыкі. Жыцьцёвы іх паказальнік ледзь даходзіць да памянёнай вышэй стандартнай нормы Наркамздрава РСФСР, а ў аднаго з хлопчыкаў нават ніжэй нормы. Энэргетычны паказальнік у аднаго хлопчыка і дзяўчынкі ніжэй стандарту. Гэтыя даныя ўжо гавораць аб слабой упітанасьці дасьледуемых, зьніжаным ходзе ў іх абмену матэрыі ў організьме, а разам з тым аб няздольнасьці іх да сталай плянавай працы.

Пры аглядзе доктарам у хлопчыкаў заўважана малакроўе, а ў дзяўчынкі, апрача таго, рэшткі рахіту. Вось яскравыя прычыны затрымкі ў разумовым разьвіцьці і непасьпяховасьці ў школьных занятках.

Яшчэ больш цікавы малюнак дало студэнтам дасьледваньне хатніх умоў жыцьця паказаных дзяцей.

Усе трое ўспамянутыя вучні лепшыя ў клясе ў сэнсе пасьпяховасьці і ў разумовым разьвіцьці, яны дзеці служачых, маюць добрыя кватэры, добрую яду, асобныя ложкі, куткі для заняткаў. Для аднае з дзяўчынак выпісваюць дома часопісі з малюнкамі, у другой, дачкі настаўніка, брат вучыцца ў тэхнікуме, прыносіць ёй кніжкі, малюнкі. Хлопчыка кахаюць, аб ім клапоцяцца.

Не ў такіх умовах жывуць паказаныя вышэй не пасьпяваючыя дзеці. Адзін з хлопчыкаў жыве ў падвале. Часам жабрачыць. Умовы жыцьця дзяўчынкі таксама вельмі дрэнныя. Каб яна ўвосень ня кінула школу, студэнткі-практыканткі пашылі ёй вопратку. Ня глезадзячы на свой узрост, яна шмат дапамагае дома ў хатняй працы. Другі хлопчык—з дзіц. гарадка. Але дзіц. гарадок яшчэ ня згладзіў адбітка на ім цяжкіх умоў папярэдняга жыцьця.

Адна з дзяўчынак, лепшых па разьвіцьці, ня вылучалася па пасьпяховасьці ў час практыкуму таму, што перад тым некаторы час хварэла і не пасьпела яшчэ нагнаць прапушчаны матар'ял, а хлопчык, па разьвіцьці блізкі да слабых, пасьпяваў здавальняюча, дзякуючы добрым хатнім умовам.

Біолёгічнае вывучэньне дзяцей клясы і дасьледваньне хатніх умоў іх жыцьця відавочна паказала студэнтам, як памылкова думка некаторых буржуазных пэдагогаў аб тым, што працоўныя ўжо ў сілу спадчыннасьці вымушаны мець ніжэйшае разумовае разьвіцьцё. Цэлы шэраг рознастайных фактаў падкрэсьліў студэнтам, што інтэлектуальнае разьвіцьцё чалавека пераважна абумоўліваецца соцыяльнымі фактарамі. Бясспрэчна, у некаторых выпадках конституцыянальныя асаблівасьці адыгрываюць вялікую ролю. Могуць мець уплыў хваробы бацькоў, а таксама цяжкія роды, перагружанасьць маткі працай у час цяжарнасьці і г. д. Але гэта ўжо прычыны соцыяльнага паходжаньня. Гэта ўжо соцыяльная спадчыннасьць, матар'яльныя і культурныя ўмовы жыцьця бацькоў, у каторых дзецям прыходзіцца расьці і разьвівацца з моманту нараджэньня. Студэнты пераканаліся, што соцыяльныя фактары—асноўныя ў выхаваньні чалавека, і што новыя соцыялістычныя ўмовы нашага жыцьця даюць поўны грунт для оптымістычных надзей на шпаркае і шырокае разьвіцьцё працоўных мас, якія раней лічыліся толькі як рабочая сіла.

У вялікім уплыве соцыяльных умоў на формаваньне вучняў студэнты яшчэ больш упэўніліся пры вывучэньні ідэалаў дзяцей. Вывучаючы ідэалы вучняў клясы, студэнты на шэрагу відавочных фактаў пераканаліся, як моцна соцыяльныя ўмовы адбіваюцца на жаданьнях і імкненьнях вучняў і на абхваце грамадзкіх прадстаўленьняў імі.

Вынікі досьледаў гл. на наступнай балоне (табліца).

Мы бачым, што ў 98% дадзеных адказаў на пытаньні, чаго я больш за ўсё жадаю, дзеці паказалі на прадметы, якія здаволілі б іх матар'яльныя патрэбы. У васьмі выпадках (32%) дзеці жадаюць мець карову, бо яна дае малако. Адна дзяўчынка (дачка служачага) аб карове

ня марыць, яна жадае мець хоць казу. Хлопчыкі мараць пра каня. У шасьці выпадках (24%) дзеці жадаюць мець і адзеньне. Адна дзяўчынка, дачка чорнарабочага, жадае мець «грабенчык», а другой, дачцы служачага, жадалася-б

| Чаго я больш жадаю | Колькасьць адказаў | На каго жадаю быць падобным | Колькасьць адказаў | Кім жадаю быць | Колькасьць адказаў | Чулі аб Леніне | Колькасьць адказаў | Чулі аб комуністых | Колькасьць адказаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Карову (малако дае) . . | 8 | На матку . . | 12 | Настаўніцай . | 10 | Батрак . . . | 1 | Рабочых . . | 4 |
| Каня . . . . | 3 | На бацьку . | 2 | Настаўнікам . | 3 | | | Сялян . . . | 4 |
| Боты . . . | 2 | На сястру . . | 2 | „Вучнем" . . | 1 | Дзеці: | | Служачых . . | 1 |
| Валёнкі . . | 1 | На цётку-практыкантку . | 2 | Такой, як мама | 1 | рабочых . | 2 | | 9 |
| Вопратку . . | 2 | На сябе . . | 1 | Швачкай (яна шмат грошай зарабляе) . | 1 | служачых . | 3 | | |
| Рубашку . . | 1 | На прыгожую | 1 | „Салдатам" (кашу ядуць) | 1 | | 6 | | |
| Цягнік . . . | 1 | На прыгожага чалавека . | 1 | Чалавекам . | 1 | | | | |
| Казу . . . . | 1 | На разумнага чалавека . | 1 | Аграномам . | 1 | | | | |
| Грошы . . . | 1 | | 22 | Інжынэрам . | 1 | | | | |
| Кніжку . . . | 1 | На далі адказу | 18 | Міліцыянэрам | 1 | | | | |
| Вучыцца . . | 1 | | | | 21 | | | | |
| Бацінкі і галёшы . . . | 2 | | | | | | | | |
| Грабенчык . | 1 | | | | | | | | |
| | 25 | | | | | | | | |
| На далі адказу | 15 | | | | | | | | |

мець грошы. Хлопчык з сям'і служачага жадае мець цягнік. Зусім асобна, па свойму характару, вылучаюцца жаданьні дзьвюх дзяўчынак (дачкі рабочага і дачкі служачага)—першая жадае мець кніжку, а другая—вучыцца. 15 чалавек на пытаньне не адказалі.

На другое пытаньне—на каго я жадаю быць падобным—з 40 вучняў групы далі адказ 22 (55%). Больш за ўсё дзеці жадаюць быць падобнымі да сваіх бацькоў: 12 (30%); дзьве дзяўчынкі выказалі жаданьне быць падобнымі на сястру і 2 на цётку-практыкантку. Хлопчык, сын батрачкі, адказаў: «на сябе». Дзяўчынка і хлопчык,—дзеці служачых—жадаюць быць падобнымі на прыгожых. Адзін хлопчык, сын саматужніка, жадае быць падобным «на разумнага чалавека». Цікава, што пытаньне «чаму», як па гэтым разьдзеле, так і па наступным, для дзяцей аказалася цяжкім.

Кім жадаюць быць дзеці, калі падрастуць? Аказваецца, як даводзіць пэдолёгія, у гэтым узросьце аўторытэт настаўніка вельмі значны. З дваццаці дадзеных адказаў у 13 (66%) выпадках выказалі жаданьне быць: дзяўчынкі (10) настаўніцамі, а хлопчыкі (3) настаўнікамі, пры чым адзін з хлопчыкаў (батрак) дадаў: «таму, што настаўнік атрымлівае шмат грошай». Далей такія жаданьні: быць вучнем, швачкай («яна грошы зарабляе»), салдатам («яны кашу ядуць, суп»), чалавекам, аграномам (бацька аграном), інжынэрам (старэйшы брат імкнецца быць інжынэрам), міліцыянэрам.

У кожным з прыведзеных адказаў відаць, як жаданьні, імкненьні дзяцей стымулююцца жыцьцём і формуюцца пад моцным уплывам соцыяльных умоў. Недахоп у матар'яльных сродках выклікае жаданьне мець карову, казу, вопрат-

ку, валёнкі, боты, грабяшкі, наогул, грошы. Пры некаторай матар'яльнай забясьпечанасьці і культурнасьці зьяўляецца жаданьне мець кніжку, вучыцца, быць падобным на «разумнага», «прыгожага» чалавека. Клопаты, ласка, аўтарытэт у сям'і маткі, у школе настаўніцы выклікаюць у дзяцей імкненьне быць падобнымі на іх як цяпер, так і ў будучым. Прыклад бацькі агронома, брата, які рыхтуецца быць інжынэрам і ўвесь час гаворыць аб гэтым, выклікае ў дзяцей жаданьне быць у будучым аграномам, інжынэрам.

Уплыў асяродзьдзя асабліва адбіваецца на орыентыроўцы дзяцей у сучаснасьці. Ці атрымалі дзеці ў гэтым асяродзьдзі, перад прыходам у школу, яскравыя вобразныя уяўленьні, якія асьвятлялі-б іх першыя крокі ў грамадзкім жыцьці? З 40 вучняў толькі 6 да школы чулі пра Леніна. Хто гэта?—Дзеці рабочых і служачых. «Ленін дапамагаў рабочым». «Ён добры, у нас ёсьць яго портрэт», «Бацька пра Леніна чытаў у газэце»—адказы дзяцей рабочых. «Ленін—вялікі правадыр»—чытала ў кніжцы брата»; «Ленін—лепшы чалавек, гаварыў бацька»; «Казаў пра Леніна бацька, але што—ня памятаю»,—адказы дзяцей служачых. Астатнія 34 вучні пра Леніна да школы ня чулі.

Пра комуністых чулі чацьвёра дзяцей рабочых, чацьвёра дзяцей сялян, адзін сын служачага, але нічога сталага, нічога конкрэтнага на гэта адказаць ня могуць. «Комуністыя ў бога ня вераць—гэта піонэры, вучні, рабочыя, партыйныя, яны пяюць». А то кажуць проста: «чула, але ня ведаю». Вось кола прадстаўленьняў па асноўных галінах сучаснасьці, з якімі дзеці прышлі ў школу, выходзячы ад якіх, школе прыходзіцца пачынаць марксысцка-ленінскае выхаваньне.

Пераліčаныя досьледы далі студэнтам пэўны грунт для вывучэньня паводзін дзяцей, а таксама для організацыі і правядзеньня ўсяго пэдагогічнага практыкуму. Паводзіны дзяцей студэнты вывучалі шляхам сыстэматычнага об'ектыўнага нагляданьня за вучнямі ў час заняткаў, гульняў, клюбнае працы, працы ў гародзе, вучнеўскім колгасе. У выніку назіраньняў студэнтамі былі зроблены спробы складаньня характарыстык дзяцей.

Вось прыклады з гэтых характарыстык.

*Ніна Е.*—самая маладзейшая па ўзросту ў клясе. Параўнайце яе з Зосяй С. Зосі, калі яе залічалі ў школу, было дзесяць год і адзін месяц, а Ніне—7 год і 2 мес. Маленькая, поўная, з яўным нахілам да пікнічнай констытуцыі. Яна заўсёды добра адзета і можа зьяўляцца ўзорам чыстаты і ахайнасьці. Для халоднай бруднай восені ў Ніны ёсьць паліто, чаравічкі і галёшы, а для лютай зімы—цёплая ватоўка. Ніна забясьпечана ўсімі патрэбнымі падручнікамі і пісьмовымі прыладамі, трымае іх акуратна і чыста; лекцый не прапушчае, зьяўляецца ў школу сваячасова.

Па інтэлектуальнаму разьвіцьцю Ніна займае адно з першых месц у клясе; вучыцца таксама досыць добра, ня гледзячы на тое, што больш двух месяцаў хварэла на шкарлятыну. Для першага году навучаньня добра чытае, піша і лічыць. Задачу ня толькі разьвяжа, але і кажа, чаму так, а ня інакш. Самастойныя працы выконвае ўдала, у агульна жа працы ўсяе клясы не выяўляе тае актыўнасьці, якую ад яе магчыма было чакаць. Ідзе ў клясе гутарка. Ніна спачатку паслухае, а потым, бачыш, перабірае ў століку шкельцы, або якія-небудзь цацкі. Запытае настаўнік—засароміцца, кажа: «ня чула». Паўтораць пытаньне—хутка і правільна адкажа. Любіць чытаць. Асабліва захапляецца маляваньнем. Намалюе сябе і пакажа дзяўчаткам, якія сядзяць побач з ёю. Акуратна наведвае клюбныя заняткі, цікавіцца імі. Жыцьцярадасная, у час перапынку гуляе, бегае, але таварышак у яе мала. Спачатку ж яна трымалася зусім асобна. Адносіны яе да настаўнікаў і практыкантаў даверлівыя і далікатныя.

Цяпер яна «чырвоная зорка».

У сям'і Ніны—бацька, матка і бабуля. Бацька служыць лістаносцам на пошце і выконвае там абавязкі сэкратара рабачкому.

Матка—швачка, але чужую працу бярэ рэдка, больш з бабай гаспадараць каля хаты. Жывуць яны у сваёй уласнай

хаце, з трох пакояў. Пры хаце невялікі двор і гарод. Старэйшыя вельмі любяць Ніну і гатовы ўсё аддаць, каб яе лепш адзець, лепш пакарміць, каб захаваць яе здароўе. Ніне выпісваюць дзіцячыя часопісі: «Мурзілку», «Аганькі», «Іскры Ільліча». Матка чытае з ёю. Разглядвае ў часопісях і кніжках малюнкі, вывучвае вершы. Ніна сама ўдала малюе фарбамі і каляровымі алоўкамі. Гэтымі малюнкамі яны ўпрыгожваюць пакоі. Некаторыя з малюначкаў Ніны былі накіраваны ў рэдакцыю «Мурзілкі» і зьмешчаны ў гэтай часопісі. Такія заняткі ў Ніны чаргуюцца з пасільнай працай у хаце і гародзе, дзе матка з бабкай працуюць з раньняй вясны і да позьняй восені. Так Ніна амаль што ўвесь час праводзіць сярод дарослых. Рэдка выйдзе пагуляць з суседнімі дзяўчаткамі.

Відаць, склад сям'і, некаторая ступень яе матэрыяльнай забясьпечанасьці і нават культурнасьці абумовілі сабою нормальны ход фізычнага і ў асаблівасьці інтэлектуальнага і маторнага разьвіцьця Ніны. Жыцьцё ў сям'і выпрацавала ў Ніны цэлы шэраг умоўных рэфлексаў у напрамку выхаваньня ў яе нахілаў да індывідуальных форм заняткаў і спрыяла разьвіцьцю тармазных рэакцый, даверлівасьці да старэйшых, вытрыманасьці, чыстаты і ахайнасьці, а разам з тым, асабліва ў першы час па залічэньні ў школу, адрыву ад дзяцей, малой зацікаўленнасьці і непрыстасаванасьці да колектыўных заняткаў. Малы рост, пачаткі нахілу да мастацтва маюць свае карэньні ўжо ў канстытуцыянальных асаблівасьцях дзяўчынкі, абумоўленых спадчынасьцю [1]).

*Бора Ц.*—адзін з лепшых вучняў першае клясы. Ці праводзіцца экскурсія, ці гутарка ў клясе, або праца на гародзе, разьвязваецца колектыўна пытаньне, Бора заўсёды прымае актыўны ўдзел. Самастойныя працы ён выконвае хутка і стала. Добра чытае і піша. Яго пісьмовыя працы акуратныя і чыстыя. На лекцыях Бора дысцыплінаваны, хіба толькі калі-небудзь, скончыўшы працу раней за таварышоў, ён штурхане ў бок свайго суседа Колю П., або пачне займацца якімі-небудзь рэчамі, ці стругаць дошчачкі. Таварышом Бора дапамагае рэдка: «рабеце самі». Цікавіцца мастацтвам. Жвавы, вясёлы, рухавы. У час перапынку зьбярэ навакол сябе таварышоў і арганізуе гульню. З настаўнікамі далікатны. Яшчэ да залічэньня ў школу Бора цікавіўся грамадзкімі пытаньнямі: «Ленін—лепшы чалавек, гаварыў бацька». У школе Бора ўжо чырвоная зорка.

Фізычна Бора здаровы, па сваіх гадох дужы, з задаткамі атлетычнай конституцыі. Па інтэлектуальным разьвіцьці вышэй на два гады паспартнага ўзросту. Дома ў сям'і Бора яшчэ ёсьць брат і сястра, але на Бору, як на старэйшага, усе надзеі бацькоў. «Мы для яго, кажа матка, нічога не шкадуем. Увесь час аб ім клапоцімся, каб ён быў здаровым, гуляў з добрымі таварышамі і добра вучыўся, ён у нас будзе інжынэрам. Пабачыце, Бора заўсёды што-небудзь робіць»...

Бацька Боры служыць на гарадзкой тэлефоннай станцыі. Матка вядзе гаспадарку і шчыра даглядае свайго сына. Кватэра ў іх досыць добрая. Матар'яльных сродкаў на выхаваньне Боры хапае.

Ці будзе Бора інжынэрам, гэта справа будучага, але цяпер, бясспрэчна, Бора—добры хлопчык: здаровы, разумны, пасьпяховы ў школе. Побач з разумовым, не адстае ён і ў маторным разьвіцьці: жвавы, спрытны ў гульнях з таварышамі. Бора пачынае ўжо цікавіцца конструкцыйна-тэхнічнай працай. Ёсьць у Боры пачаткі грамадзкіх інтарэсаў, але заўважаюцца і эгоцэнтрычныя імкненьні[1]).

*Янка Рогаў*—вучань 1 клясы Мсьціслаўскае дасьледчае сямігодкі. Яму 8 год і 8 месяцаў. Пры мэдыяне 8 г. і 4 месяцы і стандартным адхіленьні 8,5 месяцаў—узрост Янкі Рогава параўнальна ў клясе захапляе сабою вельмі невялічкую частку (4 м-цы) першае сыгмы. Зьява—больш чым нормальная.

Зусім іншае з разумовым разьвіцьцём Янкі. 6 год і 2 месяцы агідна красуюцца поруч з імем. Мізэрныя лічбы. Вучыцца Янка дрэнна. Няўважлівы, нядбайны.. гультай... Такім чынам, Рогаў зьяўляец-

[1]) Праца студэнткі З. Блінчэўскай

[1]) Праца студэнткі М. Гольдзінай

ца адным з найбольш цяжкіх (калі ня самым цяжкім) для выхаваньня дзяцей.

Ня лепш і з паводзінамі. Янка ня толькі не падтрымалівае дысцыпліны, а, наадварот, вельмі разбурае колектыў. Дзеці ня любяць Янку: «злодзей», «бандыт»— звычайныя словы для яго характарыстыкі і гэта ня так сабе. У гэтай «характарыстыцы» ёсьць доля праўды.

Янка спрабуе красьці, спрабуе і біцца.

Даведзены факт, што ён украў з шафы каробачку з пёрамі і прадаў іх потым на вуліцы. І такіх фактаў ня мала. Янка часта прадае рэчы школьнага ўжытку і апраўдваецца потым, што згубіў

Ня раз бачылі Янку ў гарадзкой сталоўцы ў ролі жабрака.

Цяжка выхоўваць Янку.

Босы, з апушчанымі рукавамі, ускудлачанымі валасамі пахаджвае ён сярод вучняў, як калючы ёрш сярод рыбы. Атлетычная констытуцыя, шырокія грудзі абяцаюць Янку здароўе. Толькі празмерная бялявасьць твару як-бы супярэчыць гэтаму абяцаньню.

У выглядзе Янкі—нічога нязвычайнага.

Але Янка—дэзорганізатар.

Янка крадзе.

Янка жабруе.

Янка дрэнна вучыцца.

Янка няразьвіты.

Дзе-ж разгадка? Хто папсаваў Янку? Можа пяшчоты сям'і, матчыны ласкі? Паглядзім.

Іду да Янкі. Размаўляем. Распытваю пра Янкавы жаданьні, адносіны да піонэраў. Выяўляецца, што піонэраў Янка ня любіць і быць піонэрам не жадае.

Раптам:

— Мама, дай ключ! Дзядзька хоча паглядзець, дзе я жыву.

— Дурны. Татка дома, хіба ня ведаеш... агрызнулася высокая жанчына з дзіцянём на руках.

Гэта была Янкава маці.

Сустрэла. Акінула іронічным поглядам дзіўнага «дзядзьку» і пашла далей, пыхкаючы акуркам цыгары.

І вось я ў Янкі.

Цеснае, гнілое сутарэньне сьціснула мяне сваёю ўдушлівай пасткай. Нізка навісла закурэлая столь, раскудлачыўшы кавалкі адліпшай паперы. Хмура пазіраюць шырокімі шчылінамі сьцены. Нізенькі столік. Слабенькая лава. Ложак з паламанымі ножкамі—вось і ўсё абсталяваньне пакою.

Сустрэў нас Янкаў вотчым. Аднаногі, хмуры, як само сутарэньне.

— Ну, як Янка?

— Кажуць, вялікі дурасьлівец?—Адно за другім пасыпаліся запытаньні.

Шкада мне стала Янкі.

«Вось яна дзе разгадка», думаю.

— Цяжка жыць!—пачаў Янкаў вотчым.

— Так вось перабіваемся з дня на дзень. Атрымліваю пэнсію, 9 рублікаў, як лёду. Яна (жонка) шукае работы па горадзе. Каму падлогу падмые, каму бялізну папалошча—так і жывём. Незаўсёды і хлеб бывае. Спрабавалі пасылаць Янку жабраваць—не паміраць жа... Сам працаваць не магу. Яшчэ замалада нагу адарвала малатарняй, батраком быў...

Ды вось яна разгадка, зноў прашумела ў галаве.

— Але, цяжка,—працягвае Янкаў вотчым.—Кватэра, як бачыце, нікуды ня вартка. На версе, часам, як пачнуць скакаць, таго і глядзі, што столь праваліцца. Жывым ня вылезеш. Ніхто ня ведае і ведаць ня хоча. Даюць таму, у каго з горла лезе...

Хутка падышла Янкава маці.

Янка, памацаўшы рукой па стале і нічога там не знайшоўшы, нездаволена скінуў пад стол брудныя бацінкі і накіраваўся да выхаду.

— Янка, вярніся назад!—закрычала маці.

— Янка, дурань, зараз жа скуру спушчу!..

Янка зьнік.

Сьледам за Янкам, нэрвова разьвітаўшыся, пашоў і я.

— Заходзьце, калі ласка... Ня цурайцеся!—вырвалася мне наўздагон з цёмнай і бруднай ямы...

**
*

Цяжка выхоўваць Янку...

Цяжка жывецца Янку...

Дык вось чаму Янка жадае быць салдатам: па яго думцы—салдатам кашы многа даюць, а ён яе, мусіць, ніколі ня еў.

Вось чаму жадае Янка мець малочную карову...

Вось чаму Янка жабруе,—бо ён рэдка калі знаходзіць на стале хлеб.

Вось чаму Янка дезорганізатар, грубы і нядбайны,—бо яго выхоўвае вуліца.

Цяжка выхоўваць галоднага Янку.

**
*

Досыць толькі Янку накарміць, і Янка ня пойдзе жабраваць, ня пойдзе красьці. Не навучаць, а разьвіваць трэба адсталага Янку.

Гэта спадчынасьць выхоўвае з яго злодзея і дурасьліўца [1]).

Паказаны практыкум даў магчымасьць студэнтам пазнаёміцца як з асноўнымі мэтодамі пэдолёгічнага дасьледваньня дзяцей, так і з апрацоўкай атрыманых даных і, што галоўнае, тут жа скарыстаць выні́кі гэтае працы ў школе ў час пэдагогічнага практыкуму.

Прыведзеныя характарыстыкі вучняў, зробленыя студэнтамі, яскрава паказваюць, што студэнты пасьля пэдолёгічных дасьледваньняў пачалі глядзець на вучняў, як кажуць, зусім іншымі вачамі: цяпер перад імі—ня проста вучань, а дзіця, цэльная асоба, рост, разьвіцьцё і трыманьне якой залежыць ад уплыву шэрагу біолёгічных і соцыяльных фактараў. Адгэтуль простае, яснае вызначэньне сутнасьці і межаў самае школьнае працы, як такой, якая ня можа абмежавацца вузкімі рамкамі навучаньня, а павінна падняцца да шырокіх межаў працы пэдагогічнай, а гэтая апошняя ва ўсёй яе шырыні зьліцца з працай грамадзкай.

Па організацыі школьнае працы прыклад дасьледуемай клясы перш за ўсё высунуў перад студэнтамі проблему комплектаваньня школы вучнямі. На штодзённай працы ў групе студэнты ўпэўніліся, як ускладняецца пэдагогічны працэс пры рознастайнасьці клясы і, адгэтуль, якое вялікае значэньне мае пэдолёгічнае паказаньне аб комплектаваньні школьных груп дзяцьмі, блізкімі адзін ад аднаго па інтэлектуальным разьвіцьці. У гарадох, буйных мястэчках, дзе ёсьць па некалькі роўналежных клясаў, такая групоўка магчыма.

Іншая справа са школамі аднакомплектавымі. Тут жыцьцё настойліва высоўвае прад настаўнікам проблему цяжкіх дзяцей. Пэдолёгічныя дасьледваньні на жывых прыкладах выявілі перад студэнтамі карэньні выключнасьці дзяцей і паказалі шляхі барацьбы з непасьпяховасьцю. Узгодненая з пэдолёгічнымі паказаньнямі практыка школы ў сваю чаргу высьветліла студэнтам сапраўднае значэньне шэрагу такіх мерапрыемстваў, як організацыя ў школе гарачых сьнеданьняў, пастаноўка заняткаў, накіраваная не на мэханічную вучобу, а на разьвіцьцё ўвагі і інтэлекту дзяцей, мастацкае выхаваньне, выхаваньне маторнае, пасільная праца, пашырэньне клюбных заняткаў.

На працы з больш здольнымі вучнямі студэнты пераканаліся ў тым, што гэтыя дзеці па-свойму зьяўляюцца для настаўніка таксама цяжкімі. Яны ад настаўніка шмат патрабуюць, і пытаньне тут ня столькі ў пашырэньні для іх усяго курсу ў цэлым данае клясы, а ў выхаваньні, шляхам уласнай ініцыятывы і самадзейнасьці, індывідуальнае здольнасьці кожнага дзіцяці.

Так праведзеныя студэнтамі пэдолёгічныя дасьледваньні паслужылі пачаткам і грунтам пэдолёгізацыі ўсяго іх пэдагогічнага практыкуму. Пэдолёгічны аналіз дапамагаў студэнтам як у распрацоўцы комплексных заданьняў дзецям у напрамку жыцьцёвасьці, структуры і організацыі пэдагогічнага процэсу, так і ў правядзеньні паасобных лекцыяў у дозіроўцы і плянаваньні матар'ялу, у выбары мэтодаў і падліку працы.

Вялізарнае значэньне соцыяльных умоў, як мацнейшага фактару ў справе

---

[1]) Праца студэнта Янкі Гоманава

фармаваньня асобы дзіцяці паказала студэнтам на неабходнасьць для настаўніка ўлічваць у сваёй школьнай працы гэтыя ўмовы і весьці шырокую грамадзкую працу сярод бацькоў і навакольнага насельніцтва.

З адказаў на астатнія пытаньні па вывывучэньні ідэалаў вучняў яскрава відаць, што сям'я, за выключэньнем некаторых выпадкаў, дае дзецям занадта мала станоўчага для асьвятленьня сучаснасьці. На папаўненьне гэтага недахопу на вачох студэнтаў і пры іх удзеле была накіравана ўся штодзённая навучальная і выхаваўчая праца школы. З гэтаю мэтаю была наладжана ў клясе праца піонэр-атраду, а таксама арганізацыі чырвоных зорак, арганізаваны Ленінскі куток.

Праца сярод бацькоў і насельніцтва праводзілася на бацькоўскіх сходах у школе на сходах у клюбах і хатах-чытальнях.

г. Мсьціслаўль.

---

. Л. Вінаградаў

# Рыхтуем кадры

*З практыкі Дубровенскай школы ФЗВ пры тэкстыльнай фабрыцы „Дняпроўская мануфактура"*

Фабрыка «Дняпроўская мануфактура» налічвае каля 1000 рабочых. Галоўная яе вытворчасьць—выраб баваўнянае тканіны, якая ідзе на верхняе адзеньне. На фабрыцы чатыры цэхі: 1) падрыхтоўчы, у які ўваходзяць матальнае, снавальнае, шліхтавальнае і праборнае аддзяленьні, 2) ткацкі, 3) прыёмна-браковачны і 4 фарбовачна-апратурны цэх.

Пераабсталяваньне самой фабрыкі, замена простых варштатаў на больш складаныя, пытаньні рацыяналізацыі патрабуюць падрыхтоўкі высока-кваліфікаванага работніка. Пытаньне падрыхтоўкі кадраў для фабрыкі набывае асабліва значэньне яшчэ з тае прычыны, што пры ёй у самым хуткім часе адчыняецца новы цэх—прадзільны.

Усё гэта ўпіраецца ў проблему падрыхтоўкі кадраў. Асабліва востра стаіць пытаньне з падрыхтоўкай ткачоў, якія-б адпавядалі рэканструяванай фабрыцы. З гэтай мэтай пры фабрыцы адчынілася школа ФЗВ з двухгадовым курсам навучаньня. Задача школы падрыхтаваць, у першую чаргу, высокакваліфікаванага ткача.

Школа распачала работу з першага красавіка бягучага году. Прыём зроблены толькі на першы курс. Усяго прынята 65 чал. Гэта большай часткай дзеці рабочых, выхаванцы дзіцячых дамоў і рэшта—дзеці батракоў і бяднейшага сялянства.

Што ж датычыць да ўзросту, дык трэба адзначыць, што значная частка іх не адпавядае запатрабаваньням школы. Ёсьць нават два вучні па 12 год. У адносінах акадэмічнай падрыхтоўкі ў школе назіраецца вялікая стракатасьць. Галоўная маса (39 чал.) скончылі 5 груп сямігодкі, але ёсьць і такія, што скончылі 4 групы і 7 груп сямігодкі.

Акадэмічная стракатасьць школы значна ўскладняе яе работу. Настаўніку цяжка прыстасавацца да ведаў вучняў.

Профадбор праведзены ня зусім добра. Значная частка вучняў, дзякуючы сваёй нізкарослысьці, не адпавядае запатрабаваньням профэсіі ткача, што пры ўвядзеньні новай сыстэмы ткацкага варштату (сыстэмы «Нортроп») будзе адбівацца на тэмпе працы. Практыка на ф-цы паказвае, што ў такіх выпадках працуюць на падмостках (зэдліках), але гэта ня зусім зручна. Ёсьць 2-ое вучняў хворых на ногі, а работа ткача ўвесь час адбываецца стоячы. Гэта пытаньне асабліва набывае важнасьць, калі ў далейшым ткач пры рэконструкцыі ф-кі павінен будзе абслугоўваць адразу значны лік варштатаў.

Памяшканьне школы зусім не адпавядае запатрабаваньням навучальнай установы. Цесната перашкаджае нормальна наладзіць як акадэмічную і вытворчую працу школы, так і працу вучнёўскіх організацый. Адна з аўдыторый зьяўляец-

ца праходнай. Штодзень снуюць у час заняткаў шмат людзей, якія перашкаджаюць нормальнай працы.

Пры школе ёсьць інтэрнат з 3 пакояў. Кубатура і квадратура далёка не адпавядаюць запатрабаваньням жылога памяшканьня. Няма патрэбных тумбачак, вешалак, адсюль кніжкі ды іншыя рэчы валяюцца і па вокнах, і па сталох, і па ложках, пад падушкамі і сяньнікамі.

Школьная мэбля таксама не адпавядае запатрабаваньням. Замест парт у аўдыторыі вялізарныя сталы. Вучням прыходзіцца сядзець на звычайных лавах, або табурэтках да 8 гадзін у суткі.

Каб прышчапіць звычкі для працы на мэханічных варштатах, пры школе організаваны трэніровачны цэх, які да канца красавіка працаваў на 6 варштатах. Цяпер дадана яшчэ 5. Малы лік варштатаў прыводзіць да таго, што марна ідзе час на тлумачэньне аднаго і таго ж практыкаваньня для кожнай групы. Адсюль тэмп вытворчага навучаньня значна зацягваецца.

Усе прадметы, што выкладаюцца ў школе, падзяляюцца на 4 цыклы: 1) грамадзкі (грамадазнаўства з агульнымі ведамі па эканомгеографіі, беларуская і расійская мовы), 2) агульна-тэхнічны (тэхнічная матэматыка, фізыка і чырчэньне), 3) спэцыяльны (тэхнолёгія тканіны, спэцсправа—ткацтва, профгігіена) і 4) вытворчае навучаньне. Апроч гэтага, выкладаецца ваенізацыя і фізкультура.

Організацыйнай сувязі між спэцыяльнымі і агульна-тэхнічнымі і грамадзкімі дысцыплінамі няма. Галоўнае запатрабаваньне школы—політэхнічны характар вывучэньня вытворчасьці. Курсы па тэхнолёгіі тканіны і ткацтва павінны базавацца на агульна-тэхнічных ведах. Абмяжоўваць гэтыя дысцыпліны вузкім колам опэрацый, які павінен выконваць рабочы, нельга. Тэхнолёгічная падрыхтоўка яго павінна быць значна вышэй, чым вытворчая. Гэта павінна рабіцца з тэй мэтай, каб даць рабочаму магчымасьць займаць на вытворчасьці вышэйшыя па-

Трэба адзначыць, што веды па матэматыцы ў вучняў вельмі адстаюць. Калі ня прыняць адпаведных захадаў, дык гэта перашкодзіць выкладаньню іншых дысцыплін.

У аснову выкладаньня ўзяты праграмы школ ФЗВ РСФСР для тэкстыльнай прамысловасьці. Патрэбна толькі іх прыстасаваць для мясцовых умоў.

Гадавы агульны навучальны плян у школе мае вялікае значэньне, бо ён ёсьць ня што іншае, як падрабязны парадак практычных навыкаў і ведаў, якія патрэбна набыць і вывучаць..

Амаль усе дысцыпліны выкладаюцца лекцыйным мэтодам. Па некаторых прадметах (грамадазнаўству) ёсьць спробы перайсьці да больш актыўных мэтодаў выкладаньня (спрошчаны лябораторны плян). Актывізацыя мэтодаў упіраецца ў недахоп патрэбнага ліку падручнікаў і інш. прылад. Гэты самы недахоп асабліва адчуваецца пры выкладаньні моваў. Па беларускай літаратуры кніжка прыпадае на 7-9 чал., а па расійскай амаль зусім няма кніжак. Матэматыка, фізыка і чырчэньне маюць тэхнічны ўхіл.

Заўважаецца, што на лекцыях некаторыя настаўнікі праз увесь час гавораць, вучні-ж толькі слухаюць. Адсутнічае ілюстраваньне тых рэчаў, пра якія ідзе размова, напрыклад, тлумачачы пабудову ткацкага чаўнака, выкладчык не клапоціцца паказаць яго на лекцыі. Тое-ж бывае і з другімі настаўнікамі. У некаторых настаўнікаў, асабліва маладых, заўважаецца адсутнасьць пэдагогічнага такту ў выкладаньні.

Школа адчувае вострую патрэбу ў настаўніках, частка з іх па сваёй падрыхтоўцы ня можа задаволіць запатрабаваньняў школы ФЗВ. Спэцыяльныя дысцыпліны выкладаюць адказныя работнікі фабрыкі. Гэта, з аднаго боку, значна палягчае справу па рэгуляваньню вытворчай практыкі з тэорэтычным навучаньнем; з другога-ж боку, адказныя работнікі, займаючы кіраўнічыя пасады на фабрыцы, ня могуць цалкам аддацца школе. Вялікім недахопам для школыназьяўляецца і тое, што большасьць настаўніцтва працуе па сумяшчальнасьці, лічачы сваю асноўную нагрузку ў інш. школах гораду. Частка з іх перагружана (39 гадз. на тыдзень), што, бязумоўна, не дае магчымасьці ім рыхтавацца, як сьлед, да лекцыі. Усё гэта прыводзіць да таго, што частка настаўнікаў позьняцца

на лекцыі, а то і зусім не зьяўляюцца на працу.

Фізкультура ў школе абмяжоўваецца выключна лекцыямі. Ня менш важнай задачай пастаноўкі фізвыхаваньня ў школе трэба лічыць прышчапленьне санітарна-гігіенічных звычак, якія ўжывалі-б вучні ў штодзённым быце. Сансэктар таксама мала зварачае на гэта ўвагі. Адсюль наглядаецца, што вучні нават на лекцыях часам сядзяць у шапках.

У трэніровачным цаху навучаньне адбываецца па мэтоду ЦІП'у.

У мэтах азнаямленьня з вопытам працы інш. школ ФЗВ мяркуе наладзіць шэраг экскурсій.

Бібліотэка пры школе пакуль што зусім бедная. Частка набытых кніг носіць вузка спэцыяльны характар і ня можа быць скарыстана цяпер.

Наогул посьпех у працы і пераход на актыўныя мэтоды выкладаньня ўпіраецца ў недахоп памяшканьня. І перад колектывам стаіць вялікая задача: скарыстаць усе магчымасьці, каб добра наладзіць працу школы. Паўстае пытаньне аб пабудове спэцыяльнага памяшканьня бо школа з восені павінна будзе пашырацца ў зьвязку з новым прыёмам і з адчыненьнем на фабрыцы прадзільнага цэху.

Сувязь школы з фабрыкай наладжана слаба. Школа яшчэ ня здолела разгарнуць свае грамадзка-карыснае працы, не ўвязала яе з штодзённым жыцьцём ф-кі. Шырокія масы рабочых яшчэ мала ведаюць і цікавяцца сваею школаю.

Да адмоўных момантаў трэба аднесьці тое, што да гэтага часу абавязкі між адміністрацыяй школы не разьмеркаваны.

Вучні часта ня ведаюць, да каго зварачвацца. Адсюль і паралелізм у працы. Пэдагогічны і школьны саветы працуюць амаль бясплянава. Падлік працы па агульна-тэорэтычных дысцыплінах наладжваецца. Па вытворчаму навучаньню выпрацавана сталая форма, якая будзе запаўняцца з моманту пераходу вучняў на вытворчасьць. Пры падліку вытворчай працы значная ўвага будзе аддавацца таму, як вучань у сваёй вытворчай дзейнасьці выкарыстоўвае тэорэтычныя веды і ўжывае новыя мэтоды работы.

Сярод вучняў ёсьць некалькі чалавек, якія адстаюць па акадэмпрацы, гэта, галоўным чынам, тыя, што паступілі з 4-годак. Школа прымае захады, праз індывідуальнае прымацаваньне, пазашкольныя гурткі і інш., каб у самы кароткі час ліквідаваць разьбежку ў ведах. Школа распрацавала плян і ўмовы соцспаборніцтва як між групамі, так і школай пры ф-цы «Дзьвіна» у Віцебску. Але-ж практычных вынікаў у гэтай рабоце яшчэ мала.

Да 1 мая выпушчаны першы нумар насьценгазэты. Як відаць, вучні цікавяцца гэтай справай. Газэта адразу ўзяла правільны напрамак і павяла рашучае змаганьне на ідэолёгічным і вытворчым франтох.

Сярод вучняў наглядаюцца выпадкі антысэмітызму. Комсамольская ячэйка і інш. вучнёўскія організацыі і адміністрацыя школы адразу ня ўдарылі па гэтым хворым месцы. Сваячасова заастрыла ўвагу на гэты толькі адна насьценгазэта. Але зараз і адміністрацыя і вучнёўскія організацыі маюць захады, каб выправіць сваю памылку.

Прыкрай зьявай ёсьць і тое, што большасьць настаўнікаў карыстаюцца расійскай мовай, тады як большасьць вучняў гаворыць па-беларуску.

Вучні харчуюцца ў мясцовай гарадзкой сталоўцы. Цесната памяшканьня школы перашкаджае наладзіць гарачыя сьнеданьні ў самой школе, а тым часам як узрост, так і самая праца вучняў патрабуюць неадкладнага вырашэньня гэтага пытаньня.

Два гады ўпартай працы школы, і фабрыка будзе мець высока-кваліфікаванага, клясава-сьвядомага рабочага, які здолее сьвядома падыйсьці да тых процэсаў, што ён выконвае і які будзе адказваць запатрабаваньням рацыяналізаванае прамысловасьці, здолее рацыянальна скарыстаць струмант і абсталяваньне ф-кі і гэтым зьнізіць сабекошт і будзе выpабляць больш і лепшай якасьці тавар.

# КНІГАПІС

**«Библиотэка школьніка». Андрэй Александровіч—«Гудкі» (вершы).** *Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск — 1930 г. Балонак 36. Цана 20 к.*

Да гэтага часу ў сэрыі «Бібліютэка школьніка» выпушчаны шэраг мастацкіх, выключна прозаічных, твораў, і зусім чамусьці ня было ў гэтай сэрыі твораў поэтычных, вершаваных. Гэта надавала сэрыі «Бібліютэка школьніка» аднабаковы характар. Зараз мы маем першае пачынаньне з боку выдавецтва ў выданьні ў гэтай сэрыі вершаваных твораў,—гэта зборнічак поэзіі Андрэя Александровіча **«Гудкі»**.

Зборнічак «Гудкі» складаецца з чатырнаццаці выбраных і, бязумоўна, лепшых у прыстасаваньні да дзіцячага ўзросту вершаў гэтага поэты.

Над усімі мотывамі вершаў, зьмешчаных у зборнічку «Гудкі», пераважае мотыў соцыялістычнага, савецкага гораду,—мотыў урбаністычны. Ва ўсіх мотывах зборнічку «Гудкі» поэта выступае ня як пасыўны сузіральнік, а як актыўны барацьбіт, непасрэдны ўдзельнік соцыялістычнае пабудовы сьвету. Адсюль-жа вынлывае і непасрэдная шчырасьць, эмоцыянальная насычанасьць радасным сьветаўспрыманьнем нашага будаўніцтва, бадзёрасьць, пролетарскім мэтаімкненьнем і псыхоідэолёгічнай накіраванасьцю сябра пролетарскага колектыву, што моцна ўрос у гэты колектыў і ў яго працу.

У вершах гэтага зборніку дадзены даволі шырокі абхват нашага творчага сёньня. Пачынаючы з першага вершу «Гудкі», баявая творчасьць, узнятасьць захапляе чытача. Тут на фоне раніцы, калі

«У поле-шыр зьбіраюцца
Колгасьнікаў палкі,
а ў горадзе ўзьвіваюцца
гудкі... гудкі... гудкі...,»

поэта падае вобразы таго, як

«Рабочыя адважныя
на фабрыку ідуць—
хутчэй, хутчэй сярмяжную
збыць спадчыну-бяду».
«У колгасы з самажнейкамі
імчацца цягнікі».

І поэту захапляе кожная перамога на фронце перабудовы сьвету, будаўніцтва новага жыцьця, на фронце культурнай рэволюцыі:

«Як глянеш, сэрца радуе,—
Будуем новы лад:
У кожнай хаце радыё
І радасьць расьцвіла»

Поэта бачыць перамогу над балотамі і векавою нэндзаю, магутнага поступу індустрыі:

«Была дрыгва далінаю
праз цэлыя вякі.
Цяпер будуць машынныя—
гудкі... гудкі... гудкі...».

Поэта ўспамінае хвіліну, калі «ня стала сярод нас Леніна» і далей, як залог зьдзейсьненьня ленінскіх заветаў, гучаць радасна ўздымныя радкі, якія адбіваюць настрой усяе нашае пролетарскае моладзі, усяго матадога пролетарскага пакаленьня:

«З песьнямі агністымі
і крэпнем і расьцём.
Мы будзем комуністамі,
на зьмену мы ідзём.
Мы будзем абаронаю,
мы ўсе-франтавікі!
Хай клічуць нас чырвоныя
гудкі... гудкі... гудкі...».

Гэткія вершы «Як дзеці памагалі будаваць самалёт», альбо колектыўная дэклямацыя—«Першамайскае», напісаны спэцыяльна для дзяцей ; яны робяць уплыў на дзяцей у напрамку задач пролетарыяту ў соцыялістычным будаўніцтве.

Рытмы соцыялістычнае працы пададзены не агульным слоўным матар'ялам, а конкрэтным паказам гэтае працы, фактамі, як:

«Вось адно, як струна,
Сасонка расла,
у бязьмежным
бары-гушчары.
А сягоньня яна
пачарнеўшы лягла
на асьнежным
фабрычным двары».

І далей поэта апавядае, як гэтая сасонка зьявілася часткай матар'ялу ў вялікім будаваньні новага соцыялістычнага будынку:

«Забудуем шыр балот
каменіцамі.
Эх, сасоньніца—сасна!..
дні суровыя,
Бервяно да бервяна—
хата новая».

Поэта бачыць цяжкасьці будаўніцтва, ён не закрывае вачэй і на іх, а паказвае гэтыя цяжкасьці:

«Цяжкая праца, нялёгкая праца,
Цяжка, браты, беднаце будавацца».

Ён добра бачыць ворага нашага будаўніцтва, якім:

«...нашае сёньня варожа-
гатовы атрутай—

чорнай пакутай,
чорнай пакутай
стрыножыць».
«Чэшуцца рукі спрадвечных зладзеяў,
рвуцца, стрыножыць, ды сіл не стае ім.
Корчыцца помста ў іх сэрцы здранць-
велым»...

Але поэту ня пужаюць гэтыя злыдні. Ён бачыць плёны соцыялістычнае працы, і гэта бязьмежна радуе яго, выклікае баявую ўзьнятасьць энтузіястага-будаўніка:
«А глянем наўкола—будуюцца сьмела.
Праца віхрыста ўзьняла завіруху—
і хоча ня хоча,
а песьню рабочых,
песьню рабочых
слухай».

І тут даецца высокамастацкая, поўная радасьці перамогі вытворчая рабочая рытма-песьня:
«Гэй,
Адважна!
Усё—для нас.
Дай, наляжам
дружна—
...Раз».

Надзвычайна мастацка пададзены малюнкі новага быту ў вершы «Гэрой працы».
«Павевам гордай радасьці—
урачыстасьць
рабочы клюб прывэтліва спаткаў.
—Гэроя працы машыніста—
насіла моладзь на руках».

Верш «Акцябрыны» дае мастацкі конкрэтны паказ аднаго з момантаў новага быту:
Піонэр ад рабочых падросткаў
гальштук чырвоны паднёс,
трамовай гарачай папросту
пажадаў, каб вялікім рос.
Комсамолец з радасьцю кінуў:
—Паслухай, тав. Максім:
Нас з табой нарадзіла машына,
а з сынам-імя яго «КІМ».

Песьня чырвонаармейская дапаўняе гэтыя вершы. У новай савецкай сталіцы, якую яшчэ ўчора «певень прывычнаю песьняй будзіў» і якую «у тонар сталетніх традыцый з замкавых веж старыны»... ганьбілі звонам званы», ужо «сёньня... гудком сёньня сьцелецца дзень» ні «вапранка няспынна іскрыцца,—плавіць званы на мэталь», а «сталіца ў прыбоях творчых хваль» Ужо «сёньня-мы пеўня ня чуем,... і песьню званоў векавую ня чуем у лёце падзей». А заўтра нашае сталіцы-гэта соцыялістычны ўзыход» сонца разьлівам душы». Гэтак паказана наша савецкая сталіца ў вершы «Сталіца», які поэта канчае радасным клічам:
«Рэспублікі нашай сталіца
ў Вялікае Заўтра крыляў»

І далей даюцца «сілуэты вуліцы», мастацка-пададзеныя вытворчыя рабочыя песьні, паказ вуліц гораду з яе людзьмі, як газэтчыкі (верш «Газэтчык») і інш. Гэтыя мотывы дапаўняюцца вершамі «Вясна ідзе» і «Новы год».

Але даючы паказ нашага радаснага творчага сёньня, поэта не забываецца і на Заходнюю Беларусь, якая стогне пад пятой польскага фашызму, дзе
«Лепшы сын краіны—
сёньня катаржанін»

І за гэтым уціскам поэта бачыць уздым рэволюцыйнага руху і набліжэньня таго часу, калі
«ўзойдзе і там пагода
Савецкай Беларусі»

Поэта не забываецца на эўропейскі і наогул сусьветны пролетарыят, ён бачыць, як—
«Бяз працы ў голадзе гінуць
Мільёны рабочых краіны.
На біржах працы
зьлёт, сход»;
як разгараецца агонь пролетарскае рэволюцыі,
«Выходзіць змагацца
галодны паход.
На барыкады, засесьці ў акопы
клічуць рабочых Эўропы».

У адказ на «крыжовы паход» сусьветнае сфашызаванае буржуазіі супроць сусьветнай бацькаўшчыны пролетарскае рэволюцыі і пролетарыяту—СССР—поэта адказвае:
«Разам з прадажным
штандарам хрыстовым
крыжам зьляжа
«паход крыжовы»,
бо
«Мы закон жыцьця зьмянілі.
Ня стрымаць нас. Не асіліць.
Рух на захад. Мусім там быць.
Узарвем заставы—дамбы».

Краіна Саветаў мацнее і мацнее штохвілінна, мы ўжо ў сябе перайшлі да новае політыкі—ліквідацыі на аснове суцэльнай колектывізацыі кулацтва, як клясы, што дае нябывалае ўзмацненьне соцыялістычнага сэктару, што дае магчымасьць ажыцьцёвіць тое, як
«Трактар пераверне
хутар кулака».

І поэта сваёю творчасьцю натхняе на соцыялістычную рэконструкцыю ўсіх будаўнікоў:
«...што краіну
з векавых балот і цiны
прывядуць у край электростанцыі».

Зборнічак поэзіі «Гудкі» зьяўляецца надзвычайна каштоўным укладам у «Бібліотэку школьніка». Ён нясе ў дзіцячыя масы пролетарскую ідэолёгію, веру і натхненьне да перамогі соцыялізму, натхняе і накіроўвае сілы моладзі на будаўніцтва соцыялізму, новага жыцьця і рашучага карчаваньня старога, аджываючага, спарахнелага жыцьця.

Зборнічак поэзіі «Гудкі» неабходна набыць усім школьным бібліотэкам, кожнаму школьніку, піонэру і камсамольцу. Невялічкая цана яго (20 кап.) спрые гэтаму. **Ул. Сядура.**

**М. О. Веселов и Д. С. Логинов «Организация работы в советской школе».** *Издательство „Работник просвещения". Москва. 1930 г. Тыраж 4000 экз. Стар. 168. Цана 95 к. Выд. 2-ое, папраўленае і дапоўненае.*

Кніжка **«Организация работы в советской школе»** па свайму зьместу зьяўляецца надта каштоўнай ня толькі для загадчыкаў школ, але і для кожнага настаўніка. Яна мае 4 разьдзелы: 1) «организационно-плановые и хозяйственные вопросы», 2) «учебная работа», 3) «школьные детсамоорганизации и их работа», 4) «управление и заведывание школой и связь школы с населением». Апрача гэтага, ёсьць дадаткі: інструкцыя і табліца для антропомэтрычных досьледаў і каштарыс на абсталяваньне аднакомплектавай і чатырохкомплектавай школы.

У адзначаных чатырох разьдзелах кожны настаўнік адшукае адказы на пытаньні, што павінна вырашыць школа: вучэбна-выхаваўчыя, гаспадарчыя, арганізацыйныя, плянавыя, адміністрацыйныя ды інш. Усе адказы каротка формуляваны, у выніку чаго могуць зьяўляцца кароткім зьместам тэй ці іншай школьнай работы. Апошняе надае кнізе асаблівы характар.

На вялікі жаль, кароткасьць і схэматычнасьць аўтараў, прыводзіць да некаторых недахопаў. Напрыклад, надта няпоўна распрацована пытаньне аб клюбна-гуртавой рабоце, аб піонэрруху ў школе, пэдагогічнай радзе. У прыкладным пляне дзейнасьці школьнае рады залужа мала адводзіцца месца пытаньням выхаваўчага характару.

Нарэшце нельга згадзіцца з аўтарамі кнігі ў тым, што «чым меншая практыка ў рабоце пэдагога, тым больш патрэбнасьць у гэтым пляне і тым часьцей настаўнік павінен зьвяраць з ім ход сваей работы. Гэтыя словы даюць месца для думкі аб тым, што, чым большая практыка ў настаўніка, тым меншая патрэбнасьць у вытворчым пляне. А паміж іншым апошняе і зьяўляецца асновай таго, што шмат школ працуюць бяз вытворчага пляну.

На вялікі жаль, аўтары зусім не закранулі пытаньня аб удзеле школы ў колгасным будаўніцтве, ня глядзячы на тое, што яна адыгрывае вялікую ролю ў справе соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі. Ніводнага слова таксама ня сказана аб політэхнізацыі школ.

Ня глядзячы, аднак, на прыведзеныя недахопы, кніга зьяўляецца каштоўнай. Аўтары спыняюцца на пытаньні ўсеагульнага навучаньня, пытаньні, якое займае ў сучасным жыцьці школы адно з цэнтральных месц. Яны конкрэтна гавораць аб тым, як з організацыйнага боку правесьці ўсё гэта ў жыцьцё.

Надта каштоўнымі весткамі зьяўляецца і тое, як будуецца школа, якія тэхнічныя правілы трэба мець на ўвазе пры гэтым, а таксама пры рамонце школы і абсталяваньні, працы ў наёмных памяшканьнях і т. д. Усе гэтыя весткі каштоўны для настаўніка таму, што ён заўсёды зьяўляецца ўдзельнікам, альбо кіраўніком у гэтай рабоце.

У заключэньне трэба адзначыць, што аўтары, жадаючы выканаць задачу—«помочь массовому учителю в налаживании школьного дела, школьного хозяйства словом, указанием, справкой»,—выканалі яе добра. Кніга сапраўды гаворыць коратка ў прыступнай форме, дастаткова практычна аб усіх пытаньнях, зьвязаных з організацыяй школы.

Кнігу Весялова і Логінава павінен мець кожны настаўнік: яна дае цэлы шэраг справак і ўказаньняў у рабоце школы і па заслузе можна лічыць яе настольнай.

**Мік. Цыганоў.**

# ХРОНІКА

## Палажэньне аб вячэрнім рабочым унівэрсытэце

(*Зацьверджана колегіяй НКА*)

1. Вячэрні рабочы унівэрсытэт мае сваёй мэтай:

а) разьвіцьцё і паглыбленьне марксыстка-ленінскага сьветапогляду слухачоў на падставе падвышэньня іх агульна-культурнага ўзроўню;

б) выпрацоўку ў слухачоў навыкаў да самастойнага набыцьця ведаў;

в) садзейнічаньне падвышэньню вытворчай кваліфікацыі слухачоў шляхам навукова-тэорытычнага асьвятленьня фабрычна-заводзкай вытворчасьці;

г) садзейнічаньне ў падрыхтоўцы кадраў і падрыхтоўка рабочых-вылучэнцаў для грамадзкай работы (адміністрацыйна-гаспадарчай, профэсійнай, коопэрацыйнай, культурна-асьветнай і г. д.).

2. Для выкананьня пастаўленых мэтаў, вячэрні рабочы унівэрсытэт падзяляецца на два факультэты: грамадзка-экономічны і тэхнічны.

3. Грамадзка-экономічны факультэт мае сваёй мэтай падрыхтоўку да практычнай работы на вышэйшыя пасады па лініі адміністрацыйна-гаспадарчай, коопэрацыйнай і профэсійнай—рабочых, як ужо вылучаных, таксама і тых, якіх можна вылучыць.

Для ажыцьцяўленьня пастаўленай мэты грамадзка-экономічны факультэт падзяляецца на наступныя цыклі:

а) адміністрацыйна-гаспадарчы; б) коопэрацыйны; в) профэсійны.

4. Тэхнічны факультэт мае сваёй мэтай падрыхтоўку да практычнай работы рабочых вылучэнцаў па лініі вытворчай (у органах ВСНГ, Дзяржпляну і г. д.), а таксама падвышэньне тэхнічнай кваліфікацыі па сваёй спэцыяльнасьці.

Для ажыцьцяўленьня пастаўленай мэты тэхнічны факультэт падзяляецца на наступныя цыклі:

а) мэханічны; б) электра-тэхнічны; в) хэмічны.

5. Тэрмін навучаньня на грамадазнаўчым аддзяленьні 1½ гады, якія падзяляюцца на тры сэмэстры:

1-ы сэмэстр—агульна-адукацыйны з 1/IX па 15/I.
2-гі сэмэстр—спэцыяльны з 1/II па 1/VI.
3-ці сэмэстр—спэцыяльны з 1/IX па 15/I.

Колькасьць навучальных дзён у месяц на кожным сэмэстры—20, у дзень 4 акадэмічных гадзіны.

6. Тэрмін навучаньня на тэхнічным аддзяленьні—2 гады, якія падзяляюцца на 5 сэмэтр.:

1-ы сэмэстр—агульна-адукацыйны з 1/IX па 15/I.
2-гі сэмэстр—агульна-спэцыяльны з 1/II па 1/VI.
3-ці сэмэстр—вузка-спэцыяльны з 1/IX па 15/I.
4-ы сэмэстр — вузка-спэцыяльны з 1/II па 1/VI.
5-ы сэмэстр — вузка-спэцыяльны з 1/IX па 15/I.

7. Вячэрні рабочы ўнівэрсытэт утрымоўваецца на сродкі, якія адпускаюцца па мясцоваму каштарысу, падпарадкаваны адпаведнай мясцовай інспэктуры нарасьветы і ўваходзіць у сыстэму політасьветы, як вышэйшая ступень.

8. Навучальны плян вячэрняга рабочага ўнівэрсытэту будуецца ў адпаведнасьці з практычнымі запатрабаваньнямі рабочых і на аснове мэт і задач, паказаных у п. п. 1—6, распрацоўваецца рабоч. вяч. унівэрсытэтам пры ўдзеле прадстаўнікоў ад студэнтаў. Канчатковае зацьвярджэньне навучальных плянаў належыць Народнаму Комісарыяту Асьветы.

9. Студэнты вячэрняга рабочага унівэрсытэту ў дні заняткаў аслабаняюцца ад сваёй работы на 2 гадзіны раней, а таксама разгружаюцца ад грамадзкай работы (ня больш 2-х нагрузак), прычым організацыі, што паслалі слухачоў, павінны лічыць навучальную работу рабочых унівэрсытэтаў адным з відаў грамадзкай работы і забясьпечыць за кожным камандыраваным фактычную магчымасьць вучобы.

10. Для найбольш пасьпяховага дасягненьня задач, паказаных у гэтым палажэньні, рабочы ўнівэрсытэт павінен праводзіць сыстэматычную плянавую работу па ўстанаўленьню сувязі рабочага унівэрсытэту з рабочымі масамі. З гэтай мэтай на фабрыках і заводах павінны сыстэматычна ставіцца даклады аб рабоце рабочага ўнівэрсытэту, організоўваюцца пашыраныя паседжаньні кіруючых органаў раб. унівэрсытэту, на якіх павінны ставіцца пытаньні, зьвязаныя з плянам работы ўнівэрсытэту і г. д.

11. У вячэрні рабочы ўнівэрсытэт прымаюцца рабочыя, як ад варштату, так і тыя, што працуюць на грамадзкай рабоце на прадпрыемствах, з вытворчым стажам ня менш 3-х год і маюць ад нараджэньня ня менш 18 год.

Гады грамадзкай работы на прадпрыемствах залічваюцца ў практычны стаж. Апрача рабочых, у раб. унівэрсытэт могуць прымацца чырвонаармейцы.

12. У вячэрні рабочы унівэрсытэт прымаюцца скончыўшыя 4-годкі; асобы, якія ня маюць пасьведчаньня аб сканчэньні 4-годкі, трымаюць іспыты ў гэтым аб'ёме.

13. Слухачы вячэрняга рабочага унівэрсытэту ніякай матар'яльнай дапамогі не атрымоўваюць.

14. На чале вячэрняга рабочага унівэрсытэту стаіць дырэктар, які прызначаецца гарадзкім інспэктарам асьветы і кіруе як адміністрацыйна-гаспадарчай, гэтак і навукова-мэтодычнай работай унівэрсытэту і нясе адказнасьць за пастаноўку справы перад Народным Камісарыятам Асьветы.

15. Агульнае кіраваньне унівэрсытэтам дырэктар праводзіць праз савет унівэрсытэту на падставе асобнага палажэньня аб саветах.

16. Навучальнаю часткаю унівэрсытэту кіруе загадчык навучальнай часткай, які кіраўніцтва навучальна-мэтодычнай работай унівэрсытэту праводзіць праз асоба ўтвораныя часовыя камісіі і вытворчыя нарады. Загадчыкам навучальнай часткі можа быць як асоба, якая прыналежыць да складу выкладчыкаў унівэрсытэту, так і асоба, спэцыяльна запрошаная.

17. Для дасягненьня найбольш рацыянальнай пастаноўкі выкладаньня кожнага прадмету, а таксама для ўзгадненьня асобных прадметаў унутры кожнага цыклю, арганізоўваюцца часовыя камісіі.

18. Веданьню гэтых камісій падлягае: а) распрацоўка праграм і заданьняў па іх для данага прадмету; б) выпрацоўка мэтодаў заняткаў; в) складаньне патрэбных для праходжаньня прадмету кніжак і навучальных дапамог; г) папярэдняя распрацоўка навучальнага пляну данага цыклю; д) узгадненьне праграм і навучальных заданьняў паміж сабою па ўсіх прадметах унутры данага цыклю; е) разгляд і вырашэньне навучальна-арганізацыйных прадметаў, якія датычаць данага цыклю.

19. Прадстаўнікі студэнтаў, па аднаму з кожнае групы, утвараюць старастат. Яны абіраюцца на адным сэмэстры кожнай групай у асобку і абіраюць ад сябе ўпаўнаважанага.

20. Веданьню старастату падлягаюць пытаньні, якія датычаць унутранага жыцьця ўнівэрсытэту, становішча студэнцтва і г. д. Аб сваёй дзейнасьці старастат дае справаздачу дырэктару і савету унівэрсытэту і агульнаму сходу студэнтаў.

21. Па сканчэньні вяч. раб. унівэрсытэту студэнты могуць быць накіраваны ў органы ВСНГ, НКПраці, ЦСПСБ, Белкоопсаюз для работы, згодна атрыманай імі спэцыяльнасьці.

22. Студэнты, скончыўшыя вячэрні рабочы унівэрсытэт, маюць права паступаць у ВНУ бяз іспытаў, толькі пасьля дадатковага вывучэньня агульна-адукацыйных дысцыплін на падрыхтоўчых курсах у ВНУ.

# Рэорганізацыя апарату НКА

*(Пастанова колегіі НКА)*

1. Апарат Народнага Комісарыяту Асьветы БССР рэорганізаваць згодна схэмы і штатаў, зацьверджаных НК РСІ, да 15 верасьня г.г. сьня г.г.

2. Даручыць сэкратарыяту і ўсім інспэктарам неадкладна перайсьці да непасрэднага абслугоўваньня раёнаў па ўсіх галінах работы.

3. Даручыць акруговым інспэктарыятам народнае асьветы:

а) усе справы па плянаваньню (ўсеагульнага навучаньня, ліквідацыі няпісьменнасьці, школьнага будаўніцтва і г. д.), а таксама яшчэ патрабуючыя вырашэньня, перадаць адпаведным (гарадзкім ці раённым) інспэктарыятам;

б) усе астатнія справы перадаць у мясцовы архіў, згодна ўстаноўленых правілаў.

4. Абавязаць раённыя інспэктарыяты народнае асьветы да 20 верасьня 1930 году прадставіць у НКА:

а) матар'ял аб выкананьні пляну ўсеагульнага навучаньня: ахоп дзяцей, ўкамплектаваньні школ пэдагогічнымі кадрамі, забесьпячэньні памяшканьнямі;

б) весткі аб тэрміне пачатку навучальнага году;

в) інформацыю аб выкананьні пляну школьнага будаўніцтва;

г) матар'ял аб выкананьні пляну ліквідацыі няпісьменнасьці;

д) падрабязныя заяўкі на прамтавары і продукты спажываньня для забесьпячэньня дзяцей беднаты;

е) заяўкі на будаўнічыя матар'ялы для рамонту школ, згодна пляну на наступны год, а таксама на будаўніцтва новых школ;

ж) весткі аб фондах беднаты пры школах.

5. Пасылаць раёнам наступныя кіруючыя матар'ялы НКА:

а) пастановы і загады Народнага Комісарыяту Асьветы кіруючага характару;

б) абежнікі і паказаньні;

в) мэтодычныя лісты;

г) штомесячныя інформацыі аб найбольш важных пастановах колегіі НКА;

д) штомесячны інформацыйны бюлетэнь, выданьне якога пачаць з 1 кастрычніка ў выглядзе дадатку да часопісі «Комуністычнае Выхаваньне».

6. У мэтах устанаўленьня жывой сувязі з раёнамі:

а) на працягу верасьня заслухаць на паседжаньні колегіі НКА даклады 3 раённых інспэктароў нарасьветы;

б) пераапрацаваць плян работы колегіі, дапоўніўшы яго заслухоўваньнем ня менш 2 дакладаў штомесячна раённых інспэктур нарасьветы;

в) на працягу верасьня абсьледваць восем раёнаў;

г) у часе работы 1-га ўсебеларускага політэхнічнага зьезду склікаць нараду раённых інспэктароў нарасьветы—дэлегатаў зьезду.

7. Даручыць Навукова-Мэтодолёгічнаму Комітэту да 5 верасьня даць паказаньні раённым і гарадзкім інспэкторыятам нарасьветы аб формах організацыі мэтодычных бюро і мэтодах іх работы, а таксама пералік асноўных пытаньняў для прапрацоўкі на 1930/31 навучальны год.

8. Даручыць бухгальтэрыі ў 3-х дзённы тэрмін (да 1/IX—30 г.) даць паказаньні раёнам пра форму сувязі НКА з раёнамі па лініі бюджэтнай і грашовай.

9. Абавязаць раённыя і гарадзкія інспэкторыяты нар. асьветы мець нагляд і за ўстановамі, якія непасрэдна падпарадкаваны НКА, але знаходзяцца на тэрыторыі раёну ці гораду.

---

# Аб організацыі курсаў па падрыхтоўцы рабочых у ВНУ, рабфакі і тэхнікумы

(*Пастанова калегіі НКА*)

1) Як правіла, з бягучага 1930/31 навучальнага году належыць організоўваць курсы непасрэдна пры навучальнай установе, пры тым ці іншым факультэце навучальнай установы, пры чым курсы могуць быць організаваны і для шэрагу аднатыпных навучальных устаноў.

2) Курсы могуць быць організаваны на бюджэтныя сродкі і на сродкі іншых устаноў, якія зацікаўлены ў організацыі падрыхтоўчых курсаў, на сродкі профэсійных і грамадзкіх організацый і ўстаноў.

3) Курсы комплектаваць пераважна за кошт рабочых, дзяцей рабочых, батракоў, калгасьнікаў, бедьнякоў і серадьнякоў.

Пры ўкомплектаваньні курсаў належыць кіравацца (орыентовачна) тымі курыяльнымі нормамі прыёму, якія зацьверджаны СНК ССРР на 1930/31 навучальны год.

4) Усе курсанты, якія пасьпяхова скончаць курсы,—цалкам перадаюцца ў распараджэньне тае навучальнае ўстановы, у якую апошнія рыхтуцца.

**Увага 1:** Сьпісы курсантаў сумесна з іх дакумэнтамі пасылаюцца непасрэдна ў тую навучальную ўстанову, у якую рыхтаваўся курсант.

**Увага 2:** Курсант мае права паступіць у навучальную ўстанову толькі ў тым годзе, у якім ён скончыў курсы.

**Увага 3:** Ніякія іспыты пры паступленьні ў навучальныя ўстановы асоб, якія скончылі падрыхтоўчыя курсы, не дапускаюцца.

5) Выпуск з курсаў праводзіць па падставе гадавой пасьпяховасьці таго ці іншага курсанта.

**Увага:** Непасьпяваючым больш як па аднаму прадмету пасьведчаньні аб сканчэньні курсаў не выдаюцца.

6) Кіраўнікам навучальных устаноў, настаўнікам і студэнцтву безадкладна прыступіць да шырокае папулярызацыі сярод рабочых, батрацтва, беднаты і колгасьнікаў пытаньняў падрыхтоўкі кадраў, мэтавых установак навучальных устаноў і пытаньня ўкамплектаваньня падрыхтоўчых курсаў. Прасіць ЦСПСБ і ЦК ЛКСМБ даць па сваёй лініі адпаведныя кіруючыя паказаньні па даных пытаньнях.

7) Кіраўнікам курсаў, якія рыхтуюць курсантаў у навучальныя ўстановы, безадкладна (пасьля організацыі апошніх) зарэгістраваць курсы ў НКА і яго органах на мясцох.

8) Інспэктуры НКА ўстанвіць сталы кантроль за работаю курсаў.

9) Навукова-Мэтодолёгічнаму Комітэту безадкладна прыступіць да складаньня навучальных плянаў і програм для розных тыпаў падрыхтоўчых курсаў. Работу па складаньню навучальных плянаў і програм скончыць не пазьней 25 жніўня.

10) Бяз ведама НКАсьветы курсы ня мае права адчыніць ніводная гаспадарчая і профэсійная організацыя.

11) Курсы організаваць вячэрнія 10-ці месячныя і дзённыя 5-6 месячныя з 1 верасьня г. г.

12) На курсы па падрыхтоўцы ў рабфакі прымаюцца асобы, якія маюць адукацыю ня менш 2-3 год 1-га концэнтру 7-годкі, у ВНУ—ня менш 7-годкі, у тэхнікумы—ня менш 5 груп 2-га концэнтру.

13) У распараджэньні органаў Наркамасьветы застаюцца тыя курсы, якія праводзяць падрыхтоўку ў тэхнікумы, рабфакі, ВНУ, знаходзячыяся ў непасрэдным падпарадкаваньні НКА і яго мясцовых органаў.

Курсы, якія рыхтуюць у тэхнікумы, ВНУ і ВТНУ, якія не знаходзяцца ў непасрэдным падпарадкаваньні НКА, адчыняюцца і знаходзяцца ў падпарадкаваньні адпаведных наркоматаў і іх органаў.

14) Курсы, якія адчыняюцца не пры навучальных установах і рыхтуюць у рабфакі, тэхнікумы, ВНУ і ВТНУ, падпарадкаваны тым наркоматам і іх органам, у падпарадкаваньні якіх знаходзяцца тыя навучальныя ўстановы, для якіх курсы рыхтуюць контынгент комплектаваньня.

Паставіць перад НКПрацы пытаньне аб устанаўленьні ставак за выкладаньне на курсах.

## Акадэмічная гадзіна—50 хвілін

Колегія НКА ўхваліла ўстанавіць акадэмічную гадзіну як у школах, гэтак і ва ўсіх навучальных культасьветных установах у 50 хвілін.

Паставіць аб гэтым пытаньне перад НКПрацы.

## Комплектаваньне пэд. інстытутаў праходзіць зусім нездавальняюча

*(Пастанова колегіі НКА)*

1. Адзначыць, што комплектаваньне пэдагогічных інстытутаў праходзіць зусім нездавальняюча: нязначны прыток рабочых, мізэрны процант партыйцаў і комсамольцаў з прычыны невыкананьня мобілізацыі 1500 комсамольцаў у пэдВНУ і тэхнікумы і не выкананьня разьвёрсткі скончыўшых падрыхтоўчыя курсы, якія ў пэд. інстытут амаль нікога ня прыслалі.

2. Прасіць ЦК ЛКСМБ на працягу дэкаднага тэрміну правесьці мобілізацыю колгасьнікаў-комсамольцаў у пэдагогічныя інстытуты.

3. Прасіць ЦКК РСІ дасьледаваць і прыцягнуць да адказнасьці вінаватых у невыкананьні разьвёрсткі курсантаў падрыхтоўчых курсаў у ВНУ.

4. Прадугледзець організацыю пры інстытутах курсаў, як вясковых, гэтак і сельскіх, на сродкі па бюджэту, а таксама і на грамадзкія.

5. Пры канчатковым замацаваньні рабочых і калгасных факультэтаў вылучыць і замацаваць іх за пэд. інстытутамі. Пэд. інстытутам забясьпечыць цесную сувязь з замацаванымі рабфакамі.

6. Прасіць рэдакцыі газэт узяць пад свой нагляд ход комплектаваньня пэд. інстытутаў і нагул іх падрыхтоўку да навучальнага году.

7. Прасіць Урадовую Комісію даручыць адпаведным гарадзкім саветам безадкладна забясьпечыць інстытуты навучальнай і жыльлёвай плошчай пад інтэрнаты, а таксама кватэрамі для навуковых працаўнікоў.

8. Даручыць дырэктаром пэдінстытутаў распрацаваць конкрэтныя каштарысы на патрэбную суму сродкаў, а пакуль што з сум на організацыйныя выдаткі на кожны пэдінстытут выдаць па 2000 руб.

9. Даручыць т. Мазуру і бухгальтэрыі дыфэрэнцыяваць у лік павялічэньня сродкаў на абсталяваньне.

10. Прадугледзець спэцыяльныя сродкі на закупку замежнага навучальнага абсталяваньня для віцебскага індустрыяльнага і гомельскага агро-пэдінстытутаў.

## Пра выданьне програм і падручнікаў для навучальных устаноў

*(Пастанова колегіі НКА)*

1. Ня гледзячы на ранейшыя дырэктывы НКА аб своечасовым надрукаваньні програм і падручнікаў і запэўненьні загадчыка выдавецкім аддзелам БДВ аб тым, што і падручнікі і програмы будуць выданы своечасова, усё-ж такі мы маем некаторае спазьненьне як па падручніках, гэтак асабліва па програмах (спазьненьне 10 дзён), што паслужыла зрывам распрацоўкі програм конфэрэнцыямі асьветнікаў у жніўні месяцы.

2. Такое спазьненьне тлумачыцца ня толькі прычынамі, якія не залежаць ад БДВ (дрэнная поліграфічная база, недахоп і несвоечасовы завоз на друкарні паперы, аўтарскія ка-

дры), але і дрэннай сыстэмай арганізацыі работы па падрыхтоўцы да друку праграм і падручнікаў як з боку БДВ, гэтак і мэтодкому НКА, нядбайнымі, а часам нават і злачыннымі адносінамі да гэтае важнае справы паасобных работнікаў.

Выходзячы з гэтага:

1) Даручыць т.т. Вожыку, Некрашэвічу і Чорнабродаву тэрмінова распрацаваць і ўнесьці на колегію пытаньне спрашчэньня сыстэмы падрыхтоўкі да друку падручнікаў і праграм, а таксама дасьледаваць і выявіць конкрэтных віноўнікаў зацяжкі гэтага пытаньня і перадаць справу прокурору для прыцягненьня вінаватых да судовае адказнасьці.

2) Прасіць прокурора Рэспублікі паскорыць дасьледваньне справы працаўнікоў друкарні, якія дапусьцілі шкодніцтва з надрукаваньнем праграм, організаваўшы паказальны судовы процэс.

3) Прыняць да ведама заяву т. Некрашэвіча, што ім пераданы ў РСІ матар'ялы для прыцягненьня да адказнасьці асобных работнікаў (рэцэнзэнтаў), вінаватых у зацяжцы надрукаваньня падручнікаў.

4) У зьвязку з тым, што згодна норм забесьпячэньня паперай па БССР павінна давацца не меньш, як 3% агульнага фонду паперы, зараз-жа даецца каля 1½%, паставіць праз СНК БССР перад саюзнымі органамі пытаньне аб тым, каб норма завозу паперы ў БССР была павялічана да 3% агульна-саюзнага фонду.

Адначасова з гэтым, прымаючы пад увагу, што і сучасныя мінімальныя нормы паперы не завозяцца ў БССР цалкам, рашуча паставіць пытаньне аб сваечасовым і поўным завозе паперы, вызначанай па пляну для БССР.

5) Прымаючы пад увагу надзвычайна драбную паліграфічную базу, паставіць пытаньне перад СНК БССР аб хутчэйшай пабудове дому друку.

Разам з гэтым прасіць комітэт друку распрацаваць пытаньне аб рацыяналізацыі работы наяўнай паліграфічнай базы.

6) Прапанаваць Мэтодкому і БДВ прыняць захады да організацыі і больш шырокага прыцягненьня аўтарскіх кадраў, асабліва для сярэдняе і вышэйшае школы, робячы заказы на падручнікі ў аўтараў і па-замежамі БССР, а таксама прапанаваць БДВ перакладваць падручнікі з іншых моў на беларускую.

7) Прапанаваць Мэтодкому і БДВ зараз-жа прыняць захады да перагляду, складаньня і перакладу праграм і падручнікаў для забесьпячэньня 1931/32 навучальнага году з такім разьлікам, каб яны былі здадзены ў друк не пазьней 1-га студзеня 1931 году.

*Рэдактар*—Рэдколегія *Адказны рэдактар* Л. Бэндэ

ЦАНА 80 КАП.

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА

## НА ШТОМЕСЯЧНУЮ ПОЛІТЫЧНУЮ, ПЭДОЛЕГА-ПЭДАГОГІЧНУЮ І ПОЛІТЫКА-АСЬВЕТНУЮ ЧАСОПІСЬ

# „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“

**ЧАСОПІСЬ „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“**
вядзе ваяўнічую барацьбу за комуністычнае выхаваньне працоўных мас, жыва адклікаецца на ўсе політычныя, пэдолёга-пэдагогічныя, політасьветныя проблемы дню.

**ЧАСОПІСЬ „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“**
зьяўляецца лепшым памочнікам у рабоце настаўніка, політасьветніка, дашкольніцы.

**ЧАСОПІСЬ „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“**
выходзіць пры ўдзеле лепшых марксысцкіх сіл як Беларусі, так і інш. саюзных рэспублік.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ НА 1930 ГОД

| | |
|---|---|
| На 1 год (12 нумароў) . . . . . | 8 р. |
| „ паўгода (6 нумароў) . . . . . | [illegible] р. 50 к. |
| „ 3 м-цы (3 нумары) . . . . . | 2 р. 30 к. |
| Кошт асобнага нумару | 80 к. |




Скідка 25% подлуг агалошанай цаны даецца настаўнікам школ, хатнікам ды інш., якія выпісваюць часопісь за свой кошт на цэлы год. Раённым установам (райінспэкцыя, мясцком) скідка 25% у тым выпадку, калі яны падпішуцца ня менш, як на 50 экзэмпляраў на цэлы год.

**Падпіска прымаецца рэдакцыяй: Менск, Пляц Волі, 23/2, а таксама поштай і аддзяленьнямі Белдзяржвыдавецтва.**

### ДА ВЕДАМА ПАДПІСЧЫКАЎ

№ 1 часопісі „Комуністычнае Выхаваньне“ разыйшоўся поўнасьцю. Некаторыя падпісчыкі, што падпісаліся на „К. В.“ пасьля 1-га студзеня, часопісі № 1 не атрымаюць. Замест гэтага нумару яны атрымаюць нумар часопісі, што выйдзе пасьля тэрміну, на які яны падпісаліся.